*Жонцы і дзецям*


***УДЗЯЧНАСЦЬ***

*Напісаць гэтую кнігу было б немагчыма без неацэннай дапамогі многіх людзей у розных краінах Еўропы, некаторых з якіх аўтар ведае толькі завочна. Немагчыма не выразіць шчырай удзячнасці ўсім, хто дапамог у зборы матэрыялаў для гэтай кнігі, у прыватнасці:*

*прафесару Янашу Баку і доктару Ласла Веспрэмі з Цэнтральнаеўрапейскага ўніверсітэту ў Будапешце*

*прафесару Янашу Барту з Універсітэту імя Лаяша Кошута ў Дэбрэцэне (Венгрыя)*

*спадару Фрэнсісу Герберту, куратару картаграфічнай калекцыі Каралеўскага Геаграфічнага таварыства (Лондан)*

*доктару Рышарду Гжэсіку (Інстытут славістыкі Польскай АН у Познані)*

*айцу Аляксандру Надсану (Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лондане)*

*прафесару Марце Фонт з Універсітэту імя Яна Панонія ў Печы (Венгрыя)*

*доктару Хельмару Хэртэлю з Бібліятэкі герцага Аўгуста (Вольфэнбютэль, Германія)*

*Асабліва вялікая падзяка спадарыні Моніцы Банькоўскі–Цюліг з Цэнтральнай бібліятэкі Цюрыха (Швайцарыя) за шчырую дапамогу і надзвычайную цярплівасць ў пошуку шматлікіх недаступных на Беларусі крыніц, а таксама спадару Алесю Жлутку за пераклад большасці лацінскіх і італьянскіх тэкстаў.*

**Алесь Белы**

# Хроніка *Белай Русі*

# Chronicon Russiae Albae

## *Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы*



Мінск
„Энцыклапедыкс“
2000

УДК 801.311.8+910(091)+947.6
ББК 81.2Бел–3
Б439

*Серыя:* Доследы



водгукі і копіі рэцэнзіі просьба дасылаць на адрас:
*220072, Менск, Акадэмічная, 1, Беларускі Гістарычны Агляд*
або па электроннай пошце: *bely@infonet.by*

**Белы А.**
**Б439** Хроніка „Белай Русі“. Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы. — Мінск: „Энцыклапедыкс“, 2000. — 238 с. (Бібліятэка часопісу „Беларускі Гістарычны Агляд“)
ISBN 985–6599–12–1

Кніга Алеся Белага — першая спроба „скразной“ рэканструкцыі гісторыі назвы „Белая Русь“, яе месца ў сістэмах геаграфічных ведаў розных народаў і эпох. Рэканструкцыя абапіраецца на дэталёвы аналіз тэкставых і картаграфічных крыніц VII—XVIII ст.

**УДК 01.311.8+910(091)+947.6**
**ББК 81.2Бел–3**

ISBN 985-6599-12-1

Хто, акрамя розумаў грубых і неразвітых, атрымае задавальненне, чытаючы, як велізарная вежа з рыцарамі плыве па моры, нібы карабель пры падарожным ветры, і начуе ў Ламбардыі, а світанак сустракае на зямлі прэсбітэра Іаана Індыйскага, а то яшчэ і на такой, якую ані Пталемей не апісваў, ані Марка Пола не бачыў? ...І як мог чалавечы розум дапусціць, што існавала калісьці плойма ўсялякіх Амадысаў, гэтых славутых рыцараў, што былі ўсе гэтыя імператары Трапезундскія, Фелісмарты Гірканскія, дрыґанты, вандроўныя дзяўчаты, цмокі, андрыякі, волаты, нечуваныя прыгоды, усемагчымыя чарадзействы, жудасныя бойкі, дзівосныя ўборы, закаханыя прынцэсы, збраяносцы–графы, забаўныя карузлікі, пяшчотныя лісты, прызнанні ў каханні, смелыя жанчыны — адным словам, уся гэтая лухта, якой поўна ў рыцарскіх раманах?

Мігель дэ Сервантэс Сааведра.
*Хітрамудры ідальга Дон Кіхот Ламанчскі.*

# *Уводзіны.* Моц традыцыі

Пра паходжанне назвы *Белая Русь* высунута столькі ўзаемавыключальных версій, а ў прысвечаных гэтаму пытанню працах нагрувашчана столькі памылак і аблудаў, што можна з поўным правам казаць пра крызіс вывучэння праблемы. Гэты крызіс немагчыма вырашыць без прыцягнення новых дадзеных і без новых падыходаў. Спроба падсумаваць сучасны стан даследаванняў была зроблена Г. Сагановічам, які выдаў своеасаблівую анталогію прац названай тэматыкі, на жаль, толькі руска– ці беларускамоўных[1]. Заслуга Сагановіча бясспрэчная, але і ён не рызыкнуў прапанаваць «скразное» тлумачэнне этымалогіі назвы, якое б абагульніла ўсю «альбарусіку» гістарычных крыніц XIII—XVII ст. Без гэтага карціна ўзнікнення і эвалюцыі назвы і гісторыя яе адбітку ў свядомасці розных

народаў і пакаленняў распадаецца на асобныя, не звязаныя між сабой фрагменты.

Няўдача папярэдніх спроб разгадаць загадку *Белай Русі* была перадвызначаная, як нам уяўляецца, у асноўным дзвюма прычынамі: па–першае, ніхто не падвяргаў тыя крыніцы, якія данеслі да нас звесткі пра гэтую назву, сур'ёзнаму і крытычнаму тэксталагічнаму аналізу; па–другое, да праблемы, «манапалізаванай» этнографамі, гісторыкамі і філолагамі, фактычна ніхто не падыходзіў з пазіцый геаграфічнай навукі, і асабліва гісторыі геаграфіі[2]. Даследчыкі нібыта забываліся, што *Белая Русь* — гэта геаграфічнае паняцце, расшыфроўваць якое трэба, абапіраючыся, у першую чаргу, на геаграфічныя карты — тып гістарычных крыніц, які заснаваны на ідэі вымярэння і дае магчымасць наблізіць метадалогію даследавання да дакладных навук. Нягледзячы на тое, што пачатак 90–х гадоў XIX стагоддзя — час, калі пошукі тлумачэння назвы асабліва актывізаваліся (напрыклад, толькі ў 1891 г. з'явіліся артыкулы В. Ламанскага, А. Патабні, артыкул у энцыклапедычным слоўніку Бракгаўза і Эфрона)[3], — супаў са значнымі поспехамі ў вывучэнні старажытных карт, дадзеныя гісторыі картаграфіі амаль не былі прыцягнутыя да вывучэння праблемы паходжання *Белай Русі*. Даследчыкаў гісторыі адлюстравання тэрыторыі Усходняй Еўропы (г.зн. у першую чаргу Расіі) на геаграфічнай карце (такіх, як Ф. Адэлунг, Г. Міхаў, В. Кордт, Л. Багроў ды інш.) гэтая праблема не цікавіла.

Напрыклад, расійскі акадэмік Д. Анучын, які вылучаўся добрай эрудыцыяй у сярэднявечнай і ранняй навачаснай картаграфіі[4] і якому былі добра вядомыя практычна ўсе старажытныя карты XV—XVI ст., багатыя на «альбарусіку»[5], ці наш зямляк Ягор Замыслоўскі[6] валодалі дастатковай інфармацыяй, каб паказаць пачатковую штучнасць назвы *Белая Русь* у дачыненні да земляў былога ВКЛ ужо 100 гадоў таму. Але, відаць, гэтае пытанне для боль-

шасці расійскіх даследчыкаў гісторыі назвы было другарадным, гэткай дробнай рэгіянальнай праблемай. Пра яе пісалі, але толькі мімаходзь, не прыкладаючы вялікіх інтэлектуальных высілкаў. Магчыма, свядома ці падсвядома асцерагаючыся паставіць пад сумненне, што край заўжды быў і мусіць надалей заставацца неад'емнай часткай «трыадзінай Русі»?

Асноўныя версіі этымалогіі назвы, якія назапасіліся да нашага часу, можна падсумаваць наступным чынам[7]:

1) У аснове назвы — белы колер адзення ці антрапалагічны тып насельніцтва (Ш. Старавольскі, В. Тацішчаў, А. Кіркор, Я. Карскі, М. Янчук ды інш.)[8].

2) *Белай*, г.зн. вольнай *Руссю* спачатку называліся землі ўсходняй Беларусі, не залежныя ў XIII ст. ні ад Літвы, ні ад татараў (М. Драгаманаў, М. Любаўскі, А. Патабня, М. Доўнар–Запольскі).

(Першая і, асабліва, другая версіі з 1960–х г. у Савецкай Беларусі лічыліся як бы афіцыйнымі[9]).

3) Блізкая да п. 2, але з акцэнтам на цюркскую этымалогію эпітэта «белы», як у спалучэнні «белы рускі цар», г.зн. «вялікі, магутны, незалежны». Прычым назва *Белая Русь* звязваецца не з усходнеславянскімі землямі ВКЛ, а з Маскоўскай дзяржавай (С. Герберштайн, В. Тацішчаў, М. Карамзін, А. Салаўёў, І. Грэкаў).

4) В. Астроўскі і Л. Падалка звязвалі этымалогію *Белай Русі* з пэўнымі плямёнамі ці плямённымі саюзамі аланаў — рокс–аланаў, ці аланорсаў, быццам бы «белых» — у сэнсе «вольных, незалежных» — аланаў, якія раней жылі над Дняпром і змяшаліся са славянамі. Зрэшты, яшчэ ў XIV ст. Генрых фон Мюгельн звязваў паходжанне назвы з «белымі куманамі» венгерскіх хронік, у XV ст. Пампоній Лэт — з «белымі скіфамі», а Дж. Флетчар у XVI ст. — з «белымі сарматамі».

5) Усходняя частка сённяшняй Беларусі нібыта названая *Белай Руссю* пасля і ў процівагу *Чорнай*, ахрышчанай

пазней, дзе паганскія звычаі захоўваліся даўжэй (Я. Юхо, К. Тарасаў, А. Цітоў), што не пярэчыць і п. 2[10].

6) Яшчэ адзін варыянт трактоўкі эпітэта «белы» як сіноніма праваслаўя, блізкі да п. 3, звязвае яго ўзнікненне (згодна з тацішчаўскімі звесткамі) са «стратай чысціні праваслаўя» Кіевам пасля яго захопу Андрэем Багалюбскім у 1169 г. і перамяшчэннем палітычнага цэнтра Русі ва Уладзіміра–Суздальскую зямлю[11].

7) Наадварот, паганскім бачыцца паходжанне назвы тым (В. Ластоўскі і інш.), хто выводзіць *Белую Русь* ад меркаванага Белабога, якому нібыта пакланяліся балцкія і славянскія плямёны, што ў старажытнасці жылі на тэрыторыі Беларусі[12].

8) Паводле А. Трубачова, Р. Агеевай, І. Грэкава і інш., «белы» ў цюркаў можа значыць «заходні», прыкладам чаго лічацца белыя харваты, якія, магчыма, атрымалі такую назву дзеля таго, што засялялі крайні захад усходнеславянскага рэгіёну. Адпаведна і *Белая Русь* — гэта, маўляў, Заходняя Русь — з пункту гледжання цюркаў[13]. В. Маньчак сцвярджае, што назвамі *Белая*, *Чорная* і *Чырвоная Русь* татары акрэслівалі адпаведна заходнюю частку Русі ў складзе ВКЛ, паўночную, падуладную Ардзе, і паўднёвую — у складзе Польшчы, і што затым такі падзел быў нібыта запазычаны заходнімі аўтарамі[14].

9) Яшчэ шырэй трактуе геаграфічную семантыку белага колеру Вяч. Іваноў. Паводле яго высноваў, узаемная арыентацыя Белай, Чорнай і Чырвонай Русі адлюстроўвае ўніверсальную, уласцівую большасці моў і культур сімвалічную сістэму абазначэння трыма асноўнымі колерамі краін свету[15].

10) Г. Ільінскі[16] выводзіў назву ад гіпатэтычных «гарадоў бельскіх» у сярэднім цячэнні Заходняга Буга (як Бельск, Беласток і г.д.).

11) П. Крапівіну «назва «Белая Русь» уяўляецца паўперакладам на славянскую мову якойсьці вельмі старажытнай назвы, якая азначае «белая вада»[17].

12) А. Рогалеў даводзіць, быццам назву *Белая Русь* даў Полацкаму княству яго заснавальнік Рагвалод у канцы X ст., маючы на ўвазе «Русь магутную і вялікую, Русь мірную, чыстую і праведную»[18]. Хаця ў іншым творы той жа аўтар намякае, што *Белай Руссю* называлася нібыта яшчэ дзяржава Рурыка: у яе, апроч Ноўгарада і Белага возера, уваходзілі Полацк, Смаленск, Растоў, Мурам (іх Рурык раздаў сваім васалам), з якімі пазней, на думку Рогалева, была ў першую чаргу звязаная наша назва[19].

Пералік наўрад ці можна лічыць вычарпальным. Версіі паходжання назвы працягваюць множыцца. Але апроч таго, што няма згоды наконт паходжання, дакладна не вызначаныя і межы тэрыторый, да якіх яна ў розныя гістарычныя эпохі дастасоўвалася. «Размытасць» абрысаў *Белай Русі,* яе вандроўкі па карце Усходняй Еўропы, пазбаўленыя, на першы погляд, усялякай логікі, ускладняюць аднаўленне этымалогіі тэрміна. Паўстае пытанне: *Белая Русь* у Вялікім Ноўгарадзе (прынамсі, з XIII ст.), у Вялікім княстве Маскоўскім (з 1470–х), над Донам (з 1490–х), у Вялікім княстве Літоўскім (з другой паловы XVI ст.) — на гэтым спіс не вычарпаны — гэта ўсё розныя аб'екты, вядомыя з абсалютна розных крыніц, якія толькі выпадкова супадаюць па форме, як падаецца, напрыклад, Я. Станкевічу[20], ці адно?

Пры адказе магчымыя дзве крайнасці (умоўна назавем іх «рэалістычнай» і «наміналістычнай»). Тыповы прадстаўнік першай, А. Рогалеў, спрабуючы растлумачыць феномен нестабільнасці зместу назвы, пісаў: «Путешествие» географического названия происходило только... в сочинениях современников и на географических картах, издававшихся в разных странах. Это «литературное путешествие» и обусловило... видимость (и не более того!) реального изменения географической проекции Белой Руси. А между тем, такого изменения не было: Белая Русь оставалась там, где и была испокон веков»[21].

Эмацыйнасць прыведзенага выказвання не можа кам-

пенсаваць недахопу аргументацыі. На самай справе, як мы ўбачым, перамяшчэнне *Белай Русі* па карце і ў краіназнаўчай літаратуры тлумачылася не столькі бракам інфармацыі аб знаходжанні рэальнага геаграфічнага аб'екта, колькі пэўнай штучнасцю самой назвы. Падобна многім лацінскім міфіка–геаграфічным імёнам, яна не мела цвёрдай лакалізацыі, а займала тое месца, якое дыктавала «геаграфічная кан'юнктура» — тая сістэма ўяўленняў, якая панавала ў геаграфічнай навуцы ў той ці іншы час. *Белая Русь*, прынамсі, да канца XVI — пачатку XVII ст. была вобласцю не столькі рэальнай прасторы, колькі, так бы мовіць, «прасторы ўяўленняў». Якой і быў сярэднявечны *Orbis Latinus*.

Другая крайнасць, «наміналістычная», паводле якой назва *Белая Русь* была з самага пачатку ўвогуле пазбаўленай рэальнага зместу, значна бліжэй да ісціны, але таксама не зусім адэкватна тлумачыць гісторыю назвы. Толькі да пэўнай ступені можна пагадзіцца з пунктам гледжання В. Насевіча, што «каляровыя» назвы розных частак Русі яшчэ ў XIV—XV ст. «мелі чыста ўмоўны сэнс»[22]. Мы ўсё ж маем намер паказаць, што падарожжа *Белай Русі* па карце мела канкрэтны, рэальны адпраўны пункт.

З усёй магчымай дакладнасцю мы паспрабавалі прасачыць гісторыю ўсіх метамарфозаў назвы, рэканструяваць генеалогію крыніц, дзе ўтрымліваліся звесткі аб ёй, растлумачыць, калі і чаму яна змяняла свой змест. Неабходна было высветліць, якое месца яна займала ў сістэме геаграфічных ведаў розных навуковых школ, людзей розных эпох і нацыянальнасцяў. Дзеля гэтага асаблівая ўвага будзе аддадзеная не толькі гістарычным падзеям, што адбываліся на *Белай Русі* ці побач, але і канкрэтным асобам (і іх дачыненням), якія ўжывалі гэтую назву ці згадваліся ў сувязі з ёй. Як будзе бачна ніжэй, многія звесткі пра *Белую Русь* натуральным чынам зводзяцца ў групы, кожная з якіх звязаная з тым ці іншым навуковым ці культурным асяродкам

— такім, напрыклад, як нямецкія паэты сярэдзіны XIV ст., рымская Акадэмія Пампонія Лэта сярэдзіны XV ст. ці Кракаўскі ўніверсітэт першай чвэрці XVI ст.

Пры такой рэканструкцыі трэба добра ўяўляць сабе стан геаграфічнай навукі Сярэднявечча, калі нават у параўнанні з антычнасцю назіраўся яўны рэгрэс, а асноўнай крыніцай ведаў служыла не даследаванне, а традыцыя. Дазволім сабе правесці аналогію з векавымі пошукамі «астравоў Бразіль», звесткі аб якіх сярэднявечныя географы і картографы пачарпнулі з ірландскай міфалогіі. Блізкія па значэнні кельцкія словы *breas* і *ail* азначалі нешта накшталт «выдатны», «дасканалы», і легенды пра шчаслівыя астравы, схаваныя недзе ў Атлантыцы, жылі ў Ірландыі не адно стагоддзе да таго, як у 1339 г. іх назва ўпершыню з’явілася на карце свету каталонца Анжэліна Дульсэрта. Пасля гэтага некаторы час іх спрабавалі суаднесці з Канарскімі астравамі, але потым пачалі шукаць (і змяшчаць на карце) яшчэ далей на захад у Атлантыцы. У XV ст. у Еўропе пашырыліся чуткі аб існаванні расліннага фарбавальніка «бразіль», і хаця гэтая назва так і не замацавалася ні за адной з вядомых раслін, імя неіснуючых астравоў пачало трывала асацыявацца з назвай прыдуманай расліны. Астравы працягвалі ўпарта шукаць, і неўзабаве пасля адкрыцця ў 1500 г. усходняй ускраіны Паўднёвай Амерыкі, багатай на розныя фарбавальныя расліны, яна атрымала назву *Бразілія*. Аднак і тады «астравы Бразіль» не зніклі з карты Атлантычнага акіяна. Як дасціпна заўважыў Р. Рамсэй, яны «паміралі цяжка»: адступалі ў менш вывучаныя раёны акіяна, змяншаліся ў памерах. Толькі ў 1873 г., калі стала відавочна, што знайсці іх не ўдасца, Брытанскае Адміралцейства аддало загад прыбраць гэтую псеўдагеаграфічную назву з усіх сваіх карт[23].

Яшчэ адзін прыклад такога кшталту — «далёкая Туле» (*Ultima Thule*), паводле антычных географаў, самы паўночны з населеных астравоў, які нібыта знаходзіўся ля Палярнага круга, за 6 дзён падарожжа ад Брытаніі. Цяжка ска-

заць, што мелася на ўвазе — Ісландыя, паўночна–заходняя Нарвегія ў раёне Транхеймскага фіёрда, Шпіцберген (да ўсіх гэтых аб’ектаў у розны час спрабавалі дапасаваць назву *Туле*) ці нешта іншае. Адным з рэліктаў «далёкай Туле» з’яўляецца в. Фула з групы Шэтландскіх астравоў. Але ўжо ў навейшы час назву *Туле*, дзеля павагі да старажытных географаў, далі аддаленым раёнам Грэнландыі і Канады на ўзбярэжжы мора Бафіна.

Не мае сэнсу шукаць у назвах *Туле* і *Бразіль* мясцовыя фальклорныя карані. Менавіта моц сярэднявечнай еўрапейскай **пісьмовай** традыцыі, логіка яе развіцця, яе інерцыя адыгралі вядучую ролю і ў гісторыі *Белай Русі* як геаграфічнага паняцця. Ягоная гісторыя вельмі нагадвае гісторыю іншых «адкрыццяў, якіх ніколі не было» (паводле трапнага выразу Рамсэя). З той розніцай, што наша назва, нягледзячы на пачатковую штучнасць, усё ж не знікла з карты, а наадварот, з канца XVI ст. замацавалася за пэўнай геаграфічнай вобласцю і надалей увесь час пашыралася на ўсё большую тэрыторыю. Усё ж такі славянскую краіну паміж Расіяй і Польшчай, не асіміляваную цалкам ні адной, ні другой, трэба было неяк называць, а назвы *Крывія* ці *Вялікалітва*, пры ўсіх іх вартасцях, былі прапанаваныя занадта позна і не мелі такой перадгісторыі, каб канкураваць з *Белай Руссю*. Так яна і засталася на карце. Пакуль што? Назаўжды?

## 1. «Тацішчаўскія звесткі» і праблема дакладнай атрыбуцыі

Дагэтуль у сталы навуковы абарот уведзена не так ужо шмат цытат са старажытных дакументаў, у якіх згадваецца *Белая Русь*. А многія даследчыкі, спрабуючы абгрунтаваць тую ці іншую версію паходжання назвы, адвольна выбіраюць з гэтай «альбарусікі» або самае зручнае для сваіх тэорый, або проста тое, што вядома асабіста ім. Звычайна цытаты вырываюць з кантэксту адпаведных крыніц і маніпулююць імі як дэталямі з канструктара *Lego*, будуючы канцэпцыі паходжання назвы на свой густ. Своеасаблівымі «чэмпіёнамі» такога цытавання з’яўляюцца вытрымкі з Тацішчава (нібыта пад 1135 г. і 1169 г.), Яна з Чарнкова (нібыта пад 1382 г.), так званага «Ліста Івана III да папы Сікста IV» (1472 г.), Мяхоўскага (1521 г.), Гваньіні (1578), Стрыйкоўскага (1582 г.), у апошні час — з Дублінскага рукапіса (каля 1255 г.). Стала сумнай традыцыяй не звярацца з першакрыніцамі, а цалкам здавацца на папярэднікаў. Так, з часу, калі М. Карамзін увёў у абыходак згаданы «Ліст Івана III» (1817), здаецца, толькі П. Пірлінг у канцы XIX ст. палічыў неабходным звярнуцца непасрэдна да «Рымскага дзённіка» Джакома Мафэі з Вальтэры, паводле якога Карамзін узнаўляў тэкст гэтага ліста. Але большасць даследчыкаў, цалкам здаючыся на аўтарытэт рускага класіка, дагэтуль працягвае ўпарта лічыць яго «самай даўняй дакладнай гістарычнай звесткай пра Белую Русь усходнеславянскага паходжання» (гл. раздзел 4). Такі дагматызм, натуральны для вучоных Сярэднявечча (у нейкім сэнсе дзякуючы яму і з’явілася вывучаемая назва), у наш час наўрад ці можа быць апраўданы. Адной з мэт гэтай працы з’яўляецца як мага больш поўная кадыфікацыя і сістэматызацыя вядомай і новай інфармацыі пра *Белую Русь* XIII—XVII ст. з удакладненнем яе канкрэтнага зместу і храналогіі.

Мы дыспануем самымі разнастайнымі гістарычнымі крыніцамі, якія ўтрымліваюць звесткі пра назву *Белая Русь* і яе прататыпы. Сярод іх абсалютна пераважаюць дакументы заходнееўрапейскага паходжання (на лацінскай, нямецкай і італьянскай мовах): хронікі («Хроніка Канстанцкага сабора», «Венгерская хроніка» Мюгельна, «Хроніка Польшчы» Яна з Чарнкова, «Нюрнбергская хроніка» і г.д.); энцыклапедычныя і гісторыка–геаграфічныя трактаты (Дублінскі рукапіс, «Трактат пра дзве Сарматыі» Мяхоўскага, «Касмаграфія» Мюнстэра); геаграфічныя карты (пачынаючы з Фра Маўра і Генрыха Мартэла) і глобусы (Іагана Шонера, Каспара Вопеля і інш.); фрагменты дыпламатычнай карэспандэнцыі (у першую чаргу, нямецкіх і італьянскіх дзяржаў); помнікі агіяграфіі («Жыціе Св. Кунегунды»); паэтычныя творы (П. Зухенвірта, Т. Прысшуха, М. Баярда, Я. Вісліцкага) і нават працы па астраноміі і астралогіі (табліца эфемерыд Бема, Холмскі астралагічны зборнік). Невялікую групу складаюць дакументы ўсходнееўрапейскага паходжання — яе можна падзяліць на дзве падгрупы: 1) паведамленні пра Ферара–Фларэнтыйскі сабор, якія ўзыходзяць да «Слова на латыню» 1461 г.; 2) летапісныя зводы XVII—XVIII ст. (Густынскі летапіс, «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», Ермалаеўскі спіс Іпацьеўскага летапісу), якія ў частцы паведамленняў пра *Белую Русь* грунтуюцца на «Хроніцы Польскай, Літоўскай, Жмудскай і ўсяе Русі» Стрыйкоўскага.

Галоўныя праблемы пры рэканструкцыі эвалюцыі паняцця *Белая Русь* — даціроўка паведамленняў гэтых крыніц пра *Белую Русь* і ўстанаўленне іх аўтэнтычнасці. Большасць памылак, дапушчаных даследчыкамі гісторыі *Белай Русі*, выкліканая перш за ўсё недахопам крытычнага стаўлення да тэкстаў. Даты, пад якімі назва згадвалася ў тым ці іншым дакуменце, аўтаматычна прымаліся за сапраўдныя, не зважаючы на гісторыю стварэння і рэдагавання самога дакумента. Між тым, рэдка якія сярэднявечныя дакументы дайшлі

да нас аднароднымі з пункту гледжання аўтарства і часу стварэння. Нават павярхоўная крытыка дазваляе распазнаць шмат у якіх паведамленнях пра *Белую Русь* пазнейшыя інтэрпаляцыі, а ў некаторых — свядомую фальсіфікацыю.

Найбольш яскравы прыклад такой фальсіфікацыі — так званыя «тацішчаўскія звесткі». У XVIII ст. расійскі гісторык Васіль Тацішчаў, спасылаючыся на нейкія «Раскольніцкі, Польскі і Растоўскі манускрыпты», заявіў, што пачаткова *Белая Русь* была іншай назвай Уладзіміра–Суздальскай зямлі:

«Белая Русь також по разделении детей Владимировых названа... престол был первой в Ростове, потом в Суздале, во Владимире и Смоленску, а напоследок уже перенесен в Москву... А по Днепру до устья реки Дручь, на запад Борисов, построен на границе при реке Березе»[24].

Вылучыўшы такі тэзіс, Тацішчаў затым паслядоўна ўжываў тэрмін *Белая Русь* ва ўсіх выпадках, калі гутарка ішла пра Уладзімір ды Суздаль. Так, пры апісанні падзей 1135 г. ён сцвярджаў, што, згубіўшы Пераяслаў, «Юрий возвратился в свою область Белую Русь»[25]; пад 1157 г. паведамляў, як Андрэя Багалюбскага «посадиша... на отчи столе во всей Белой Руси, в Ростове и Суздале»[26].

Каб неяк прымірыць гэтыя звесткі з сучаснай яму рэчаіснасцю, Тацішчаў прылічыў да сваёй Уладзіміра–Суздальскай *Белай Русі* і Смаленск: «Московская и Смоленская [имянуется] за едино Белая Русь»[27]. А каб растлумачыць уяўны пераход назвы ад Уладзіміра і Суздаля да беларускіх Падзвіння і Прыдняпроўя, аб’явіў, што «Литовские [князья], хотя похитить титул великих князей белорусских, обладав Смоленском, оное токмо за Белую Русь почли... но древнейшие манускрипты... всю сию страну кроме Смоленского, Белая Русь имянуют»[28]. З беларускіх гісторыкаў гэтай версіі прытрымліваецца, напрыклад, К. Тарасаў[29].

Катэгарычнасць сцвярджэнняў Тацішчава не можа замаскаваць той факт, што сам ён у сваіх гіпотэзах быў не вельмі ўпэўнены. Гэта бачна ўжо па тым, як ён перабірае

версіі паходжання назвы, не ведаючы, на якой спыніцца, ніколькі не клапоцячыся пра ўзгадненне сваіх уласных палажэнняў між сабой. То ён піша, што «татара, персияне, турки и другие восточные народы, не от себя вымысля, государей руских ак падышаха и сархан, т.е. белый государь, и государство Ак Урус — Белая Русь — именуют, и от сего звания, может, белое платье в предпочтении было»[30], то: «наипаче Белая и Черная Русь ни от чего, как от цвета волос или одежд произошло»[31]. А вось ужо: «О причине ж имяни сего разные мнения находятся. Герберштейн и другие от множества снегов написали... Паче же верительно сказание Макариа митрополита, что сие имя от преизясчества земли и довольства... дано»[32]. Відавочна, што дзеля падтрымання сваіх штучных разумовых пабудоў Тацішчаў не грэбаваў прыпісваннем некаторым аўтарам выказванняў, якіх яны ніколі не рабілі. На жаль, як звычайна здараецца з памылковымі тэорыямі, імправізацыі Тацішчава надоўга «захраслі» ў свядомасці наступных пакаленняў гісторыкаў.

Так, ідэя аб паходжанні назвы ад «мноства снягоў» нідзе ў асцярожнага ў высновах Герберштайна не выказаная. Наколькі нам вядома, яна прагучала амаль стагоддзем пазней у Ш. Старавольскага (гл. раздзел 11). Г. Ільінскі выкрываў наіўнасць самой такой этымалогіі, але цалкам здаўся на Тацішчава, паўторна прыпісаўшы яе Герберштайну[33]. Пра спробу Герберштайна (не ўдакладняючы яе сутнасці) высветліць паходжанне назвы ахвотна пішуць і іншыя даследчыкі (напрыклад, Р. Максімовіч)[34]. Але, як паказана ў раздзеле 5, Герберштайн даў сваю версію паходжання тэрміну «белыя рускія», што не зусім тое ж, і не ў першым лацінскім выданні 1549 г., як сцвярджаў Максімовіч, а ў нямецкім 1557 г. Прычым выводзіў ён гэтую назву не ад «мноства снягоў», а ад спалучэння «белы рускі цар» (гл. раздзел 5). Выдуманымі, як паказаў С. Пешціч[35], з'яўляюцца і спасылкі Тацішчава на мітрапаліта Макарыя, таксама

падхопленыя некаторымі беларускімі даследчыкамі[36]. Хаця ў «Мінеі–Чэцці», створаныя на загад Макарыя ў сярэдзіне XVI ст., увайшло і «Слова на латыню» — самы даўні ўсходнеславянскі літаратурны помнік, які змяшчае звесткі пра *Белую Русь*, — намі не выяўлена ніякіх каментароў самога мітрапаліта наконт паходжання назвы.

Першым, хто звярнуў увагу на беспадстаўнасць загадкавых паведамленняў Тацішчава, быў Мікалай Карамзін. У «Гісторыі дзяржавы Расійскай» (1816) ён справядліва адзначыў: «Суздаль и Ростов никогда не назывались Белою Русью»[37]. І яшчэ: «Вопреки Татищеву, я нигде не находил имени Белой России до времен Иоанна III»[38].

Цяпер цвярозы погляд на «тацішчаўскія звесткі» пра *Белую Русь* паступова бярэ верх. Але абвяргаючы іх, некаторыя беларускія гісторыкі лічаць, што яны «ўзятыя... з больш позніх летапісных кампіляцый, хутчэй за ўсе, XVII ст.»[39]. Можна пагадзіцца з тым, што ва ўсіх вядомых рускіх летапісах XI—XIV ст., звесткі аб тоеснасці *Белай Русі* Растова–Суздальскай зямлі адсутнічаюць і хутчэй былі сфальсіфікаваныя самім Тацішчавым, схільным да адвольнага абыходжання з крыніцамі. Аднак і летапісныя зводы XVII ст., у якіх фігуруе назва *Белая Русь*, не звязваюць яе з Уладзімірам ды Суздалем. Ідэю гэтай тоеснасці Тацішчаў мог пазычыць у заходнееўрапейскіх аўтараў, напрыклад, у Георга Хорна (1668 г.), для якога *Vladimiria* і *Russia Alba* былі сінонімамі (падрабязней мы спынімся на гэтым у раздзеле 12). У нейкай ступені «тацішчаўскія звесткі» пра *Белую Русь* могуць быць растлумачаныя, напрыклад, старадаўняй традыцыяй, паводле якой служылыя князі Пскова і Ноўгарада — як мы ўбачым, пачатковай *Белай Русі* — часцей за ўсё абіраліся з растова–суздальскіх князёў. Такое становішча захавалася нават пасля далучэння гэтых баярскіх рэспублік да Маскоўскай дзяржавы[40].

Наўрад ці ў распараджэнні Тацішчава меліся нейкія крыніцы, невядомыя сучаснай навуцы. «Раскольніцкі і

Растоўскі манускрыпты», імаверна, адпавядаюць якімсьці агульнарускім летапісам, для якіх цяпер усталяваліся іншыя назвы[41]. Прычым, што датычыць «Растоўскага», можна нават аднавіць, з высокай ступенню верагоднасці, як канкрэтна выглядала яго паведамленне пра *Белую Русь*. Хутчэй за ўсё, гутарка ў ім ішла пра падзеі 1438 г. на Фларэнтыйскім саборы і пры гэтым цытаваўся прыпісваны Іаану Палеалогу панегірык Васілю Цёмнаму. За «Польскім манускрыптам» хаваецца, хутчэй за ўсё, «Хроніка» Мацея Стрыйкоўскага (падрабязна яна будзе разглядацца ніжэй). Гэтая хроніка — што цяпер устаноўлена дакладна — была адной з галоўных крыніц Тацішчава[42]. Менавіта ў ёй часта сустракаецца вызначэнне маскоўскіх князёў як «уладароў Бела–Рускай манархіі» ці «беларускіх княжычаў».

Нават калі не выключаць цалкам магчымасці таго, што Тацішчаў абапіраўся на нейкія невядомыя сучасным гісторыкам крыніцы, дзе называлася *Белай Руссю* частка тэрыторыі Растова–Суздальскай зямлі, пра гэтыя гіпатэтычныя крыніцы трэба зрабіць важныя агаворкі: 1) калі маюцца на ўвазе нейкія скандынаўскія ці нямецкія крыніцы, назва *Белая Русь* у іх магла, як будзе паказана ніжэй, ахопліваць Белае возера, магчыма, і Растоў X—XI ст. — г.зн. перыферыю будучага Уладзіміра–Суздальскага княства, але не ўсю яго тэрыторыю, і ўжо ніякім чынам не Смаленск; 2) калі гутарка ідзе пра крыніцы ўсходнеславянскага паходжання, то амаль выключаецца імавернасць іх стварэння раней XVI—XVII ст.

Гістарычная навука (ці, дакладней, псеўданавука) і ў наш час, на жаль, часта несумленна выкарыстоўваецца ў палітычных, рэлігійных і іншых «вышэйшых» мэтах, і гістарычная ісціна ў такіх выпадках заўжды адыходзіць на другі план. У часы ж Тацішчава фальсіфікацыя дакументаў «у вышэйшых дзяржаўных інтарэсах» і пагатоў лічылася з'явай абсалютна прымальнай. Напрыклад, у 1717 г. расійскі ўрад і вышэйшыя праваслаўныя іерархі для барацьбы са

старaверамі сфабрыкавалі т.зв. «Соборное деяние на мниха Мартина Арменина», афармленае як ухвала царкоўнага сабора, які нібыта адбыўся ў Кіеве ў 1157 г. і на якім праціўнікі догмаў і абрадаў, аналагічных уведзеным рэформамі 1653—1656 г., былі абвешчаныя «ерэтыкамі». Арганізатары раптоўнай «знаходкі» на Украіне і наступнай публікацыі гэтага дакумента адзначалі, што ён напісаны «древним белоруским характером»[43]. Нават калі ўлічыць, што ў той час у Расіі тэрмінам «белоруское письмо» абазначалася ўся сукупнасць графічных і лексічных асаблівасцяў, адрозненняў т.зв. «заходнерускай» пісьмовай мовы ад уласна рускай, ці ж можна было пераносіць гэты тэрмін у XII стагоддзе!

Гэтая недарэчнасць, канешне ж, не самая бессаромная ў той грубай падробцы, якой з'яўляецца «Соборное деяние». Але яна ясна паказвае, што Тацішчаў быў далёка не адзіным, хто, пішучы пра *Белую Русь*, імкнуўся «падагнаць» мінулае пад рэаліі свайго часу — ці XVI, ці XX ст. Яшчэ адзін характэрны прыклад: гісторыкі ахвотна цытуюць Ермалаеўскі спіс Іпацьеўскага летапісу[44]. Гэты спіс пры апісанні жаніцьбы будучага польскага караля Казіміра III з дачкой Гедыміна Альдонай у 1325 г., калі Гедымінам было адпушчана ў Польшчу шмат палонных, паведамляе: «сице лях един по гривне, се есть по десяти грошей литовских в Литве и Руси Белой продаван был, и на лошата и волы Литва межи собой их замениваху»[45].

Але Ермалаеўскі спіс створаны ў пачатку XVIII ст. на аснове Пагодзінскага спіса канца XVI ст.[46] (у апошнім, дарэчы, фрагмент з паведамленнем пад 6813 г. адсутнічае). Сучаснай навукай гэты фрагмент звычайна не разглядаецца як частка ўласна Іпацьеўскага летапісу, і, зразумела, немагчыма лічыць яго доказам вядомасці *Белай Русі* рускаму летапісцу XIV ст.[47]. Перапісчык XVIII ст., хутчэй за ўсё, адштурхоўваўся ад «Хронікі...» Стрыйкоўскага, які паведаміў пра 24 тыс. палонных, нібыта адпушчаных Гедымінам[48].

Ермалаеўскі спіс, дарэчы, паслужыў адной з крыніц «Гісторыі Расійскай» Тацішчава[49].

Часам сцвярджаецца, што назва *Белая Русь* была ўжытая ў 1407 г. у дачыненні да Полаччыны[50]. Аднак сам дакумент 1407 г., на які пры гэтым спасылаюцца, не захаваўся. Ён вядомы толькі паводле запісу ў інвентары францысканскага кляштара Св. Марыі ў Ашмянах, зробленым 8 сакавіка 1585 г.: запіс сапраўды згадвае «маёнтак Бортнікі ў Белай Русі, які захапіў тады [у 1407 г. — **А. Б.**] пан ваявода Полацкі»[51]. Але больш лагічна будзе меркаваць, што складальнікі інвентару дадалі назву *Белая Русь* ад сябе, бо ў той час яна ўжо трывала замацавалася за Полаччынай. Яшчэ адна згадка пра *Белую Русь*, нібыта датаваная XV ст. (1476 г.) — «эпістолія» мітрапаліта Місаіла, на самай справе, хутчэй за ўсё, адносіцца да больш позняга часу (1605 г.). Праўда, у адрозненне ад многіх іншых дакументаў, спрэчнасць дацiроўкі гэтага добра ўсведамляецца даследчыкамі, і па гэтым пытанні існуе багатая літаратура. Падрабязней мы разгледзім яго ў раздзеле 4.

Нельга аднесці да аўтэнтычнай «альбарусікі» пастанову першага ваада (з'езда) яўрэйскіх абшчын ВКЛ у Бярэсці ў 1623 г. Яна толькі адзначыла, што рознага кшталту валацугі «запаланілі Літву і Русь»[52]. А ўжо ў 1936 г. складальнікі зборніка «Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах», жадаючы, напэўна, «удакладніць» сэнс гэтага запісу, паправілі яго на «Літву і Беларусь». Значыцца, фактычна згадка пра *Белую Русь* у гэтым фрагменце адносіцца не да 1623, а да 1936 г.! У выніку атрымалася не ўдакладненне, а падмена паняццяў, блізкая да фальсіфікацыі, што ўвяло ў зман і наступных даследчыкаў[53].

Зрэшты, любыя інтэрпаляцыі, падробкі ці памылковыя гістарычныя даследаванні ў пэўным сэнсе ўсё ж з'яўляюцца аўтэнтычнымі крыніцамі — крыніцамі для даследавання матываў стварэння падробак, для вывучэння стэрэатыпаў пэўнай эпохі і асяродка, якія прыводзілі да тых відавочных

сёння памылак, якія ў свой час амаль немагчыма было не зрабіць. Далей мы пераканаемся, што гэтыя кур'ёзныя памылкі якраз і былі вырашальнымі ў гісторыі ўзнікнення і эвалюцыі назвы *Белая Русь*. Фактычна можна казаць не пра тое, што гэтая назва спачатку ўзнікла «ў рэальнасці», а потым розныя аўтары з большай ці меншай ступенню дакладнасці спрабавалі растлумачыць яе «аб'ектыўны» сэнс, — але пра тое, што тлумачэнне, так бы мовіць, папярэднічала самой назве. Аднак што ж было пачатковым штуршком да яе з'яўлення?

## 2. *Incipiunt Russiae Albae*

Узнікненне тэрміна *Белая Русь* (X—XIII ст.)

Цікавасць да праблемы паходжання назвы *Белая Русь* прыкметна ўзрасла з уводам у навуковы ўжытак трактата «Пачатак апісання земляў» (*Incipiunt descriptiones terrarum*), знойдзенага ў 1979 г. амерыканскім даследчыкам М. Колкерам у складзе так званага Дублінскага рукапісу ў бібліятэцы *Trinity College* — англіканскага ўніверсітэта ў Дубліне. Паводле сучаснага стану ведаў, гэта найбольш ранняя гістарычная крыніца, дзе сустракаецца наша назва[54]. «Пачаткам», мяркуючы па заключных словах фрагмента, ён мусіў стаць задуманаму вялікаму трактату пра татараў, заваёвы якіх у сярэдзіне XIII ст. паслужылі штуршком для з'яўлення многіх тагачасных геаграфічных твораў. Менавіта ў гэты час пачалося складванне геаграфіі як асобнай навукі. Падарожжы на Усход, здзейсненыя ў XIII ст. каталіцкімі місіянерамі і купцамі — Гіёмам Рубрукам, Джавані дэль Плана Карпіні, братам Юліянам, Маркам Пола і інш., — значна ўзбагацілі веды заходніх еўрапейцаў пра іншыя часткі Старога Свету. Невядомы аўтар «Апісання земляў» вельмі добра для свайго часу ведаў геаграфію Усходняй Еўропы, дзе сам прапаведаваў, нават, паводле ягоных слоў, удзельнічаў у хрышчэнні і каранацыі Міндоўга ў 1253 г. Аўтару было яшчэ невядома пра адступніцтва Міндоўга ў 1261 г., што дазваляе даволі дакладна датаваць час напісання трактата — паміж 1255 і 1260 г.

Пакуль не высветлена, каму належыць аўтарства трактата. Польскі гісторык К. Гурскі найбольш верагодным аўтарам лічыць першага біскупа холмскага дамініканца Генрыха–Гайдэнрайха, які асабіста каранаваў Міндоўга[55]. Праўда, Гурскі сам прызнае, што ў такім выпадку аўтар хутчэй звярнуў бы ўвагу на гэтую важную акалічнасць, а не абмежаваўся сціплай звесткай аб сваім удзеле ў каранацыі. Але не варта забывацца, што ў XIII ст. Літва яшчэ не была так

цесна, як у наступныя стагоддзі, звязаная з Польшчай, і зусім неабавязкова аўтар «Апісання...» паходзіў адтуль. Ён мог, напрыклад, належаць да атачэння рыжскага арцыбіскупа Альберта II. Той да свайго прызначэння ў Прыбалтыку (1246 г.) быў арцыбіскупам Арма (*Armagh*) і прымасам Ірландыі (з 1240 г.) і нават пасля пераводу ў Рыгу, па некаторых звестках, пэўны час захоўваў за сабой гэтую славутую кафедру, заснаваную, як традыцыйна лічаць, самім Св. Патрыкам[56]. Сам Дублінскі рукапіс датуецца сярэдзінай 1270–х, г.зн. быў створаны адразу пасля смерці Альберта. Магчыма, нейкі ірландзец, які ў свой час выехаў з ім у Прыбалтыку, вярнуўся тады на радзіму з трактатам.

Каштоўнасць «Апісання земляў» цяжка пераацаніць: у ім амаль адсутнічаюць традыцыйныя для той эпохі фантастычныя дэталі, а палажэнне і ўзаемная арыентацыя розных абласцей і краін апісаныя з усёй магчымай дакладнасцю[57]. Таму да яго звестак пра *Белую Русь* трэба паставіцца з асаблівай увагай. З іх мы даведваемся, што:

«Прусія (*Pruscia*)... даходзіць на захадзе да паганцаў карэлаў (*Carilos*), якія мяжуюць з Нарманскім каралеўствам. Згаданыя карэлы — людзі лясныя і даволі дзікія... Адзін з іх, слухаючы брата Вайслана (*Vaislanum*), майго таварыша, які прапаведаваў на Белай Русі (*in Alba Ruscia*), заклікаў таго ісці з ім да згаданых карэлаў, даводзячы, што, без сумнення, давёў бы іх да праўдзівага Бога праз хрышчэнне і пры жаданні збудаваў бы там касцёлы»[58].

Упершыню *Incipiunt descriptiones terrarum* (у перакладзе А. Жлуткі) на Беларусі апублікаваў В. Чамярыцкі. На яго думку, «геаграфічны кантэкст гэтага гістарычнага запісу дазваляе зрабіць выснову, што тут аўтар пад Белай Руссю разумее суседнюю з прыбалтыйскім рэгіёнам частку Русі — Заходнюю Русь... Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе сучасная Усходняя або Цэнтральная Беларусь, бо аўтар, прапаведуючы пераважна ў Яцвезі і Літве, мог падтрымліваць цесную сувязь са сваім сябрам Вайсланам толькі пры ўмо-

ве выконвання апошнім свайго чыну місіянера дзесьці зусім побач»[59].

Але з «сучаснай Усходняй або Цэнтральнай Беларуссю» яшчэ цяжэй было падтрымліваць сувязь карэлам: іх камунікацыйныя магчымасці наўрад ці маглі спаборнічаць з магчымасцямі самай разгалінаванай і ўплывовай арганізацыі тагачаснай Еўропы — каталіцкай царквы. Падобна на тое, што *Белая Русь*, дзе прамаўляў брат Вайслан, знаходзілася менавіта побач з Карэліяй. Сучасную Беларусь, ці, прынамсі, Полацкае княства, сучаснікі Вайслана ніколі не называлі *Белай Руссю*. Папа Клімент III у 1188 г. зацвердзіў біскупства Ікескюль *in Ruthenia*; Ганорый III у 1224 г. назваў інфлянцкіх біскупаў і іх супрацоўнікаў *fideles per Russiam constituti*; усходняя Латгалія ў буле Урбана IV 1264 г. лічыцца часткай *Russiae*[60].

Якраз тады Рым надаваў адмысловае значэнне хрышчэнню Карэліі, дакладней — перахрышчэнню, бо намінальна мноства карэлаў было ахрышчана ў праваслаўе наўгародскім князем Яраславам Усеваладавічам у 1227 г. Але пасля паспяховага крыжовага паходу на фінскае племя ем у 1249—1250 г., у выніку чаго яно было ахрышчана і далучана да Швецыі, рымская курыя сама спадзявалася замацавацца ў Карэліі[61]. Гамбургскі канонік Фрыдрых Газельдорф у 1255—1269 г. насіў тытул «біскупа Карэльскага», але, як і многія іншыя біскупы *in partibus infidelium*, ніколі ў сваёй епархіі не бываў: Швецыі, нягледзячы на шматразовыя крыжовыя паходы, доўгі час не ўдавалася вырваць карэлаў з–пад наўгародскага ўплыву[62].

*Descriptiones terrarum* маюць шмат агульнага з іншымі трактатамі сярэдзіны XIII ст., напрыклад, з творамі англійскіх вучоных Роджэра Бэкана *Opus Majus* і Барталамея Англійскага *De proprietatibus rerum*, у якіх выкладаліся і пачаткі геаграфічных ведаў. Геаграфічная наменклатура Прыбалтыйскага рэгіёну ва ўсіх трох творах вельмі падобная. Але *Descriptiones terrarum* вылучаецца з іх найбольшай

дакладнасцю і падрабязнасцю. (Яно згадвае, напрыклад, такія назвы, як «Яцвягі» і «Нальшчаны», увогуле амаль незнаёмыя еўрапейцам). Хаця ні Бэкан, ні Барталамей нічога не кажуць пра *Белую Русь*, мы лічым, што ключ да разгадкі таямніцы паходжання гэтай назвы дае цьмяна апісаная імі краіна *Албанія*.

Барталамей Англійскі, францысканец, з 1230 г. выкладаў тэалогію ў Магдэбургу — горадзе, куды навіны з Усходняй Еўропы траплялі раней, чым у іншыя раёны каталіцкай айкумены, бо ён быў адным з галоўных цэнтраў нямецкай экспансіі на ўсход[63]. Незадоўга да смерці, каля 1250 г., Барталамей скончыў свой асноўны твор, *De proprietatibus rerum* («Пра ўласцівасці рэчаў»). З яго мы даведваемся, што Албанія — «правінцыя Малой Азіі, названая паводле колеру народаў, бо нараджаюцца яны з белымі валасамі... Гэтая Албанія мяжуе на ўсходзе з Каспійскім морам і ўзыходзіць па ўзбярэжжы да Паўночнага акіяна, прасціраючыся да Меацийскіх азёраў і да найдзічэйшых пустынных месцаў. У гэтай зямлі жывуць велізарныя сабакі, такія лютыя душой і целам, што валяць на зямлю быкоў і забіваюць ільвоў і сланоў... А вочы ў гэтага народа афарбаваныя і зеленаватыя ў зрэнках, таму яны лепш бачаць уначы, як удзень»[64].



**„Албаны маюць зеленаватыя зрэнкі і лепей бачаць уначы“. Фрагмент Херэфордскай карты свету (канец XIII ст.)**

Геніяльны вучоны сярэднявечча англічанін Роджэр Бэкан, празваны «доктарам, вартым здзіўлення» (*doctor mirabilis*), сваю галоўную працу «Вялікі твор» (*Opus Majus*) напісаў каля 1266—1268 г. У ёй Албаніі[65] ўдзелена даволі шмат месца:




**Геніяльны вучоны сярэднявечча Роджэр Бэкан (каля 1214—каля 1294). Магчыма, згаданая ў яго «Вялікім творы» краіна *Leucovia* — адзін з пратапаў *Белай Русі*.**

«За р. Танаіс знаходзіцца Верхняя Албанія (*Albania Superior*), усутыч да іншай вялікай ракі, якая называецца Этылія... На ўсходняй мяжы, паміж Русцыяй (*Ruscia*) і Аланіяй, куды прыходзяць купцы і іншыя, хто ідзе з Венгрыі і Хазарыі, і Польшчы, і Русцыі, ёсць нейкае паселішча, дзе на суднах перапраўляюцца праз раку Танаіс»[66];

«Заходняя Албанія прасціраецца ад Дуная, за межамі Венгрыі на ўсход, да самай р. Танаіс, мяжуючы на поўдні з Хазарыяй і Валахіяй, і Балгарыяй, і Канстанцінопалем; з захаду мяжуе з Венгрыяй і Польшчай і [заходняй] ускраінай Русіі; з поўначы на ўсім працягу мяжуе з Русіяй»[67];

«З поўначы гэтай правінцыі [«Заходняй Албаніі». — **А. Б.**] знаходзіцца Вялікая Русія (*Russia Magna*), якая... ад Польшчы, з аднаго свайго боку, прасціраецца да Танаіса, але большай часткай сваёй мяжуе на захадзе з Ляўковіяй (*Leucovia*), краінай такой жа вялікай, як Алеманія...»[68];

«Эстонію (*Estonia*), Лівонію (*Livonia*), Семі–Галію (*Semi–Gallia*), Куронію (*Curonia*) — абдымае згаданая Ляўковія, а вакол яе з абодвух бакоў Усходняга [г.зн. Балтыйскага] мора змяшчаецца Вялікая Русія (*Russia Magna*)»[69].

В. Матузава, перакладчык фрагментаў *Opus Majus* на рускую мову, адназначна трактуе тэрміны *Leucovia, Leucovii* Бэкана як скажоныя «Літва», «літоўцы»[70]. Аднак заўважым:

паводле Бэкана, гэтая *Ляўковія*, не саступаючы па памерах Германіі, «абдымае» ўсю сучасную Балтыю, чаго не скажаш пра Літву на пачатковым этапе складвання Вялікага княства. Магчыма, апроч Літвы, Бэкан уключыў у *Ляўковію* і рускія землі, сумежныя з Прыбалтыкай, — часткі Ноўгарада і асабліва Пскова. Дарэчы, пскоўскім князем з 1266 г. быў Даўмонт, які эміграваў з Літвы «с дружиною своею и с всем родом своим», і невядомы інфарматар Бэкана мог памылкова прыняць гэты факт за прыкмету палітычнага адзінства Літвы і Пскова. Асабліва ж звяртае на сябе ўвагу напісанне *Leucovia.* Яно значна адрозніваецца ад падобных адзін да аднаго варыянтаў *Lectonia* (Барталамей) і *Lectauie* (*Descriptiones terrarum*). Ці не мог Бэкан, добра знаёмы з грэчаскай мовай, утварыць гэтую назву ад грэч. *leucos* — белы? У такім разе *Leucovia* — калька з лацінскага *Albania.* Хаця ён і пісаў, што «ляўковы» (*Leucovii*) вызнавалі паганства, але ведаў, што «русцэны», якіх згадваў побач, былі хрысціянамі ўсходняга, «грэчаскага» абраду: «Пруцэны, курлянды, лівоны, эстоны, сямігалы, ляўковы — паганцы. Русцэны — хрысціяне, яны трымаюцца ўсходняга чыну, але служба ідзе не на грэчаскай мове, а на славянскай, распаўсюджанай у многіх землях»[71]. Мог ён ведаць і пра ўплыў усходніх славянаў на іх менш развітых у той час суседзяў — карэлаў, эстонцаў, латгалаў, літоўцаў, чаму і вырашыў перадаць назву *Albania* (якую ўжо ўжыў у двух розных сэнсах пры апісанні іншых частак Усходняй Еўропы) па–грэчаску, а заадно і «ўдакладніць» транскрыпцыю назвы «Літва» (альбо лацінізаванай назвы Пскова — *Plescovia*). Як убачым далей, у канцы XV ст. Пампоній Лэт згадае «леўкаскіфаў» (*leucosciti*), а ўраджэнец Беларусі Саламон Рысінскі ў канцы XVI ст. назаве сябе на грэчаскі лад *leucorussus,* а сваю радзіму — *Leucorussia.*

Якую ж Албанію мелі на ўвазе Бэкан і Барталамей? Вядомая эліністычным і рымскім географам Каўказская Албанія — старажытная краіна на паўночным усходзе ад

Вялікай Арменіі, у ніжнім цячэнні Аракса і Куры. Яна існавала ў I—X ст., ахопліваючы значную частку тэрыторыі сённяшніх Азербайджана і Дагестана[72]. На яе месцы пазней узнікла феадальная дзяржава Шырван. Назва *Албанія* існавала толькі ў еўрапейскай схаластычнай традыцыі. Саманазва народа, які рымляне называлі «албаны», невядомая, а этымалогію іх лацінскага псеўданіма цяпер амаль немагчыма аднавіць[73].

Але чаму арэал назвы *Албанія* ў сярэднявечных географаў пашырыўся так далёка на поўнач? Бо, нягледзячы на фантастычнасць прыведзеных вышэй звестак, у іх можна выдзеліць зерне канкрэтнай інфармацыі, якая адназначна паказвае на Еўрапейскую Поўнач. Чуткі аб лютых сабаках узніклі, відаць, пад уражаннем ад шырокага выкарыстання народамі Поўначы сабак — ездавых і паляўнічых; паведамленне, быццам жыхары *Албаніі* лепш бачаць уначы, чым удзень — скажоны водгук звестак пра палярную ноч.

Не сакрэт, што фантастычныя атрыбуты Албаніі (людзі, якія нараджаюцца сівымі, велізарныя сабакі і г.д.) прасочваюцца ў еўрапейскай традыцыі, пачынаючы з 9–й кнігі «Этымалогій» вучонага–энцыклапедыста VII ст. Ісідора Севільскага[74]. «Этымалогіі» аказалі ці не найбольшы ўплыў на фармаванне сістэмы геаграфічных уяўленняў сярэднявечча — «хрысціянскай тапаграфіі». Заснаваная не столькі на досведзе, колькі на літаральна–наіўнай інтэрпрэтацыі біблейскіх тэкстаў, гэтая дагматычная карціна свету карэнным чынам адрознівалася ад сучаснай. І сучаснае тлумачэнне любых геаграфічных тэрмінаў Сярэднявечча магчымае толькі ў кантэксце гэтай сістэмы ўяўленняў. Менавіта ў Ісідора, калі не непасрэдна, дык праз твор французскага пісьменніка XII ст. Ганорыя Аўгустадунскага «Пра вобраз света» (*De imagine mundi*) пазычалі звесткі пра Албанію сярэднявечныя схаласты. Прыведзенае вышэй апісанне Албаніі было агульным месцам, пераходзячы ад аднаго аўтара да іншага. Нават у канцы XV ст. яно сустракаецца,

напрыклад, у «Сусветнай хроніцы» Гартмана Шэдэля (1493)[75]. Паказальна, што менавіта такім чынам, як і ў Ісідора, Ганорыя і іх паслядоўнікаў, — ад колеру валасоў і скуры — выводзілі і назву *Белая Русь* у першых навачасных спробах яе тлумачэння[76].

Антычнымі аўтарамі (іх ідэі ўспрынялі і сярэднявечныя схаласты) Каспійскае мора, на ўзбярэжжы якога знаходзілася рэальная Албанія, лічылася залівам Паўночнага акіяна. Менавіта так, на самай поўначы, Каспій прадстаўлены на найславутай сярэднявечнай карце — Эбсторфскай і на многіх іншых. У той жа карціне свету Меацційскае возера ці «балота» (Азоўскае мора) выдавалася далёка на поўнач, дасягаючы 55° п.ш., і адлегласць ад яго да Балтыкі ўяўлялася ў 2—3 разы меншай, чым у сапраўднасці, — як у часы Калумба акружнасць зямнога шара. Славуты географ Страбон (64/63 да н.э. — 23/24 н.э.) сумняваўся, ці могуць выжыць людзі ў халоднай пустыні, якая нібыта ляжыць на поўнач ад раксаланаў, што жылі над Меацідай. Авідзій быў перакананы, што менавіта там ляжыць «апошняя зямля» (*ultima terra*). Паводле Плінія Старэйшага (23 ці 24 — 79), Азоўскае мора знаходзілася зусім побач з Паўночным акіянам, магчыма, нават было яго затокай[77].

Лепш зразумець уяўленні сярэднявечных аўтараў пра лакалізацыю Албаніі дазваляе твор паўночнагерманскага храніста Адама Брэменскага «Дзеі біскупаў Гамбургскай царквы» (*Gesta Hammaburgensis ecclesiae pontificum*, каля 1075).

Паводле Адама, «там [на Русі] ёсць тыя, якія называюцца Аланы ці Албаны (*Alani vel Albani*), якія на іх уласнай мове называюцца Віцы (*Wizzi*), надзвычай жорсткія разбойнікі і зладзеі, якія нараджаюцца сівымі, згаданыя Солінам»[78]. У іншым месцы ён піша: «Таму, хто вяртаецца з поўначы да вусця Балтыйскага заліва, спачатку на шляху сустракаюцца Нарманы (*Nortmanni*), затым Сконэ (*Sconia*), частка дацкай зямлі, над якой на працяглай палосе жывуць готы да самай Біркі (*ad Bircam*). Пасля гэтага на шырокай

прасторы панують свеі да самай Краіны Жанчын (*terra feminarum*). Над гэтымі апошнімі, як сцвярджаюць, жывуць Віцы (*Wizzi*), Мера (*Mirri*), Емь (*Lami*), Чудзь (*Scuti*) і Туркі (*Turci*)[79] да самай Русі (*usque ad Ruzziam*), на чым і заканчваецца гэты марскі заліў. Паўднёвым берагам гэтага мора валодаюць славяне (*Sclavi*), а паўночны належыць шведам (*Suedi*)»[80].

Цяпер большасць каментатараў Адама Брэменскага пагаджаецца, што ягоныя *albani–wizzi* — гэта вепсы (*весь* рускіх летапісаў), чыя назва ў носьбітаў германскіх моў асацыявалася са словам «белы» (ням. *wiz*/*weiss* і лац. *albus* — «белы»)[81]. Рэшткі гэтага народа фінскай моўнай групы,




**Магчымыя межы «краіны Вісу»:**
**1 — прыблізная мяжа тапонімаў на «Весь» у XIX—XX ст.;**
**2 — размяшчэнне тапонімаў, якія этымалагізуюцца з вепскае мовы.**

па пігментацыі адной з найбольш светлых этнічных груп у былым СССР, і дагэтуль жывуць на поўдзень ад Анежскага возера[82]. Роднасныя карэлам, вепсы былі іх непасрэднымі суседзямі з паўднёвага ўсходу. Пачатковая тэрыторыя, заселеная імі, была даволі значнай, і яе немагчыма было абмінуць падарожнікам па водных шляхах з Балтыйскага басейна на Волгу. Таму вядомасць параўнальна нешматлікай народнасці, не стаяўшай да таго ж на высокай ступені развіцця, была на дзіва шырокай і не абмяжоўвалася Балтыйскім рэгіёнам. Дацкі гісторык Саксон Граматык у 1220–х г. згадваў народ *visinnus*. Пачынаючы з Ібн Фадлана (921—922 г.), мусульманскія пісьменнікі да самага XIV ст. паведамлялі аб «краіне Вісу» («Ісу», «Весу»), якая на рубяжы I і II тысячагоддзяў адыгрывала значную ролю ў транзітным гандлі паміж Еўрапейскай Поўначчу і краінамі мусульманскага Усходу[83]. У далейшым вепсы хутка асіміляваліся — карэламі, комі і асабліва рускімі.

Адам, безумоўна, ведаў «Этымалогіі» Ісідора і не мог аспрэчваць іх аўтарытэт. Ён, напэўна, вырашыў пашырыць і ўдакладніць іх, спраецыраваўшы на рэальна існуючы народ Еўрапейскай Поўначы. У гэтым святле паведамленне *Descriptiones terrarum*, што брат Вайслан сустрэўся на *Белай Русі* з карэламі, таксама не выглядае выпадковым. Тэрмін *Alba Ruscia*, як нам падаецца, у кантэксце гэтага трактата можа азначаць «частка Русі, якая калісьці была *Албаніяй*», г.зн. краінай «албанаў» — «вісаў» — вепсаў. Вайслан, імаверна, быў адным з каталіцкіх місіянераў, якія актыўна дзейнічалі на Паўночна–Заходняй Русі ў сярэдзіне XIII ст. Незадоўга да гібелі князя Яраслава Усеваладавіча ў Ардзе (1246 г.) ім амаль удалося схіліць яго да прыняцця каталіцтва[84]. Тытул Альберта II у спадзяванні на хуткі пераход Русі ў каталіцтва быў у 1247 г. пашыраны і стаў чытацца як «арцыбіскуп Русі, Лівоніі і Эстоніі»[85]. Спрабуючы замацаваць эфемерны «поспех», у 1248 г. папа Інакенцій IV пераконваў Аляксандра Неўскага, спасылаючыся на пры-

клад яго бацькі Яраслава, змяніць веравызнанне і дазволіць будаўніцтва кафедральнага сабора ў Пскове. Некаторыя гісторыкі, памылкова прыпісваючы Аляксандру схільнасць да такіх крокаў, у сувязі з гэтым гавораць нават пра так званую «Суздальскую унію»[86]. Наўрад ці можна пагадзіцца з думкай пра існаванне такой уніі, але ў Рыме сярэдзіны XIII ст. магчымасць яе заключэння мусіла ацэньвацца досыць аптымістычна. Адсюль і павышаная цікавасць да далёкай Русі, цікавасць, якой, магчыма, мы і абавязаныя ўзнікненнем (ці, у кожным разе, замацаваннем) хароніма *Белая Русь*.

Можна лічыць, што гэты харонім быў патэнцыйна закладзены ўжо ў самога Адама Брэменскага, калі ён сваіх *албанаў* памяшчаў *in Ruzzia,* г.зн. «на Русі». Надзвычай светлы колер валасоў і вачэй *албанаў*, які так уразіў інфарматараў Адама, таксама прычыніўся да ўзнікнення тэрмінаў *Албанія — Белая Русь.* У гэтым святле найбольш распаўсюджаная ў мінулым і самая, здавалася б, прымітыўная «антрапалагічная» версія паходжання *Белай Русі* з'яўляецца, як ні парадаксальна, самай гістарычна абгрунтаванай. Светлая пігментацыя не была, аднак, адзінай прычынай надання вепсам лацінскай назвы *albani*, а іх краіне — *Albania.* Галоўную ролю тут адыгралі паралелі з «Этымалогіямі» Ісідора і падабенства назвы *wizzi* з нямецкім *wiz* / *weiss*. Гэта не адзіны выпадак такога кшталту «каляровай» этымалогіі ў Сярэднявеччы. У гэты ж прыкладна час французы памылкова называлі грэкаў *gris*, г.зн. «шэрымі» (правільна: *grecs*)[87].

Адам, які збіраў свае звесткі ад розных інфарматараў, быў, магчыма, не першым, хто даў назве *wizzi* такое тлумачэнне. Яго аўтарамі маглі быць вікінгі, якія добра ведалі гэты рэгіён. Як адзначыў В. Піменаў, спробу Адама звязаць назву *Albani — Wizzi* з лацінскім *albus* можна супаставіць і з назвай «Белае возера», якое было своеасаблівай метраполіяй вепсаў[88]. У 862 г., паводле «Апо-

весці мінулых часоў», на Белым возеры нібыта пачаў княжыць вараг Сіневус, паўміфічны брат рэальнага Рурыка ці інакш Рорыка (*Hroerekr*) Ютландскага[89]. Паводле «Аповесці мінулых часоў», вепсы былі адным з народаў, які «паклікаў» варагаў: «реша *руси* чюдь, словени, и кривичи и *весь*: «Земля наша велика и обилна, а наряда в ней нет. Да поидете княжит и володети нами»[90]. Незалежна ад сапраўднасці летапіснага паведамлення пра Сіневуса, вікінгі, несумненна, імкнуліся ўсталяваць свой кантроль над воднымі шляхамі ўздоўж трасы цяперашняга Волга–Балтыйскага канала, каб мець доступ у Волжска–Камскую Булгарыю і краіны Арабскага Халіфату. Устаноўлена актыўнае пранікненне варагаў у яшчэ больш аддаленую Растова–Суздальскую зямлю (*Rostofa* і *Surdalar* ці *Sudrdalariki* ў скандынаўскіх крыніцах). Багатыя на пушніну землі на ўсход ад асвоеных варагамі тэрыторый, ад Урала да Белага мора, занятыя варожымі скандынавам фінскімі плямёнамі, продкамі комі і саамаў, аб’ядноўваліся ў іх пад назвай *Біярмія* (*пермь* рускіх летапісаў, ад *парма* — «тайга» на мове комі). Не выключаецца магчымасць, на якую ўпершыню паказаў А. Навасельцаў, што менавіта Белае возера і Растоў былі галоўнымі цэнтрамі Арсы–Артаніі — адной з «трох абласцей русаў», пра якую шмат пісалі арабамоўныя географы X—XIII ст.[91].

Так што назва «Белае возера» магла спачатку ўзнікнуць у скандынаўскай мове як амонім да «возера вепсаў», а ўжо потым быць перакладзенай на старажытнарускую. Калі ж нейкі ярл ці конунг сапраўды выступіў кансалідатарам протадзяржавы вепсаў у «краіне Вісу», дык, магчыма, і спалучэнне *Белая Русь* цалкам склалася ў вікінгаў як абазначэнне гэтай протадзяржавы. Фінамоўныя народы (імаверна, і вепсы) называлі варагаў, перш за ўсё шведаў, *ruotsi*. Адсюль і тэрмін *русь*, які ў вузкім сэнсе азначаў дружыны ваяроў, пачаткова ў асноўным скандынаўскіх, што дзейнічалі ў якасці каталізатара працэсу ўтварэння дзяржавы на зем-

лях, заселеных усходнеславянскімі і фінскімі плямёнамі[92]. Як мяркуюць многія даследчыкі, старажытнае паселішча нарманаў, так званы «варажскі гарадок», было пабудавана ў даўнія часы супраць *біярмаў* на паўночным беразе Белага возера, на Кіснеме[93]. Форма, у якой назва *Белая Русь* была вядомая ў XIV ст., *Weizzen–Reuzzen*, вельмі нагадвае *Wizzi* Адама Брэменскага і можа паказваць на пачатковы сэнс: «вепская русь», або «белаазёрскія варагі». У такім выпадку *Белая Русь* можа быць вельмі архаічнай назвай, узыходзячы яшчэ да тых часоў, калі не выснаваўся сучасны сэнс уласна *Русі*! На многіх навачасных картах XV—XVI ст. (іх мы будзем разглядаць ніжэй) *Белая Русь* лакалізаваная побач з Белым возерам. Складзеная паміж 1320—1335 г. шведская рыфмаваная «Хроніка Эрыка» пры апісанні пахода шведаў на Няву ў 1300 г. «Белым» называе Ладажскае возера (*Hwita träsk*) і паведамляе: «Белае возера, як мора... Руская зямля ляжыць на паўднёвы ўсход ад яго, а Карэльская — на поўнач, так што возера іх і падзяляе»[94].

Дагэтуль у навуковы ўжытак не ўведзеныя ніякія сярэднявечныя скандынаўскія пісьмовыя помнікі, якія непасрэдна ўтрымліваюць назву *Белая Русь* (*Hwita Rytzland*?), аднак вялікую ролю ў перадачы гістарычных і геаграфічных ведаў у скандынаваў адыгрывала вусная традыцыя. Заўважым, што многія раннія скандынаўскія геаграфічныя творы падаюць Ісідоравы звесткі пра Албанію ў кантэксце, блізкім да згадак Адамам Брэменскім «албанаў» — «вісаў»[95]. Напрыклад, апавяданне пра народы–волаты, складзенае не пазней за пачатак XIV ст., паведамляе: «У Вялікай Швецыі ёсць албаны, белыя, як снег, і колерам валасоў, і скурай, пакуль яны не састарэюць; у іх залатыя вочы, і яны бачаць лепей уначы, чым удзень»[96]. «Вялікай Швецыяй» (*Suitiod hin micla*) скандынавы лічылі крайні ўсход Еўропы — усе вобласці, што прымыкалі да іх з усходу, у тым ліку і Русь («Гардарыкі»)[97]. Як і Адам, побач са сваёй Албаніяй яны змяшчалі «краіну жанчын» — Квенланд (*Quenland*). І калі

адны скандынаўскія крыніцы, найбольш блізкія да «Этымалогій» Ісідора, размяшчалі Квенланд на поўнач ад Індыі і Бактрыі[98], дык паводле іншых, магчыма, складзеных пад уплывам Адама Брэменскага, яна знаходзілася побач са Скандынавіяй, на поўнач ад Біярміі[99]. Услед за вучонымі антычнасці скандынавы лічылі Албанію адным з самых халодных месцаў у свеце, хаця іх уяўленні пра холад, пэўна, адрозніваліся ад Страбонавых і Плініевых.

Вельмі цікавая сама этымалогія слова «Квенланд». Уласна кажучы, квены — гэта іншая назва фінаў, якая, магчыма, паходзіць ад фінскага *kainu* — «балота»[100]. Такое ж значэнне мае і сучасная саманазва фінаў — *suomi*. Але скандынаўскія вучоныя–схаласты пры тлумачэнні этноніма «квены» зыходзілі са старажытнагерманскага слова, якое азначае «жанчына» ці нават «каралева» (адсюль, напрыклад, англ. *queen*), а затым распаўсюдзілі на квенаў–фінаў усе атрыбуты старажытных амазонак. Трэба меркаваць, па такой жа схеме адбывалася і ператварэнне вепсаў у «албанаў». Як мы ўбачым ніжэй, на некаторых картах нават XV—XVI ст. *Белую Русь* часта змяшчалі побач з «краінай амазонак», што наўрад ці можна лічыць простым супадзеннем.

Калі такое гіпатэтычнае ўтварэнне, як протадзяржава вепсаў на чале з Сіневусам (ці іншымі варагамі) і не з’яўляецца адно плодам нашай фантазіі, перыяд яе існавання не быў працяглым. Бо яна была паглынутая дзяржавай з цэнтрам у Старой Ладазе, а потым у Ноўгарадзе, створанай усходнімі славянамі пры актыўным удзеле той жа *русі*. Дарэчы, калыска дзяржаўнасці Старажытнай Русі, раён Старой Ладагі (*Aldeigjuborg*) і Аланца (*Alaborg*) — паўднёвы і ўсходні берагі Ладажскага возера — быў, прынамсі, у данарманскі перыяд, самым густанаселеным з усяе вобласці рассялення вепсаў[101]. Адзначым, што «аланаў» — адзін з варыянтаў назвы віцаў–албанаў у Адама Брэменскага — часта звязваюць менавіта з Аланцом[102]. Наўрад ці Адам адэкватна ўяўляў сабе такі аддалены ад Балтыкі раён, як Белае

возера. Яму, хутчэй, маглі быць вядомыя «албаны» на Ладазе. Паводле «Сагі пра Хальвдана, сына Эйстэйна», Эйстэйн, які нібыта кіраваў Ладагай, аддаў у лен свайму прыёмнаму сыну Ульфкелю «ярлства» *Alaborg*, чые межы даходзілі да *Біярміі*. У пачатковую *Белую Русь*, калі наша рэканструкцыя слушная, уваходзіла таксама «ярлства» Белага возера (магчыма, уключаючы і Растоў), інакш кажучы, усе тыя землі на паўднёвы захад ад *Біярміі*, дзе *русь* пачувалася гаспадаром. Існуе таксама версія, на наш погляд, лагічная, што пад назвай *Alaborg* хаваецца менавіта Белае возера. Ва ўсякім разе, і *Alaborg*, і *alani* Адама Брэменскага паказваюць на прыкладна адзін і той жа рэгіён Рускай Поўначы, узыходзячы да фінскага *alanko* — «нізіна»[103].

У XIII ст. большая частка колішніх вепскіх земляў знаходзілася ў складзе Наўгародскай рэспублікі, за выняткам, аднак, самога Белаазёрскага краю, які ўвайшоў у палітычную арбіту Растова–Суздальскай зямлі, а ў 1238 г. вылучыўся ў самастойнае княства. Таму, мусіць, натуральна, што *Белая Русь* у еўрапейскіх крыніцах XIII—XVI ст. найбольш часта ўжывалася ў сувязі з Вялікім Ноўгарадам: як абазначэнне або пэўнай яго часткі (прыкладна ў межах Водскай пяціны), або (паводле прынцыпу *pars pro toto* — «частка ў якасці цэлага») усёй Наўгародскай рэспублікі, нават разам з некаторымі прылеглымі землямі, у першую чаргу з Псковам — яе «малодшым братам». Некаторыя крыніцы яшчэ доўгі час ужывалі назву ў дачыненні да яе меркаванага пачатковага арэала. Так, на карце Еўропы (1579) венецыянскага выдаўца, картографа і гандляра картамі Джавані Франчэска Камочыа *Rossia Bianca* знаходзіцца на поўдзень ад Анежскага возера, на ўсход ад р. Волхаў (*Volchen*)[104].

У выпадку слушнасці меркаванняў некаторых даследчыкаў аб размяшчэнні загадкавай Артаніі–Арсы паміж Растовам і Белым возерам лакалізацыя Тацішчавым *Белай Русі* ў Растова–Суздальскай зямлі можа набыць новы, зусім

нечаканы сэнс. Калі б яго паведамленні пра *Белую Русь* сапраўды абапіраліся на нейкую невядомую нам гістарычную крыніцу, называўшую так Растоў[105], гэта магло б сведчыць на карысць «вепскай» гіпотэзы. Тады Тацішчава можна было б папракнуць толькі за тое, што ён пашырыў гэтую назву на ўсё Уладзіміра–Суздальскае княства XII—XIII ст., якое мела зусім іншыя абрысы, этнічны склад і дзяржаўны лад, чым гіпатэтычная пачатковая *Белая Русь* IX—X ст. Тая, калі і ахоплівала Растоў, а пагатоў Суздаль, дык толькі па перыферыі.

Несумненны ўплыў Адама Брэменскага, фактычнага заснавальніка нямецкай геаграфічнай навукі (у прыватнасці, ён адным з першых ужыў сам тэрмін «геаграфія»), і Ісідора Севільскага на многія пакаленні сярэднявечных схаластаў. Нам уяўляецца, што ў значнай ступені менавіта ім мы абавязаныя існаваннем назвы *Белая Русь*. Цяжка сказаць, ці *Албанія*, як яе разумелі схаласты, упершыню трансфармавалася ў *Белую Русь* менавіта ў *Descriptiones terrarum*, ці гэта адбылося крыху раней і ананімны аўтар трактата толькі наследаваў усталяванай традыцыі. Было б лагічным дапусціць, што тэрмін *Белая Русь* у закончанай форме ўзнік не раней, чым у Лівоніі замацаваліся нямецкія крыжакі (пач. XIII ст.), якія з гэтага часу ўвайшлі ў цесны кантакт з усходнімі славянамі.

Але так ці інакш *Белая Русь* не выцесніла *Албанію* цалкам. Паўночная, побач са Скандынавіяй, лакалізацыя апошняй прасочваецца яшчэ на працягу доўгага часу. На карце П'етра Віcконтэ — Марына Сануда Старэйшага (1320 г.), што служыла дадаткам да кнігі Сануда *Liber secretorum fidelium crucis* («Кніга пра таямніцы, верныя крыжу»), *Albania* — вялікая краіна далёка на поўначы, на велізарным масіве сушы, прымыкаючым да Скандынавіі і аддзеленым горным хрыбтом (што цягнецца нібыта ад Скандынавіі да Японіі) ад ссунутых аўтарамі карты на самую поўнач Азіі Кітая і Гірканіі[106]. Створаная каля 1450 г. карта свету, гравіраваная на жалезе і



**Паводле „планісферы Борджа“ (сярэдзіна XV ст.), *Albania Magna* знаходзіцца па суседству з краінай ваяўнічых амазонак, недзе недалёка ад Паўночнага акіяну. Ці выпадкова і з *Terra feminarum* Адама Брэменскага, краінай *Quenland* скандынаўскіх геаграфічных трактатаў і востравам *Amaçonia* на карце Фра Маўра суседзяць, адпаведна, *albani-wizzi, albani* і *Rossia biancha*?**

вядомая, паводле імя свайго пазнейшага гаспадара, пад назвай «планісфера Борджа», называе сумежную са Скандынавіяй вобласць *Albania Magna*[107].

Выдае на тое, што калі ў эліністычна–рымскай геаграфіі *Albania* азначала дакладна акрэсленую вобласць, што адпавядала рэальнай краіне, дык у некаторых аўтараў XIII ст. (і пазнейшых) — гэта кантамінацыя Каўказскай Албаніі антычнасці, Аланіі (краіны аланаў — продкаў сучасных асецінаў, якая сапраўды дасягала Азоўскага мора) і паўночнай «Албаніі» вепсаў–віцаў. Усе гэтыя ніяк не звязаныя між сабой вобласці для некаторых географаў эпохі позняй схаластыкі з іх цьмянымі ўяўленнямі пра Усходнюю Еўропу зліліся ў адно.

Мы ўжо звярталі ўвагу на асаблівасці мыслення схаластаў. Іх навуковым, у т.л. і геаграфічным поглядам былі ўласцівыя кампілятыўнасць, эклектычнасць, несамастойнасць. Нават пры аспрэчванні ўласным досведам аўтарытэту папярэднікаў, даныя апошніх працягвалі суіснаваць з новымі. Псеўдагеаграфічныя назвы, створаныя фантазіяй, а іншым разам — і неахайнасцю або несумленнасцю

падарожнікаў ці шкаляроў, звычайна не адкідаліся за непатрэбнасцю. Іх імкнуліся дапасаваць да малавядомых тэрыторый, калі для таго быў хоць нейкі прэтэкст, ці выкарыстоўвалі пры «хрышчэнні» толькі што адкрытых земляў. Свядомасць сярэднявечнага чалавека з лёгкасцю фабрыкавала як бясконцыя «святыя» рэліквіі, так і рознага кшталту монстраў, прывідаў, міфічных жывёл і людзей, нават цэлыя фантастычныя краіны. Як заўважыў Ж. Ле Гоф, «людзі сярэднявечча ўваходзілі ў кантакт з фізічнай рэальнасцю праз пасрэдніцтва містычных і псеўданавуковых абстракцый»[108]. Менавіта такімі абстракцыямі былі амаль любыя геаграфічныя назвы вядомага сярэднявечнаму еўрапейцу свету, *Orbis Latinus* — асабліва калі гутарка ішла пра далёкія і малавядомыя краіны.

Гэтая з'ява, зрэшты, выходзіць далёка за рамкі сярэдніх вякоў. Ужо ў навейшы час многія назвы, вядомыя з антычнай традыцыі ці створаныя ў сярэднявеччы, якім не знайшлося месца на Зямлі, ужылі для абазначэння аб'ектаў на іншых планетах. Так, антычныя географы яшчэ іанійскага перыяду (VI—IV ст. да н.э.) змяшчалі вытокі ўсіх еўрапейскіх рэк, якія ўпадаюць у Чорнае мора, у так званых Рыфейскіх гарах. Іх рэальным прататыпам мог быць Каўказ[109]; але зыходзячы з таго, што на многіх картах XVI ст. Рыфей служыў водападзелам Дняпра з Дзвіной і Нёманам, яго трэба было б атаясаміць з Беларускай градой (праўда, назваць яе горнай сістэмай было б вялікай нацяжкай). Калі існаванне Рыфейскіх гор, у розных харографіях і на старых картах часта згадваных побач з *Белай Руссю*, не пацвердзілася, іх назву спачатку спрабавалі дапасаваць да Урала (што захавалася да нашага часу ў назве буйнога падраздзела агульнай стратыграфічнай шкалы — Рыфей); ужо ў XX ст. ім знайшлі «прытулак» на Месяцы. Сапраўдная Каўказская Албанія канчаткова заняла сваё «законнае» месца на карце толькі ў XVIII ст.[110]. Тэрмін *Белая Русь*, нават калі быў вынайдзены вікінгамі для абазначэння канкрэтнай

тэрыторыі, у сярэднявечных схаластаў, а потым і ў вучоных–гуманістаў доўгі час быў такой жа псеўдагеаграфічнай назвай, як *Туле* ці *Рыфей*.

Калі б вядомы слоўнік лацінскіх геаграфічных назваў сярэднявечча *Orbis Latinus*[111] складалі не ў XIX, а ў XV—XVI ст., безумоўна, разам з *Thule* і *Riphaei*, *Albania* і *Russia* туды трапіла б і *Russia Alba*. Гэтая вучоная назва ў дачыненні да Ноўгарада гучала не менш узнёсла, чым *Caledonia* да Шатландыі, *Hibernia* — да Ірландыі, *Lusitania* — да Партугаліі, *Helvetia* — да Швейцарыі і г.д. Як правіла, краіны называлі імёнамі народаў, якія насялялі іх у рымскую эпоху ці ўвогуле ў такой старажытнасці, якую маглі прасачыць схаласты па сваіх крыніцах. Часта такія традыцыйныя вучоныя назвы набывалі вядомасць больш шырокую, чым аўтэнтычныя. *Belgica* і *Britannia* ўрэшце зрабіліся афіцыйнымі для адпаведных краін, а *Bohemia* доўгі час выкарыстоўвалася ў гэтай якасці. Магчыма, часам эпітэт *alba* ўвогуле не меў аніякай сэнсавай нагрузкі, а прыкладаўся да назвы *Russia* проста каб падкрэсліць эрудыцыю аўтара.

Ператварэнне *Албаніі* ў *Белую Русь*, як мы ўбачым далей, адбылося не толькі на поўначы Усходняй Еўропы, так бы мовіць, «на вепскім субстраце», але і ў Паўночным Прычарнамор'і і Прыазоўі. У далейшым мы будзем адрозніваць «паўночную» і «паўднёвую» *Белыя Русі*, хаця сярэднявечныя географы не ведалі такога дзялення. Кожны з іх паасобку звычайна меў на ўвазе сваю *Белую Русь*. Толькі яе прывязка ў канкрэтных выпадках адрознівалася. Пэўным крытэрыем для нашай класіфікацыі з'яўляецца знаходжанне *Белай Русі* па той ці іншы бок ад уяўных Рыфейскіх гор. У гэтым сэнсе можна казаць пра «цысрыфейскую» (па «наш» бок уяўнага Рыфея) і «трансрыфейскую» (па «той» бок) *Белую Русь,* — а амаль ўся бачная разнастайнасць яе лакалізацый можа быць зведзена да гэтых двух асноўных варыянтаў.

## 3. *Weizzen Reuzzen* крыжацкіх «рэйзаў»
Нямецкі Drang nach Osten і Белая Русь XIV—XV ст.

Калі ў XIII ст. *Белая Русь* фігуравала толькі ў лацінскіх схаластычных трактатах (хаця і створаных аўтарамі, роднымі мовамі якіх былі германскія), дык у XIV— першай палове XV ст. мы сустракаем гэтую назву пераважна ў нямецкамоўных крыніцах, дзе асвятляюцца ўзаемадачыненні крыжакоў і Паўночна–Заходняй Русі. Адны з найбольш ранніх такіх крыніц — творы аўстрыйскага паэта Петэра Зухенвірта, які жыў пры венгерскім і баварскім дварах, але найбольш часу (1356—1395 г.) правёў у Вене. Тэматыка яго геральдычных вершаў традыцыйная для рыцарскага веку: подзвігі «дасканалых» рыцараў, іх галантнасць, шляхетнасць, зух — якасці, праявіць якія прасцей за ўсё было ў войнах з нявернымі, ці, інакш, «сарацынамі». Да апошніх адносілі і паганцаў–ліцвінаў, і праваслаўных усходніх славянаў.




**Герб Фрыдрыха фон Кройцпека, удзельніка «рэйзы» *«на белых русаў, на крэпасць Айзенбург»* (каля 1348 г.).**

Адзін з такіх геральдычных вершаў прысвечаны рыцару Фрыдрыху фон Кройцпеку (†1360), шматразоваму ўдзельніку крыжацкіх «рэйзаў» з Лівоніі і Швецыі. У шэрагу іншых яго «прыгод», пра якія Зухенвірт даведаўся з першых рук, згадваецца і такая:

*А потым наехалі на белых русаў,*
*На крэпасць Айзенбург,*
*Дзе вялікая бітва*
*Адбылася...*[112]

Айзенбург (*Eysenburk*) — нямецкая перадача назвы Ізборска, старажытнага «прыгарада» Пскова і яго галоўнага фарпоста ў змаганні з крыжакамі, таго са-

мага горада, дзе, паводле «Аповесці мінулых часоў», у 862 г. «сеў» паўміфічны Трувор, брат Рурыка і Сіневуса. З кантэксту верша вынікае, што няўдалая аблога Ізборска мела месца незадоўга да 1348 г.: адразу пасля яе Кройцпек накіраваўся да шведскага караля Магнуса II і разам з ім у 1348 г. браў удзел у выправе на падуладную Ноўгараду Іжору[113]. Ці не мог Кройцпек даведацца пра назву *Белая Русь* ад шведаў? Згаданая ў папярэднім раздзеле «Хроніка Эрыка» была складзеная менавіта пры Магнусе II. Што ж датычыць Ізборска, то да Болатаўскага дагавору (каля 1348 г.) Пскоў разам са сваімі прыгарадамі намінальна лічыўся васалам Вялікага Ноўгарада, ці, што тое ж, часткай *Белай Русі*. Зухенвірт наўрад ці ведаў пра розніцу паміж Ноўгарадам і Псковам, пра толькі што юрыдычна замацаваную незалежнасць апошняга, а калі б і ведаў, то, пэўна, не прыдаў бы асаблівага значэння.




**Герб Ганса фон Траўна, удзельніка «рэйзы» на Ізборск — *«добры горад на Белай Русі»* — у 1356 г.**

Цікава, што падчас апісваных аўстрыйскім паэтам падзеяў служылым князем Пскова, ва ўсякім разе намінальна, яшчэ быў Андрэй Альгердавіч, а прадстаўляў яго тут іншы літоўскі князь — Юры Вітаўтавіч. Разрыў пскавічоў з Андрэем адбыўся толькі пасля гібелі Юрыя ў сутычцы з немцамі, якраз каля Ізборска, 15 красавіка 1349 г. Некалькі гадоў раней, у 1341–м, Юры Вітаўтавіч вытрымаў аблогу Ізборска крыжакамі, чым здабыў сімпатыі пскавічоў[114]. Адсюль вынікае, што, з пункту гледжання крыжакоў, і Андрэй, і Юры маглі ўспрымацца «князямі Белай Русі» — хаця іх імёны і не згадваюцца Зухенвіртам яўна. На гэтую акалічнасць варта звярнуць асаблівую ўвагу: інфармацыя пра пахо-

джанне памянёных «князёў Белай Русі» магла быць успрынятая такім чынам, што часткай гэтай *Белай Русі* як бы аўтаматычна рабіўся і Полацк[115].

Такое змешванне феадальнай тытулатуры і геаграфічнай наменклатуры часта назіраецца нават у сучаснай гістарычнай навуцы. Напрыклад, у энцыклапедычным артыкуле пра маскоўска–літоўскую вайну 1500—1503 г. старадубскі князь Сямён Іванавіч Мажайскі названы «мажайскім князем», г. зн. князем з Мажайска[116]. На самай справе яго бацька Іван выехаў з Мажайска ў ВКЛ яшчэ ў 1454 г., і яго нашчадкі не захавалі ніякіх сувязяў з былой вотчынай, апроч спадчыннага прозвішча. Зрэшты, цалкам магчыма, што яны працягвалі лічыць сябе легітымнымі «мажайскімі князямі». У феадальную эпоху з яе асаблівай увагай да генеалогіі і тытулатуры, атаясамленне асобы феадала з тэрыторыяй, якой ён валодаў ці нават на якую толькі прэтэндаваў, можна сустрэць на кожным кроку. Ніжэй мы ўбачым, як такі ж механізм пашырэння назвы *Белая Русь* на сумежныя тэрыторыі праявіў сябе ў выпадках са смаленскім князем Фёдарам Юр'евічам і, магчыма, з наўгародскім і галіцкім князем Мсціславам Удалым.

У іншым вершы Зухенвірта, у гонар яшчэ аднаго аўстрыйскага крыжака, Ганса фон Траўна, ізноў згадваецца Ізборск — «добры горад на Белай Русі»[117]. Цяпер гутарка ідзе пра падзеі 1356 г., калі «белыя русіны мелі нахабства наехаць на хрысціян», і ў «рэйзе», арганізаванай для іх пакарання, фон Траўну выпаў гонар быць сцяганосцам Св. Георгія[118].

Прыцягвае ўвагу, што назва *Белая Русь* была вядомая, прынамсі, яшчэ аднаму нямецкамоўнаму паэту таго перыяду, Генрыху фон Мюгельну. Як і Зухенвірт, ён правёў пэўны час у Вене пры дварах герцагаў Рудольфа IV і Альбрэхта III. Безумоўна, абодва паэты асабіста ведалі адзін аднаго (хаця тэрмін *Белая Русь* ужывалі ў розных значэннях). Ніжэй яшчэ будзе гутарка пра Мюгельна (гл. раздзел 7) і пра іншага

нямецкага паэта, Томаса Прысшуха, якому таксама была вядомая гэтая назва.

Ці не значыць гэта, што даследчыкам гісторыі нашай назвы варта звярнуць пільную ўвагу на нямецкую паэзію эпохі, пераходнай ад мінезінгераў да майстарзінгераў? Магчыма, і іншым паэтам XIV—XV ст. *Белая Русь* уяўлялася нейкай сімвалічнай краінай на ўсходзе, поўнай падступных паганцаў, фантастычных пачвараў і іншых небяспек, куды шляхетныя рыцары выпраўляліся дзеля славы, дзеля гераічных учынкаў у гонар прыгожых дам і пашырэння сапраўднай веры? Ці не пранікаў такі вобраз *Белай Русі* і ў літаратуры суседніх краін, у прыватнасці, Італіі? Так або інакш, стагоддзем пазней мы сустрэнем на *Белай Русі* высакароднага рыцара Астольфа, героя рыцарскай паэмы Матэа Баярда «Закаханы Раланд» (гл. наступны раздзел).

Аднак немцы ўжывалі назву *Белая Русь* не толькі ў прыгожым пісьменстве, але і ў афіцыйным справаводстве. Некаторыя звесткі пра яе з нямецкамоўных крыніц пачатку XV ст. датычаць узаемадачыненняў ВКЛ з Ноўгарадам і Псковам у 1410–х г. Пасля заключэння ў 1411 г. Тарунскага міру Вітаўт імкнуўся падначаліць сабе гэтыя рэспублікі, што непакоіла Ордэн, бо ён не хацеў аб'яднання ўсіх сваіх усходніх суседзяў у адной дзяржаве. У 1412 г., пагражаючы Ноўгараду вайной, вялікі князь літоўскі дамогся выдалення адтуль Фёдара Юр'евіча, сына апошняга вялікага князя смаленскага Юрыя Святаславіча (раней, у 1404 г., таксама пазбаўленага ўлады Вітаўтам). Фёдар, папулярны ў Ноўгарадзе і ў бацькоўскім Смаленску, спачатку выехаў у Лівонію, затым у Прусію да вялікага магістра Генрыха фон Плаўэна, аднак той, не маючы, паводле ўмоў Тарунскага міру, права прымаць ворагаў Польшчы і ВКЛ, адаслаў яго да чэшскага караля Вацлава IV Люксембурга. Урэшце, Фёдар знайшоў прытулак у брата Вацлава — імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі і сеньёра Ордэна Сігізмунда I Люксембурга, які разглядаў князя–ізгоя як магчымую процівагу Вітаўту[119].

Менавіта ў сувязі з гэтымі знешнепалітычнымі абставінамі трэба разглядаць ліст 1412 г., у якім прускія крыжакі скардзіліся Вацлаву IV, што «[кароль] Польшчы і герцаг Вітаўт злучыліся з Псковам і Белай Руссю (*den weisen Rewsen*)»[120]. У іншым лісце да Вацлава IV, ад вялікага магістра Ордэна Генрыха фон Плаўэна (травень 1413 г.), паведамлялася: «Герцаг Вітаўт злучыўся з пскавічамі і вялікаўгародцамі і ўсімі рускімі мовамі... цяпер давядзецца ваяваць з Белай Руссю (*mit den Wissen Russen*)»[121].

Усе прыведзеныя даныя бясспрэчна паказваюць на лакалізацыю *Белай Русі* ў рускіх рэспубліках, чыя тэрыторыя прылягала да Лівоніі, — Ноўгарадзе і Пскове. У супастаўленні з «Апісаннем земляў» і пазнейшымі звесткамі пра *Белую Русь* інфармацыю гэтых нямецкіх крыніц варта прыняць пад увагу. Яна не з’яўляецца памылковай ці скажонай, як можа падацца тым, хто ўспрымае сённяшні змест назвы як адвечны.

Праўда, існуе яшчэ «Хроніка Польшчы» падканцлера Яна з Чарнкова, і яна традыцыйна лічыцца першай крыніцай, дзе *Белая Русь* згаданая ў прывязцы да тэрыторыі сучаснай Беларусі[122]. Паводле гэтай хронікі, «у 1382 г. Ягайла, сын Альгерда, вялікі князь літвінаў, якога годам раней ягоны дзядзька Кейстут паланіў разам з маткаю, закаваў у ланцугі і пасадзіў у вязніцу ў нейкай крэпасці Белай Русі, што завецца Полацк, на свята Пяцідзесятніцы ўцёк з гэтае вязніцы і пры падтрымцы знаці Літвы захапіў крэпасць Вільню»[123].

Як заўважалі яшчэ В. Пануцэвіч і Я. Станкевіч[124], арыгінал «Хронікі...» Яна з Чарнкова не захаваўся, яна вядомая толькі ў пазнейшых спісах. Гэтыя спісы, як лічылі згаданыя гісторыкі, датуюцца канцом XVI ст., калі назва ўжо трывала замацавалася за Полаччынай. У такім выпадку можна было б лічыць, што словы *Albae Russiae* дадаў перапісчык хронікі, зыходзячы з рэалій часоў Лівонскай вайны. Але польскі гісторык Шляхтоўскі, які апублікаваў «Хроніку...» у 1872 г. на падставе 9 розных спісаў, адзна-

чаў, што большасць іх адносіцца да сярэдзіны XV ст.[125]. Для надзейнай даціроўкі — не столькі самой «Хронікі...», колькі яе паведамлення пра *Белую Русь,* — гэтыя спісы варта было б праверыць, — хаця сам Шляхтоўскі, падаўшы ў публікацыі і розначытанні паміж рознымі спісамі, не зафіксаваў у іх розначытанняў фразы *castro Albae Russiae, Poloczk dicto*. Таму хаця В. Пануцэвіч і Я. Станкевіч маюць рацыю, сумняваючыся ў верагоднасці любога паведамлення XIV ст., якое звязвае назву *Белая Русь* з сучаснай Беларуссю, мы дапускаем, што даціроўка паведамлення «Хронікі...» 1382–м годам можа быць правільнай. Але нават у гэтым выпадку аднясенне Полацка да *Белай Русі* — хутчэй выпадковасць, чым усталяваная традыцыя. Тым больш, што ў гэтым паведамленні ёсць і іншыя істотныя недакладнасці: пра ўтрыманне Ягайлы вязнем у Полацку пасля выкрыцця Кейстутам яго змовы з крыжакамі нічога не паведамляюць ніякія іншыя крыніцы.

Дапасаванне назвы *Белая Русь* да Полацка польскім аўтарам XIV ст., калі яно мела месца ў сапраўднасці, паказвае на дзве магчымасці: 1) Ян з Чарнкова, недасведчаны ў дакладным значэнні гэтага, пераважна нямецкага, тэрміна, ужыў яго ў сувязі з падзеямі ў Літве памылкова; 2) нямецкія крыжакі самі часам выпадкова называлі *Белай Руссю* тую частку сённяшняй Беларусі, якая прылягала да Інфлянтаў, успрымаючы яе як нешта адзінае з суседнімі Псковам і Ноўгарадам. Да таго ж многія служылыя князі Ноўгарада і Пскова паходзілі адтуль.

Тым не менш, усе даследчыкі, апроч Я. Станкевіча, абапіраючыся на Яна з Чарнкова, зрабілі не зусім абгрунтаваныя высновы. Для В. Ламанскага было «очевидно, что *biała Ruś*... для Поляков времени Казимира Великого (1333—1370) была живым народным выраженьем, издавна общеупотребительным»[126]. М. В. Доўнар–Запольскі тлумачыў назву *Белая Русь* як «вольная» — і ад татараў, і ад Літвы і ў сувязі з гэтым пісаў: «польскія і нямецкія

пісьменнікі ўжо з сярэдзіны 14 ст. называюць такім найменнем нашу краіну. Вялікія князі літоўскія называюць гэтыя землі Белай Руссю, а народ гэтай краіны беларусамі... З сярэдзіны 15 ст. і ў Маскве называюць ужо жыхароў Смаленска, Полацка і навакольных мясцін беларусамі, а мясцовасць — Беларуссю... Вітаўт зусім правільна адрозніваў у складзе новаўтворанай сваёй дзяржавы Русь, якая належала яму і была абкладзена ім падаткамі, несвабодную — Чорную Русь, і Русь, якая карысталася палітычнай свабодай, паводле дагавору злучалася з князямі літоўскімі, — Русь вольную, Белую Русь[127]. Але калі ў другой палове XVII ст. будзе агульнапрынятым меркаванне, што «Белая Росия — Белорусцы, которые живут около Смоленска и Полотцка и в–ыных городех» (Г. Каташыхін)[128], — не варта рэтраспектыўна распаўсюджваць на XV ст. і прыпісваць яго Вітаўту.

Рэаліі ж XV ст. адназначна паказваюць на Ноўгарад. Належнасць Ноўгарада да *Белай Русі* ўсведамлялі многія беларускія гісторыкі, у асаблівасці эмігранцкія. Ды адначасова яны адносілі да *Белай Русі* хто сучасную Беларусь, хто Маскоўскую дзяржаву. Паводле П. Урбана, «разам з Маскоўшчынай Белай Руссю тады [у XVI ст. — **А.Б.**] называлася Пскоўшчына і Наўгародчына»[129]. С. Брага (В. Тумаш) меркаваў, што «эўрапейскія картографы першае паловы XVI ст. край *Russia Alba* звычайна змяшчалі на прасторы між Полацкам і Ноўгарадам... лякалізацыя назвы «Белая Русь» звязвалася на захадзе Эўропы з крывіцкімі землямі паўночнае Беларусі»[130]. Яго паўтарае Г. Сагановіч: «У папярэднія стагоддзі, прынамсі, у XV, гэтае паняцце ахоплівала [апроч Беларусі] і тэрыторыю на поўнач ад сучаснай Беларусі — Пскоўшчыну, магчыма, частку Наўгародчыны»[131].

Р. Максімовіч і следам за ім В. Астроўскі паспрабавалі растлумачыць перанос назвы з гэтай меркаванай *Белай Русі* (Полацк — Ноўгарад — Пскоў) на Маскоўскую дзяржаву наступным чынам: «Калі Масковія знаходзілася пад поўнай

уладай татараў, польскія і нямецкія аўтары лічылі Ноўгарад, Пскоў і Полацк вольнай часткай Русі, тэрыторыяй грэчаскага праваслаўя. Пазней, пасля 1462 г., усведамляючы сваё вызваленне ад татарскага ярма, маскавіты, якіх татары лічылі раней «чорнымі», г.зн. залежнымі, пачалі таксама называць сябе «белымі», г.зн. вольнымі»[132]. Такіх поглядаў трымаўся і Я. Станкевіч[133]. Але ў сапраўднасці Ноўгарад, Пскоў і Полацк ніколі не складалі такога адзінства, як «крывіцкія землі паўночнае Беларусі» ці «вольная частка Русі, тэрыторыя грэчаскага праваслаўя». Як мы пакажам у наступным раздзеле, памылковае і меркаванне аб *Белай Русі* як афіцыйнай назве Маскоўскай дзяржавы часоў Івана III.

Нельга пакінуць без заўвагі і выказванне А. Салаўёва, што «в XV в. название «Великая Русь» значит то же, что и «Белая»[134]. Да яго далучаецца Я. Юхо: «Тэрмін «Белая Русь»... у асноўным быў як раўназначны тэрміну «Вялікая Русь»[135]. Яшчэ далей пайшоў А. Рогалеў, беспадстаўна сцвярджаючы, што Вялікай, ці Белай Руссю называў свой «пачатковы дамен» — землі ад Ноўгарада да Мурама — яшчэ «вешчы» Алег[136].

Рэч у тым, што *Белая Русь* сапраўды пэўны час была тоеснай *Вялікай*, але *Вялікай* не ў традыцыйным, сённяшнім сэнсе. У 1413 г. бургундскі падарожнік і дыпламат Жыльбер дэ Лануа, наведаўшы Ноўгарад і Пскоў, занатаваў: «Рускія Вялікай Русі (*Les russes de la grant Russie*) не маюць іншых гаспадароў, апроч тых па выбары, як таго хоча народ»[137]. Відавочна, ён меў на ўвазе толькі гэтыя баярскія рэспублікі, бо ў іншых землях Русі на той час вечавога ладу ўжо не існавала. Ліст лівонскага магістра вялікаму магістру Ордэна (1413 г.), у якім гутарка ідзе пра тыя ж акалічнасці, што і ў згаданых вышэй рэляцыях 1412—1413 г. з Прусіі да Вацлава IV, паведамляў, што Вітаўт згаварыўся «*mit den grossen Reussen*»[138]. Такім чынам, *Вялікая* і *Белая Русь* у той час сапраўды былі сінонімамі, але ж і тэрмін *Вялікая Русь*

меў зусім не той сэнс, як пазней. Упершыню на тоеснасць *Вялікай* і *Белай Русі* звярнуў увагу сам Салаўёў, аднак мы хацелі б удакладніць яго сцвярджэнне, нібыта *Вялікай* тады называлі ўсю Паўночна–Усходнюю ці «Маскоўска–Наўгародскую» Русь. Перш за ўсё, Ноўгарад нельга адносіць да Паўночна–Усходняй Русі. Як паказаў У. Кучкін, апошні тэрмін правамерна ўжываць толькі для абазначэння тэрыторыі, якой у пэўны храналагічны перыяд валодала дынастыя рускіх князёў — нашчадкаў Юрыя Даўгарукага. Ноўгарад, хаця фармальна і прызнаваў вярхоўную ўладу князя, які атрымаў ярлык на вялікае Уладзімірскае княжанне, да 1470–х ніколі не складаў арганічнага цэлага з гэтай тэрыторыяй[139]. Для абазначэння Вялікага Ноўгарада і Пскова больш карэктны, і з геаграфічнага, і з гістарычнага пункту гледжання, тэрмін «Паўночна–Заходняя Русь». Тым больш недарэчным анахранізмам у кантэксце XV ст. выглядае ўжыты Салаўёвым выраз «Маскоўска–Наўгародская Русь». Трэба быць занадта вялікім апалагетам рускай імперскай ідэі, каб даводзіць існаванне «адзінай і непадзельнай», «святой» Русі як найбольшай каштоўнасці ўсіх усходніх славянаў у час, калі яшчэ існавалі незалежныя ад Масквы ці аўтаномныя Ноўгарад, Пскоў, Цвер, Вятка, Разань, не кажучы пра ВКЛ. Тады мала хто здолеў бы прадказаць будучую гістарычную кар'еру Масквы, вынішчэнне ёю з цягам часу ўсіх прыкмет самабытнасці іншых рускіх земляў, зруйнаванне ўсіх парасткаў іх «заходняй» культурнай арыентацыі. Так што *Белая* Русь была тоеснай *Вялікай* толькі ў той ступені, у якой *Вялікая* была тоесная Вялікаму Ноўгараду: *Вялікая Русь* = *Белая Русь* = Вялікі Ноўгарад, як для Ланyа *La grant Russie* была сінонімам *Noegarde la grand*[140].

Аб раўназначнасці гэтых тэрмінаў сведчаць і дадзеныя картаграфіі. Так, карта свету Андрэа Біянка (1436) дае назву *Imperion Rosie Magna* ў раёне Вялікага Ноўгарада[141]. Вядома, што пазней менавіта Біянка дапамагаў у працы над славутай картай Фра Маўру, які, наколькі вядома, упер-



**Польская і венгерская дэлегацыі на Канстанцкім саборы. Мініяцюра з «Хронікі» У. Рыхенталя.**

шыню змясціў назву *Белая Русь* на карце (пра што яшчэ будзе гутарка).

Ды вернемся ў пачатак XV ст. Вельмі каштоўная крыніца звестак пра *Белую Русь* — «Хроніка Канстанцкага сабора» баварца Ульрыха Рыхенталя. Яна ўжо трапляла ў поле зроку беларускіх эмігранцкіх гісторыкаў[142], але толькі мімаходзь, таму мы дазволім сабе спыніцца на ёй падрабязней.

Канстанцкі сабор 1414—1418 г. быў найбуйнейшым дыпламатычным кангрэсам, на якім вырашаліся важнейшыя міжнародныя пытанні, перш за ўсё звязаныя з прэтэнзіямі імператара Сігізмунда на палітычную гегемонію ў Еўропе. Актыўны ўдзел у працы сабора брала ВКЛ, аўтарытэт якога пасля Вялікай вайны 1409—1411 г. значна ўзрос. Вітаўт некалькі разоў накіроўваў свае дэлегацыі ў Канстанц. Пра адну з іх (1417 г.) Рыхенталь паведамляе: «Прыехалі паслы ад герцага Літвы Вітальда, ад паноў дэспатаў Рашкі [г.зн. Сербіі. — **А. Б.**], з Вялікай і Малой Валахіі, ад двух каралёў Турцыі (*sic!*), ад герцага з Белай Русі, цугам на 180 конях, у дом Ханзена Руэ на вуліцы Святога Паўла»[143].

Асабліва прадстаўнічая дэлегацыя ВКЛ на чале з кіеўскім мітрапалітам Рыгорам Цамблакам наведала Канстанц у 1418 г. У яе ўваходзілі праваслаўныя епіскапы з Вялікага княства і Малдовы, а таксама свецкія прадстаўнікі Кіева, Смаленска, Вялікага Ноўгарада і іншых гарадоў. Мэтай яе было заключэнне на тэрыторыі ВКЛ уніі паміж праваслаўнай і каталіцкай цэрквамі, а таксама прызнанне сюзерэнітэта Вітаўта над Малдовай і Вялікім Ноўгарадам. У лютым 1418 г. Цамблак прысягнуў папу Марціну V як першасвятару ад імя Кіеўскай мітраполіі. Спроба уніі, ад-

нак, засталася нерэалізаванай з–за супраціўлення праваслаўнага духавенства ВКЛ і пазіцыі канстанцінопальскага патрыярхату.



**Дэлегацыя Цамблака на Канстанцкім саборы.**

Апісваючы ўрачысты ўезд дэлегацыі Цамблака ў Канстанц 19 лютага 1418 г., нямецкі храніст занатаваў: «Затым у суботу, на 19–ты дзень месяца лютага, прыехаў высакародны пан, пан Георг, арцыбіскуп Кіеўскі, з краіны Белай Русі, са Смаленска (*zu wißen Rüßen, zu Schmolentzgi*)»[144]. Можа скласца ўражанне, што Рыхенталь ужывае тэрмін *Белая Русь* амаль у сучасным значэнні. Яшчэ адна вытрымка з «Хронікі Канстанцкага сабора» нібыта пацвярджае гэта:

«Еўропа — гэта зямля, унутры якой мы знаходзімся, яна прылягае да Белай Русі, да Смаленска, а праз іх — і да сапраўднай Турцыі, апісанай Лануа[145], да герцагства Літвы, Польшчы, Славоніі, Венгрыі, Маравіі, Чэхіі, Рымскай імперыі»[146].

Але ніжэй Рыхенталь больш падрабязна распавядае пра Цамблака, і гэтым разам *Белая Русь* выступае як суседняя з яго «арцыбіскупствам», а не складовая частка апошняга: «Вялікі пан Георгій, архіепіскап Кіеўскі. Ён мяжуе з панам Вітаўтам, герцагам Літвы. І глядзіць на туркаў. Ён мае там трох епіскапаў[147], а іншым бокам [яго вобласць] прылягае да Белай Русі»[148]. Такім чынам, з «Хронікі...» Рыхенталя незразумела, ці *Белая Русь* уваходзіць у склад ВКЛ, ці толькі мяжуе з ім.

«Хроніка…» пісалася Рыхенталем неўзабаве пасля Канстанцкага сабора, і тая яе частка, дзе гаворыцца пра наш прадмет, з’яўляецца цалкам аўтэнтычнай[149]. Ці значыць гэта, што трэба аднесці Смаленск да *Белай Русі* XV ст., як зрабіў расійскі даследчык Ю. Бегуноў? Выраз *zu wißen Rüßen, zu Schmolentzgi* нібыта дае такія падставы. У дадатак можна было б спаслацца і на мітрапаліта Місаіла, які ў 1476 г. быццам бы аднёс да *Белай Русі* Вязьму. Я. Шыраеў сцвярджае, што «почти на всех старинных картах надпись «Русь Белая» (*Russia Alba*), позднее сложившаяся граница этнической Белоруссии охватывают Смоленщину…»[150], але на самай справе, як мы ўбачым, гэтага няма ні на картах (прынамсі, да сярэдзіны XVII ст.), ні ў тэкставых крыніцах (да XVI ст.). А «эпістолія» Місаіла, ці, прынамсі, яе прэамбула, хутчэй за ўсё, у сапраўднасці датуецца 1605 г.

Ключавы для нас персанаж «Хронікі…» Рыхенталя, які дазваляе расшыфраваць яе тэрмін *Wißen Rüßen*, — «герцаг Смаленска, герцаг чырвонай Русі»[151]. Яшчэ ў адным месцы ён названы «герцаг Фёдар са Смаленска ў чырвонай Русі»[152].

Гэты «герцаг Фёдар» — не хто іншы, як згаданы вышэй Фёдар Юр’евіч. У Заходнюю Еўропу, дзе яго прытуліў імператар Сігізмунд, Фёдар прыбыў з Ноўгарада. У ілюстраваным гербоўніку ганаровых гасцей сабору ягоны тытул гучыць як «Фёдар, герцаг Белай Русі і гаспадар Смаленска»[153]. Можна меркаваць, што назву *Белая Русь* ведала



**«Фёдар, герцаг Белай Русі і гаспадар Смаленска». Герб Фёдара Юр’евіча з ілюстраванага гербоўніка Канстанцкага сабора.**

і час ад часу ўжывала канцылярыя Сігізмунда (як некалькі гадоў раней канцылярыя яго брата Вацлава). У прыведзеным фрагменце гэтая назва хутчэй проціпастаўляецца Смаленску, чым атаясамліваецца з ім.

Чарговы раз Рыхенталь згадвае *Белую Русь* пры тлумачэнні паняцця «Руская зямля», калі ён, між іншым, вылучае тры «катэгорыі» рускіх: «Да германскіх народаў адносяцца Рымская імперыя, каралеўства Багемія, каралеўства Венгрыя, Літоўская зямля, Руская зямля — сапраўдныя рускія, чырвоныя рускія, белыя рускія; краіна і горад Вялікі Ноўгарад, якія ёсць хрысціянскімі»[154].

Не зусім зразумела, што і каго Рыхенталь называў «сапраўднай» ці «праўдзівай Руссю», «сапраўднымі рускімі». У іншым месцы разам з «герцагам Фёдарам» згадваецца і «герцаг Павел з сапраўднай Русі, падначалены герцагу Вітаўту»[155]. Ф. Пекасіньскі лічыў, што гэтым тэрмінам баварац абазначаў «рускіх» Вялікага княства, г.зн. у першую чаргу беларусаў[156]. Гэта выглядае тым больш лагічным, што «сапраўдныя рускія», імаверна, супрацьпастаўляліся «фальшывым» ці «няверным» (*valschen Ruzen*), вядомым з іншых нямецкіх крыніц, — інакш кажучы, «схізматыкам»[157]. Тады «сапраўдныя рускія» — гэта тыя, якія вызнавалі сапраўдную, г.зн. каталіцкую, веру, а такія меліся хіба толькі ў Літве і Польшчы. Але ў гэтым урыўку з Рыхенталя «сапраўдныя» і «белыя» рускія — зусім розныя паняцці.

Такім чынам, Фёдар, хаця і паходзіў з *Чырвонай Русі* (г.зн., з Смаленска), на саборы як бы прадстаўляў яшчэ і *Русь Белую* — Ноўгарад. Вось чаму Смаленск, ягонае спадчыннае ўладанне, храніст некалькі раз аднёс да *Белай Русі*. Верагодна, сінонімам апошняй выступае ў Рыхенталя і «Задняя Русь» (*Hinderreissen*), да якой аднесеныя Смаленск (*Schmelenczgi*), Вялікі Ноўгарад (*Grosznouagrot*) і Залатая Баба (*Aurea vetula*)»[158]. Легендарны ідал «Залатая Баба», відаць, стабільна звязваўся з *Белай Руссю* еўрапейцамі XV—XVI ст., аб чым яшчэ пойдзе гутарка ў раздзеле 13.

Але ж гэта не павінна збіваць нас з тропу, бо геаграфічныя ўяўленні пачатку XV ст., у цэлым ужо значна больш рэалістычныя, чым у папярэднія стагоддзі, у дачыненні да Усходняй Еўропы па–ранейшаму грунтаваліся на фантастычных вымыслах. ВКЛ і суседнія землі ў тагачаснай карціне свету займалі малаакрэсленае месца недзе побач з мусульманскімі дзяржавамі Усходу. Яшчэ ў адным месцы «Хронікі…» Смаленск пералічаны сярод гарадоў «малой Валахіі», г.зн. Малдовы[159]. Вядомы французскі храніст Жан Фруасар, апісваючы падрыхтоўку да крыжовага паходу 1396 г., які скончыўся трагічным паражэннем хрысціянскай кааліцыі пад Нікапалем, адзначаў: «Баязід і Каліф паслалі да некалькіх сарацынскіх каралёў — у Персію, Мідзію, Татарыю і нават у Літву на мяжы з Прусіяй». Іншы сучаснік Рыхенталя, Томас Уолсінгэм, таксама лічыў «караля Літвы» (*rex de Lettowe*) «сарацынскім уладыкам», суседам татарскага хана і султанаў «Вавілоніі» ды Турцыі[160]. Так і ў паведамленнях Рыхенталя стэрэатыпы эпохі спляліся з элементамі рэальных ведаў, пазычаных ім у суайчыннікаў, якія часта бывалі ва Усходняй Прыбалтыцы. Першасным жа ў «Хроніцы…» ёсць аднясенне Смаленска, як і іншых *рускіх* земляў ВКЛ, менавіта да *Чырвонай Русі*. (Больш падрабязна мы спынімся на гэтым у раздзеле 12).

Яшчэ адна нямецкая крыніца, якая паведамляе пра ўдзел у саборы «герцага Белай Русі», — паэма «Фундамент сабора» аўгсбуржца Томаса Прысшуха, напісаная ў 1418 г. і адразу ж прадстаўленая імператару Сігізмунду. Большую частку паэмы складае пералік рэальных і ўяўных гасцей сабора. Сярод іх згадваюцца:

*З Польшчы нейкі магутны герцаг,*
*З Літвы герцаг Свідрыгайла,*
*А таксама ў ліку князёў былі*
*герцаг белай Русі*
*і яшчэ князь, герцаг Астрога*[161].

Кампанія, у якой апынуўся «герцаг Белай Русі» па волі Прысшуха, — Свідрыгайла, які толькі што ўцёк з Крамянецкага замка, і адзін з арганізатараў гэтых уцёкаў князь Астрожскі — нібыта дае падставы лічыць, што і *Белая Русь* мусіла быць часткай ВКЛ. Але пра прысутнасць Свідрыгайлы і яго паплечнікаў на саборы не кажа ніводная іншая крыніца[162], і наўрад ці магчыма даваряць тут паэме Прысшуха — ненадзейнасць якой як гістарычнай крыніцы даўно выкрытая гісторыкамі. Можна меркаваць, што малады аўгсбургскі паэт, якому вельмі хацелася прыцягнуць увагу імператара сваёй эрудыцыяй і які сярод гасцей сабора пералічыў і легендарнага «прэсбітэра» Іаана Індыйскага, і прадстаўнікоў неіснуючага Афінскага універсітэта[163], уставіў у свой спіс заадно і тагачасных саюзнікаў Сігізмунда ў яго палітычнай гульні супраць Вітаўта: і Свідрыгайлу, звесткі пра ўцёкі якога паспелі ўжо распаўсюдзіцца па Германіі, і «герцага Белай Русі» — несумненна, Фёдара Юр'евіча[164]. Такія рытарычныя прыёмы лічыліся тады зусім дапушчальнымі і не ўспрымаліся як свядомая фальсіфікацыя.

Частае згадванне *Белай Русі* ў сувязі з падзеямі, якія мелі непасрэднае дачыненне да ВКЛ, побач з імем вялікага князя Вітаўта прычынілася да таго, што пазнейшыя гісторыкі аднеслі распаўсюджанне тэрміна на тэрыторыю сучаснай Беларусі менавіта да рубяжа XIV—XV ст. Але калі і ёсць нешта агульнае паміж *Белай Руссю* і Вітаўтам, гэта хіба яго сталыя захады, у тым ліку і на Канстанцкім саборы, па прызнанні яго правоў сюзерэна на Пскоў і Вялікі Ноўгарад. У другой палове 1410–х папы Ян XXIII і Марцін V выдалі некалькі булаў, прызначаючы Вітаўта і Ягайлу генеральнымі вікарыямі названых рускіх земляў (*In Magna Nowagroda ac Plescow civitatibus ac in dominus earumque*)[165]. Спробы ўсталяваць кантроль над імі Вітаўт прадпрымаў на працягу ўсяго свайго княжання. Яшчэ ў 1389 г. князь Сямён–Лугвен Альгердавіч, запрошаны ў Ноўгарад служылым князем, склаў васальную прысягу Ягайлу як сюзерэну

гэтай рускай зямлі (што трымалася ў тайне ад саміх наўгародцаў). На працягу, прынамсі, двух наступных стагоддзяў перакананне, што Ягайла і Вітаўт «валодалі» Ноўгарадам, было хаця і неабгрунтаваным, але дастаткова распаўсюджаным у Літве і Польшчы. Дарэчы, Лугвен, калі дзяліў пасаду князя–намесніка Вялікага Ноўгарада з Фёдарам Юр'евічам, быў адначасова і вялікакняжацкім намеснікам у Смаленску — яшчэ адна магчымая падстава для распаўсюджання назвы *Белая Русь* на Смаленшчыну.

Славуты нямецкі касмограф Себасцьян Мюнстэр у сярэдзіне XVI ст. лічыў: Ягайла «даў вялікае герцагства Літвы і Жмудзі свайму пляменніку (sic!) Вітаўту, храбраму ваяру. Ён авалодаў таксама герцагствам Пскоўскім (*hertzogthumb Plesskouern*), і герцагствам Наўгародскім (*Novogrodien*), і трэцім герцагствам Смаленскім (*Smolnen*)»[166]. Для М. Мяхоўскага «Ноўгарад, які лаціны называюць Нугардзія, быў уладаннем вялікага князя Літоўскага, які заваяваў Вітаўт»[167]. Наўгародскія «князі Белай Русі», як мы ўбачым у раздзеле 10, згадваюцца М. Стрыйкоўскім сярод гасцей Вітаўта на Луцкім з'ездзе 1429 г.[168].

Такім чынам, распаўсюджанае меркаванне, быццам назва *Белая Русь* пачала дастасоўвацца да тэрыторыі сучаснай Беларусі пры Вітаўце, не знаходзіць доказаў. На яве няма ніякіх падстаў сцвярджаць, што Вітаўт увогуле ведаў пра існаванне гэтай назвы, не тое што дастасоўваў яе да якой–небудзь часткі ВКЛ. Можна казаць толькі, што яго заходнееўрапейскія сучаснікі раз–пораз згадвалі гэтую назву — хаця і не ў сучасным сэнсе — побач з яго імём. Але калі яна пачала ўжывацца самімі ўсходнімі славянамі? На гэтае пытанне паспрабуем адказаць у наступным раздзеле.

## 4. Памылка Карамзіна

*Белая Русь* ад Фларэнтыйскай уніі да ліквідацыі незалежнасці Ноўгарада

Як мы яшчэ не раз пераканаемся, гісторыя назвы *Белая Русь* цесна пераплеценая з гісторыяй спроб рэалізаваць унію каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. У гэтым няма нічога дзіўнага: доўгі час на Захадзе чарговы рост цікавасці да далёкай і малавядомай Русі назіраўся ў асноўным тады, калі ўзнікалі спадзяванні (заўжды марныя) на яе хуткі пераход у каталіцтва. Справа уніі падавалася зусім блізкай да поспеху ў сярэдзіне XIII ст. (міфічная «Суздальская унія»), затым на Канстанцкім саборы ў пачатку XV ст., а наступныя спробы прыпадаюць на Ферара–Фларэнтыйскі сабор (1438—1445 г.) і шлюб Івана III з Зояй Палеалог (1472 г.). З усімі гэтымі падзеямі так ці інакш звязаныя цэлыя пласты «альбарусікі».

Менавіта ў літаратуры, прысвечанай Фларэнтыйскай уніі, назва *Белая Русь* пачала ўжывацца ўсходнеславянскімі аўтарамі. На Ферара–Фларэнтыйскім саборы прысутнічала і дэлегацыя Кіеўскай (фактычна Уладзімірскай) мітраполіі на чале з перакананым прыхільнікам уніі мітрапалітам Ісідорам (па паходжанні грэкам). У яе склад уваходзіў суздальскі іераманах Сімяон, які напісаў «Аповесць Сімяона Суздальскага пра Фларэнтыйскі сабор». Але ў гэтым творы, насуперак меркаванням некаторых даследчыкаў[169], пра *Белую Русь* нічога не сказана[170]. Відавочна, гэтая недакладнасць паходзіць ад І. Сахарава, які ў 1849 г. пад назвай «Падарожжа Сімяона Суздальскага ў Італію» апублікаваў, нібыта паводле спісаў XVII ст., іншы, прысвечаны Фларэнтыйскай уніі і створаны яе непасрэдным сведкам, твор. У сучаснай літаратуры ўсталявалася яго назва: «Хаджэнне на Фларэнтыйскі сабор»[171]. Ужо дакладна высветлена, што т.зв. сахараўская рэдакцыя «Хаджэння…» у значнай ступені адрозніваецца ад пачатковай і змяшчае шэраг уставак (у т.л.

і панегірык Васілю II, з упамінаннем пра *Белую Русь*) з яшчэ аднаго твора на тэму Фларэнтыйскай уніі — са створанага на аснове «Аповесці Сімяона Суздальскага» (не раней за 1461 г.) «Слова избранного от святых писаний еже на латыню»[172]. Некаторыя даследчыкі лічаць, што Сахараў, вядомы фальсіфікатар гістарычных дакументаў, сам з'яўляецца аўтарам апублікаванай ім рэдакцыі «Хаджэння...». У пачатковай рэдакцыі «Хаджэння...» панегірык Васілю II адсутнічае[173]. Такім чынам, *Белая Русь* згадваецца толькі ў «Слове на латыню», а не ў «Аповесці Сімяона Суздальскага» і не ў «Хаджэнні на Фларэнтыйскі сабор»[174].

Розныя даследчыкі ў розны час прыпісвалі Сімяону Суздальскаму аўтарства ўсіх трох згаданых вышэй твораў, але несумненнае яно толькі ў дачыненні да «Аповесці Сімяона Суздальскага». «Хаджэнне на Фларэнтыйскі сабор», хутчэй за ўсё, належыць пяру нейкага іншага рускага, найверагодней цывільнага, удзельніка сабора. Аўтарам жа «Слова на латыню» звычайна лічаць Пахомія Лагафета, рускага царкоўнага пісьменніка сербскага паходжання.

Як жа на самай справе выглядае першая ўсходнеславянская звестка пра *Белую Русь*? «Слова на латыню» ўкладвае ў вусны візантыйскага імператара Іаана VIII Палеалога, які нібыта прасіў папу Яўгена IV адкласці дэбаты на саборы да прыбыцця прадстаўнікоў Васіля II, наступныя словы: «...Восточнии земли суть Рустии болшее православье и вышшее христианьство Белые Руси, в них же есть государь великы брат мои Василеи Васильевич, ему же въсточнии царие прислухают и велиции князи с землями служать ему...»[175]. Каменціруючы гэтае месца, *Белую Русь* традыцыйна тлумачаць як сінонім Маскоўскага вялікага княства ці зборную назву «ўсіх рускіх земляў». Беларускія эмігранцкія гісторыкі сцвярджалі, што «Сымон Суздальскі, які асабіста быў на Фларэнтыйскім саборы 1439 г., называў Маскоўшчыну Белай Руссю»[176]. Але ці не паспяшаліся яны з высновамі — і наконт Сімяона, і наконт Маскоўшчыны?




**Прысяга праваслаўнага духавенства на вернасць Рыму.**

У некаторых рэдакцыях у прыведзенае вышэй праслаўленне Васіля II ўстаўлены злучнік «и», але разбіўка сказу: «восточнии земли суть Рустии и [яны ёсць] болшее православье и вышшее христианьство Белые Руси»[177] — здаецца нам пазбаўленай сэнсу, асабліва ў вуснах візантыйскага імператара, чые землі былі «не менш усходнімі», чым *рускія* (г.зн. усходнеславянскія)[178].

У афіцыйным маскоўскім летапісанні апавяданне пра Фларэнтыйскі сабор, якое супадае з першай часткай «Слова на латыню», з'явілася толькі ў Маскоўскім летапісным зводзе 1479 г.[179]. Адзін з варыянтаў гэтага ж тэксту ўвайшоў і ў створаныя ў першай трэці XVI ст. Сафійскі II і Львоўскі летапісы. Яны ў цэлым узыходзяць да летапіснага зводу 1518 г., але перыпетыі Фларэнтыйскага сабора ўзнаўляюць паводле зводу 1479 г.[180]. Праўда, іх перапісчыкі, не разумеючы ўжо сэнсу гэтага пасажу, змянілі яго на малазразумелае: «...яко восточнии земли суть большее православие, высшее хрестьянство Белая Русь»[181]. Імаверна, адзін са спісаў зводу 1479 г. (ці вытворных ад яго) быў вядомы В. Тацішчаву як «Растоўскі манускрыпт». Менавіта «Растоўскім летапісам» называў Маскоўскі звод 1479 г. М. Карамзін[182]. А. Шахматаў, аднак, даводзіў, што Тацішчаў меў на ўвазе нейкі іншы летапіс[183]. Але ў такім разе гэта мог быць нейкі летапіс, блізкі Сафійскаму II — Львоўскаму, бо адной з крыніц іх паслужыў неафіцыйны

звод, створаны ў 1470–х асобай, блізкай да растоўскай епіскапскай кафедры[184].

Панегірык Васілю II нельга ўспрымаць літаральна. Несумненна, Палеалог не мог выказацца прыведзеным вышэй чынам, тым больш што далей «Слова на латыню» паведамляе зусім ужо неверагодную рэч: як сабор перапынілі на 6 месяцаў, чакаючы прыезда Ісідора[185]. Але нас больш цікавіць, ці сапраўды падчас дэбатаў на саборы магла згадвацца *Белая Русь*? Калі ўлічыць вядомасць тэрміна некаторым удзельнікам Канстанцкага сабора 1414—1418 г., гэта ўяўляецца цалкам магчымым. А той кантэкст, у якім яго маглі ўжываць, быў, імаверна, звязаны з барацьбой Масквы за ўладу над Ноўгарадам. Наўгародскае архіепіскапства пры Васілі II толькі фармальна падпарадкоўвалася Уладзімірскай мітрапаліі, застаючыся фактычна незалежным. Архіепіскапы, чыя юрысдыкцыя пашыралася і на Пскоў, звычайна дэманстратыўна ўхіляліся ад удзелу ў царкоўных саборах у Маскве[186]. Таму на сваім шляху ў Ферару мітрапаліт Ісідор наведаў Ноўгарад і Пскоў — дзеля ўмацавання цэнтральнай улады. Так, у Пскове ён, насуперак волі наўгародскага архіепіскапа Яўфімія II (асабліва зацятага праціўніка Масквы), паставіў свайго намесніка, выводзячы такім чынам Пскоў з–пад юрысдыкцыі Ноўгарада ў непасрэднае кіраванне мітраполіі[187]. Пазней і Пахомій Лагафет, і Сімяон жылі і працавалі пры двары Яўфімія (не падзяляючы, зрэшты, яго палітычных поглядаў). Наўгародскае паходжанне «Слова на латыню» і, у прыватнасці, устаўкі пра *Белую Русь*, здаецца, не выклікае сумненняў[188]. На нашу думку, менавіта сляды палемікі паміж прыхільнікамі і праціўнікамі незалежнасці Ноўгарада ад Масквы бачныя ў гэтай устаўцы. Яе можна разумець такім чынам, што тыя ўсходнія землі Русі, дзе княжыць Васіль II, г.зн. Вялікае княства Маскоўскае, цэнтр праваслаўнай іерархіі Русі, а *Белая Русь*, г.зн. Ноўгарад, яму падпарадкаваная[189].

Хаця ў летапісах, што ўзыходзяць да наўгародскага летапіснага зводу 1448 г. (натхняльнікам якога быў Яўфімій), не захавалася ніякіх звестак пра *Белую Русь*, нельга выключыць, што стваральнікам пачатковай рэдакцыі гэтага зводу заходняя назва Ноўгарада была вядомая. Яна магла знікнуць з пазнейшых спісаў, калі, паводле трапнай заўвагі Я. Лур'е, вядомага даследчыка гісторыі рускага летапісання, «грандиозная ревизия местных летописцев, произведенная в XVI в. в Москве, выбрасывала все сведения, неугодные для центральной власти»[190].

Нельга абысці ўвагай той факт, што Ісідор, які пасля няўдачы Фларэнтыйскай уніі ўцёк у Рым, жывучы там у рангу кардынала (*cardinalis Ruthenus*), быў добра знаёмы з многімі італьянскімі і нямецкімі гуманістамі. Такія з іх, як Мікалай Кузанскі, Філіп Буанакорзі Калімах ды Эней Сільвій Пікаламіні, як мы ўбачым пазней, ведалі і ўжывалі тэрмін *Белая Русь* — і зусім не ў значэнні «Маскоўская дзяржава». Гэта мусіць быць праўдзівым і ў дачыненні да Ісідора. Трэба меркаваць, дакументы з яго асабістага збору, рассеяныя па розных еўрапейскіх архівах і яшчэ недастаткова вывучаныя[191], не раз згадваюць *Белую Русь*.

Як пагаджаецца большасць даследчыкаў[192], самастойная рэдакцыя «Слова на латыню» была створана раней за летапісную. Амаль адзінадушна яе датуюць 1461 г., дакладней, часам паміж 3 мая1461 г. і 27 сакавіка 1462 г.[193] А. Паўлаў[194] звязваў стварэнне «Слова...» са знаходжаннем Пахомія Лагафета ў Маскве ў 1461 г., куды ён быў выкліканы з Ноўгарада Васілём II.

Але нават калі прызнаць найбольш верагоднай датай напісання «Слова» 1461 г., нельга выключыць, што да ўвядзення ў летапісны звод 1479 г. яно апрацоўвалася і што ўстаўка пра *Белую Русь* магла быць зроблена паміж гэтымі гадамі, недзе на пачатку 1470–х г. Нагадаем, што тады рэзка абвастрылася барацьба паміж прыхільнікамі самастойнасці Ноўгарада і маскоўскімі «збіральнікамі земляў». Па-

сля смерці архіепіскапа Іоны ў 1470 г., прадчуваючы блізкі крах Наўгародскай рэспублікі, яе кіруючыя колы схіляліся да збліжэння з ВКЛ. Яны запрасілі да сябе з ВКЛ кіеўскага князя Міхаіла Алелькавіча, збіраліся зацвердзіць свайго новага архіепіскапа ў кіеўскага мітрапаліта Грыгорыя Балгарына[195] і былі гатовыя прызнаць Казіміра сваім сюзерэнам. На «лацінскія» сімпатыі Вялікага Ноўгарада, а галоўнае — на імкненне партыі Барэцкіх захаваць наўгародскую «даўніну», Масква адказала карнай выправай, у выніку якой Ноўгарад быў змушаны падпісаць ганебны Карастынскі мір (11.08.1471). Канчаткова незалежнасць рэспублікі была ліквідаваная Іванам III у 1478 г. Гэтыя палітычныя падзеі суправаджаліся жорсткай ідэялагічнай барацьбой. Прамаскоўскія летапісы і іншыя літаратурныя творы былі закліканыя абгрунтаваць прэтэнзіі Маскоўскай дзяржавы на гегемонію ва Усходняй Еўропе. Менавіта тады, у прыватнасці, у атачэнні мітрапаліта Філіпа ўзнікла тэорыя «Масква — трэці Рым»[196]. У дзяржаве Івана III, раней амаль ізаляванай ад Еўропы, прыкметна ўзрасла цікавасць да тэхналагічных, а нават і гуманітарных дасягненняў заходняй цывілізацыі, але пры перанясенні іх на маскоўскую глебу пільна сачылі за тым, каб не ўзнікла нават аддаленай пагрозы тутэйшай азіяцкай дэспатыі. Калі пазычаліся нейкія тэрміны ці канцэпцыі, якія так ці інакш датычылі грамадскага жыцця, яны пераасэнсоўваліся ў адпаведнасці з патрэбамі Крамля. Так і назва *Белая Русь*: аўтар «Слова…» скарыстаўся ёю для надання большага аўтарытэта Васілю II і абгрунтавання «правоў» Масквы на ўсе ўсходнеславянскія землі, у асаблівасці на Ноўгарад. Але вядомасць гэтай назвы засталася лакальнай, афіцыйныя колы Маскоўскай дзяржавы яе не ўспрынялі.

Версія аб аўтарстве Пахомія Лагафета[197] ў гэтым святле выглядае асабліва цікавай, бо сербскі пісьменнік, як мяркуюць, менавіта з Ноўгарада пачаў сваю дзейнасць на Русі каля 1438 г. і ўвесь час быў з гэтым горадам цесна звязаны,

застаючыся лаяльным да Масквы[198]. Зрэшты, тое ж можна сказаць і пра Сімяона, але Пахомій, у адрозненне ад сучасных яму рускіх царкоўных пісьменнікаў, быў знаёмы з лацінамоўнай літаратурай, у прыватнасці, з творамі ранніх гуманістаў, а некаторыя лічаць яго складальнікам рускага Хранографа, дзе змешчана шмат гісторыка–геаграфічных звестак пра розныя краіны[199]. Пахомій мог ведаць і заходнюю назву *Russia Alba*. Яго аўтарства, аднак, аспрэчваецца Ф. Дэлекторскім, Я. Лур'е і многімі іншымі даследчыкамі.

На карысць даціроўкі «Слова…» 1470–мі г. гаворыць і тое, што менавіта да гэтага часу адносяцца ўсе іншыя вядомыя нам згадкі пра *Белую Русь* другой паловы XV ст. Аднак наконт іх у гістарыяграфіі ўсталяваўся пункт гледжання Карамзіна, які нельга пакінуць без каментарыяў. Выкрыўшы тацішчаўскія фантазіі пра «Уладзіміра–Суздальскую» *Белую Русь*, гэты расійскі гісторык тут жа зрабіў уласную памылку (1817). Потым яе падхапілі ўсе, хто займаўся этымалогіяй *Белай Русі*: быццам бы, «исчисляя в титуле своем все особенные владения Государства Московского, Иоанн [III. — **А.Б.**] наименовал оное Белою Россиею, то есть великою или древнею, по смыслу сего слова в языках Восточных»[200].

З гэтым сцвярджэннем згодныя, здаецца, усе беларускія даследчыкі[201]. Паводле П. Крапівіна, «вялікі князь маскоўскі Іван III, канчаткова вызваліўшыся ад татарскай залежнасці, прыняў тытул вялікага князя Белай Русі»[202]. А. Грыцкевіч лічыць: «Маскоўскі князь Іван III у 2–ой палове XV ст. афіцыйна ўвёў тэрмін «Белая Русь» для абазначэння Рускай дзяржавы (атаясамлівалася з паняццем Вялікая Русь)»[203].

Але дакладна вядома, што найбольш поўны і напышлівы тытул, якім карысталіся Іван III і ягоны сын Васіль III у зносінах з еўрапейскімі дзяржавамі, у тым ліку з ВКЛ, гучаў так: «Божьею милостью государь всеа Русии и великий князь Володимерский, Московский, Новогородцкий, Псковский, Тферской, Югорский, Вятский, Пермский, Бол-

гарский и иных»[204]. Гэты ж тытул прыводзіць і сам Карамзін[205]. Пазней, пасля захопу ў 1514 г. Смаленска, Васіль III дадаў да гэтага спісу «Смоленский» (звычайна змяшчалі паміж «Псковский» і «Тферской»). У такім выглядзе тытул добра ведалі і ўжывалі ў Еўропе[206].

Часта сцвярджаюць (не прыводзячы ніякіх спасылак на крыніцы), што, маўляў, *Белую Русь* як назву сваіх уладанняў Іван III упершыню ўжыў яшчэ ў 1469 г. у грамаце да папы Паўла II, і нават «цытуюць» гэтую грамату, пра існаванне якой нам невядома: *Russia Alba Sive Moskovia*[207]. Цяжка сказаць, на чым грунтуюцца такія звесткі, але гэты выраз, адзначым, цалкам супадае з надпісамі на многіх ранніх друкаваных еўрапейскіх картах (іх мы яшчэ будзем разглядаць). У вядомых жа нам дакументах канцылярыі Паўла II маскоўскі князь называецца *nobilis vir Iohannes Wlodomiriae, Muscovie, Novagorodie, Plescovie etc.* [208].

Большасць жа даследчыкаў, услед за Карамзіным, называюць першым аўтэнтычным усходнеславянскім дакументам, у якім фігуравала *Белая Русь*, грамату Івана III да папы Сікста IV (1472)[209]. В. Чамярыцкі, напрыклад, у пасляслоўі да публікацыі *Апісання земляў* пісаў: «Самая ж даўняя дакладная гістарычная звестка пра Белую Русь сустракаецца ў помніку ўсходнеславянскага паходжання — грамаце Івана III да папы рымскага Сікста 1472 г., дзе маскоўскі князь называе сябе *Ioannes dux Albae Russiae*, а назва азначае вольная, прававерная, вялікая, а не заходняя»[210].

Мусім адзначыць, што ва ўсіх развагах на тэму «Белая Русь Івана III» ёсць, прынамсі, дзве прынцыповыя памылкі. Па–першае, самым даўнім усходнеславянскім помнікам, што ўтрымлівае звесткі пра *Белую Русь*, з'яўляецца «Слово избранное от святых писаний еже на латыню». Па–другое, хаця мы не ведаем дакладнага зместу згаданай граматы Івана III, у ёй, хутчэй за ўсё, пра *Белую Русь* нічога не было сказана. Сведка падзей, на якія спасылаюцца ўсе даследчыкі, Джакома Мафэі з Вальтэры, сакратар кардынала Аманаці,

24 мая 1472 г. запісаў у дзённіку пра прыём пасольства ад Івана III на чале з аселым у Маскве італьянцам Джанбатыстам Вольпе: «Сёння былі запрошаныя ў раду з нагоды прыбыцця паслоў Івана, герцага Белай Русі» (*oratores Ioannis ducis Albae Russiae*). Назаўтра паслы, паводле Мафэі, прад'явілі «адкрытую грамату, напісаную на маленькім шматку пергамента, з прывяснай залатой пячаткай, толькі з наступнымі словамі на мове рутэнаў» (*in lingua ruthenica*): «Герцаг Белай Русі Іван чалом б'е вялікаму Сіксту, рымскаму першасвятару, настаўніку»[211].

Але сама грамата «на мове рутэнаў», так падрабязна апісаная Джакома Мафэі, не захавалася[212]. Таму і ўжыванне тэрміна *Белая Русь* самім маскоўскім князем не выглядае вельмі верагодным. Мог так перадаць сваім суайчыннікам змест граматы яго пасол Вольпе, мог і Мафэі так яго ўспрыняць. Натуральна, нехта з іх (калі не абодва) скарыстаў тэрмін *Белая Русь* як зразумелы і агульнапрыняты ў дачыненні да той часткі Русі, што дагэтуль была вядомая большасці заходнееўрапейцаў, — Вялікага Ноўгарада. Пасольства Вольпе выправілася ў Еўропу адразу ж пасля Карастынскага міру і, несумненна, апроч іншага, мела заданне ўсяляк падкрэсліваць сюзерэнітэт Івана III над Ноўгарадам, якому цяпер адводзілася роля маскоўскага фарпоста і «вітрыны» на Захадзе. Характэрна, што калі Вольпе ўжо разам з царскай нявестай Зояй Палеалог вяртаўся ў Маскву праз Нюрнберг (дарэчы, найважнейшы тагачасны цэнтр вытворчасці карт), Іван III уяўляўся яго жыхарам «магутным герцагам у Белай Русі за Ноўгарадам»[213].

Наколькі можна меркаваць па ацалелых асобніках, усе граматы Івана III і Васіля III да пап былі аднатыпнымі. Яны складаліся толькі з лаканічнага прывітання: у яго, у прыватнасці, нязменна ўваходзіла формула «пастыру і настаўніку Рымскай царквы», але не было ніякіх указанняў на *Белую Русь*[214]. Няма ніякіх падстаў лічыць, што грамата 1472 г. выглядала інакш.

На атаясамліванне Захадам Ноўгарада (*Белай Русі*) з Маскоўскай дзяржавай («усёй Руссю») паўплывала пазіцыя самога маскоўскага ўрада. Менавіта зносіны Масквы з Ноўгарадам былі той глебай, на якой яшчэ ў XIV ст. узнік сам тытул «вялікага князя ўсяе Русі», і доўгі час сфера яго ўжытку абмяжоўвалася толькі гэтымі зносінамі[215]. Яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў пасля захопу Ноўгарада Іванам III маскоўскія вялікія князі зносіліся са Швецыяй, Лівоніяй, Ганзай не непасрэдна, а праз наўгародскіх ваяводаў, бо хаця Ноўгарад не захаваў сапраўдных атрыбутаў дзяржаўнасці, ён працягваў выконваць рэпрэзентатыўныя функцыі[216]. Маштаб і змест перамен у палітычнай геаграфіі Усходняй Еўропы, звязаных са «збіраннем рускіх земляў» Масквой, не адразу быў ацэнены заходнімі інтэлектуаламі. Змена статусу Ноўгарада іх мала абыходзіла. Івана III яны маглі ўспрымаць своеасаблівым кандацьерам, якому ўсміхнулася ўдача, — сам жа Вялікі Ноўгарад мусіў застацца на месцы. Толькі на пачатку XVI ст. еўрапейцы пачалі больш адэкватна ўяўляць сабе месца новастворанай імперыі ў еўрапейскай сістэме дзяржаў.

Такім чынам, у чарговы раз памыліўся Тацішчаў, сцвярджаючы, быццам назва *Белая Русь* пашырылася на колішнія наўгародскія ўладанні пасля іх далучэння да Масквы ў канцы XV ст.[217]. На яве ўсё адбылося наадварот: уваходжанне ў 1471—1478 г. тэрыторыі Наўгародскай рэспублікі ў склад Масковіі выклікала перанос заходняй навуковай назвы Ноўгарада на ўсё Вялікае княства Маскоўскае.

Назва гэтая, зрэшты, заставалася неафіцыйнай. Яе можна было сустрэць у прыватным дзённіку, у паэтычным творы ці ў навуковым трактаце, але афіцыйна той жа Сікст IV тытулаваў маскоўскага князя *nobilis vir Iohannes Volodomiriae, Muscovie, Novogorodie, Pascovie, Permie etc.* — амаль таксама, як яго папярэднік Павел II[218]. Пры прыёме маскоўскага пасольства міланскім герцагам Лудовікам

Сфорцам ў 1493 г. Іван III названы *Johannes... dominus totius Rhossiae, videlicet Volodimirae, Moscoviae, Novogradie, Plescovie, Othverie, Ungarie, Vetebe, Permie, Volgovie etc.,* — ізноў ніякага намёку на *Белую Русь*[219]. Першым жа рускім манархам, які пачаў ужываць *Белую Русь* у сваім тытуле, быў не Іван III, а Аляксей Міхайлавіч (з 1655 г.). Беглы пад'ячы Пасольскага прыказа Грыгорый Каташыхін заўважыць у 1667 г.: «А пишетца та титла «всеа Великия и Малыя и Белыя России самодержец» не изстари, вновь, при нынешнем царе...»[220]. Немагчыма ўявіць, каб маскоўскі ўрад, які надаваў столькі ўвагі тытулатуры манархаў, згубіў усякую памяць пра такі важны яе кампанент, калі б ён сапраўды ўжываўся з даўніны.

Найбольш часта тэрмін *Белая Русь* у канцы XV ст. ужывалі італьянцы, бо яны падтрымлівалі асабліва цесныя эканамічныя і культурныя сувязі з Масквой. Хаця ім быў добра вядомы шлях у Чорнае мора, дзе да 1475 г. дзейнічаў цэлы шэраг генуэзскіх факторый з цэнтрам у Кафе, таварны (і інфармацыйны) паток з Маскоўскай дзяржавы і ўвогуле з усходнеславянскіх земляў па гэтым маршруце быў даволі слабы з–за небяспечнасці падарожжаў праз землі Крыма і Вялікай Арды, звычайна ахопленыя татарскімі міжусобіцамі. Падарожжа Ісідора ў Ферару ў 1437—1438 г. выглядала так: Ноўгарад–Пскоў–Рыга, потым у ганзейскую сталіцу Любек на ганзейскім караблі, адтуль у Паўночную Італію праз Нюрнберг і Аўгсбург[221]. Больш познія падарожнікі з Масквы ў Італію ў XV ст. таксама карысталіся традыцыйным паўночным маршрутам. Таму не выклікае здзіўлення, што многія рускія геаграфічныя назвы набывалі вядомасць у Італіі ў нямецкай наменклатуры. Наведаўшы Маскву ў верасні 1476 г., венецыянскі пасол Амброджа Кантарыні ў сваім дыярыушы назваў Івана III «герцаг Дзуан сеньёр Вялікай Белай Русі» (*il duca Zuanne signor della Gran Rossia Bianca*)[222]. Увесь VIII раздзел дыярыуша Кантарыні называецца:

*Moscovia, citta della Rossia bianca*. Відавочна, мы маем тут справу з вынікамі Карастынскага міру 1471 г., паводле якога Ноўгарад перайшоў пад кантроль Івана III.

Але іншыя італьянцы ведалі менавіта «трансрыфейскую» *Белую Русь*. Першы галава рымскай Акадэміі Юлій Пампоній Лэт, які наведаў паўднёвую частку ВКЛ у 1479—1480 г., выкладаў пазней у лекцыях па Вергілію, што рака Гіпаніс (Паўднёвы Буг) «нараджаецца ў балоце леўкаскіфаў (*in paludes Leucoscytharum*) і ўпадае ў Барысфен»[223]. Бясспрэчна, што «леўкаскіфы» — тыя ж «белыя рускія»: у Сарматыі, сцвярджае Лэт у іншым месцы сваіх лекцый, гавораць на сямі розных мовах[224], з іх самая распаўсюджаная скіфская, якую называюць таксама рускай[225]. У разважаннях пра вытокі Гіпаніса «ў балоце леўкаскіфаў» Лэт спасылаецца на «бацьку гісторыі» Герадота, але зварот да адпаведнага месца IV кнігі «Гісторыі» пераконвае: самому Герадоту «леўкаскіфы» былі невядомыя[226]. Там, праўда, сказана, што ля вялікага возера, з якога бярэ вытокі Гіпаніс, водзяцца дзікія белыя коні, — ці не адсюль Лэт і ўтварыў свой тэрмін? Дакладней, пераклаў на грэчаскую мову тэрмін *Russia Alba*, вядомы яму з іншых крыніц. Магчыма, Лэт ведаў і краіну *Leucovia* Бэкана.

Пампоній Лэт аказаў вялікі ўплыў на цэлае пакаленне еўрапейскіх гуманістаў (і не толькі італьянскіх). Таму можна лічыць натуральным, напрыклад, што менавіта «трансрыфейская» *Белая Русь* была вядомай выхаванцу Акадэміі Філіпу Калімаху (гл. раздзел 8). Падчас свайго падарожжа Лэт дасягнуў Таны ў вусці Танаіса–Дона (сучасны г. Азоў), якая да 1475 г. была венецыянскай і генуэзскай калоніяй. Адпаведна Астольфа, адзін з герояў «Закаханага Раланда» (*Orlando innamorato*) — паэмы–пародыі на рыцарскія раманы, напісанай каля 1487 г. славутым італьянскім паэтам Матэа Баярда і апублікаванай у 1495 г., ужо пасля смерці аўтара, — імчыцца праз Германію, Вялікую Русь, Трансільванію і *Белую Русь* у Тану:

*Passato ha i Maganzesi e dopo loro*
*La Magna la Rossia, la Transillvana*
*La Rossia bianca, ed e giunto alla Tana*[227].

Пэўна, невыпадкова маршрут выдуманага Астольфа паўтарае рэальны маршрут Лэта. Трэба меркаваць, Баярда ў гэтых радках сцісла перадаў уражанні Лэта ад яго падарожжа ў «Сарматыю».

Традыцыю пародыі на рыцарскія раманы, пачатую Баярдам, працягнуў «Дон Кіхот» Сервантэса, дзе рэмінісцэнцыі з «Закаханага Раланда» Баярда і «Утрапёнага Раланда» Лудовіка Арыоста сустракаюцца ледзь не на кожнай старонцы. На працягу ўсяго твора Сервантэс кпіць з аўтараў і чытачоў рыцарскіх раманаў — між іншым, і з таго, наколькі блытаныя і недарэчныя іх уяўленні аб геаграфіі. Так, разважлівы ліцэнцыят Пера Перэс адкрыта здзекуецца з Дон Кіхота: «Калі вецер будзе падарожны, а мора спакойнае і бязбурнае, дык гадоў праз дзевяць вы апынецеся ля вялікага возера Піспісійскага, гэта значыць Меаційскага, а адтуль ужо толькі крыху больш за сто дзён падарожжа да вашага каралеўства»[228]. Але ж і *Белую Русь* часта звязвалі менавіта з гэтым «Меаційскім возерам». У прыведзеным урыўку з «Дон Кіхота», пэўна, магла б фігураваць і яна — не як назва канкрэтнага геаграфічнага аб’екта, а як сінонім чагосьці малаакрэсленага, неверагоднага, як «царства прэсбітэра Іаана» ці «астравы Бразіль».

Праўда, што датычыць лекцый Лэта, геаграфічныя каардынаты азёраў ці балотаў, адкуль бярэ пачатак Гіпаніс, можна вызначыць вельмі дакладна. Б. Рыбакоў перакanальна паказаў, што вядомы антычным вучоным Гіпаніс — не Паўднёвы Буг у сучасным разуменні, а сістэма рэк Горны Цікіч—Сінюха—Буг (у ніжнім цячэнні). Горны Цікіч сапраўды пачынаецца з некалькіх азёраў сучаснай Чаркаскай вобласці Украіны[229]. Значыцца, менавіта гэтае месца Лэтам аднесенае да «Леўкаскіфіі», а пазней,

як убачым, — Кромерам, Стрыйкоўскім і іншымі да *Белай Русі*.

Наш разгляд «альбарусікі» XV ст. быў бы няпоўным, калі б мы нічога не сказалі пра дакумент, упершыню апублікаваны на пачатку XVII ст. уніяцкім кіеўскім мітрапалітам Іпаціем Пацеем. 15 чэрвеня 1605 г. Пацей асабіста прыбыў у Віленскую ратушу, дзе засядалі бурмістры і райцы і ўсходняга, і заходняга чыну, і паведаміў пра знойдзеную ім, быццам бы ў Крэўскай царкве, рукапісную стараславянскую кнігу, якая ўтрымлівала апісанне Фларэнтыйскага сабора і т.зв. «эпістолію» мітрапаліта ВКЛ Місаіла (1476—1480) да папы Сікста IV, датаваную 1476 г. Каб прадухіліць абвінавачванне ў падлогу, Пацей прасіў усіх прысутных засведчыць сапраўднасць «эпістоліі» і ўнесці гэты факт у актавыя кнігі. Знаходка была неадкладна выдадзеная Пацеем, па–*руску* і па–польску, пад назвай «Поселство до папежа рымъского Сикста ѾД»[230] (з мэтай давесці, што Місаіл прызнаваў Фларэнтыйскую унію і быў у гэтым сэнсе яго папярэднікам). Сярод паслоў да Сікста IV у прэамбуле «граматы Місаіла» названы «благоверный княз Дмитр Вяземский сын князя Константинов з белое Руси»[231]. Гэта нас цікавіць у першую чаргу, бо Місаіл да свайго абрання мітрапалітам займаў смаленскую кафедру[232] і мусіў жа ведаць уласную епархію. А сведчанне пра належнасць яе да *Белай Русі*, калі б «эпістолія» была сапраўднай, набывала б выключную каштоўнасць.

Нягледзячы на захады Пацея, падложнасць яго знаходкі пачалі выкрываць адразу ж пасля публікацыі. Дзеля аб'ектыўнасці заўважым: на такую крытыку яна была асуджана незалежна ад сапраўднасці, ужо паводле ідэалагічных матываў. Ананімны аўтар «Перасцярогі», палемічнага твора супраць уніі, выказаўся наконт «Поселства до папежа» так: «Книги змышляют [униаты], пишучи под датою старою, письмом старым, якобы колись тая згода [уния] трвати мела; але присмотрись пильно в самую речь, и знойдешь, же хоть такие письма старые змышляють, але речь

вся Потеева, як бы усты сам мовил; притом знойдешь слова, века теперешнего людьми уживаемые, которых старые предки наши неуживали»[233].

Думкі пазнейшых даследчыкаў з нагоды «граматы Місаіла» падзяліліся. Адны, як В. Завітневіч, Я. Карскі, Я. Станкевіч, В. Пануцэвіч, лічаць яе падложнай; іншыя, як мітр. Макарый, А. Мартас, не адмаўляюць аўтэнтычнасці — не ў апошнюю чаргу таму, што не бачаць у ёй ніякай «крамолы» з пункту гледжання артадаксальнай дагматыкі[234]. Мы не рызыкнем выказваць свае меркаванні наконт асноўнай часткі граматы, але яе прэамбула, дзе пералічваюцца паслы Місаіла да папы, сапраўды напісаная беларускай мовай хутчэй канца XVI — пачатку XVII, чым XV ст. Да таго ж кантэкст, у якім у ёй ужыты наш тэрмін, вельмі нагадвае іншыя творы перыяду актыўнай уніяцка–праваслаўнай палемікі XVII ст., напрыклад, допіс праваслаўнага святара Андрэя са Слуцка (гл. раздзел 11). Таму мы лічым, што звесткі пра *Белую Русь* у «эпістоліі» адлюстроўваюць рэаліі не 1476, а 1605 г., і аднесці на яе падставе да *Белай Русі* XV ст. Вязьму ў прыватнасці, і наогул Смаленшчыну, нельга. Нават калі дапусціць сапраўднасць самой граматы, выглядае на тое, што Пацеем быў сфабрыкаваны спіс знатных паслоў праваслаўнага веравызнання, каб надаць як мага больш аўтарытэту сваёй знаходцы, а значыцца, і ідэі уніі[235]. Мітрапаліта, аднак, падвяло тое ж, што і большасць пазнейшых даследчыкаў: сучаснае яму разуменне *Белай Русі* ён рэтраспектыўна пашырыў на XV ст. Прыкладна такую ж памылку дапусцілі стагоддзем пазней фальсіфікатары «Соборного деяния на мниха Мартина Арменина». Так паступова гісторыя гэтай назвы рабілася гісторыяй падлогаў і містыфікацый (няхай і ненаўмысных).

## 5. „Белый царь всеа Руси“

Тытулатура маскоўскіх манархаў і назва *Белая Русь*

Скасаванне незалежнасці Ноўгарада, а неўзабаве і астатніх рускіх княстваў ад Масквы было асноўнай, але не адзінай прычынай замацавання назвы *Белая Русь* за Маскоўскай дзяржавай (у еўрапейскай традыцыі). Гэтаму паспрыяла таксама выкарыстанне панегірыстамі маскоўскага вялікакняскага дому эпітэта «белы» ў значэнні «вялікі», «высакародны».

Здаецца, амаль усе згодныя, што гэты эпітэт з'явіўся як наследаванне ханам Залатой Арды і тлумачыцца з цюркскіх моў, у якіх слова «белы» мае і такія значэнні[236]. Яшчэ Тацішчаў у адной са сваіх шматлікіх спроб растлумачыць паходжанне назвы *Белая Русь* сцвярджаў, нібыта пры Юрыі Даўгарукім у 1152 г. «по обычаю тутошних народов, яко изясчное владение, Белое имяновано, как татаре и доднесь русских государей акпадышага, то есть белый император, имянуют»[237]. У свой час І. Грэкаў звярнуў увагу на тое, што пасля распаду ў 1370–х г. улуса Джучы яго заходняя частка, якая прымыкала да Русі і займала Паўночнае Прычарнамор'е, Паўночны Каўказ і Паволжа, называлася «Белай Ардой» — напрыклад, у ярлыках, якія Тахтамыш выдаваў Ягайлу; усходняя яго частка, над Аралам і Каспіем, лічылася «Сіняй»[238]. Дзяржава Узун–Хасана, туркменскага ўладара Заходняга Ірана, паслом да якога, дарэчы, быў Амброджа Кантарыні (які назваў Івана III «сеньёрам Вялікай Белай Русі»), мела афіцыйную назву Ак–Каюнлу («Белае Ягня»). Паводле Карамзіна, «по Восточному обыкновению *белое* означало у славян или *великое,* или *древнее*»[239].

Аднак ці можа ўсё гэта служыць аргументам на карысць меркавання, што і назва *Белая Русь* у XV ст. ужывалася ў афіцыйных маскоўскіх колах? Якое дачыненне мае выраз *белы рускі цар* да чыста заходнееўрапейскага паняцця *Russia*

*Alba*? Тацішчаў быў не адзіным, хто не бачыў паміж імі розніцы. Памыляўся, напрыклад, Я. Станкевіч, лічачы, быццам падобнай да тытулатуры маскоўскіх уладароў была і рэлігійная саманазва жыхароў іх дзяржавы. Выразы «белорусская вера», «белорусская церковь», на якія ён спасылаўся[240], да XVII ст. нідзе не зафіксаваныя. Але і ў дакументах XVII ст. яны датычыліся праваслаўнай царквы не Маскоўскай дзяржавы, а Рэчы Паспалітай.

Мы ўжо адзначалі, што «Аповесць пра Фларэнтыйскі сабор» Сімяона Суздальскага не ўтрымлівае назвы *Белая Русь*. Але ў ёй сустракаецца выраз «истинно православный великий князь Василий Васильевич, белый царь всея Руси»[241]. Гэты выраз вельмі хутка стаў вядомы на Захадзе. Ужо ў 1463 г. міланскі герцаг Франчэска Сфорца ў лісце да свайго суайчынніка мынцара Джакома, які кіраваў працай маскоўскага манетнага двара, назваў Івана III «Белым Імператарам»[242]. Галоўны герой напісанага неўзабаве пасля нараджэння будучага цара Івана Жахлівага (1530) «Похвального слова великому князю Василию III», як вынікае з самой назвы — «князь великы Василеи Ивановичь — руский белый царь, самодръжець всеа Руси»[243], а ягоныя продкі — «наши благочестивые белые руськые цари» (у адным са спісаў «Пахвальнага слова» сказана проста «белые цари»)[244]. Наўрад ці прыведзеныя тытулаванні можна патлумачыць як «беларускія цары» ці «цары Белай Русі». Але, верагодна, так і зрабіў той жа М. Стрыйкоўскі, калі характарызаваў Івана Каліту (XIV ст.) як «беларускага князя», а вялікіх князёў маскоўскіх — як «уладароў Бела–Рускай манархіі», аб чым гутарка пойдзе ніжэй. Гэтую думку Стрыйкоўскага развіў Аляксандр Гваньіні: «Некаторыя, а асабліва падданыя, называюць Князя Маскоўскага Белым Царом, г.зн. каралём ці імператарам Белай Русі. Русь жа, якая пад князем Маскоўскім, Белай Руссю называюць. А тую, якой валодае Кароль Польскі (хаця ён трымае і частку Белай Русі), называюць Чорнай»[245].

Германскі імператар Максіміліян І пры заключэнні хаўрусу з Іванам ІІІ 23 чэрвеня 1491 г. назваў яго *Weisskunig*, г.зн. «белым каралём» Русі[246]. Але гэты ганаровы тытул ужываўся ў тагачаснай Германіі ў першую чаргу ў дачыненні да самога Максіміліяна, такі загаловак (*Der Weiss Kunig*) носіць санкцыянаваная ім самім ілюстраваная гісторыя яго панавання. Пры апісанні ў ёй чарговага саюза Імпе-



**«Саюз белага караля з белымі рускімі». Гравюра Ганса Буркмайра (1515). У 1491 г. Буркмайр гравіраваў канцэптуальна важную для фіксацыі назвы *Белая Русь* у еўрапейскай навуковай традыцыі Айхштэцкую карту.**

рыі з Маскоўскай дзяржавай (1515 г.), ужо пры Васілі III, менавіта Максіміліян фігуруе як *Weisskunig*. Прычым гэтае апісанне суправаджае гравюра Ганса Буркмайра[247] «Саюз белага караля з белымі рускімі»[248]. Пэўны кур’ёз можна згледзець у тым факце, што саюзы Максіміліяна з «белымі рускімі» былі накіраваныя якраз супраць Польшчы і ВКЛ, г.зн. супраць сучаснай Беларусі.

У 1555 г. маскоўскі мітрапаліт Макарый у лісце да канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Чорнага і віленскага біскупа Паўла Гальшанскага, даводзячы законнасць царскага тытула Івана Жахлівага, пісаў: «А окольные все государи не токмо хрестьянскые, но и бусурманские, имени его не убавливают, но и свыше прибавливают, называючи его Белым Рускым Царем. А Максимилиян цесарь ещё отцу его, блаженные памяти великому государю Василью, в докончалных своих грамотах то титло царского именованья записал...»[249]. Калі меркаваць па працытаваным выказванні, тытул «белы рускі цар» усведамляўся афіцыйнымі коламі Маскоўскай дзяржавы запазычаным менавіта з Захаду, а не з Усходу. Так ці інакш, але да канца XVI ст. ва ўсіх выпадках, калі эпітэт «белы» сустракаецца ў рускіх крыніцах (за выняткам «Слова на латыню»), ён тычыцца асобы маскоўскага манарха, а не Масквы як дзяржавы ці ўвогуле якой–небудзь тэрыторыі. Калі па меры назапашвання ведаў аб Масковіі гэты эпітэт стаў вядомы на Захадзе, яго адразу ж звязалі там з *Белай Руссю*, што паспрыяла замацаванню разглядаемай назвы за Маскоўскай дзяржавай.

Гэта добра бачна на прыкладзе «Нататак пра Масковію» аўстрыйскага дыпламата Сігізмунда Герберштайна. У першым, лацінскім, выданні сваёй кнігі (*Rerum Moscoviticarum Commentarii*, Вена, 1549) ён толькі адзначыў, што «некаторыя называюць гаспадара маскоўскага Белым царом» (*Albus rex*)[250]. А ў першым нямецкім выданні (*Moscovia*, Вена, 1557) пасля гэтых слоў зрабіў працяг: «...гаворачы таксама пра белых рускіх (*weisse Reyssen*) і



**Партрэт Сігізмунда Герберштайна з яго біяграфіі (1560).**

робячы такім чынам розніцу паміж рознымі рускімі»[251]. Такое разуменне паняцця «белыя рускія» ці «белыя русіны» было ў сярэдзіне XVI ст. досыць распаўсюджаным. У сфабрыкаваным лісце ад Жыгімонта Аўгуста да Івана Жахлівага (1562), які распаўсюджваўся як рукапісная газета («лятучы лісток») у нямецкамоўных краінах, маскоўскі тыран быў названы «кайзерам белых і чырвоных рускіх» (*keysser der Weysen und Roten Reussen*)[252]. Імаверна, у тым жа значэнні ўжытыя назвы «Белая» і «Чырвоная Русь» на карце Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы Дж. Гастальды (Венецыя, 1562)[253].

Цікаўнаму Герберштайну, нягледзячы на настойлівае апытанне яго рускіх знаёмых, не ўдалося высветліць паходжанне формулы «белы рускі цар»[254]. Строга кажучы, і да нашага часу крыніцы і абставіны яго пранікнення ў Маскоўскую дзяржаву да канца не высветленыя, і яго цюркскае паходжанне нельга лічыць безумоўна даказаным. Як бачым, у сярэдзіне XVI ст. маскоўскія дыпламаты, ужываючы гэтую формулу, спасылаліся не столькі на «бусурманаў», колькі на германскага імператара. Праўда, у XVII ст. сфера яе ўжытку сапраўды ўжо абмяжоўвалася азіяцкімі суседзямі Расіі. Паводле сведчання Г. Каташыхіна, «калмыки и князи пишут... «белому царю Алексею Михайловичу всеа Руси здравствовать»[255]. «Рускім белым царом» увесь

час называецца Аляксей Міхайлавіч і ў кітайскай рэляцыі пра пасольства Мікалая Мілеску Спафарыя 1676 г.[256].

Але ў сярэднявеччы, як заўважыла Г. Харашкевіч, эпітэт «белы» ў значэнні «высакародны» ці «пануючы» ўжываўся і ў іншых краінах Еўропы. Вядомыя «белы» венгерскі кароль Эндрэ I (*rex Albus Andreas et Catholicus*) і польскія князі Лешак II Белы (*Lesko Albus*) і Уладзіслаў Белы[257]. Англічанін Джайлс Флетчар у творы «Пра Расійскую дзяржаву» (Лондан, 1591) пісаў: «Царскі дом у Расіі носіць прозвішча Белага (*Bela*). Назва яго паходзіць, як мяркуюць, ад Венгерскіх каралёў...», — маючы на ўвазе імя чатырох венгерскіх каралёў з дынастыі Арпадаў — Бела[258]. І хаця этымалогію гэту інакш, як фантастычнай, назваць нельга, трэба пагадзіцца з Флетчарам у тым, што эпітэт «белы» ўжываўся ў адносінах да вялікакняжацкага, а потым царскага маскоўскага дому, але не да ўсёй дзяржавы — у кожным разе, яе жыхарамі і суседзямі з усходу.

Тым не менш, памылку, дапушчаную ў свой час Герберштайнам, Стрыйкоўскім і Гваньіні, у XVIII—XX ст. паўтаралі амаль усе, хто спрабаваў высветліць этымалогію назвы *Белая Русь*. Слушна адзначаючы існаванне эпітэта «белы», яны адносілі яго да ўсёй Маскоўскае дзяржавы. Разам з некрытычным падыходам да паведамленняў Тацішчава пра «белую» Уладзіміра–Суздальскую Русь гэта стала галоўнай прычынай таго, што вытокі *Белай Русі* дагэтуль шукаюць на саміх усходнеславянскіх землях. На самай справе, як мы паказалі, ужыванне тэрміна *Белая Русь* у значэнні «Маскоўская дзяржава» было з'явай другаснай і пачалося толькі ў канцы XV ст. Але і ў той час такое разуменне нашага тэрміна не было агульнапрынятым. Каб разгледзець яго эвалюцыю ў кантэксце развіцця еўрапейскай геаграфічнай думкі, звернемся да даных картаграфіі.

## 6. „О час! О веды!“

Дадзеныя навачаснай картаграфіі.
Другая палова XV — першая чвэрць XVI ст.

Да сярэдзіны XV ст. нават лепшыя еўрапейскія карты давалі вельмі прыблізную геаграфічную карціну прасторы, з’яўляючыся хутчэй умоўнымі «дыяграмамі свету». Спецыфіка адчування прасторы сярэднявечным чалавекам заключалася ў тым, што ён не бачыў розніцы паміж аб’ектамі рэальнымі і фантастычнымі. Пачаткі геаграфічных ведаў былі ўсяго толькі элементам хрысціянскага касмалагічнага міфа, дапаўненнем, і не самым важным, да містыка–рэлігійнай карціны Сусвету. Геаграфія, як і любая іншая навуковая дысцыпліна, лічылася служанкай тэалогіі.

З развіццём мараплаўства і назапашваннем геаграфічных ведаў становішча спакваля змянялася. Патрэбы навігацыі вымагалі як мага больш дакладных карт і найбольш простых спосабаў іх узнаўлення. Адказам на гэты выклік часу стала, у прыватнасці, з’яўленне ў XIV ст. парталанаў — карт, заснаваных на выкарыстанні компаса і астралябіі і пабудове берагавой лініі на падставе рэальных вымярэнняў і вылічэнняў. У сярэдзіне XV ст., ледзь не раней за кнігадрукаванне, еўрапейцы вынайшлі тэхналогію гравіроўкі карт на металічных (пазней і драўляных) дошках. Яна дазваляла атрымліваць колькі заўгодна адбіткаў і такім чынам спрыяла больш хуткаму распаўсюджванню геаграфічных ведаў. Няўхільна пашыраліся межы адлюстроўванага на картах свету. Зямная прастора дэсакралізавалася і набывала ўсё больш рэальныя рысы. У гэтай віхуры, сапраўдным інфармацыйным выбуху, з якога пачаўся Новы час, магла знікнуць і назва *Белая Русь*. Але наадварот, менавіта тады яна была нанесена на карту і засталася на ёй, мяняючы лакалізацыю, да нашых дзён. У нейкім сэнсе ёй пашанцавала, бо з сярэдзіны XV ст. гэтая назва прысутнічае на ўсіх найбуйнейшых помніках картаграфіі,

ва ўсіх найбольш значных касмаграфічных працах ранняга Новага часу.

Хаця карты XIV—XV ст., у адрозненне ад ранейшых, усё больш увагі ўдзялялі рэальнай прасторы, а не тэалагічным абстракцыям, адчувалася, што геаграфіі бракуе тэарэтычнай базы. Паколькі «хрысціянская тапаграфія» не задавальняла патрэбаў часу, вучоныя звярнуліся да антычнай спадчыны. Важнай падзеяй у развіцці еўрапейскай геаграфічнай думкі стала вяртанне з нябыту «Геаграфіі» славутага элілістычнага астранома і касмографа II ст., стваральніка геацэнтрычнай сістэмы свету Клаўдзія Пталемея з Александрыі. У рукапісных лацінскіх перакладах *Geographia*, занесеная ў Заходнюю Еўропу з Візантыі, пачала распаўсюджвацца з 1410–х г. Яе першае друкаванае выданне выйшла ў свет у 1475 г. і да 1600 г. было паўторанае на розных мовах 42 разы дзеля сваёй выключнай папулярнасці. З аўтарытэтам гэтай першай усееўрапейскай геаграфічнай энцыклапедыі не маглі спаборнічаць геаграфічныя працы іншых вучоных антычнасці — Страбона, Плінія Старэйшага і інш. Менавіта ў Пталемея, у прыватнасці, былі запазычаныя папулярныя і ў асяроддзі пазнейшых эстэтаў назвы беларускіх рэк *Хронан* (Нёман), *Рубон* (Дзвіна), *Барысфен* (Дняпро — Бярэзіна). Краіны Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы —




**Клаўдзій Пталемей. Застаўка з „Сусветнай Хронікі“ Гартмана Шэдэля (1493).**

Польшча, ВКЛ, Чэхія, Венгрыя, — згодна з Пталемеем, былі аднесеныя да так званай «Еўрапейскай Сарматыі». Так уласцівая еўрапейскаму Адраджэнню мода на антычную міфалогію і тэрміналогію праявілася ў геаграфіі.

Карт самога Пталемея да Новага часу не захавалася, але ў «Геаграфіі» ўтрымліваліся інструкцыі па іх стварэнні і каардынаты каля 8 тысяч геаграфічных аб'ектаў[259]. Нямецкі манах Мікалай (*Donnus Nicolaus Germanus*) распрацаваў уласную картаграфічную праекцыю і на аснове




**Сарматыя паводле К. Пталемея. Рэканструкцыя Дж. Томсана.**

тэксту Пталемея ўзнавіў карты, якія прынята называць пталемееўскімі. Праўда, на іх араграфія, абрысы сушы, гідраграфічная сетка ўжо значна адрозніваліся ад уяўленняў самога Пталемея, відавочна неадпаведных рэчаіснасці. Паралельна з гэтымі «пталемееўскімі» ў чарговых выданнях «Геаграфіі» сталі змяшчаць і навейшыя арыгінальныя карты, так званыя *Novae Tabulae* ці *Modernae Tabulae.* У іх аператыўна ўносіліся змяненні, каб «падагнаць» даныя Пталемея пад рэаліі часу. Па меры ўсё новых геаграфічных адкрыццяў карціна свету як на «новых», так і на традыцыйных, «пталемееўскіх» картах усё далей адыходзіла ад уласна пталемееўскіх ідэй. З цягам часу наогул высветлілася, што эліністычна–рымская геаграфія састарэла гэтак жа безнадзейна, як і «хрысціянская тапаграфія». Але ў дачыненні да аддаленай ад мора Усходняй Еўропы, перыферыі еўрапейскай цывілізацыі, якая ледзь удзельнічала ў міжнародным гандлі і культурным абмене, састарэлыя геаграфічныя паняцці праіснавалі даўжэй за ўсё. Галоўным арыенцірам у «Еўрапейскай Сарматыі» вучоным ранняга Новага часу служылі ўяўныя Рыфейскія горы, якія на картах XIV—XVI ст. (асабліва пталемееўскіх) перасякалі Усходнюю Еўропу з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, падзяляючы басейны Чорнага і Балтыйскага мораў. Перакананне еўрапейцаў у існаванні гэтых гор было абвергнутае толькі ў 1520–х гадах, калі яны ўвачавідкі пазнаёміліся з рэльефам Усходнееўрапейскай раўніны[260]. Нямецкі гуманіст Ульрых фон Гутэн, даведаўшыся пра іх неіснаванне з працы М. Мяхоўскага, гутарка пра якую яшчэ наперадзе, усклікнуў: «О час! О веды! Як соладка жыць! Ды сядзець склаўшы рукі — гэта яшчэ не радасць. Навукі квітнеюць; падавіся, варварства, і рыхтуйся да выгнання!»[261].

Стала ўжо агульнапрынятым меркаванне пра тоеснасць тэрмінаў *Белая Русь* і *Масковія* для заходнееўрапейцаў XV—XVI ст. Апроч беларускіх даследчыкаў, пра гэта ў розны час пісалі П. Пірлінг, С. Анінскі, Е. Савельева, Г. Хараш-

кевіч[262]. Але пры гэтым ігнаруецца гісторыя стварэння *Масковіі*, якая канчаткова склалася як адзіная руская дзяржава толькі ў канцы XV ст. Да 1478 г. абсалютна некарэктна ўжываць тэрмін *Масковія* ў дачыненні да ўсіх рускіх земляў. Напрыклад, тая ж Савельева прызнае, што назву «Ноўгарад» заходнееўрапейскія картографы і географы XV ст. адносілі не толькі да Наўгародскай зямлі, але і да ўсёй Расіі; дакладней, да той яе часткі, якая, меркавалася, ляжала на паўночным захадзе ад Рыфейскіх гор[263]. На карце са славутай «Кнігі хронік» Гартмана Шэдэля, выдадзенай у 1493 г. у Нюрнбергу, гэтая частка Русі пазначаная як *Nogardum Russia* («Русь наўгародцаў»)[264]. Фактычна гэта тая ж *Белая Русь*.

Аднак наўгародская, або «цысрыфейская» лакалізацыя *Белай Русі* была не адзінай. Некаторыя географы, відавочна, праецыруючы гэтую назву на прычарнаморскую Аланію–Албанію, змяшчалі яе над Донам ці на захад ад яго. Але наколькі добра яны ўяўлялі сабе размяшчэнне таго ж Дона? На дапталемееўскага яшчэ тыпу планісферы венецыянца Джавані Леарда, створанай у 1448 г., *Albania Tanai*, г.зн. «Данская Албанія», паказаная на поўдзень ад велізарнага безыменнага возера, адкуль, нібыта, бяруць вытокі Дон, Волга і Нява[265].

Заходнееўрапейскія картографы, пачынаючы, сама меней, з Каталонскай карты 1375 г., традыцыйна лічылі, што Волга, Днепр і Заходняя Дзвіна (вытокі якіх знаходзяцца побач) пачынаюцца з аднаго возера. Гэтае меркаванне ўзыходзіць, бадай, да паведамлення «Аповесці мінулых часоў» пра тое, што гэтыя тры ракі цякуць «из Оковьскаго леса». Часта гэтае ўяўнае возера на Захадзе называлі «Белым», атаясамліваючы яго з Белым возерам, менавіта з якога, меркавалі, бярэ пачатак Волга (на самай справе адтуль выцякае яе левы прыток Шаксна). Часам казалі (напрыклад, італьянцы Паола Джовіа і псеўда–Фаскарына[266]) не пра адно, а пра некалькі «Белых азёр» (*Candidi Lacus*,

*Laghi bianchi*), быццам бы вытокаў Волгі, Акі, Масквы, Дзвіны і Дона. Даволі часта пад «Белым возерам» разумелі Кандалакшскую ды Анежскую затокі Белага мора (аб іх злучэнні з акіянам у Еўропе не ведалі). Часам (як у «Хроніцы Эрыка» пад 1300 г.) «Белым» называлі і Ладажскае возера (*Hwita träsk*). А часцей за ўсё ў «Белым возеры» змешвалі рысы двух ці трох рэальных вадаёмаў[267]. Пры гэтым амаль на ўсіх старых картах і ў геаграфічных трактатах *Белая Русь* («цысрыфейская» ці «трансрыфейская») і Белае возера знаходзяцца побач. Нават калі адзін з гэтых двух аб’ектаў не пазначаны яўна, ён лёгка аднаўляецца праз другі.

Што б ні было прататыпам возера на планісферы Леарда — Ладага ці сапраўднае Белае возера, усё роўна *Albania Tanai*, нягледзячы на прывязку да Дона–Танаіса, мае шмат агульных рысаў з краінай «албанаў»–вепсаў. На так званым Ленакскім глобусе (*Globe of Lenox*), створаным каля 1503—1507 г.[268], раён Вялікага Ноўгарада названы *Russhia Tanais*[269]. Відавочна, сэнс гэтай назвы вельмі блізкі да *Albania Tanai* Леарда. Пачаткам лагічнага ланцужка *Albania Tanai—Russhia Tanais—Russia Alba* можна лічыць вобласць *Albania Superior*, змешчаную Бэканам у вярхоўях Дона. Паводле ўяўленняў многіх географаў Антычнасці і Сярэднявечча, вытокі яго знаходзіліся далёка на поўначы Рыфейскіх гор, недзе побач са Скандынавіяй. Яшчэ Піфей з Масаліі, грэчаскі мараплавец, які каля 350—320 г. да н.э. здзейсніў плаванне ў паўночнаеўрапейскія краіны, магчыма, нават да Скандынавіі, паведамляў, што гэтым шляхам ён дасягнуў р. Танаіс[270]. Трэба адзначыць, што *Танаісу* антычнымі і раннесярэднявечнымі географамі надавалася выключна важнае значэнне. Ён уяўляўся ім не столькі ракой, колькі своеасаблівай пратокай, быццам бы злучаючай Азоўскае мора з Балтыйскім ці нават з Паўночным акіянам. На тыповых для сярэднявечча прымітыўных картах тыпу «О—Т», арыентаваных на ўсход, ён паказваўся левай папярэчынай літары «Т», аддзяляючы Еўропу ад Азіі[271]. Таму не




**Карта айкумены тыпу «О—Т» (*Orbis Terrarum*) Ісідора Севільскага (каля 600 г.). На працягу многіх стагоддзяў Ісідор лічыўся найбольшым аўтарытэтам у геаграфіі. Да яго апісання *Албаніі*, магчыма, узыходзіць уяўленне сярэднявечных схаластаў пра *Белую Русь*.**

дзіва, што звязаныя з Танаісам *Белая Русь* і Белае возера лёгка «пераходзілі» ва ўяўленнях географаў у Паўночнае Прычарнамор'е і Прыазоўе, адлегласць ад якіх да Усходняй Прыбалтыкі здавалася нязначнай. Часам Азоўскае мора і называлі «Белым возерам»: «Хранограф» беларуска–ўкраінскай рэдакцыі (сярэдзіна XVI ст.) распавядае, як людзей, якія жылі ў старажытнасці над абодвума берагамі р. Танаіс, «вытеснили татарове, приидоша на море, глаголемое Понт Euксин, против Трации, до **Белаго озера, егоже зовут Палус Меотис** или Битен, где днесь Крымские татарове и Перекопские или Кыркорские, и даже до реки Днепр»[272]. Згодна з «Хронікай Еўрапейскай Сарматыі» Гваньіні, «Руская зямля, якую здаўна называюць Раксаланіяй, з усходу ляжыць над Белым возерам, над ракой Танаіс...»[273]. Ці не апушчана тут слова *Белая*? Нарэшце, яшчэ Адам Брэменскі ў адным месцы заўважыў, што *albani–wizzi* тоесныя «Геланам або Меотыкам»[274], г.зн. жыхарам Прыазоўя.

Іншым рудыментам «трансрыфейскай» *Белай Русі* можа быць паказаная на розных картах С. Герберштайна рака «Шаксна», якая ўпадае ў Танаіс–Дон. Відавочна, гэта скажонае «Сасна», рэальна існуючы прыток Дона, але ў такой транслітэрацыі адчуваецца ўплыў Шаксны — левага прытоку Волгі, выцякаючага з Белага возера, у раёне якога жылі вепсы і якое звычайна лакалізоўвалі ў *Белай Русі*[275]. Паводле «Трактату пра дзве Сарматыі» М. Мяхоўскага, адзін

з прытокаў Дона называўся *Iugra* — «Югра», хаця такой ракі ў сапраўднасці не існуе[276]. Трэба меркаваць, «трансрыфейская» *Белая Русь* прыцягвала да сябе тапаніміку, якая групавалася вакол «цысрыфейскай», і наадварот.

Да фактараў, якія, магчыма, абумовілі «трансрыфейскую» лакалізацыю *Белай Русі*, мы яшчэ вернемся ў раздзелах 7 і 9. А пакуль прааналізуем некаторыя карты другой паловы XV — першай чвэрці XVI ст., як з «цыс–» , так і з «трансрыфейскай» лакалізацыяй.

### 1) «Цысрыфейская» *Белая Русь.*

Першая з вядомых карт, дзе адзначаная *Белая Русь,* — карта свету Фра Маўра (1457—1459 г.) — сапраўдны шэдэўр сярэднявечнай картаграфіі. Манах ордэна камальдулаў з кляштара Сан–Мікеле на венецыянскім в. Мурана стварыў сваю карту (*Mappamondo*) з дапамогай ужо згаданага Андрэа Біянка на замову партугальскага караля Афонсу V. Згубленая пазней, яна вядомая па аўтарскай копіі, зробленай для сената Венецыі (захоўваецца ў венецыянскай *Bibliotheca Nazionale Marciana*). У гонар заканчэння працы над картай сенат нават загадаў выбіць медаль з надпісам *cosmographus incomparabilis* («непараўнальны касмограф»). *Mappamondo* Фра Маўра, ужо сапраўды карта (а не «картаграма»), — адна з тых сімвалічных вехаў, якія аддзяляюць Сярэднія вякі ад эпохі Адраджэння. Але хаця дакладнасцю яна значна перасягала ўсе папярэднія аналагі, усходнеславянскія землі на ёй часам немагчыма пазнаць. Напрыклад, Волга ў сярэднім цячэнні разгаліноўваецца на два рукавы, утвараючы велізарны... востраў «Амазонія» (*Amaçonia*)[277].

Ды нават у такім выглядзе дадзеныя венецыянскага картографа сведчаць пра тоеснасць *Белай Русі* «краіне Вісу». *Rossia biancha* пазначаная паміж Волгай і «Белым морам» (*El mar Bianco*), у якім Б. Рыбакоў справядліва бачыць Бе-




**Фрагмент карты Фра Маўра (арыентавана на поўдзень). На паўднёвым захадзе ад Белай Русі (*Rossia Biancha*) знаходзіцца Амазонія (*Amaçonia*).**




***Rossia Biancha* паводле карты Фра Маўра належыць хутчэй Азіі, чым Еўропе, як і загадкавая *Sibir*.**

лае возера[278], тым больш што з гэтага «мора» бярэ пачатак левы прыток Волгі, напэўна, Шаксна. Побач з *Rossia biancha*, як і можна было чакаць, месціцца Ноўгарад (*Nograt*). Польскі гісторык Т. Лявіцкі, зыходзячы са стэрэатыпу сучаснай Беларусі, палічыў яго Ноўгарадам–Северскім[279], але гэта, канешне, Ноўгарад Вялікі. *Белая Русь* і ўсе звязаныя з ёй аб'екты аднесеныя Фра Маўрам не на захад, а на ўсход ад... Камы (!) — памылка арыентацыі, якую ён дапусціў з

прычыны асабістага незнаёмства з гэтай часткай Еўропы. Паводле надпісу на карце, «частка Русі, якая па гэты бок Белага мора, называецца белай (*Rossia biancha*), якая па той бок Чорнай ракі — называецца чорнай (*Rossia negra*), а якая па той бок Чырвонай ракі — чырвонай (*Rossia rossa*). І татары называюць Белае мора *Hactenus*, Чорную раку — *Carasu*, а Чырвоную раку — *Cozusu*»[280]. Прыцягвае ўвагу, што *Белая Русь,* на думку Фра Маўра, мяжуе са згаданым «востравам Амазонія»: у Адама Брэменскага і ў скандынаўскіх геаграфічных творах Албанія і «краіна жанчын» (Квенланд) таксама суседзяць.

Яшчэ адну карту, непасрэдна не заснаваную на «Геаграфіі» Пталемея, так званую *Айхштэцкую*, традыцыйна звязваюць з імем буйнога нямецкага тэолага і вучонага–гуманіста Мікалая Кузанскага (карта паказвала Цэнтральную і Усходнюю Еўропу). Беларускім гісторыкам вядомы той факт, што «ёсць гэтая назва (*Белая Русь*) і на карце кардынала з Кузы 1460 г.»[281]. Але дазволім сабе зрабіць неабходныя ўдакладненні. Мікалай Крыпс сапраўды з 1448 г. быў папскім легатам у рангу кардынала, але называць яго «кардыналам з Кузы» вельмі недарэчна: маленькае мястэчка Куз на Мозэлі (адкуль і паходзіла прозвішча Кузанскі) было яго радзімай[282], а не епархіяй. Даты стварэння Айхштэцкай карты называюцца самыя розныя — ад 1439 да 1464 г., хаця прыжыццёвыя звесткі пра Кузанца няшмат кажуць пра яго заняткі картаграфіяй. Вядома, праўда, што ў 1463 г. ён працаваў над апісаннем зямнога шара (*De Figura Mundi*) і супрацоўнічаў з вядомым картографам–аматарам Паала Тасканэлі[283]. Мяркуюць, што медную дошку з няскончанай картай Кузанца (калі яна ўвогуле існавала) набыў падчас сваіх вандровак вядомы нямецкі вучоны–гуманіст, палкі збіральнік карт Конрад Пойтынгер. Скончыў распрацоўку карты, хутчэй за ўсё, Ганс Буркмайр. Яна была выдадзеная ў 1491 г. у нямецкім горадзе Айхштэце, адкуль і атрымала сваю назву[284].

Не будзем спрачацца, ці гэта сапраўды быў твор Кузанца, ці, як часта здаралася тады, ягоным імем толькі скарысталіся, каб надаць карце большы аўтарытэт. Для нас важней наяўнасць на ёй надпісу *Russiae Albae pars* — на крайнім паўночна–ўсходнім рагу карты, на ўсходнім беразе Фінскай затокі[285]. Д. Анучын памыляўся, сцвярджаючы, што на гэтай карце пазначаная *Russia Alba Sive Moskovia*[286]. Такі тэкст часта сустракаўся, але на больш позніх картах, напрыклад, Беневентана — Вапоўскага (1507), Вальдзее-
3) ды Саламанкі (1548).
бусе нямецкага матэматыка
фа Іагана Шонера (Нюрн-
) і на падобным ананімным
Нюрнберг, 1535), аўтарства
ычайна прыпісваюць таму
ру, *Russia Alba* паказаная
ач ад краіны *Novogardia* і
са Швецыяй[287]. Цікава, што
з тым жа ананімным гло-
1535 г., на поўдзень ад
ойці (*Semogitia*) знахо-
цца... *Plescovia Rubea*, г.зн.
ырвоная Пскоўшчына»! Бе-
моўна, мелася на ўвазе
*ырвоная Русь*, але сама
*lescovia* ў такім разе была
сінонімам *Русі*, і прытым
*Русі Белай*.




**Разгортка глобуса. Іаган Шонер (?), Нюрнберг, 1535 г.**

На картах (*Typus Universalis Terrae Iuxta Modernorum*) са страсбургскіх выданняў 1513 і 1515 г. папулярнай энцыклапедыі *Margaritha philosophica nova*




**Фрагмент карты свету з *Margaritha philosophica nova* Грэгара Райша (1515 г.). Сучаснай Беларусі, як і ў многіх іншых крыніцах, тут адпавядае менавіта *Russia Rubra*, а *Russia Alba* — Вялікаму Ноўгараду.**

межы *Russia Alba* добра супадаюць з межамі колішняга Вялікага Ноўгарада[288]. Аўтарам гэтай «Жамчужыны філасофіі», напісанай у форме дыялогу паміж настаўнікам і вучнем, быў Грэгар Райш, абат картэзіянскага кляштара ў Фрыбургу, аднак наўрад ці яму ж належала і аўтарства карт. Ранейшыя выданні «Жамчужыны» (Фрыбург, 1503, Страсбург, 1508, і г.д.) выходзілі альбо без карт, альбо на тых картах, якія меліся, не была прадстаўленая *Russia Alba*[289]. Спрошчанай копіяй карт з «Жамчужыны філасофіі» з'яўляецца і карта свету Роберта Торна *Orbis Universalis Descriptio*, прыкладзеная да яго ліста (Севілья, 1527) англійскаму каралю Генры VIII. (Торн спрабаваў прыцягнуць увагу да магчымасці дасягнуць Індыі морам адным з трох шляхоў: меркаванымі Паўночна–Усходнім, Паўночна–Заходнім праходамі ці наўпрост праз прыпалярныя вобласці). *Russia Alba* паказаная Торнам на ўзбярэжжы Паўночнага акіяна на ўсход ад Лапоніі (Лапландыі)[290].



**Карта свету Роберта Торна (1527) — спрошчаная версія карты з *Margaritha philosophica nova.***

### 2) «Трансрыфейская» *Белая Русь.*

Як мы ўжо казалі ў раздзеле 4, адным з першых змяшчаў *Rossia bianca* над Донам італьянскі паэт Матэа Баярда (1487). Да гэтага ж часу (1489) адносіцца славутая карта свету (захоўваецца зараз у *British Library*) Генрыха Мартэла (*Henricus Martellus Germanus*), аселага ў Фларэнцыі немца. *Russia Alba* на ёй знаходзіцца на поўнач ад Крымскага паўвострава, паміж Дняпром і нейкай безыменнай ракой, якая ўпадае ў Азоўскае мора на захад ад вусця Дона[291]. Створаная тым жа аўтарам неўзабаве пасля 1491 г. версія Айхштэцкай карты (зараз у Фларэнтыйскай *Bibliotheca Nazionale*), у адрозненне ад арыгінала, паказвае *Russia inferior sive Alba* (г.зн. Русь Ніжнюю ці Белую) на паўночным беразе Чорнага мора[292].

Карта Мартэла, у т.л. і ў частцы звестак пра *Белую Русь*, паслужыла непасрэднай крыніцай для *Universalior cogniti Orbis*

*Tabula* Іаганэса Руйша, якая ўваходзіла ў чарговыя выданні «Геаграфіі» Пталемея (Рым, 1507 і 1508). Паводле Руйша, *Russia Alba* знаходзіцца на поўнач ад Крыма, паміж Дняпром і Донам[293]. На больш познім творы Руйша *Hidrographia sive carta marina*, змешчаным у страсбургскім выданні Пталемея 1513 г., *Russia Alba* раскінулася па абодвух берагах Дона, вышэй упадзення ў яго Северскага Данца[294].

Страсбургская *Geographia* 1513 г. увогуле багатая на карты з выявай *Белай Русі*. Яшчэ адну, вядомую пад назвай «карта адмірала», г.зн. Калумба (поўная назва — *Orbis Typus Universalis Iuxta Hydrographorum Traditionem*), выканаў эльзасец Марцін Вальдзеемюлер, вядомы таксама пад лацінізаваным імем *Hylacomilus*. Тут *Russia Alba* таксама займае абодва берагі Дона[295]. Але ўжо на *Tabula Moderna Sarmatie Evr.,* таго ж аўтара і змешчанай у тым самым выданні, *Russia Alba Sive Mosckovia* («Русь Белая ці Масковія»), застаючыся «трансрыфейскай», зрушылася на паўночны захад і лакалізаваная на левым беразе Дняпра, насупраць упадзення ў яго буйных правых прытокаў (верагодна, Прыпяці і Бярэзіны)[296].

*Tabula Moderna Sarmatie Evr.* Вальдзеемюлера ўяўляла з сябе спрошчаны варыянт пераробкі Айхштэцкай карты (1507), якую для рымскага выдання Пталемея выканаў Марка Беневентана з Неапаля з удзелам «бацькі» польскай картаграфіі Бернарда Вапоўскага. На ёй таксама *Russia Alba Sive Moskovia* знаходзіцца на левым беразе Дняпра[297], за Рыфейскімі гарамі (*Rissei Montes*). Копіі *Tabula Moderna* выконвалі пазней Антоніа Саламанка (Рым, 1548), Фернанда Бертэлі (Венецыя, 1562) і інш.[298].

Не зусім дакладнымі з'яўляюцца сцвярджэнні, што размяшчэнне *Белай Русі* ў Беневентана — Вапоўскага і Вальдзеемюлера адпавядае сучаснай Усходняй Беларусі і адлюстроўвае пачатак свядомага пераносу гэтай назвы на тэрыторыю нашай краіны[299]. Вапоўскі, можна меркаваць, лепш за Беневентана, Мартэла і Руйша знаёмы з гісторыяй і

геаграфіяй ВКЛ (для іх усе назвы абласцей «Еўрапейскай Сарматыі» былі чыстай абстракцыяй), зафіксаваў на карце пераход ад ВКЛ да Маскоўскай дзяржавы падчас вайны 1500—1503 г. большай часткі Чарнігава–Северскіх земляў, якія далёка ўдаваліся клінам у літоўскія ўладанні. На гэтай тэрыторыі з 1454 г. існавалі два буйныя феадальныя ўладанні ў складзе ВКЛ — Старадубскае княства князёў Мажайскіх і Ноўгарад–Северскае княства князёў Шамячычаў. У 1500 г. іх уладальнікі перайшлі на бок Івана III, захаваўшы на пэўны час унутраную аўтаномію — Старадубскае княства да 1518 г., а Ноўгарад–Северскае — да 1523 г.[300]. У першай чвэрці XVI ст. існаванне гэтых буферных утварэнняў, разам з Разанню засланяўшых уласна маскоўскую тэрыторыю ад татарскіх набегаў, дзеля тактычных меркаванняў дапускалася Масквой, і Мажайскія з Шамячычамі пачува-




**Фрагмент карты *Orbis Typus Universalis* М. Вальдзеемюлера (1513). *Russia Alba* раскінулася па абодвух берагах Дона, вышэй упадзення ў яго Северскага Данца.**




**Фрагмент карты *Tabula Moderna Sarmatie Evr.* Вальдзеемюлера (1513).**

ліся на сваіх землях амаль незалежнымі гаспадарамі. Гэты рэгіён, відаць, і прадстаўлены як *Белая Русь* на картах Беневентана — Вапоўскага і Вальдзеемюлера. Іх уяўленні, як будзе паказана ў раздзеле 9, аказалі ўплыў на карты нямецкага касмографа Себасцьяна Мюнстэра і творы італьянцаў Т’епала і псеўда–Фаскарына.

У Старадубскае княства ўваходзіў і паўднёвы ўсход сучаснае Беларусі з Гомелем, вернуты ў склад ВКЛ у 1537 г. Але гэты эпізод наўрад ці можна лічыць важным для будучага замацавання назвы *Белая Русь* за тэрыторыяй сучаснай Беларусі.

Такім чынам, *Russia Alba* на карце Беневентана — Вапоўскага і *Tabula Moderna Sarmatie Evr.* Вальдзеемюлера з’яўляецца варыяцыяй менавіта «трансрыфейскай» *Белай Русі.* Па меры таго, як высвятлялася, што на Доне і ў Паўночнай Таўрыі, занятых татарамі, не існуе вобласці з назвай *Russia Alba* (як гэта было паказана ў Мартэла і Руй-



***Russia Alba Sive Moskovia*** **на карце Беневентана—Вапоўскага (1567).**

ша), заходнія географы ссоўвалі «трансрыфейскую» *Белую Русь* далей на поўнач. Так яна паступова збліжалася з «цысрыфейскай», якую на Захадзе часцей за ўсё атаясамлівалі з усёй Маскоўскай дзяржавай. А мяжу апошняй з ВКЛ некаторыя касмографы памылкова праводзілі па Дняпры, хаця на гэтую раку прыпадалі толькі два невялікія адцінкі літоўска–маскоўскай мяжы — ля беларускага Дуброўна і на Чарнігаўшчыне. Таму ўсё левабярэжжа Дняпра як бы аўтаматычна рабілася *Белай Руссю* — але толькі для тых, хто дрэнна ўяўляў сабе палітычную геаграфію рэгіёну.

Чарговая праца Вальдзеемюлера, *Carta Marina Navigatoria Portugallen Navigationes...* (1516), створаная пад уражаннем апошніх партугальскіх геаграфічных адкрыццяў, у паказе *Белай Русі* значна адрозніваецца ад яго папярэдніх. З поўдня, паўднёвага ўсходу і ўсходу яна абмежаваная Рыфейскімі гарамі, а самы яе поўдзень закранае левабярэжжа Дняпра, дзе аўтар змяшчаў *Russia Alba* на сваіх кар-



**У майстэрні картографа. Медзярыт Страдануса ( XVI ст.).**




**Фрагмент *Carta Marina Navigatoria Portugallen Navigationes...* Вальдзеемюлера (1516).**

тах 1513 г. Так ён спрабаваў прымірыць свае ранейшыя погляды з пануючым разуменнем *Белай Русі* як сіноніма Маскоўскай дзяржавы, якой гэтая назва дасталася ў спадчыну ад Ноўгарада[301]. Карту часта перадрукоўвалі, як, напрыклад, француз Ларан Фрыз у 1525 г.[302]. Пасля доўгага перапынку ў еўрапейскай картаграфічнай традыцыі на карце Вальдзеемюлера ізноў, як у Фра Маўра, з'яўляецца Белае возера (*Lacus Albus*). Яно мае неверагодна павялічаныя памеры, займаючы плошчу прыкладна ўдвая большую за Крым[303]. Несумненна, Вальдзеемюлер звязваў *Lacus Albus* з *Russia Alba*, бо возера займае ў аднайменнай краіне цэнтральнае становішча. Як бы сектарамі гэтай краіны, якія разыходзяцца ад цэнтра на Белым возеры ў бок Паўночнага акіяна, паказаныя вобласці *Pilapeland* (Лапландыя), *Ugritschen* (Югра), *Peremitschen* (Перм), *Yland* (?).

На пачатку XVI ст. ужыванне карт настолькі пашырылася, што яны зрабіліся асноўнай крыніцай і сродкам фіксацыі геаграфічных ведаў. Таму ўплыў картаграфічных дадзеных нават на людзей, далёкіх ад геаграфіі, — дыпламатаў, клірыкаў, літаратараў — значна ўзрос, як і геаграфічная эрудыцыя адукаванага еўрапейца. Адпаведна пашырылася і вядомасць *Белай Русі*, пра якую даведаліся ўжо і на ўсходзе Еўропы.

## 7. Венгерскі след

*Terra Alborum Rutenorum*
паводле венгерскіх крыніц XIV—XV ст.

Як мы адзначалі ў папярэднім раздзеле, на рубяжы XV—XVI ст. міфалагізаваныя геаграфічныя ўяўленні марудна, але няўхільна змяняліся рэалістычнымі ведамі, здабытымі сумленнымі даследчыкамі і падарожнікамі. Вядомасць ізноў адкрытых заморскіх тэрыторый пры гэтым часта была лепшай, чым унутраных раёнаў Усходняй Еуропы, слаба ўключаных у міжнародны гандаль, але пакрысе карэктаваліся і звесткі пра іх. Значны ўплыў на фармаванне заходнееўрапейскіх поглядаў на геаграфію Усходняй Еўропы аказаў «Трактат пра дзве Сарматыі» (*Tractatus de duabus Sarmatiis*) польскага вучонага, рэктара Кракаўскага ўніверсітэта Мацвея Мяхоўскага, апублікаваны ўпершыню ў Кракаве ў 1517 г. Ён адразу ж набыў рэпутацыю самай надзейнай крыніцы ведаў пра ўсход кантынента. Менавіта праца Мяхоўскага так уразіла Ульрыха фон Гутэна паведамленнем пра неіснаванне Рыфейскіх гор, якія займалі важнае месца ў сістэме пталемееўскіх уяўленняў пра ўсход Еўропы.

У першым выданні трактата Мяхоўскага (1517), насуперак сцвярджэнням многіх беларускіх гісторыкаў, *Белая Русь* не згадваецца ўвогуле. Але ў лісце да свайго выдаўца Іагана Галера, прыкладзеным да другога кракаўскага выдання 1521 г.[304], Мяхоўскі пісаў: «Па апавяданнях юграў, яны, ідучы з Югры да Меацыйскіх балотаў, у межах Белай Русі бачылі ледзянога ідала»[305]. Пры гэтым ён спасылаўся на нейкага «вельмі старадаўняга гісторыка, які апісаў прыход венграў». Далей з ліста Мяхоўскага вынікае, што «ледзяны ідал» — гэта славутая «Залатая Баба» і што знаходзіўся ён у Вятцы.

Тэма набыцця радзімы протавенгерскімі плямёнамі была адной з улюбёных не толькі для венгерскіх гісторыкаў і

пісьменнікаў, але і ўвогуле для еўрапейскіх вучоных XV—XVI ст. Неад'емным элементам венгерскага нацыянальнага міфа доўгі час было паданне пра тоеснасць венграў і гунаў: паводле даўняй, паўсталай яшчэ ў X ст. традыцыі, перасяленне ў канцы IX ст. мадзьяраў у Панонію змешвалася з уварваннем гунаў на чале з Атылам у Рымскую імперыю ў V ст. Менавіта гэтую, хутчэй міфічную, чым гістарычную, падзею меў на ўвазе Мяхоўскі. Праблема дакладнай лакалізацыі прарадзімы венграў (так званай «Вялікай Венгрыі») занадта складаная, каб разглядаць яе тут дэталёва[306]. Але несумненна, што, аддзяліўшыся ад продкаў сучасных ханты і мансі, старажытныя венгры прайшлі праз Паўночнае Прычарнамор'е і Прыазоўе. На сваім шляху ў Панонію (і пазней, ужо асеўшы там) яны ўвайшлі ў кантакт з усходнімі славянамі і цюркскімі плямёнамі, якія жылі на поўдзень ад апошніх — печанегамі, полаўцамі, торкамі, хазарамі. У гістарычнай свядомасці венгерскага народа ў XV ст. захоўваліся асноўныя вехі гэтага вялікага перасялення, і ім на працягу стагоддзяў натхняліся шматлікія храністы. Цікавасць венграў да гэтай праблемы асабліва ўзрасла ў сярэдзіне XIII ст. — пасля таго, як венгерскі дамініканец Юліян падчас місіянерскіх падарожжаў 1235—1238 г. ізноў адкрыў для сваіх суайчыннікаў «Вялікую Венгрыю» на Каме (фактычна паўднёвы акраек згаданай Мяхоўскім Югры), і яна стала лічыцца прарадзімай венграў[307].

У XV ст. еўрапейцам было ўжо добра вядома пра Югру, ці Югорскую зямлю — кангламерат дробных племянных княжанняў роднасных венграм народаў ханты і мансі на ўзбярэжжы Паўночнага Ледавітага акіяна, ад сучаснага Югорскага паўвострава да вусця р. Таз. У XII—XV ст. Югра актыўна каланізавалася Ноўгарадам, таму не выпадкова еўрапейцамі яна звязвалася з *Белай Руссю*. Менавіта тут, па меркаванні вучоных XV—XVI ст., знаходзілася прарадзіма венграў. На картах другой паловы XVI ст. Югру змяшчалі звычайна на правым беразе р. Об. Але Мяхоўскі часцей за

ўсё згадваў Югру побач з Карэліяй, відавочна, лічачы іх сумежнымі[308]. На гэтую думку наводзяць і першыя асобныя карты Масковіі П. Джовіа (Іовія) і Б. Аніезэ, якія датуюцца 1525 г. і на якіх Югра пазначаная на поўнач ад Выбарга, што можа паказваць на кантамінацыю гэтай назвы з Іжорскай зямлёй[309]. Каментуючы прыведзенае выказванне Мяхоўскага, Я. Юхо сцвярджае: «Мяхоўскі добра ведаў ад сваіх студэнтаў з Беларусі і пра ВКЛ, і пра Маскоўскую дзяржаву, але не ведаў, дзе знаходзіцца Белая Русь»[310]. Ды наўрад ці можна ўсур'ёз казаць пра недасведчанасць Мяхоўскага. Наадварот, яго паведамленне цалкам укладваецца ў сістэму тагачасных гісторыка–геаграфічных поглядаў. У гэтым сэнсе менавіта кракаўскі прафесар лепш за сваіх студэнтаў з сённяшняй Беларусі ведаў, дзе знаходзіцца *Белая Русь*.

*Белую Русь* у сувязі з перасяленнем венграў згадвалі і некаторыя іншыя гісторыкі–сучаснікі Мяхоўскага. Напрыклад, баварац Іаган Турмайр (Авентын) пісаў у сваіх «Аналах Баварыі» (*Annales Boiorum*, 1521), што тая частка продкаў венграў, якая засталася на радзіме, знаходзіцца цяпер «пад панаваннем вялікага князя Мосхаў і Раксаланаў, якіх мы называем Масагетамі, а таксама белымі Русінамі»[311]. Італьянскі гуманіст Антоніа Банфіні, які з 1486 г. жыў пры венгерскім двары, у сваім фундаментальным творы па гісторыі Венгрыі, *Rerum Ungaricarum Decades,* таксама згадваў *Белую Русь*: «Уся гэтая паўночная прастора ад Германіі да Каспійскіх брамаў — палявая і роўная; гэтую раўніну цяпер называюць Руссю, падзяляючы на Белую і Чорную»[312]. Дарэчы, згаданыя тут «Каспійскія брамы» (Дэрбенцкі праход), якія знаходзіліся ў антычнай Албаніі, ускосна пацвярджаюць нашую думку пра сувязь назвы *Белая Русь* з трактаванай у шырокім сэнсе *Албаніяй*.

Хто ж быў тым «старадаўнім гісторыкам», на якога спасылаўся Мяхоўскі? Намі прааналізаваныя фактычна ўсе асноўныя венгерскія хронікі, аднак нічога, што магло б па-

служыць крыніцай паведамлення Мяхоўскага пра перасяленне мадзьяраў з Югры ў Панонію праз *Белую Русь*, выявіць у іх не ўдалося. У некаторых хроніках XIV ст. (дакладней кажучы, у іх спісах XV ст., бо пратографы XIV ст. не захаваліся) ёсць, зрэшты, згадкі пра «белых русінаў», пра што гутарка будзе ніжэй. Але кантэкст, у якім зробленыя гэтыя згадкі, не дазваляе непасрэдна ўзводзіць да іх інфармацыю Мяхоўскага.

Большасць венгерскіх хронік XIV ст. (якія складаюць добра вывучаны генеалагічны рад) апісвае шлях перасялення мадзьяраў такім чынам: ад Меаціды яны рухаліся праз рускія і сумежныя з імі землі (звычайна называюцца землі печанегаў, полаўцаў, торкаў, уласна Русі, а таксама яе частак — Суздаля, Кіева і г.д.). Мяхоўскі ж даводзіць, што продкі венграў рухаліся менавіта з *Белай Русі* да Меаціды, а не наадварот. Шлях «з Югры да Меаційскіх балотаў» праз *Белую Русь*, як ён уяўляўся Мяхоўскаму, добра ілюструюць разглядаемыя ў іншых раздзелах карты Вальдзеемюлера (1516), Меркатара (1538) ды інш. Разыходжанне Мяхоўскага з венгерскімі крыніцамі тлумачыцца тым, што ён змяшчаў *Белую Русь* на поўначы, а тыя крыніцы, якія мы разгледзім ніжэй, — на поўдні Усходняй Еўропы.

Вядома, што адной з асноўных крыніц, якой Мяхоўскі шырока карыстаўся пры напісанні свайго трактату, была «Хроніка венграў» (1488) Янаша Турацы. З яе, а таксама з іншых венгерскіх крыніц польскі вучоны пазычыў ідэю пра паходжанне венграў ад азіяцкіх юграў[313]. Але ў хроніцы Турацы *Белая Русь* не згадваецца. Праход венграў праз землі ўсходніх славянаў там адлюстраваны наступным чынам: «Усё спусташаючы на сваім шляху, [венгры] люта апанавалі Бесаў і Белых Куманаў, затым Суздальцаў, Рутэнаў, а пасля ўварваліся ў Чорную Куманію»[314].

Гэтае паведамленне з даўніх часоў было для венгерскіх хронік традыцыйным, свайго роду агульным месцам. Так, у канцы XIII ст., апрацоўваючы агульнавенгерскую хроніку

«Дзеі венграў» (*Gesta Hungarorum*), пратограф якой узыходзіць да 1091—1092 г., венгерскі клірык і храніст Шымон Кезаі пісаў пра перасяленне продкаў венграў з іх прарадзімы ў IX ст.: «прайшлі землі печанегаў і белых куманаў (*Bessorum et Cumanorum alborum terras*), затым уступілі ў Суздаль, Русь і землі чорных куманаў (*Susdaliam, Rutheniam et nigrorum Comanorum terras ingressi*)»[315].

Такім чынам, эпітэты *белы* і *чорны* ў дачыненні да некаторых этнонімаў ужываліся венгерскімі храністамі дастаткова шырока. У прыведзеных выпадках яны тычыліся *белых* і *чорных куманаў* — г.зн. полаўцаў і торкаў адпаведна[316]. Але ў венгерскіх крыніцах амаль так жа часта, як «белыя» і «чорныя» куманы, сустракаюцца і «белыя» ды «чорныя» венгры[317]. «Угри белии», а затым і «чернии» згадваюцца і ў «Аповесці мінулых часоў», на што звяртаў увагу яшчэ Карамзін[318].

Цяпер ужо дакладна высветлена, што «белыя угры» — гэта ўласна венгры, а «чорныя угры» — іншая частка венгерскага племяннога саюза, якая ўключала ў сябе так званых «чорных хазараў»[319]. Гэта, аднак, не вырашае праблемы паходжання саміх тэрмінаў *белы* і *чорны* венгерскіх крыніц, і дагэтуль у венгерскай гістарыяграфіі не выснавалася адзінага тлумачэння гэтага[320]. Становішча тут вельмі нагадвае разнастайнасць версій паходжання назваў *Белая* і *Чорная Русь*. Адны тлумачаць розніцу паміж «белымі» і «чорнымі» венграмі (а таксама і куманамі) пераважнымі масцямі коней у розных плямён ці племянных саюзаў, іншыя ўзводзяць яе да антытэзы паміж ужо ахрышчанымі і паганцамі. Некаторыя лічаць, што старажытным венграм была ўласцівая геаграфічная семантыка тэрмінаў *белы* і *чорны* (напрыклад, «заходні» — «усходні»), якая прапаноўвалася і для тлумачэння назвы *Белая Русь*.

Няма ніякіх падставаў сцвярджаць, быццам паміж *белымі* і *чорнымі венграмі*, *белымі* і *чорнымі куманамі* венгерскіх крыніц і *Белай* ды *Чорнай Руссю* існуе непасрэдная

этымалагічная сувязь. Аднак цалкам магчыма, што такая сувязь бачылася відавочнай некаторым вучоным Сярэднявечча і ранняга Новага часу. Так, напрыклад, фрагмент фразы Кезаі: *Bessorum et Cumanorum alborum terras, Susdaliam, Rutheniam et nigrorum Comanorum terras ingressi* — мог успрымацца няўважлівым чытачом ці перапісчыкам як *albas terras Susdaliam, Rutheniam...* («белыя землі Суздалія і Русь»).

На такую думку наводзіць, у прыватнасці, параўнанне двух выкладаў гісторыі Венгрыі, зробленых у XIV ст. нямецкім паэтам Генрыхам фон Мюгельнам. Як і яго сучаснік Зухенвірт, ён вандраваў ад аднаго манаршага двара да іншага, і ў тым ліку пражыў пэўны час на рубяжы 1350—1360–х г. у Венгрыі, дзе стварыў дзве хронікі: спачатку празаічную на нямецкай мове (*Chronicon Henrici de Mügeln Germanice Conscriptum*), а затым вершаваную лацінамоўную (*Chronicon Rhytmicum Henrici de Mügeln*)[321]. Апісваючы праход гунаў праз Усходнюю Еўропу, у лацінамоўнай хроніцы Мюгельн піша:

*Summunt per Bessos*
*Albos et Rutenos.*
(Бяруць кірунак праз [землі] Бесаў Белых і Русінаў)[322].

А ў нямецкамоўнай у адпаведным месцы сцвярджае: тыя ж гуны «спачатку прайшлі праз краіну, дзе жыве народ, які завецца Бесы, якія адносяцца да паганцаў, потым праз зямлю чорных русінаў (*daz land der Swarczen Reussen*) і белых русінаў (*vnd dy weyssen Reussen*)»[323]. Ці не значыць гэта, што «белыя русіны» ў Мюгельна ўтвораныя на ўзор «белых бесаў», згаданых у яго лацінамоўнай хроніцы?

Большасць спісаў нямецкамоўнай хронікі Мюгельна згадвае толькі «чорных русінаў» (*Swarczen Reussen*), і гэтая назва, магчыма, была ўжо ў пачатковай рэдакцыі хронікі. Калі так, дык гэта, бадай, самае старое з вядомых паведам-

ленняў пра *Чорную Русь* (падрабязней гл. у раздз. 12). З усіх вядомых спісаў хронікі «белыя русіны» (*weyssen Reussen*) фігуруюць толькі ў тым, які захоўваецца цяпер у *Hertzog–August–Bibliothek* у ніжнесаксонскім горадзе Вольфэнбютэль і пазначаецца даследчыкамі хронікі ўмоўным індэксам *Gu2*[324]. Стварэнне гэтага спіса, самага старога з тых, што дайшлі да нас, і найбольш блізкага да пратографа хронікі, датуецца канцом 1420–х г., г.зн. тым жа часам, калі пісаў сваю хроніку Ульрых Рыхенталь. Мяркуючы па дыялектных асаблівасцях нямецкай мовы і некаторых іншых прыкметах, яно адбывалася ў Чэхіі ці Аўстрыі. У раздзеле 3 мы адзначалі пашырэнне назвы *Белая Русь* пры двары чэшскага караля і імператара Святой Рымскай імперыі Сігізмунда ў той самы час. Таму магчыма, менавіта тады «белыя русіны» былі ўнесеныя ў тэкст спіса *Gu2* па аналогіі з «чорнымі». Да такой высновы, прынамсі, прыйшоў каментатар хронікі Мюгельна венгерскі даследчык Яўген Траўнік[325]. Перапісчык «Хронікі...», відаць, быў блізкі да тых інтэлектуальных колаў, да якіх належаў, напрыклад, нямецкі паэт Томас Прысшух (гл. раздзел 3). Але тэрмін, ужываны звычайна ў дачыненні да зусім іншай тэрыторыі, гэты невядо-



**Фрагмент спісу *Gu2* хронікі Мюгельна, дзе згадваюцца «белыя русіны». Публікуецца з ласкі бібліятэкі герцага Аўгуста.**

мы нам перапісчык дастасаваў да земляў, сумежных з Венгрыяй, што ў пэўнай ступені дыктавалася логікай апрацоўванага ім тэксту.

Хроніка Мюгельна — не адзіны помнік венгерскай гістарыяграфіі, які згадвае *белых русінаў*. У свой час яшчэ беларускі эмігранцкі гісторык С. Брага адзначыў, што *Белая Русь* згадваецца пад 1351 г. у венгерскай *Chronicon Dubnicense*[326]. Але гэтае паведамленне патрабуе дэталёвай расшыфроўкі.

Дубніцкай хронікай (*Chronicon Dubnicense*)[327] прынята называць копію няпоўнага зводу агульнавенгерскай хронікі, перапісаную каля 1479—1480 г. у трансільванскім горадзе Надзьварад (цяпер Орадзя Марэ, Румынія). Асноўны тэкст хронікі створаны значна раней: непасрэднай яе крыніцай з'яўляецца т. зв. «Ілюстраваная хроніка» (*Chronicon Pictum*), перапісаная секешфехерварскім кусташам, капеланам караля Людвіка І Маркам Кальці ў 1358—1370 г. Апошнюю называюць яшчэ кампіляцыяй венгерскіх хронік XIV ст., паколькі яна таксама не з'яўляецца самастойнай крыніцай. Дарэчы, Кальці таксама аддаў даніну традыцыі «бе-



**Фрагмент аўтографа Дубніцкай хронікі, дзе паведамляецца пра выправу Людвіка І праз „землі белых русінаў“ (1352). Публікуецца з ласкі бібліятэкі Сецэны і Цэнтральнаеўрапейскага універсітэта (Будапешт).**

лых куманаў», прычым кантэкст, у якім ён згадвае гэтую назву, прыцягвае ўвагу некаторымі паралелямі з *Албаніяй* схаластаў XIII ст.: «Кажуць, што названая зямля Скіфія ў некаторых месцах даволі шырокая, багатая гаямі, лясамі і лугамі і кішыць разматымі відамі дзікіх звяроў. Яе суседзі з усходу — печанегі і белыя куманы. Вакол Паўночнага мора, якое прылягае з захаду, да Суздальскай пустыні, прасціраюцца непраходныя для людзей лясы»[328].

*Chronicon Dubnicense* ў цэлым паўтарае *Chronicon Pictum* Марка Кальці. Але апісанне падзей 1345—1355 г. складальнік Дубніцкай хронікі запазычыў з іншай крыніцы — хронікі ананімнага венгерскага манаха–мінарыта (*AnMin*), удзельніка выпраў Людвіка на ВКЛ у 1351—1352 г. Сучасная венгерская гістарыяграфія атаясамлівае яго з прыдворным клірыкам Людвіка I Янашам Кецы, які доўгі час кіраваў школай пры Эгерскім манастыры мінарытаў і суправаджаў караля ў яго літоўскіх выправах.

Між іншым, хроніка Кецы (калі яе можна так называць) вельмі цікавая для даследчыкаў гісторыі ВКЛ, паколькі найбольш падрабязна апісвае барацьбу паміж Літвой і Венгрыяй у сярэдзіне XIV ст. У прыватнасці, яна ўзнаўляе ход вайны 1351 г. паміж Людвікам I Вялікім і вял. кн. літ. Кейстутам, прыводзячы заключаны імі 15.08.1351 г. дагавор[329]. У сувязі з літоўска–венгерскім канфліктам крыху ніжэй *AnMin* згадвае і *белых русінаў*. Пасля апісання няўдалай спробы венграў захапіць літоўскую крэпасць Бэлз (пры гэтай аблозе Людвік I быў паранены) на вербным тыдні 1352 г. (канец сакавіка — пачатак красавіка) хроніка паведамляе, што венгерскі кароль рушыў на Уладзімір–Валынскі «праз землі белых русінаў» (*per terram Alborum Rutenorum*)[330]. Такім чынам, для аўтара гэтага паведамлення «зямлёй белых русінаў» была Валынь, а магчыма, і ўсё Галіцка–Валынскае княства, будучая «Галіцыя і Ладамерыя» Габсбургаў.

Упершыню *Chronicon Dubnicense* ўвёў у навуковы абарот аўстрыйскі бібліёграф С. Эндліхер у венскіх *Jahrbücher*

*der Literatur* (1826), а затым М. Фларыянус апублікаваў яе ў грунтоўным выданні *Historiae Hungaricae Fontes Domestici* (1884). Абодва карысталіся адзіным рукапісам хронікі. Але ў апошняй публікацыі выраз *per terram Alborum Rutenorum* чамусьці адсутнічае[331]. Ужо ў канцы XIX ст. А. Лявіцкі, які звёў разам публікацыі Эндліхера і Фларыянуса, шчыра дзівіўся, чаму гэтыя аўтары, карыстаючыся адным і тым жа арыгіналам, дапусцілі столькі разыходжанняў[332]. Зварот да арыгінала Дубніцкай хронікі пераконвае, што больш дакладным быў якраз Эндліхер. На жаль, шырокае распаўсюджанне ў даследчыцкіх колах атрымала менавіта публікацыя Фларыянуса. Яна стала лічыцца як бы эталонным узнаўленнем *AnMin*, што значна ўскладніла наша знаёмства з сапраўдным паведамленнем *AnMin* пра *зямлю белых русінаў*[333].

Мы не маем магчымасці вызначыць дакладна, ці гэтае паведамленне сапраўды адносіцца да сярэдзіны XIV ст. (часу стварэння хронікі Кецы), ці з'явілася падчас стварэння ўласна Дубніцкай хронікі (канец XV ст.). Але па аналогіі з хронікай Мюгельна больш імаверным уяўляецца менавіта другое меркаванне.

Заслугоўвае ўвагі аднясенне невядомым аўтарам да *зямлі белых русінаў* Уладзіміра Валынскага. Валынь, вядомая ў Еўропе (перш за ўсё ў Венгрыі) як *Ladimeria* ці *Magna Laudameria*, славілася сваёй магутнасцю і багаццем яшчэ ў XI—XIII ст.[334]. Калі меркаванне, якое дайшло да нас у Дубніцкай хроніцы, было досыць распаўсюджаным у Венгрыі XIV—XV ст., ці не паўплывала яно пэўным чынам на фармаванне перакананння заходнееўрапейскіх аўтараў XVI—XVII ст., запазычанае ў XVIII ст. Тацішчавым, што пачатковая *Белая Русь* — гэта *Vladimiria* (але паўночная, ад Уладзіміра на Клязьме)?

Апошняя крыніца, якую мы разбярэм у гэтым раздзеле, не адносіцца, уласна кажучы, да венгерскіх хронік, але заслугоўвае таго, каб быць прааналізаванай побач з імі. У

свой час Г. Галенчанка звярнуў увагу на помнік польскай агіяграфіі «Жыціе Св. Кунегунды, княгіні Кракаўскай», у якім таксама ёсць звесткі пра *Белую Русь*[335].

Багаслаўёная (а не святая, як сцвярджае «Жыціе»[336]) Кунегунда (1234—1292), больш вядомая пад сваім памяншальным венгерскім імем Кінга, была дачкой венгерскага караля Белы IV (1206—1270) і жонкай кракаўскага князя Баляслава Сарамлівага (1226—1279). Яе дзядзька Кальман (1208—1241) у «Жыціі» названы «каралём белых русінаў» (*rex Ruthenorum Alborum*)[337]. Вядома, што Кальман у 1214—1227 г. з пераменным поспехам вёў барацьбу за галіцкі прастол, некалькі разоў авалодваў Галічам і губляў яго і з 1215 г. тытулаваўся «*rex Galiciae*». Значыцца, менавіта Галіччына названа ў «Жыціі Св. Кунегунды» *Белай Руссю*. Але якім часам трэба датаваць такі погляд і наколькі ён быў распаўсюджаны?

Хаця стварэнне «Жыція» датуецца прыкладна 1329 г., самыя раннія яго спісы, дайшоўшыя да нас, адносяцца да сярэдзіны XV ст.[338] Невядома, ці ўтрымліваўся ў пачатковай рэдакцыі твора выраз *rex Ruthenorum Alborum*. Як схільная думаць польская даследчыца сястра Віткоўская, ён мог быць унесены пазнейшым перапісчыкам[339]. Ніжэй мы ўбачым, што Філіп Калімах у канцы XV ст. карыстаўся тэрмінам *Белая Русь* прыкладна ў тым жа сэнсе, што і вядомая нам рэдакцыя «Жыція». А вось славуты польскі гісторык Ян Длугаш, які каля 1471—1473 г. стварыў сваё «Жыціе багаслаўёнай Кунегунды», як мяркуюць, менавіта на падставе пачатковай рэдакцыі, гэты тэрмін не ўжывае. Вядома, што ў яго творах ён увогуле не сустракаецца.

Праўда, у версіі «Жыція» паводле Длугаша можна знайсці намёк на тое, адкуль ён пранік у польскую агіяграфію. У месцы, адпаведным арыгінальнаму «Жыцію», дзе ўзнаўляецца генеалогія Кунегунды–Кінгі, Длугаш паведамляе, што Кальман быў жанаты з Саламеяй, дачкой кракаўскага князя Лешкі II Белага: *Colomano... cum Salomea*

*coniuge sua, filia Lestkonis albi Polonis Ducis* [340]. Кампазіцыя гэтага ўрыўка з Длугаша вельмі нагадвае арыгінальнае «Жыціе», прычым хтосьці недасведчаны ў лаціне мог зразумець выраз *Lestkonis albi Polonis Ducis* не толькі як «Лешкі Белага, князя польскага», але і як «Лешкі, белага князя Польшчы». Само імя брата Кальмана — Бела — магло выклікаць у польскага агіёграфа XIV ці XV ст. памылковыя асацыяцыі. Як адзначалася ў раздзеле 5, у канцы XVI ст. англічанін Дж. Флетчар менавіта ад венгерскага імя Бела спрабаваў вывесці этымалогію тэрміна «белы рускі цар».

Можна звярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасць. Сапернікам (прытым сапраўды ўдалым) Кальмана ў барацьбе за Галіччыну быў дзядзька Лешкі Белага, наўгародскі князь (у 1210—1215 і 1216—1218 г.) Мсціслаў Мсціслававіч Удалы. Менавіта Лешка ў 1215 г. запрасіў Мсціслава з Ноўгарада ў Галіч, дзе той княжыў у 1219—1227 г., увесь час змагаючыся з прэтэнзіямі Кальмана, якога падтрымлівалі Польшча, Венгрыя і Святы прастол[341]. Між тым, Мсціслава добра ведалі і на поўначы каталіцкай айкумены: у 1212—1214 г. ён некалькі разоў вадзіў свае войска ў Эстонію, супраць дацкіх і нямецкіх крыжакоў. Калі ў гэты час *Белая Русь* як назва Ноўгарада ўжо іншы раз ужывалася немцамі і скандынавамі, то можна ўявіць, што і Мсціслава называлі князем менавіта гэтай *Белай Русі*. Тады можна дапусціць і перанос пры яго «пасрэдніцтве» гэтай назвы на Галіччыну[342]. Як мы бачылі, падобным чынам стаў «герцагам Белай Русі» смаленскі князь Фёдар Юр’евіч. Такое тлумачэнне паходжання выраза *rex Ruthenorum Alborum* здавалася б больш рэалістычным, калі б гэты выраз утрымліваўся ўжо ў самых ранніх рэдакцыях «Жыція». Але пацвердзіць гэтую версію магла б толькі знаходка нейкіх лацінска– ці нямецкамоўных дакументаў пачатку XIII ст., якія б называлі Мсціслава «князем белых русінаў». Значна прасцейшым і больш лагічным, улічваючы нашыя дадзеныя пра дацiроў-

ку паведамленняў хронік Мюгельна і Дубніцкай, будзе іншае меркаванне: ва ўсіх венгерскіх (і звязаных з імі) крыніцах звесткі пра *Белую Русь* з'явіліся ў XV ст. — пад уплывам геаграфічнай тэрміналогіі, распаўсюджанай у заходніх суседзяў венграў — немцаў і, магчыма, італьянцаў.

Аўтар пачатковага «Жыцця Кунегунды», паводле ўласнага прызнання, у шэрагу іншых крыніц карыстаўся і нейкай «венгерскай хронікай»[343]. Тэарэтычна, звесткі польскага агіёграфа пра *Белую Русь* маглі быць запазычаныя і адтуль, хаця незразумела, якая канкрэтна венгерская хроніка магла паслужыць іх крыніцай. У кожным разе, не «Венгерска–польская хроніка» (*Chronica Hungaro–Polonica*), якая ўзнікла пры двары Кальмана якраз у той час, калі ён прэтэндаваў на Галіччыну, бо ў гэтай хроніцы *Белая Русь* не згадваецца[344]. Гэта аргумент хутчэй на карысць таго, што ў атачэнні Кальмана не ведалі гэтай назвы — асабліва калі было б устаноўлена, што пад «венгерскай хронікай» аўтар «Жыцця» меў на ўвазе менавіта *Chronica Hungaro–Polonica*.

Паведамленні з «Жыцця Кунегунды» не пярэчаць дадзеным венгерскіх хронік, паводле якіх *Белая Русь* (Белая Куманія?) знаходзілася недзе на ўсход ад Карпат, на землях, праз якія ў IX ст. пралягаў шлях перасялення протавенграў на будучую радзіму. Адзначым, што венграм як *Русь* былі вядомыя ў асноўным сумежныя з імі землі сённяшняй Украіны (перш за ўсё Галіччына і Валынь), а таксама паўднёва–заходнія землі Беларусі, якія лічыліся быццам бы неад'емнай часткай «Галіцыі і Ладамерыі» і на якія аж да XVIII ст. пашыраліся экспансіяністцкія планы венгерскіх каралёў і князёў Трансільваніі. Таму тэрмін *terra Alborum Rutenorum*[345], калі ён быў запазычаны з нейкіх замежных (хутчэй за ўсё нямецкіх) крыніц, амаль непазбежна мусіў праецыравацца венграмі на тую частку *Русі*, якая пазней стала называцца *Чырвонай*. Але наколькі гэты тэрмін быў устойлівым і характэрным для венгерскіх крыніц XIV—

XV ст.? Наколькі важным быў уплыў гэтых крыніц (апроч фактараў, разгледжаных у раздзеле 6) для ўзнікнення канцэпцыі «трансрыфейскай» *Белай Русі* ў еўрапейскай геаграфічнай навуцы канца XV ст.? Прыходзіцца прызнаць, што пакуль для ўпэўненага адказу на гэтае пытанне бракуе дакладных звестак.

## 8. „*Белая Русь*, где Новгород стоить“

Вядомасць Белай Русі ў Літве і Польшчы першай паловы XVI ст.

У другой палове XV ст. пра *Белую Русь* нарэшце даведаліся і ў Польшчы ды Літве. Адным з першых польскіх дакументаў, дзе сустракаецца наша назва, з’яўляецца прамова аселага пры польскім двары італьянскага вучонага–гуманіста Філіпа Калімаха да папы рымскага Інакенція VIII. Прысвечаная турэцкай пагрозе, прамова была падрыхтаваная да меркаванай паездкі Калімаха ў Рым на антытурэцкі кангрэс (1490 г.)[346]. У гістарычнай даведцы пра рассяленне старажытных славянаў на поўдзень ён паведаміў, што тыя, «шукаючы ўсё больш шчаслівага лёсу, смялей пачалі прасоўвацца налева і направа, і ў адным кірунку падаліся да Эўксінскага [мора], засяліўшы Падолле і Белую Русь, а ў другім — на берагі Віслы, у Мазоўша і астатнія землі каралеўстваў Польскага і Чэшскага»[347].

Сэнс, у якім назва *Белая Русь* ужытая Калімахам, перагукаецца з «Жыціем Кунегунды» і Дубніцкай хронікай. Ці не можа гэта значыць, што, дзякуючы цесным палітычным і культурным сувязям з ягелонаўскай Венгрыяй, спачатку ў Польшчу пранікла канцэпцыя менавіта «трансрыфейскай» *Белай Русі*? Здаецца, гэтую назву тут на нейкі час прыстасавалі для абазначэння разлеглых тэрыторый, з часоў Вітаўта намінальна падуладных ВКЛ, але ў сапраўднасці кантраляваных татарамі, — так званага «Дзікага поля». Падчас чарговай спрэчкі пра паўднёвую мяжу ВКЛ (тэарэтычна — па ўзбярэжжы Чорнага мора) у Бахчысараі ў 1540 г. крымскі хан прасіў пасла ВКЛ Канстанціна Ратамскага перадаць Жыгімонту Старому: «Пакінь тое, Ваша міласць, браце мой, у спакоі; хто што з тых земляў ды ўрочышчаў у руках трымае і ўжывае, таго тое і ёсць, бо зямля тая ані твая, ані мая, але Боская: хто мацнейшы, той і ўтрымае»[348]. Якраз у канцы XV — пачатку XVI ст. на гэтых спрэчных

землях, там, дзе змяшчалі *Белую Русь* Мартэл і Руйш, пачалі складвацца першыя суполкі казакоў, якіх спачатку, нягледзячы на славянскае паходжанне, называлі «чаркасамі». Мо яны і былі для некаторых аўтараў гэтага часу «белымі русінамі»?

Калімах доўгі час быў адным з кіраўнікоў польскай дыпламатыі, выхоўваў будучага вялікага князя і караля Аляксандра Казіміравіча. У пэўнай ступені дзякуючы яму тэрмін *Белая Русь* замацаваўся ў тэрміналогіі польскай канцылярыі. Напрыклад, інструкцыя пасольству ВКЛ да папы Аляксандра VI (1501—1502) на чале з Эразмам Цёлкам, асабістым сакратаром вялікага князя Аляксандра, даючы кароткі экскурс у гісторыю Польшчы і Літвы, адзначае: «Палымяны імпэт і адданасць польскага народа далі магчымаць, дзеля агульнага дабра хрысціянства, дзеля ўласнай бяспекі і бяспекі сыноў, стварыць дзяржаву, большая частка якой раскінулася ўздоўж і ўпоперак на палях Скіфіі, частку якой — ад межаў Каралеўства Польскага аж да Персіі і Белай Русі — захапілі татары»[349]. Яшчэ ў адной пасольскай інструкцыі, з якой Цёлэк на пачатку снежня 1504 г. накіраваўся ў Венецыю і да папы Юлія II, гаварылася, што Польшча «ў стане супрацьстаяць туркам або татарам, ці нават белым русінам, да якіх дамяшаліся татары»[350]. Ніжэй спіс варожых усходніх суседзяў Літвы і Польшчы паўтараецца ізноў: «Імператар Фасата [г.зн. крымскі хан. — **А.Б.**], Заволжская Арда і нават маскоўскі князь Белай Русі»[351]. Адзначым, што спадарожнікам Цёлка ў гэтым пасольстве быў Б. Вапоўскі, і натуральна, што апошні сказ перагукаецца з надпісам *Russia Alba Sive Moskovia* на яго сумеснай з Маркам Беневентана апрацоўцы Айхштэцкай карты.

У 1512 г. польскі вучоны, прафесар Кракаўскага універсітэта Ян са Стабніцы апублікаваў у Кракаве геаграфічны трактат «Уводзіны ў касмаграфію Пталемея» (*Introductio in Ptolomei Cosmographiam*, перавыдаваўся ў 1517,

1519 г. і г.д.)[352]. У гэтую кампіляцыю прац географаў розных краін і эпох увайшоў і вялікі фрагмент працы Пікаламіні «Пра Еўропу», апрацаваны Стабніцкім, дзе згадвалася *Белая Русь*. З таго моманту гэтая назва пачала ўсё часцей выкарыстоўвацца польскімі вучонымі, літаратарамі, дыпламатамі, як правіла, так ці інакш звязанымі з галоўным асяродкам тагачаснай навукі — Кракаўскім універсітэтам. Паводле Стабніцкага, Русь падзяляецца на тры часткі: 1) Русь, якая прылягае з усходу да Малой Польшчы (г.зн. Галіччына); 2) Падолле са сталіцай у Камянцы; 3) «трэцяя частка, якая называецца Белая Русь, распасціраецца на поўначы аж да ліваў, а на ўсходзе аж да р.Танаіс, сумежжа Еўропы і Азіі… Адсюль пачынаецца тая знакамітая рака Барысфен, якую жыхары называюць Непер, ля якой ёсць горад пад назвай Смаленск, у якім знаходзіцца сядзіба мітрапаліта Русінаў. У ёй таксама ёсць вялікі горад, да якога з




**Клаўдзій Пталемей і астралогія. Алегорыя Аронцыя Фінэ (1515 г.).**

самых аддаленых краёў прыходзяць купцы, называючы яго Ноўгарад»[353]. Мяркуючы па прыведзеным урыўку, *Белая Русь* — гэта ўсе ўсходнеславянскія землі, за выняткам належаўшай Польшчы з 1340–х г. часткі Заходняй Украіны. Такім чынам, усе тэрыторыі, да якіх яго папярэднікі дастасоўвалі назву *Белая Русь*, Стабніцкі рызыкнуў механічна звесці ў адно. Іншыя аўтары, нават ведаючы пра розныя лакалізацыі *Белай Русі*, звычайна расстаўлялі акцэнт на якой–небудзь больш ці менш акрэсленай вобласці — «цыс–» ці «трансрыфейскай». Але здаецца, сучасная Беларусь, калі і ахопліваецца *Белай Руссю* Стабніцкага, то не ў першую чаргу.

Прымас Польшчы Ян Ласкі ў справаздачы Латэранскаму сабору (1514) паспрабаваў даць разгорнутую класіфікацыю «каляровых» тыпаў русінаў, выказаўшыся пра «белых» такім чынам: «Белыя Русіны, што называліся калісьці Колхамі ці нават Маскавітамі, маюць свайго ўладара, ці князя, які носіць тытул Вялікага Князя. Яны суседзяць з землямі караля Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, а таксама з уладаннямі Лівоніі і Готыі»[354].

У яго вызначэнні зліваюцца ў адно дзве канцэпцыі *Белай Русі*: па–першае, Вялікі Ноўгарад, суседні з Лівоніяй і «Готыяй», г.зн. Швецыяй; па–другое, «трансрыфейская» *Белая Русь*, сумежная з Польшчай (дакладней, з Украінай, якая польскімі шавіністамі разглядалася як складовая частка Кароны задоўга да Люблінскай уніі). Відавочна, што калі для Калімаха *Белая Русь* была толькі сінонімам «Дзікага Поля», дык для Цёлка, Вапоўскага і Ласкага гэты тэрмін набывае яшчэ і значэнне «Маскоўская дзяржава». Даволі недарэчным выглядае тут атаясамліванне «беларусаў–маскавітаў» з колхамі, г.зн. жыхарамі Калхіды, продкамі сучасных грузінаў. Але і яно ўкладваецца ў сістэму тагачасных гісторыка–геаграфічных ведаў. Супаставім выказванне Ласкага, напрыклад, з трактатам Іакіма Ўата «Кароткае апісанне Азіі, Афрыкі і Еўропы» (Цюрых, 1534): «Народы Сарматыі расселеныя паміж Меацідай і ракой Ра, акружа-

ныя з поўдня Каўказскім хрыбтом. Яны сустракаюцца таксама над Каспіем і Понтам. Першых называюць Албанамі, а другіх Колхамі. Іх імёны атрымалі і краіны: адсюль Албанія, Іберыя і Калхіда»[355].

Адсюль бачна, што тагачасныя еўрапейцы маглі, як і іх папярэднікі ў XIII ст., змешваць *Russia Alba* з Албаніяй сярэднявечных схаластаў, а праз яе — з Каўказскай Албаніяй, якая сапраўды знаходзілася побач з Калхідай і Іберыяй. Гэтую Албанію змяшчалі часам не на сапраўдным месцы, г.зн. на заходнім беразе Каспія, а значна бліжэй да нас, недзе ў нізоўях Волгі. Дастаткова зірнуць, скажам, на ўжо знаёмую нам карту *Orbis Typus Universalis* Вальдзеемюлера (1513), каб пераканацца, што ва ўяўленнях нават прафесійных географаў, не кажучы пра менш дасведчаных людзей, Калхіда, Албанія і *Russia Alba* былі, сама меней, суседзямі. Адрозніць дзве апошнія быў здольны не кожны. Трэба яшчэ дадаць, што назву *Масковія* часта выводзілі ад каўказскага народа мосхаў (таксама адных з продкаў грузінаў), якіх яшчэ вучоныя антычнасці (напрыклад, рымскі географ І ст. н.э. Пампоній Мела) ведалі як суседзяў албанаў і гірканаў[356]. Гэтых мосхаў атаясамлівалі і з міфічнымі народамі «рос» (рош) і «масох» (мешэх) старазапаветнага прарока Езэкіля, якія нібыта жылі калісьці ці то на Каўказе, ці ў Паўночным Прычарнамор'і[357]. Уяўную блізкасць Маскоўскай Русі да Каўказскай Албаніі тыя, хто не ведаў пра наўгародскія вытокі *Белай Русі*, улічвалі пры тлумачэнні паходжання гэтай назвы.

Нельга не прызнаць, што Ян Ласкі, які доўгі час займаў і пасаду кароннага канцлера, дастаткова добра разбіраўся ў справах ВКЛ, дзе не раз бываў і якое аб'ездзіў ад Бярэсця да Оршы. Ягоны зацяты асабісты вораг Цёлэк таксама доўгі час жыў у Літве, з 1494 г. займаючы адказную пасаду сакратара Аляксандра, і ў пасольстве 1501—1502 г. прадстаўляў менавіта ВКЛ, а не Польшчу. Несумненна, ведаў назву *Russia Alba* і сам вялікі князь Аляксандр. Таму, калі б

у той час назва мела якое–кольвечы дачыненне да сучаснай Беларусі, гэты факт наўрад ці ўнікнуў бы іх увагі.

А вось тэрмін «чырвоныя русіны», ужыты Ласкім у той самай латэранскай прамове, мяркуючы па кантэксце, ахопліваў не толькі Украіну, але і Беларусь: «Русіны Чырвоныя мелі калісьці ўласных цароў і нават уласных Вялікіх Князёў. Супраць іх ваявалі каралі Польшчы. [Яны] падначаленыя прававернаму гаспадару і знаходзяцца ў складзе Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. Сярод гэтых Чырвоных Русінаў польскія каралі заснавалі адну мітраполію і сем рускіх епархій»[358].

Крыху раней за «Трактат пра дзве Сарматыі» Мяхоўскага, у 1516 г., і ў той самай кракаўскай друкарні Яна Галера была выдадзеная лацінскамоўная паэма «Пруская вайна» Яна Вісліцкага, якая апавядала пра Грунвальдскую бітву 1410 г. і нядаўнюю Аршанскую перамогу 1514 г. (Дарэчы, пазней, у 1524 г., у той самай друкарні ўбачыла свет і вышэйзгаданая прамова Калімаха да Інакенція VIII[359] — яшчэ адно сведчанне таго, што назва *Белая Русь* была распаўсюджанай у даволі вузкіх акадэмічных колах, якія гуртаваліся вакол Кракаўскага ўніверсітэта).

Дзякуючы Я. Парэцкаму і В. Дарашкевічу, шырокае распаўсюджанне атрымала меркаванне, што ў «Прускай вайне» шмат разоў згадваюцца «беларусы, славутыя сваёй адвагай на вайне»[360]. Але зварот да арыгіналу паэмы пераконвае, што ў большасці выпадкаў тэрміны *Белая Русь* і *беларусы* з’явіліся толькі ў сучасных перакладах:

> «сеющих смерть белорусов, ловко владеющих луком»
> *necnon letifero Russos pugnune paratos arcu* [361];

> «дальше в рядах богатырских шагают вперёд белорусы»
> *agmine quos alio Russi comitantur atroces* [362];

> «Ёсць у мяне беларуская німфа, слаўная па ўсіх краінах…»
> *Est mihi nympha Ruthenorum speciosa sub orbe…*[363].

«На неабдымных палетках у князёў беларускіх магутных (жыць ёй даводзіцца сёння)»
*Quae modo lata Ruthenorum colit arva potentum* [364].

Тэрмін «беларусы», літаральна рассыпаны ў перакладах Парэцкага, трэба аднесці на рахунак яго паэтычнай фантазіі. Гэтаксама ж, як і яго сцвярджэнне, што *Белая Русь* згаданая ў вершы Анджэя Крыцкага (Кшыцкага), напісаным ад імя Барбары Запольяі, жонкі Жыгімонта Старога, які вітаў перамогу, атрыманую ў Аршанскай бітве 1514 г.[365]. На самай справе ў Крыцкага ўсюды гаворыцца проста пра «Русь»[366].

Адзінае ж месца ў арыгінале паэмы, якое мае прамое дачыненне да прадмету нашага даследавання, выглядае так:

*Baltiaci, spumosis irrequieta procellis*
*Ac albos belli celebres virtute Ruthenos* (II — 21,22)[367].

Пераклад яго Парэцкім больш–менш дакладны: «[Ягайло]... Белоруссией, прославленной доблестью воинов, правил». Хаця больш карэктным было б «Белой Русью» ці, лепей, «белыми русинами»[368]. Але не варта атаясамліваць гэтых «белых русінаў» з сучаснымі беларусамі ці, скажам, праваслаўнымі жыхарамі ВКЛ, як гэта шырока прынята. Хутчэй у іх можна бачыць наўгародцаў, тым больш што пэўны кантынгент з Ноўгарада на чале з Сямёнам–Лугвенам браў удзел у Грунвальдскай бітве. Згаданыя побач з «белымі русінамі» татары і масагеты наводзяць на думку і пра «трансрыфейскую» *Белую Русь*. Хутчэй за ўсё, *Белая Русь* для Вісліцкага значыла прыкладна тое ж, што і для Стабніцкага.

Увогуле «Пруская вайна» насычаная лацінскімі псеўдагеаграфічнымі назвамі, такімі як *Thule, Riphaei* і г.д.[369]. Таму ў нейкім сэнсе тут «павінна» была з'явіцца і *Белая Русь*.

Няма, аднак, аніякіх падстаў перакладаць цытату з «Прускай вайны»:

> *Cuius habent triplices vastissima culta Rutheni,* — як:
> «Чорная, Чырвоная, Белая Русь — тут гаспадар навекі»[370].

Даслоўны пераклад гэтага радка: «Чые неабдымныя палеткі ўрабляюць траякія Русіны» (маецца на ўвазе Жыгімонт Стары). Слова *triplices* (траякія) патлумачыў як *albi, rubri, nigri* ўжо выдавец «Прускай вайны» Смярэка, але ў самім тэксце паэмы няма дакладных указанняў наконт таго, якія менавіта тры часткі Русі меў на ўвазе Вісліцкі. Пэўна, яго падзел Русі супадаў з Янам Стабніцкім: Галіччына, Падолле і ўсе астатнія ўсходнеславянскія землі. У працах Бёма і Мюнстэра (мы разгледзім іх у наступным раздзеле), таксама згадваліся тры часткі Русі: адной з іх была *Белая*, але дзве астатнія — гэта *Верхняя* і *Ніжняя*, а не *Чорная* і *Чырвоная*[371].

Уяўленне пра «цысрыфейскую» *Белую Русь*, магчыма, пранікала ў Польшчу і Літву з Паўночнай Еўропы. Польскі астраном, астролаг і тэолаг Марцін Бем, выкладчык Кракаўскага універсітэта, у нататках на палях эфемерыд (астранамічных табліц) за 1499—1551, зробленых на рубяжы XV—XVI ст., вызначаў шырату «Ноўгарада ў Белай Русі» як 61°00‘[372]. Для згаданага Латэранскага сабора Бем па даручэнні папы Льва X рыхтаваў праект рэформы юліянскага календара, і, напэўна, пры напісанні сваёй латэранскай прамовы Ян Ласкі карыстаўся яго дадзенымі.

Цікавую інфармацыю ўтрымлівае ананімны перакладны артыкул з т.зв. Холмскага (знойдзенага ў музеі Холмскага праваслаўнага брацтва) астралагічнага зборніка XVI ст.: «Таврус (лац. *Taurus* — Цялец) землю одръжить подле берега морского и где Канстинтинополь, Татарскии поля, **Белую Русь, где Новгород стоить**, тежь Великую Польску

пръвым лицом...»[373]. Як меркаваў акадэмік А. Сабалеўскі, гэты твор мог быць перакладзены на «заходнерускую» мову (магчыма, з нямецкай) у асяродку прыхільнікаў т.зв. «жыдоўскай ерасі» ў Ноўгарадзе ў канцы XV ст.[374]. Але з роўнай імавернасцю дачыненне да яго ўзнікнення маглі мець іх праціўнікі. Наўгародскі архіепіскап Генадзь для барацьбы з гэтай «ерассю» сабраў свой гурток мясцовых і іншаземных вучоных. У яго ўваходзіў, напрыклад, лекар, астраном і астролаг Мікалай Булеў з Любеку[375], які мог мець дачыненне да ўзнікнення прататыпу артыкула. Хто б ні быў перакладчыкам, ён (магчыма, услед за замежным аўтарам) палічыў неабходным растлумачыць чытачу маласнаёмую назву *Белая Русь*, і яе сэнс у яго тлумачэнні («где Новгород стоить») супадаў з найбольш распаўсюджанай еўрапейскай традыцыяй. Той факт, што побач з Ноўгарадам згаданыя «Татарскии поля», можа паказваць і на ўплыў «трансрыфейскай» *Белай Русі*.

Яшчэ адным дакументам, які дэманструе, як разумелі назву *Белая Русь* у тагачасным ВКЛ, з'яўляецца т.зв. «карта Віда — Ляцкага». Гданьскі гравёр і картограф, родам з Рэйнланда (а не «литвин», як часам сцвярджаюць) Антоні Від разам з аселым у Літве Іванам Ляцкім працавалі над ёй у 1537—1542 г. Магчыма, яны скарысталіся картаграфічнымі матэрыяламі, вывезенымі Ляцкім, былым акольнічым Васіля III, з Масквы ў 1534 г. Яшчэ да апублікавання карты Ляцкі рассылаў яе чарнавыя варыянты вядомым еўрапейскім вучоным, у т.л. Себасцьяну Мюнстэру (1540) і Сігіз-



**«Цмок» — герб роду Ляцкіх у ВКЛ, прыняты Іванам Ляцкім.**

мунду Герберштайну (1541). Некалькі дзесяцігоддзяў яна лічылася адной з самых верагодных карт Масковіі. Яшчэ ў 1570 г. яе перагравіроўваў Франц Хогенберг, адзін з рэдактараў славутай серыі «Гарады зямнога шара»[376]. Між іншым, для гісторыі Беларусі карта Віда — Ляцкага каштоўная яшчэ і тым, што гэта, па сутнасці, найбольш ранні помнік старабеларускага свецкага кнігадрукавання і ці не першая карта, выдадзеная на тэрыторыі Вялікага княства (першае выданне — Антверпен, 1542, другое — Вільня, 1555)[377].

Нягледзячы на сцвярджэнні некаторых даследчыкаў[378], *Alba Russia* тут прысутнічае, праўда, не на самой карце, а на эксплікацыі, даволі доўгай і мудрагелістай: (*Moscovia quae et Alba Russia* [*nominatur* — **кан’ектура А.Б.**] *non contenta Europeae Sarmatiae parte sed et magnum Asiaticae supergressa).*

У літаратуры ўсталяваўся не зусім дакладны пераклад гэтага тэксту з лаціны: «Масковія, **як і ўся Белая Русь**, не абмяжоўваецца часткай Еўрапейскай Сарматыі, але большай часткай распасціраецца ў Азіі»[379]. Сапраўдны ж змест гэтага сказу дапамагаюць аднавіць іншыя крыніцы, напрыклад, дзённік аднаго з кіраўнікоў першай англійскай экспедыцыі ў Расію (1553) Рычарда Чэнслара, апрацаваны для друку ягоным сябрам Кліментам Адамсам, дырэктарам школы ў Грынвічы і «кабінетным» географам–аматарам. (Часам аўтарства гэтага фрагмента дзённіка прыпісваюць выключна Адамсу). У ім гаворыцца, што *Moscovia, quae et Russia Alba nominatur, terra est amplissima* («Масковія, якую таксама называюць Руссю Белай, краіна вельмі вялікая»)[380]. Значыцца, у Віда проста прапушчана слова *nominatur* («называецца»), а тэкст трэба чытаць: «Масковія, якую таксама называюць Руссю Белай». Не абавязкова англічанам была непасрэдна вядомая карта Віда: і адны, і другія маглі ўзяць фразу: *Moscovia, quae et Russia Alba nominatur* — з нейкай агульнай крыніцы.

Такім чынам, калі *Белую Русь* да другой паловы XVI ст. згадвалі ўраджэнцы ВКЛ ці людзі, блізка знаёмыя з гэтай

дзяржавай, яны не дадавалі да трактоўкі гэтага паняцця амаль нічога новага, адрознага ад трывалых заходнееўрапейскіх стэрэатыпаў. Нічога не сведчыць аб тым, што гэтая назва была ім больш блізкай, чым заходнееўрапейскім вучоным. Нават калі на Захадзе назву пачалі часам ужываць (несвядома) у дачыненні да нейкіх частак ВКЛ, самі жыхары гэтай дзяржавы такога значэння назвы яшчэ не ведалі.

## 9. Ад Севільі да Упсалы

Распаўсюджанне ведаў аб *Белай Русі* ў Заходняй Еўропе ў сярэдзіне XVI ст.

З пашырэннем ужытку геаграфічных карт вядомасць *Белай Русі* дасягнула самых аддаленых раёнаў заходнехрысціянскага свету. У Маскве ж першай паловы XVI ст. яе амаль не ведалі. (Пэўнае выключэнне ўяўляюць Сафійскі II і Львоўскі летапісы, але іх складальнікі толькі механічна перапісалі летапісную рэдакцыю «Слова на латыню»). Насуперак сцвярджэнням некаторых беларускіх гісторыкаў, вялікі князь маскоўскі Васіль III, як і яго бацька Іван III, ніколі не ўжываў тэрміна *Белая Русь* у якасці назвы сваёй дзяржавы, у тым ліку і ў «лісце да папы Клімента VII»[381]. Гэтая досыць распаўсюджаная аблуда, магчыма, тлумачыцца абставінамі маскоўскага пасольства да Клімента VII ў 1525 г. Прысутны тады ў Рыме кардынал Навакомскі Паала Джовіа шмат часу правёў у гутарках з перакладчыкам пасольства Дзмітрыем Герасімавым, таленавітым і, паводле маскоўскіх мерак, адукаваным чалавекам, які падрабязна апісаў еўрапейцам сваю радзіму, нават, як мяркуюць, склаў яе карту. Сам Джовіа не вельмі добра ўяўляў сабе геаграфію *Масковіі*: ён нават параўноўваў яе з «іншымі сусветамі» Дэмакрыта, маючы на ўвазеневерагоднасць звестак аб гэтай далёкай краіне, у само існаванне якой, здаецца, было няпроста паверыць. Атрыманыя ад Герасімава звесткі Джовіа абагульніў у кнізе «Пра пасольства Васіля, вялікага князя Маскоўскага» (Рым, 1525). У ёй сапраўды ў адным месцы *Белаю Руссю* названая Маскоўская дзяржава: «Гэтую краіну [Масковію] здаўна насялялі Раксаланы, Геты і Бастарны, адкуль, як я мяркую, узнікла і назва Русі, бо частка Літвы называецца ніжняй Руссю, а сама Масковія — белаю Руссю»[382].

Але наўрад ці гэта было меркаванне самога Герасімава, і тым больш — яго гаспадара. Праўда, некаторыя факты

біяграфіі Герасімава (наўгародскае паходжанне, вучоба лаціне ў Лівоніі ў юнацтве і належнасць да гуртка архіепіскапа Генадзя) маглі паспрыяць яго асабістаму знаёмству з гэтай назвай. Хутчэй, аднак, сам кардынал спасылаўся на *Белую Русь* як на добра вядомую заходняму чытачу назву. Крыху ніжэй робіцца зразумелым, чаму Джовіа называе *Белаю Руссю* менавіта Масковію, — калі ён удакладняе, што «не шмат гадоў таму сталіцаю ўсяе Масковіі быў Ноўгарад»[383]. Зразумела, Ноўгарад ніколі не быў «сталіцаю Масковіі», але ён быў сталіцай *Белай Русі*, назву якой перанеслі на Масковію з захопам ёю земляў Дому Святой Сафіі — згодна з тым жа прынцыпам *pars pro toto*.

Згаданая кардыналам Навакомскім версія паходжання назваў *Русь* увогуле і, у прыватнасці, *Белая Русь* ад раксаланаў доўгі час заставалася агульным месцам у еўрапейскай навуцы[384]. У XVI ст. у той ці іншай форме яна сустракаецца, напрыклад, у Франчэска Т'епала[385], Марціна Бельскага[386] і ў Аляксандра Гваньіні[387]. У XVII ст. раксаланаў называюць продкамі *русі* Густынскі летапіс (каля 1623)[388] і «Англійскі атлас» Мозэса Піта (1680)[389] — канешне, гэта далёка не поўны пералік. Нават на пачатку XX ст. Л. Падалка лічыў, што тэрмін *русь* паходзіць ад этноніма рокс–аланы: быццам бы «белыя» — у сэнсе «вольныя, незалежныя» — аланы, якія ў першай палове I тыс. жылі над Дняпром і пазней нібыта змяшаліся са славянамі[390]. Развіваючы думку Падалкі, В. Астроўскі даводзіў: адно з адгалінаванняў аланаў было вядомае як «аорсы» («белыя») ці «аланорсы» («белыя аланы»), знаходзячы ў гэтым указанне на этымалогію *Белай Русі*[391]. Мы не схільныя бачыць рэальную сувязь паміж назвамі нейкіх аланскіх плямёнаў ці саюзаў і *Белай Руссю*[392]. Але такая сувязь магла ўяўляцца верагоднай некаторым еўрапейскім аўтарам XV—XVI ст., паслужыўшы яшчэ адной падставай лакалізацыі імі *Russia Alba* ў Паўночным Прычарнамор'і і Прыазоўі, а не ў Паўночна–Заходняй Русі[393].

Аднак «цысрыфейская» лакалізацыя *Белай Русі* была больш папулярнай. Вядомы англійскі мараплавец Себасцьян Кабот на этапнай для брытанскай картаграфіі карце свету (1544) змясціў надпіс *Ducatus Moscobia, Rusia Alba sive Moscovia* ў ваколіцах Ноўгарада[394]. Дарэчы, менавіта Кабот кансультаваў першую марскую экспедыцыю англічанаў у Расію ў 1553 г.; гэта, мусіць, ён паўплываў на фармаванне ўяўленняў Клімента Адамса, з якім асабіста сябраваў, пра *Белую Русь*[395]. На версіі згаданай вышэй Айхштэцкай карты (каля 1530), якую выканаў венецыянскі гравёр Джавані Андрэа Вавасорэ, думка аб тым, што *Белая Русь* — частка Ноўгарада, праілюстраваная найбольш выразна, нават даслоўна: на ўсход ад *Suetiae Maioris* пададзеная *Russia alba pars Novgardiae*[396]. На дрэварытавай карце Еўропы ў традыцыі Мікалая Кузанскага, выкананай Генрыхам Цэлем (Нюрнберг, 1535), надпіс: *Russia Alba — Die weissen Reussen,* размешчаны над надпісам: *Novogardia ducatus* — на ўсход ад «Вялікай Швецыі» (*Suetia Maior*), што нагадвае *Suitiod hin micla* скандынаўскіх геаграфічных твораў[397]. Паводле карты паўшар'еў у форме сэрца *Orbis Imagine* (Лувэн, 1538) славутага фламандскага картографа Герарда Меркатара, *Russia Alba* знаходзілася на ўсход ад Фінскай затокі[398].




**Дэталь карты паўшар'яў Герарда Меркатара. Надпіс *Russia Alba* размешчаны ўздоўж ракі, якая ўпадае ў Фінскую затоку з усходу, хутчэй за ўсё, Нявы. Такая лакалізацыя можа быць указаннем на Іжорскую зямлю, узыходзячы да нейкіх скандынаўскіх крыніц, ускосным пацвярджэннем чаго з'яўляецца „Хроніка Эрыка“.**

Шведскі каталіцкі святар і асветнік Олаўс Магнус, высланы з радзімы як праціўнік Рэфармацыі[399], на «Марской карце Скандынавіі» (*Carta Marina Scandinavia*, Венецыя, 1539; 2–е



**Герард Меркатар. Партрэт Г. Гольцыўса (1574).**

выданне — Рым, 1574) змясціў *Белую* і *Чорную Русь* (*Russia alba* і *Russia regalis nigra*) у Паўночна–Заходняй Расіі, на ўсход ад Эстоніі і Лівоніі. *Russia alba* (у якую Магнус уключыў і Іжорскую зямлю) паказаная паміж Фінскай затокай і Чудскім возерам (*Peibas lacus*), аддзеленая р. Нарвай ад Масковіі. *Russia regalis nigra* — на Паўднёвым Захадзе ад *Russia alba*, паміж рэкамі Вялікай і Зах. Дзвіной. Пазней, у 1555 г., Магнус выдаў у Рыме сваю галоўную працу «Гісторыя паўночных народаў», якая, між іншым, змяшчала і гістарычныя ды этнаграфічныя звесткі аб ВКЛ, падрабязна апісвала літоўскае пасольства на чале з Мацвеем Гедройцам у Маскву ў 1551 г. Так што Вялікае княства не было для Магнуса зусім ужо *terra incognita*. Ён быў блізка знаёмы з Б. Вапоўскім, часта бываў у Польшчы, іншым разам выконваў дыпламатычныя даручэнні караля Жыгімонта Старога. Працу над картай і кнігай пачаў, жывучы ў 1527—1532 г. у Гданьску. У гэтым горадзе з пераважна нямецкім насельніцтвам, цесна звязаным з Ганзай, харонім *Белая Русь* быў дастаткова вядомы — прыгадаем таго ж Віда. Але Магнус даведаўся пра яго яшчэ ў Швецыі. Паводле «Гісторыі паўночных народаў», яму даводзілася сустракацца з «белымі русамі» (*russi albi*) у Фінляндыі, у прыватнасці, на кірмашы ў Торніа[400]. Зразумела, гутарка магла ісці толькі пра жыхароў паўночнага ўсходу Расіі — наўгародцаў ці памораў, а не пра насельнікаў ВКЛ.



***Carta Marina Scandinavia*** **Олаўса Магнуса (1539).**

Звесткі Магнуса надзвычай каштоўныя тым, што гэта пакуль адзіная з вядомых нам акрэсленых згадак пра *Белую Русь*, якая належыць скандынаву (не лічачы ўскоснага ўказання на яе ў «Хронiцы Эрыка»). Было б вельмі цікава, калі б знайшліся і іншыя. Магчыма, гэта дазволіла б праверыць нашу гіпотэзу пра скандынаўскае паходжанне тэрміна. У кожным разе, цяжка ўявіць, каб шведы, на працягу стагоддзяў непасрэдныя суседзі Вялікага Ноўгарада, не пакінулі больш ніякіх сведчанняў пра тую яго назву, якую лівонскія і ганзейскія немцы ўжывалі даволі шырока.

Чарговай вехай у развіцці еўрапейскай геаграфічнай навукі стала «Усеагульная Касмаграфія» прафесара Базельскага універсітэта Себасцьяна Мюнстэра. Гэтая кніга (1–е лац. выданне — Базель, 1544), пакліканая абагульніць дасягненні навачаснай геаграфіі і ў нейкім сэнсе замяніць «Геаграфію» Пталемея, прынесла аўтару славу «Нямецкага Страбона».

Працы над «Касмаграфіяй» Мюнстэр прысвяціў 18 гадоў жыцця[401]. З сучаснага пункту гледжання «Касмаграфія», не зважаючы на значную колькасць змешчанага ў ёй арыгінальнага матэрыялу, усё ж з’яўляецца тыповай кампіля-



**Себасцьян Мюнстэр. Дрэварыт з базэльскага выдання «Усеагульнай Касмаграфіі» (1559).**

цыяй, у якой лёгка прасачыць цэлыя абзацы, амаль без змен запазычаныя ў іншых аўтараў. Прычым Мюнстэр звычайна нават не каменціруе непазбежныя разыходжанні ў іх меркаваннях. Гэта датычыць і назвы *Белая Русь*, якая ўжываецца Мюнстэрам, прынамсі, у трох розных значэннях:

1) У адным месцы ён паведамляе, што «Русь, якую называюць таксама Рутэнія і Падолія, падзяляецца на Белую, Верхнюю і Ніжнюю. З'яўляючыся часткай каралеўства Польскага (яе называюць яшчэ Раксаланія), яна мае з усходу Масковію...»[402].

Відавочна, гэты сказ паходзіць з працы нямецкага вучонага, манаха кляштара Тэўтонскага Ордэна ў Ульме Яна Бёма (Багемскага) «Аб звычаях усіх народаў»:

«Русь, якую называюць таксама Рутэнія і Падолія, дзеліцца на тры часткі: Белая, Верхняя і Ніжняя. Гэта тая частка Сарматыі, якая мяжуе з Польшчай. На поўначы абмежаваная ракой Пячорай, на ўсход ад яе — Маскаль, а з захаду знаходзяцца Лівонія і Прусія, найбольш аддаленыя часткі Германіі»[403].

Прыведзенаму апісанню, безумоўна, найлепш адпавядае Наўгародская рэспубліка, а не сучасная Беларусь. Адпаведна, на карце Азіі, якая прыкладалася да розных прац Мюнстэра, выдадзеных паміж 1540 і 1578 г., *Russia Alba* знаходзіцца на захад ад дэльты Паўночнай Дзвіны (*Diuidna fl.),* на поўнач ад вобласці *Colmogora regio*, недзе побач з Кольскім паўвостравам[404]. Але чамусьці на картах самой

Масковіі (1538, 1540, 1544, 1559 і інш.), дзе, здаецца, гэтая назва мусіла абавязкова прысутнічаць, Мюнстэр яе не дае ўвогуле[405].

Не выпадкова *Русь* і *Падолле* ў Мюнстэра, Бёма і некаторых іншых аўтараў выступаюць як харонімы аднолькавага маштабу. Рэч у тым, што яны не адрознівалі Русі ў шырокім сэнсе — сукупнасці ўсіх усходнеславянскіх земляў — ад Русі–Галіччыны, далучанай да Польскага каралеўства ў 1340–х г. На Захадзе гэты другі сэнс хароніма «Русь» часта дамінаваў — з падачы палякаў. Так, Ян Длугаш называў «Руссю» выключна заходнеўкраінскія землі пад уладай Польшчы, часта нават толькі «Рускае» ваяводства з цэнтрам у Львове[406], выключаючы Падолле з цэнтрам у Камян-




**Фрагмент карты т.зв. тыпу *Landtafel* (1588). На картах гэтага тыпу, якія амаль ідэнтычныя карце Мюнстэра *Polonia et Ungaria Nova Tabula* (1540), *Белая Русь* прыкладна адпавядае Старадубскаму і Ноўгарад-Северскаму княствам першай трэці XVI ст., як у Беневентана—Вапоўскага (1507) і Вальдзеемюлера (1513).**

цы. Адсюль і двучленная формула «Падолле і Русь» (*Podolia ac Russia*). Казімір IV у 1468 г. пісаў пра Крымскае ханства як пра «сумежнае з маймі землямі Руссю і Падоллем»[407], а згаданы вышэй Філіп Калімах пісаў пра «Падолле і Белую Русь». Зразумела, падзяляцца на Белую, Верхнюю і Ніжнюю магла толькі «ўся Русь», а не невялікая яе частка (*Ruthenia et Podolia*), за якой з цягам часу замацаваўся эпітэт «чырвоная».

2) На дрэварытавай карце Польшчы і Венгрыі (*Polonia et Ungaria Nova Tabula*), якая ўпершыню з'явілася ў Базельскім выданні «Геаграфіі» Пталемея (1540), Мюнстэр лакалізуе *Russia Alba* ў раёне паміж Чаркасамі, Пуціўлем і Ноўгарадам–Северскім, над рэкамі Дняпро, Дзісна і Псёл[408]. Варыянтамі гэтай карты з'яўляюцца карта *Nuova descrizzione della Polonia & dell' Ungaria* (1558), створаная для італьянскіх выданняў «Касмаграфіі», а таксама *Poloniae et Ungariae Tabula* з чарговага лацінскага выдання (1572)[409]. Падобныя на іх і нямецкамоўныя карты, змешчаныя ў базельскіх выданнях «Касмаграфіі» 1544 і 1588 г., так званага тыпу *Landtafel*[410]. Такім чынам, на большасці карт Мюнстэра *Белая Русь* прыкладна адпавядае Старадубскаму і Ноўгарад–Северскаму княствам, як у Беневентана — Вапоўскага і Вальдзеемюлера.

3) Ці не найбольш падрабязна пра *Белую Русь* Мюнстэр распавядае ў нямецкім выданні «Касмаграфіі» (Базель, 1550 г.): «На Белай Русі (*Weyssen Reussenland*), якая ляжыць над Дняпром, маецца нашмат больш травяністых раслін, чым на Доне (ці Танаісе), там таксама шмат трыснёгу (*Reu Ponticum*), які расце і ў Літве, і ў пяць разоў больш розных траў і карэнняў, якія нідзе больш не сустрэнеш... Белая Русь (*Die weyssen Reussen*) знаходзіцца пад князем Масковіі (*Masouia*). Пад ім знаходзіцца таксама і вялікі горад Нойгардзія, ці Ноўгарад, пра які асабліва шмат сказана ў апісанні Літвы. Пра гэты горад узнікла такая прыказка: «Хто не любіць Бога, той не любіць Ноўгарад»[411]. Бачна, што спачатку Мюнстэр, напэўна, пад уплывам Мартэла і Руй-

ша, мае на ўвазе класічную «трансрыфейскую» *Белую Русь*[412] (хаця, здаецца, ніводная з карт Мюнстэра не лакалізуе гэтую назву над Донам), але ніжэй вядзе гутарку ўжо пра «цысрыфейскую».

Апроч Мартэла і Руйша, асноўнымі крыніцамі Мюнстэра пры апісанні Усходняй Еўропы традыцыйна лічаць звесткі Мяхоўскага, Джовіа (чыю кнігу якраз нядаўна, у 1537 г., перавыдалі ў Базелі), Ляцкага. Магчыма, сюды трэба дадаць Роджэра Бэкана. На гэта паказваюць, у прыватнасці, выказванні Мюнстэра аб веры і мове русінаў[413], якія амаль даслоўна паўтараюць *Opus Majus*. Таму не выключана, што на фарміраванне ўяўленняў Мюнстэра пра *Белую Русь* паўплывалі і ўяўленні Бэкана пра «Заходнюю» і «Верхнюю» Албанію.

Вялікі ўплыў тэарэтычныя погляды Мюнстэра і яго картаграфічная творчасць аказалі на афіцыйнага касмографа Венецыянскай Рэспублікі Джакома Гастальды. Аднак на




**Карта Гастальды *Moschovia Nvova Tavola* (1561).**

сваіх картах, у адрозненне ад славутага базельца, ён нязменна прадстаўляў толькі «цысрыфейскую» *Белую Русь*. Карта *Moschovia Nova Tabula* (Венецыя, 1548) з італьянскага перакладу Пталемея ў мюнстэраўскай рэдакцыі 1540 г. паказвае *Rossia bianca* паміж Ноўгарадам і Халмагорамі, на поўдзень ад Ладажскага возера, якое Гастальды прымаў за заліў Паўночнага акіяна[414]. З нязначнымі пераробкамі гэтую карту Гастальды перавыдаў у 1561 г. (*Moschovia Nvova Tavola*)[415].

На карце для італьянскага перакладу «Нататак» Герберштайна (Венецыя, 1550) Ладажскае возера прадстаўленае Гастальды ўжо даволі дакладна, а *Rossia bianca* знаходзіцца на поўнач ад яго, адпавядаючы прыкладна цэнтральнай Карэліі[416]. Тое ж назіраем і на яго карце Масковіі 1566 г.[417], і на так званай «Карце Фларэнтыйска-



***Rossia bianca* на карце Гастальды для італьянскага перакладу „Нататак“ Герберштэйна (Венецыя, 1550), прыкладна адпавядае Цэнтральнай Карэліі.**

га ювеліра» (Венецыя, 1555), аўтарам якой быў грэк з Крыта Георгій Калапода[418].

На зводнай карце Расіі невядомага аўтара, складзенай паводле даных Герберштайна і англічаніна Энтані Джэнкінсана (цікавая для нас заходняя частка грунтуецца на Герберштайне), на поўнач ад «Навагардзіі» (*Novogardia*), паміж Ладажскім, Анежскім і Белым азёрамі — што супадае з раёнам рассялення вепсаў — змешчана *Russia*. Іншых «Русій» на карце няма, значыць можна меркаваць, мелася на ўвазе менавіта *Russia Alba*[419]. Імаверна, сам Герберштайн больш схіляўся да «цысрыфейскай» лакалізацыі *Белай Русі*.

Такім чынам, калі большасць аўтараў XV — пачатку XVI ст. пад *Белай Руссю* мела на ўвазе пэўную кампактную вобласць — «цыс–», або «трансрыфейскую», то для аўтараў сярэдзіны XVI ст., якія кампілявалі з некалькіх няўзгодненых паміж сабой крыніц, абрысы *Белай Русі* як бы размываліся. Пагаджаліся толькі ў тым, што звязвалі *Белую Русь* з Маскоўскай дзяржавай, разглядаючы яе альбо як сінонім *Масковіі*, альбо як нейкую яе складаную частку ці калонію.

З сярэдзіны 1550–х г. у трактоўцы назвы *Белая Русь* намеціўся чарговы зрух. Паколькі на Захадзе не заўжды адэкватна ўяўлялі сабе, дзе рэальна праходзіць мяжа паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, часта праводзячы яе па Дняпры, вучоная назва *Масковіі* паступова распаўсюджвалася на ўсё левабярэжжа Дняпра, — але менавіта на абстрактную, а не канкрэтную тэрыторыю. Нават для аўтарытэтнага тагачаснага польскага картографа Вацлава Градэцкага, які мусіў бы лепш за заходніх еўрапейцаў ведаць тэрыторыю ВКЛ і чыя карта Польшчы і ВКЛ да канца XVI ст. лічылася ўзорнай (яна была нават выкарыстана ў першым геаграфічным атласе *Theatrum Orbis Terrarum* Абрахама Артэлія), Дняпро ўяўляўся ракой, што цячэ амаль строга з поўначы на поўдзень, з'яўляючыся амаль на ўсім працягу

ўсходняй мяжой ВКЛ[420]. Такую канцэпцыю можна лічыць далейшым развіццём уяўленняў, адлюстраваных на карце Беневентана — Вапоўскага (1507).

Новы погляд на Белую Русь бачны, напрыклад, у «Разважанні пра Масковію» (*Discorso della Moscovia*), якое раней прыпісвалася Марку Фаскарына, венецыянскаму пасланніку ў Маскву ў 1557 г.[421]. Насамрэч аўтарства Фаскарына больш чым сумніўнае, але «Разважанне» сапраўды належыць пяру нейкага венецыянца, які наведаў Маскоўскую дзяржаву паміж 1553 і 1557 г. — хутчэй за ўсё, ён трапіў туды паўночным шляхам, праз Нарвегію[422]. Звесткі псеўда–Фаскарына грунтуюцца ў асноўным на «Кнізе пра маскоўскае пасольства» Джовіа, як у наступным выпадку: «Гэтая краіна раней была населеная Раксаланамі, Гетамі, Дакамі і Бастарнамі, адкуль, як мяркуюць, узнікла і імя Русіі, бо адна частка Літвы называецца ніжняй Русіяй, а іншая, нядаўна пакораная маскавітамі, белаю Русіяй»[423]. Але ў адрозненне ад кардынала Навакомскага венецыянец называе *Белай Руссю* не ўсю Маскоўскую дзяржаву, а толькі «частку Літвы, нядаўна пакораную маскавітамі». Паколькі трактат пісаўся да Лівонскай вайны, дык гутарка магла ісці толькі пра заваёвы канца XV — пачатку XVI ст., перш за ўсё пра Вялікі Ноўгарад. Ён, дзякуючы ягелонаўскай прапагандзе лічылі на Захадзе, належаў раней Літве. У той жа час, ніжэй псеўда–Фаскарына піша: «зарэчная (*ulteriore*) Русь, якую называюць белай, падуладная маскавітам; частка яе належыць ім, а частка — палякам»[424]. У даным выпадку вызначэнне «зарэчная» датычыць левабярэжжа Дняпра, а «частка, якая належыць маскавітам», адпавядае Смаленску з акругай. Гэта пацвярджае і карта Расіі, складзеная Джэнкінсанам каля 1562 г. Побач са Смаленскам, паказаным на літоўскім баку мяжы, на ёй змешчаны надпіс: «Гэтая частка Літвы падначаленая імператару Расіі»[425].

Вельмі падобны на «Разважанне пра Масковію» іншы італьянскі трактат пра Маскоўскую дзяржаву (*Delle cose di*

*Moscouia*), складзены таксама венецыянцам, Франчэскам Т’епала, у 1559 г. У ім заваёвы Івана III пракаментаваны наступным чынам: «[Іван III], адняўшы ўладанні некаторых сваіх васалаў і падначаліўшы некаторыя іншыя вобласці, адкінуў тытул [князя] Русі і прыняў новы [тытул князя] Масковіі, чаму і ўся гэтая краіна Белай Русі (*Rossia bianca*), якая была ўладаннем яго і яго сына, аддзеленая ад Чырвонай Русі (*Russia Rossa*) вялікай ракой Дняпро (*Neper*), атрымала імя Масковіі»[426]. Дапушчаная тут грубая памылка (агульнавядома, што, наадварот, Іван III, не задаволены тытулам «усяго толькі» вялікага князя маскоўскага, прыняў тытул «государя всея Руси») лішні раз паказвае, наколькі блытанымі і неверагоднымі былі веды заходніх еўрапейцаў пра ўсход кантынента. У іншым месцы Т’епала паведамляе: «Джавані [Іван III], дзед цяперашняга князя, убачыўшы, што ўся Чырвоная Русь і частка Белай, з дапамогай палякаў і літоўцаў, ужо вызваліліся ад ярма [татарскага] рабства, а татары аслабленыя ўнутранымі войнамі, знясіленыя і знаходзяцца ў разладзе, адмовіўся ад аплаты даніны, здаўшыся на свае сілы... Яму наследаваў Базыліа [Васіль III], які... адняў у літоўцаў частку Белай Русі, якая ім належала, зрабіўшыся такім чынам гаспадаром усяе Русі»[427].

Канчатковы ж перанос назвы *Белая Русь* на паўночны ўсход цяперашняе Беларусі, перш за ўсё на Полаччыну, адбыўся ў 60–х г. XVI ст. У наступным раздзеле мы паспрабуем высветліць, чаму гэта здарылася менавіта падчас Лівонскай вайны.

## 10. „Как был Полотеск за царем...“
Лівонская вайна і перанос назвы на Полаччыну

Чарговае пераасэнсаванне назвы *Белая Русь*, якое намецілася ў Т’епала, псеўда–Фаскарына, Джэнкінсана, найбольш паслядоўна ўвасобілася ў працах славутага польскага гісторыка, вармінскага біскупа Марціна Кромера. Можна сцвярджаць, што менавіта ён у сваёй «Гісторыі палякаў» (Базель, 1555) першым **свядома** ўжыў назву *Белая Русь* у дачыненні да нашай краіны. Апісваючы тэрытарыяльныя захопы Івана III, Кромер адзначыў, што: «Іван, князь маскоўскі, заняволіўшы Вялікі Ноўгарад, захапіўшы многія крэпасці і ўмацаванні на мяжы з Руссю, якая **завецца Белай і знаходзіцца пад уладай вялікага князя літвінаў**, уяўляў для астатняй Русі і Літвы сур’ёзную пагрозу»[428]. «Гісторыя палякаў» адразу ж па выхадзе набыла шырокую вядомасць у Еўропе як самая аўтарытэтная крыніца ведаў па гісторыі Польшчы і ВКЛ. Пэўна, ужо Т’епала і псеўда–Фаскарына ў сваіх меркаваннях пра *Белую Русь* абапіраліся менавіта на Кромера. Разумеючы, што агульных звестак пра геаграфію Польшчы і ВКЛ цікаўнаму чытачу можа быць недастаткова, Кромер падрыхтаваў своеасаблівы гісторыка–геаграфічны даведнік да «Гісторыі палякаў», упершыню апублікаваны ў 1575 г. у Франкфурце–на–Одэры пад назвай «Польшча, або Пра становішча, народы, звычаі, кіраванне і дзяржаўны лад Польскага каралеўства»[429]. За час, што прайшоў з сярэдзіны 1550–х, у становішчы Польшчы і ВКЛ адбыліся адчувальныя змены, галоўнымі з якіх быў захоп у 1563 г. Полацка і акругі Іванам IV і Люблінская унія 1569 г., і яны знайшлі сваё адлюстраванне ў чарговай працы вармінскага біскупа. *Белая Русь* у «Польшчы...» згадваецца некалькі разоў, але не ў адназначным сэнсе. Сучасны перакладчык і выдавец гэтага твора Казікоўскі вылучае ў яго тэксце дзве *Белыя Русі*: *Russia Alba* — Украіну (усходнюю), якая мяжуе з Падоллем і Ва-

лынню і праз якую цякуць Дняпро і Паўднёвы Буг, і *Russia Alba* — Беларусь (таксама ўсходнюю). Ды наўрад ці Кромер свядома раздзяляў гэтыя рэгіёны. На працягу XVI ст. «цысрыфейская» *Белая Русь* паступова «дрэйфавала» на поўдзень, з Паўночна–Заходняй Расіі на сучасныя беларускія Падзвінне і Падняпроўе, а «трансрыфейская», наадварот, на поўнач. Гэтыя дзве *Белыя Русі* ў разуменні Кромера зліваюцца ў адзін край. Ён займае велізарную прастору: ад 57° паўночнай шыраты і ледзь не да Дняпроўскага лімана, ахопліваючы ўсе тыя землі далюблінскай Літвы, якія лічыліся *рускімі* (за выняткам Валыні ды Падолля, «правы» Кароны на якія палякам падаваліся неабвержнымі і задоўга да 1569 г.).

Калі ў Кромера *Белаю Руссю* называюцца ўкраінскія землі, ён працягвае традыцыі Калімаха, Цёлка, Ласкага:

«Дняпро, які цячэ на вялікім працягу праз Белую Русь і сумежнае з ёй Падолле, урэшце ўпадае ў Чорнае мора»[430];

«…усходнюю граніцу Русі і ўсяго Польскага каралеўства замыкае Падолле, якое на поўдні і ўсходзе мяжуе з Белай Руссю»[431];

«Бог, ці інакш Буг [Паўднёвы. — **А.Б.**] бярэ пачатак з багністай мясцовасці ў Падоллі, пад 49° даўгаты і 49° 30‘ шыраты, таксама цячэ праз Белую Русь і, адхіляючыся ў паўднёвым кірунку на значным працягу, цячэ на ўсход, але ўрэшце ўпадае ў Дняпро [г.зн. у Дняпроўскі ліман. — **А.Б.**]»[432]. Можна дапусціць, што гэтае месца ў Кромера ўзыходзіць да Пампонія Лэта (ці, прынамсі, перагукаецца з ім)[433].



**Марцін Кромер, славуты польскі гісторык, які першым свядома ўжыў назву *Белая Русь* у дачыненні да нашай краіны.**

Што ж датычыць ужывання Кромерам тэрміна *Russia Alba* ў значэнні «сучасная Беларусь», трэба зрабіць неабходныя ўдакладненні. Пералічваючы «новыя набыткі [Кароны Польскай]» у выніку Люблінскай уніі 1569 г., ён удакладняе: «Палессе, суседнія Русь, Валынь, Падолле, Інфлянты і Прусія герцагская, Літва са Жмуддзю і Белая Русь, якая мяжуе з Масквой (што ўсё складае зараз адно каралеўства)... апошняя мяжа Белай Русі дасягае 57 градусаў [паўночнай] шыраты, у той час як паўночны край Жмудзі дасягае 56°»[434]. Гаворачы тут аб *Белай Русі*, ён, здаецца, меў на ўвазе ўжо не Наўгародчыну і яшчэ не ўласна Беларусь у тым значэнні, якое надавалася гэтаму хароніму ў XVII—XIX ст. Кромер, улічым, даволі дакладна вызначае шыроты (напрыклад, паўночны край Жмудзі сапраўды дасягае 56° п.ш.). І значыць, ягонае выказванне, што *Белая Русь* дасягае 57° (крыху далей на поўнач за Вялікія Лукі), можна растлумачыць так: у яе склад ім уключаліся, апроч *рускіх* земляў ВКЛ і, магчыма, Смаленшчыны, паўднёвыя часткі Наўгародчыны і Пскоўшчыны — землі ў вярхоўях рэк Вялікая, Ловаць, Дняпро і Дзвіна, страчаныя ВКЛ у 1486—1537 г.

Тут дарэчы прыгадаць, як на працягу ўсяго XVI ст. адбываліся дыпламатычныя перамовы паміж прадстаўнікамі ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы. Звычайна яны пачыналіся з так званых «высокіх» узаемных прэтэнзій, г.зн. такіх, з якімі іншы бок не мог пагадзіцца ў прынцыпе. Прадстаўнікі Крамля патрабавалі «вяртання» Полацка, Віцебска, Кіева і г.д. У сваю чаргу, літоўскія дыпламаты настойвалі на сваіх «законных» правах на Ноўгарад, Пскоў і Цвер[435]. Аднак, хаця непрымальнасць максімальных патрабаванняў і ўсведамлялася бакамі, гэта быў не толькі прапагандысцкі прыём, але і дэкларацыя знешнепалітычных праграм–максімум. Для Рэчы Паспалітай такая праграма прадугледжвала аднаўленне тых межаў на ўсходзе, якія склаліся пры Вітаўце. «Не токмо Псков толикою силою возьму и с его пригороды, но и Великий Новгород и со всеми пределы новгородскими», —

дэклараваў Стэфан Баторы[436]. Калі ж арыентавацца на больш памяркоўныя патрабаванні — аб аднаўленні межаў ВКЛ да пачатку маскоўскай «рэканкісты», г.зн. прыкладна на 1486 г., — дык каардынаты 57° п.ш. не выглядаюць выпадковымі. Дакладна на такой шыраце (крыху на поўдзень ад г. Холм) знаходзіліся найбольш паўночныя з тых наўгародскіх валасцей, на якія ў перыяд найбольшай магутнасці ВКЛ распаўсюджваліся літоўскія падаткі. На



***Russia Alba* на карце Еўропы Каспара Вопеля (Антверпен, 1566). Прыцягвае ўвагу няпраўдападобна вялікае Белае возера (*Lacus Candidus*), нібыта выток Волгі, Дняпра і Дзвіны.**

57° п.ш. змяшчалі паўночную мяжу *Белай Русі* і многія карты XVII ст.[437]. Яшчэ адным сведчаннем на карысць гэтай гіпотэзы можна лічыць карту Еўропы кёльнскага прафесара матэматыкі Каспара Вопеля (Антверпен, 1566). *Russia Alba* на ёй паказаная ў раёне Веліж — Таропец — Ржэў — Вялікія Лукі[438].

Такім чынам, менавіта ў варунках Лівонскай вайны, калі перад Рэччу Паспалітай паўстала задача вяртання Полацка (а найбольш радыкальныя памкненні былі скіраваныя і на далучэнне ўсіх тых усходнеславянскіх тэрыторый, якія пры Альгердзе і Вітаўце ўваходзілі ў сферу ўплыву ВКЛ), назва *Белая Русь*, якая са скасаваннем якой–кольвечы адметнасці Ноўгарада апынулася як бы ў «падвешаным» стане, перайшла на сумежную тэрыторыю ВКЛ — у першую чаргу, на Полаччыну. Апошняя, знаходзячыся пад уладай Івана Жахлівага, па некаторых адміністрацыйных прыкметах складала адно цэлае з прылеглымі расійскімі тэрыторыямі. Напрыклад, Полацк і Вялікія Лукі ўваходзілі ў адно епіскапства[439]. З пункту гледжання Кромера, у статусе Полацка і, скажам, Таропца, Себежа, Веліжа, Вялікіх Лук не было вялікай розніцы. Усе гэтыя «новыя набыткі Кароны Польскай» належала яшчэ адваяваць у Масквы. У выніку поспехаў Баторыя яны на кароткі час апынуліся пад яго ўладай. Нунцый Джаванні Калігары ў лісце Стэфану Баторыю ад 29 красавіка 1581 г. прасіў забяспечыць праезд легата Антоніа Пасевіна праз «найвялікшае Каралеўства Польскае, Вялікае княства Літоўскае, Белую Русь і Лівонію»[440]. Вельмі імаверна, што пад гэтай *Белай Руссю* разумеліся ўсе землі, занятыя Баторыем у 1579—1581 г. У кастрычніку 1581 г. Іван Жахлівы патрабаваў ад Баторыя вярнуць «Луки Великия, и Невль, и Заволочье, и Холм, и псковские пригороды, что король поимал»[441]. Але ж усе пералічаныя тэрыторыі ў «цысрыфейскай» традыцыі звязваліся з *Белаю Руссю.*

Пэўны час і для пэўных аўтараў паняцце *Белая Русь* магло ахопліваць тэрыторыю па абодвух баках маскоўска–літоўскай мяжы 1561 г. Такі прамежкавы стан, магчыма, у нейкай ступені адлюстраваны і ў пазнейшым выказванні польскага пісьменніка Шымона Старавольскага. Ён назваў *Белую Русь* «сумежнай і падуладнай Вялікаму княству Літоўскаму» (гл. наступны раздзел). Невыпадкова Старавольскі адзначаў, што «першы горад Белай Русі — гэта Полацк, які ляжыць над ракой Дзвіной»[442]. Менавіта Полацк, які 16 гадоў знаходзіўся пад уладай Масквы, стаў першым горадам у ВКЛ, да якога пачалі прывязваць лакалізацыю *Белай Русі*.

Расійскі даследчык XIX ст. І. Зяленскі пісаў: «Настоящая Белоруссия простиралась в древние времена с севера на юг от г. Дриссы и оз. Освея до Могилева и Друцка, а с востока на запад — от Великих Лук и от р. Ловати до м. Белого на границе Витебской и Минской губерний (Борисовский уезд), т.е. Белоруссией называлась вначале страна между Двиною, Днепром и Друтью»[443]. Хаця ў вызначэнні паўднёвых і заходніх межаў *Белай Русі* тут бачны ўплыў Тацішчава, у цэлым Зяленскі даволі дакладна акрэсліў абшар назвы, калі мець на ўвазе не «древние времена» ўвогуле, а 1560—1570–я г. Ян Баршчэўскі (каля 1794—1851) пісаў у часы, калі назва *Беларусь* ужо трывала замацавалася, прынамсі, за Віцебскай і Магілёўскай губернямі. Аднак для яго «ўся Беларусь» — гэта, здаецца, найперш некалькі цэнтральных паветаў тагачаснай Віцебскай губерні (прыкладна ў межах колішняга Полацкага ваяводства): Полацкі, Себежскі, Невельскі, магчыма, Дрысенскі і Лепельскі[444].

Прывядзём яшчэ некалькі прыкладаў канца XVI—пачатку XVII ст., калі тэрмін *Белая Русь* ужываўся для абазначэння ўсіх спрэчных паміж Рэччу Паспалітай і Масквой тэрыторый паабапал мяжы, якая цягнулася ад Лівоніі да Севершчыны. Карта Рэчы Паспалітай П’ера дзю Валя (каля

1645—1650) называе Маскоўскую дзяржаву *La Grande Blanche Rosse ou Moscovie*. Прычым гэтая назва на карце ахоплівае Вялікія Лукі, Белую, Смаленск, Дарагабуж, Бранск, Ноўгарад–Северскі, Чарнігаў — як заходнія вобласці Маскоўскай дзяржавы, так і тыя тэрыторыі, што адышлі ад яе паводле Дэўлінскага замірэння 1618 г. і на момант укладання карты заставаліся ў Рэчы Паспалітай[445]. Супаставім абрысы гэтай тэрыторыі з той, пра якую падчас Лівонскай вайны Стэфана Баторыя прасіла паруціцца літоўскае мажнаўладства: «пра Северскую зямлю і замкі, пра Смаленск і прыгарады Смаленскія, а таксама пра Ноўгарад Вялікі, пра Пскоў і землі іх, якія насуперак справядлівасці ад Панстваў яго Каралеўскай Міласці адарваныя»[446], каб убачыць, што яны амаль супадаюць.

Блізкія да гэтых контуры *Белай Русі* ў польскім перакладзе «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваньіні (Кракаў, 1611): «А ёсць [Русь] траякая: адна белая, другая чорная, трэцяя чырвоная... Белая каля Кіева, Мазыра, Мсціслава, Віцебска, Оршы, Полацка, Смаленска і зямлі Северскай, якая здаўна належыць Вялікаму княству Літоўскаму...»[447].

Праўда, Гваньіні, ураджэнец Вероны ў Венецыянскай рэспубліцы, удзельнік Лівонскай вайны ў складзе літоўскага войска, да такога разумення *Белай Русі* прыйшоў не адразу — цытаваны пасаж адсутнічае ў першых выданнях *Sarmatiae Europeae Descriptio* (Кракаў, 1578; Шпаер, 1581; Венецыя, 1583). На гэта звярнуў увагу яшчэ Я. Юхо[448]. Хутчэй за ўсё, сапраўдны аўтар працытаванага ўрыўка — перакладчык «Еўрапейскай Сарматыі» на польскую Марцін Пашкоўскі. Большасць жа даследчыкаў, не адрозніваючы выданняў Гваньіні, часта прыпісваюць прыведзеную вытрымку самому веронцу і канкрэтна выданню 1578 г.[449]. У польскім перакладзе 1611 г. дадзеныя новыя звесткі пра *Белую Русь*, больш адпаведныя яе тагачаснаму разуменню, але ў тэксце пакінутыя і ўсе ранейшыя выказванні Гваньіні

наконт яе. Прычым і ў першых выданнях ён не надта парупіўся, каб неяк узгадніць іх між сабой.

Так, адзін з раздзелаў называецца «Спосаб арання і засявання на Беларусі, сумежнай з Масковіяй (*Moschoviae confini*), і ў Вялікім княстве Літоўскім»[450]. Далей «беларусы і маскавіты» згадваюцца побач (*Rutheni Albi Moschovitaeque*)[451]. Адсюль можна меркаваць, што *Белая Русь* — краіна, цесна звязаная з Масковіяй, але не ідэнтычная ёй. Гэта, напэўна, тая «частка Белай Русі», якую «трымае Кароль Польскі»[452], — тыповы прамежкавы варыянт, які нагадвае Т’епала ці Кромера. Але хапае ў Гваньіні і зусім іншых прыкладаў, якія адназначна ідэнтыфікуюць *Белую Русь* і Маскоўскую дзяржаву: «Масковія, папросту Масква, найвялікшы горад, — галава і сталіца ўсёй Русі Белай, падначаленай Вялікаму Князю Маскоўскаму»[453]. У прадмове да першага лацінскага выдання Гваньіні, падкрэсліваючы, што знаходзіцца «ў сумежнай з Масковіяй крэпасці Віцебску», тлумачыць, што гэтая Масковія — «пэўная вобласць у цэнтры Белай (як кажуць) Русі»[454]. Адкуль вынікае, што сам Віцебск знаходзіцца па–за межамі гэтай *Белай Русі*. Хаця менавіта толькі гэтая частка сучаснай Беларусі ў час апублікавання «Еўрапейскай Сарматыі» і пачала трывала атаясамлівацца з назвай *Белая Русь*.

Лютэранскі пастар Паўль Одэрборн з Памераніі, які служыў у Літве і Курляндыі, у «Апавяданні пра рэлігію і звычаі рускіх», выдадзеным у 1582 г. у Ростаку, пісаў пра падзеі нядаўняй вайны: «Калі была вызвалена Полаччына, Сокал, Суша, Туроўля і іншыя гарады Белай Русі агнём і мячом былі знішчаныя дашчэнту»[455]. Ніжэй, пералічваючы *рускія* рэкі, Одэрборн назваў толькі Дняпро, Дзвіну, Дзісну, Дрысу і Палату[456]. Напэўна, гэтым ён акрэсліў абсяг менавіта *Белай Русі* ў новым сэнсе, а не Русі ўвогуле.

Супрацоўнік англійскай Маскоўскай кампаніі і прадстаўнік англійскай кароны пры двары Івана Жахлівага Джэром Хорзі, правёў у Маскве значную частку жыцця

паміж 1573—1591 г. Ён згадваў у сваіх успамінах: «[Іван IV] адняў у польскага караля славутыя гарады Полацк, Смаленск, Дарагабуж, Вязьму і шмат іншых, авалодаў Белай Руссю і Літвой з іх квітнеючымі гандлёвымі гарадамі і абласцямі, якія прыносілі вялікія даходы...»[457]. Перадача англічанінам назвы, ці не ўпершыню ў Заходняй Еўропе, паводле фанетычнага прынцыпу (*Bella Russia*), у адрозненне, скажам, ад яго суайчынніка Адамса (*Russia the white*), паказвае на тое, што Хорзі даведаўся пра яе не з еўрапейскіх крыніц, а ад славянаў. Але Хорзі не вельмі добра разбіраўся ў храналогіі маскоўскіх заваёў. (Як вядома, Вязьма перайшла да Масквы ў 1494 г., Смаленск і Дарагабуж — у 1514 г., задоўга да Івана IV, а захоплены ў 1563 г. Полацк быў у 1579 г. ужо вызвалены Стэфанам Баторыем). Для яго і для іншых еўрапейцаў паведамленні пра тэрытарыяльныя захопы Івана IV зліваліся з падзеямі стогадовай даўніны, калі *Белая Русь*, г.зн. Ноўгарад, была падначаленая ягоным цёз-



**Аблога Полацка Іванам Жахлівым у лютым 1563 г. паводле тагачаснага аўгсбургскага «лятучага лістка». 16-гадовае знаходжанне горада з акругай пад маскоўскай акупацыяй было адным з асноўных фактараў, якія паспрыялі канчатковаму замацаванню за гэтай часткай ВКЛ назвы *Белая Русь*.**

кам Іванам III (*Ioannes Moschorum dux subacto Novogrado Magno*)[458].

Ды і карная выправа Івана IV на падуладны Маскве Ноўгарад, які надумлівы маскоўскі тыран падазраваў у сімпатыях да Літвы, не менш жорсткая, чым расправа над літоўскім Полацкам, пакідала ў еўрапейцаў уражанне, нібыта была здзейснена ў чужой краіне. Дарэчы, яна найперш і прычынілася да ўзнікнення пашыранай у еўрапейцаў мянушкі Івана IV — «Жахлівы». А сама назва «Полацк» у Еўропе лёгка блыталася з Псковам (ст.–рус. *Плесков*, ням. *Pleskau*), як у аўгсбургскім «лятучым лістку» (1563), дзе захоплены Іванам Жахлівым горад быў названы «*ain Festunge Polotzki oder Pleski genannt...*»[459]. І ў значна ранейшых дакументах, напрыклад, у данясенні вялікаму магістру Марціну Трухзесу (Рыга, 1478), калі сярод падначаленых ВКЛ земляў называецца *Ploschkow*, цяжка вызначыць, ідзе гутарка пра Пскоў ці Полацк[460].

З паведамлення Хорзі таксама бачна, што Смаленшчыну, асабліва важную для абодвух бакоў спрэчную тэрыторыю, ужо даволі часта лічылі *Белай Руссю*. Тую ж Вязьму ў 1605 г. адносіў да *Белай Русі* Іпацій Пацей (гл. раздзел 4)[461].

Іншымі словамі, пад *Белаю Руссю* ў перыяд Лівонскай вайны амаль усе разумелі сукупнасць страчаных раней — рэальна і ўяўна — тэрыторый, якія Рэч Паспалітая намагалася адваяваць у Расійскай дзяржавы: і Полаччына, захопленая на пачатку вайны, і страчаная на рубяжы XV—XVI ст. Смаленшчына падпадалі пад гэтую назву як бы «заадно» з Псковам і Ноўгарадам. Пасля таго, як паспяховая абарона Пскова рускімі зруйнавала мары аб далучэнні колішніх літоўскіх уладанняў, і Ям–Запольскі мір 1582 г. у асноўным аднавіў даваенную мяжу, назва *Белая Русь* (у тым значэнні, у якім яна праіснавала да мяжы XIX і XX ст.) замацавалася за сучаснай Паўночна–Усходняй Беларуссю, перш за ўсё, за Полаччынай. Аднак яшчэ працяглы час гэтая назва ўжывалася і да значнай часткі Украіны, што тлумачыцца

традыцыяй, узыходзячай, на наш погляд, яшчэ да *Албаніі* Бэкана і Барталамея Аглійскага.

Кідаецца ў вочы, што часціня сустральнасці тэрміна рэзка ўзрастае ў 1580–х г. І ў большасці выпадкаў яго ўжываюць у сувязі з падзеямі на поўначы ды ўсходзе сучаснай Беларусі. Пра *Белую Русь* пачынаюць пісаць ужо і мясцовыя жыхары. 1585 годам датуецца запіс у інвентары францысканскага кляштара ў Ашмянах наконт «памесця Бортнікі ў Белай Русі». Асабліва часта згадваецца *Белая Русь* у выдадзенай у 1582 г. у Кёнігсбергу «Хроніцы Польскай, Літоўскай, Жмудскай і ўсяе Русі» Мацея Стрыйкоўскага, першым элементарна–крытычным выкладзе гісторыі Вялікага княства. Як слушна адзначаў М. Улашчык, які прысвяціў асобнае даследаванне аналізу даных гэтай хронікі пра *Белую Русь*, у адпаведнасці з імі немагчыма лакалізаваць разгляданую назву ў нейкім адным рэгіёне[462]. Але ў гэтым Стрыйкоўскі не адрозніваецца ад такіх аўтарытэтаў, як Мюнстэр ці Кромер. Практычна ва ўсіх выпадках ужывання ім назвы *Белая Русь* можна прасачыць тую ці іншую традыцыю.




**Мацей Стрыйкоўскі. Партрэт з «Хронікі польскай...» (1582).**

Зрэшты, некаторыя канатацыі нашай назвы прыпісаныя Стрыйкоўскаму пазнейшымі даследчыкамі. Так, паводле Улашчыка, сярод гасцей вялікага князя літоўскага Вітаўта на Луцкім з’ездзе 1429 г. у Стрыйкоўскага пералічаныя: «…вялікі князь маскоўскі Васіль Іванавіч, князь Барыс Цвярскі, князь разанскі, Адоеўскія, князі Белай Русі, Фрыц,

кароль дацкі і шведскі, выгнаны валашскі гаспадар і г.д.»[463]. Але, трэба заўважыць, перадаючы гэтае месца з «Хронікі...», Улашчык адвольна расставіў знакі прыпынку, якіх у арыгінале няма (*Boris Twerski i Rezanski i Odojewscy kniaziowie Bialej Rusi*)[464]. У выніку ў яго атрымалася: «…князі Белай Русі — Адоеўскія»[465], — чаго Стрыйкоўскі зусім не хацеў сказаць. Больш слушным, мяркуем, будзе перадаць гэтае месца як: «…[князі] Адоеўскія, князі Белай Русі», — і г.д. А калі супаставіць з паведамленнем Стрыйкоўскага беларуска–літоўскія летапісы, якімі жмудскі канонік актыўна карыстаўся, робіцца ясным, што ён меў на ўвазе менавіта *Белую Русь* — Ноўгарад. У летапісах адпаведнае месца чытаецца так: «…и Одоевские князи сами были, и от Великаго Новагорода и от Пьскова»[466]. У «Пахвале Вітаўту» ў такім самым парадку пералічваюцца князі, якія «прислухали» вялікаму князю літоўскаму: «...великий князь Едоевскии, и Новогород Великии, Псков...»[467]. Сам жа Улашчык заўважыў: «В летописях указаны, помимо представителей, которые есть у Стрыйковского, послы от Новгорода и Пскова»[468]. Але відавочна, Стрыйкоўскі проста замяніў Ноўгарад і Пскоў на «Белую Русь», што, як мы ведаем, было цалкам абгрунтаваным.

Гэтае меркаванне пацвярджаецца і назвай аднаго з раздзелаў «Хронікі…»: «Пра Белую і Чорную Русь, усходнія, паўночныя і паўднёвыя народы старажытныя, і іх князёў вяліканаўгародскіх, ізборскіх, пскоўскіх, белазёрскіх, кіеўскіх, уладзімірскіх, валынскіх, галіцкіх, падгорскіх, падольскіх і г.д.»[469]. У спісе князёў першыя чатыры — з гарадоў, якія ў найбольш распаўсюджанай заходняй традыцыі стабільна звязваліся з *Белай Руссю* — Ноўгарадам. Апроч такога, самага традыцыйнага разумення *Белай Русі, у* Стрыйкоўскага сустракаецца і вызначэнне Івана Каліты «беларускім княжычам»[470], і характарыстыка вялікіх князёў маскоўскіх — «уладары Бела–Рускай манархіі»[471]. Як ужо гаварылася вышэй, тут мы маем справу з ганаровай

тытулатурай вялікіх князёў маскоўскіх — «белых рускіх цароў», якую часта змешвалі з харонімам *Белая Русь*.

У некалькіх выпадках звесткі Стрыйкоўскага пра *Белую Русь* яўна паходзяць ад Кромера: «Уладзімір [Святаслававіч] усю Русь Паўночную, Усходнюю і **Чорную і Белую, якія ляжаць на поўдні**, пад сваю моц прывёў»[472]; «Васіль, князь галіцкі і ўладзімірскі, на той час быў у Чорнай і Белай Русі найстарэйшым і найбагацейшым»[473]. Яшчэ ў адным месцы, каменціруючы захоп Свідрыгайлам Полацка, Смаленска і Кіева, Стрыйкоўскі на бэлягу пазначыў: «Свідрыгайла апанаваў Белую Русь»[474]. Тут, як часам і ў Кромера, тэрмін ахоплівае ўсходнія часткі і Беларусі, і Ўкраіны. Прыкладна ў такім жа сэнсе ён ужыў яго ў іншым сваім творы, «Пра пачаткі...»: пры апісанні падзей 1123 г. ён паведаміў, як нібыта Ўладзімір Манамах уцёк з Кіева на *Белую Русь*, спалохаўшыся выступлення польска–венгерскага войска[475].

Такім чынам, Стрыйкоўскі з уласцівай яму непаслядоўнасцю здолеў ужыць назву *Белая Русь*, прынамсі, у пяці розных значэннях:

1) у пачатковым (Albania — Ноўгарад);

2) у значэнні «Ўсходняя Ўкраіна»;

3) як агульную назву Ўсходняй Украіны і Ўсходняй Беларусі;

4) як сінонім *Масковіі*, што было звязана не столькі з далучэннем да Маскоўскай дзяржавы Ноўгарада ў канцы XV ст., колькі з традыцыямі панегірыстаў маскоўскага двара (пра што мы ўжо казалі ў раздзеле 5);

5) Нарэшце, Стрыйкоўскі ці не першым ужыў тэрмін «беларусы» ў значэнні, вельмі блізкім да сучаснага. Пералічваючы размаітыя славянскія народы, ён назваў і «літоўскіх беларусаў». Можна пагадзіцца з меркаваннем Улашчыка, што гэтыя *Bielorussacy Litewscy* — праваобраз сучасных беларусаў, калі ўлічыць, што межы паслялюблінскай Літвы ў асноўным супадалі з межамі сучаснай Беларусі[476].

Аднак заўважым, Стрыйкоўскі мог залічыць да іх і ўкраінцаў, бо быў блізкі да тых колаў у ВКЛ, якія яшчэ не змірыліся з Люблінскай уніяй і, значыцца, па–ранейшаму лічылі *Літвой* частку Украіны, далучаную да Польшчы ў 1569 г.[477]. У кожным разе, у параўнанні з Вісліцкім, тэрмін якога «белыя русіны» ў роўнай ступені мог быць аднесены да сучасных беларусаў, украінцаў ці рускіх, гэта чарговы крок да складвання таго значэння этнічнай назвы, якое існуе сёння.

Дзякуючы Стрыйкоўскаму тэрмін пачынае набываць больш шырокую вядомасць у ВКЛ, але амаль ніхто тут яшчэ не праецыруе яго на «Русь Літоўскую». Рукапісны пераклад «Хронікі» на старабеларускую мову так паведамляе пра місіянерскую дзейнасць княгіні Вольгі: «У Пскове месте белоруском (бо была Олга псковянка) найпервей от всех… збудовала церков»[478]. Створаная на рубяжы XVI—XVII ст. «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», вульгарызаваны пераказ Стрыйкоўскага, паведамляе паміж 1284 і 1289 г., нібыта літоўскія князі Эрдзівіл і Вікінт уцяклі «до Василия, володимерского князя, брата Данила Романовича, короля руского, которые то на той час были на Чорной и Белой Руси можнейшими князьями рускими»[479].

Увогуле кола інтэлектуалаў Рэчы Паспалітай, якія карысталіся гэтым тэрмінам, было даволі цесным. Тут усе ведалі адзін аднаго. Стрыйкоўскі, напрыклад, служыў на Віцебшчыне ў войску ВКЛ пад камандай Гваньіні і пасля выхаду «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» абвінаваціў яго ў прымітыўным плагіяце, заявіўшы, што яго былы камандзір, так бы мовіць, скарыстаўся са службовага становішча і спісаў для сваёй «Сарматыі» ледзь не ўсю «Хроніку Літоўскую…». Адпаведна і ў звестках пра *Белую Русь* непаслядоўнасць Гваньіні быццам паўтарае непаслядоўнасць яго былога падначаленага.

Яшчэ адна пара асабістых ворагаў, якія пакінулі каштоўныя сведчанні па гісторыі назвы — гэта нунцый Святога прастола ў Рэчы Паспалітай Альберта Баланьеці і езуіт

Антоніа Пасевіна, актыўны праваднік папскай «чаўночнай дыпламатыі» паміж Масквой і Варшавай на заключным этапе Лівонскай вайны.

Баланьецi ў лісце да кардынала Комскага 27 ліпеня 1581 г. згадваў «уварванне, здзейсненае Маскавітам у Белую Русь падчас замірэння»[480]. Паколькі вядома, што ў канцы чэрвеня — на пачатку ліпеня 1581 г. рускія, парушыўшы перамір'е, напалі на Аршанскі павет — Оршу, Копысь, Дуброўну, Шклоў, Магілёў[481]. Дык у рэляцыі Баланьецi, можна меркаваць, да *Белай Русі* была аднесеная менавіта гэтая тэрыторыя.

Пасевіна пад *Белай Руссю* нязменна меў на ўвазе Паўночную Беларусь. Так, у трактаце «Масковія» (Вільня, 1586) чытаем: «Калі я быў на Белай Русі, мне апавядалі, што ў той вобласці, якая завецца Чырвонай Руссю, і якая, гэтаксама ж, як і Белая, падначаленая каралю Польшчы, у Драгобычы, ёсць калодзеж з салёнай вадой...»[482].

У «Лівоніі» (1583): «Лівонія... ад Русі, што належыць маскоўскаму гаспадару, аддзяляецца р. Нарвай, а ад тае часткі, якая завецца Белай [Руссю], уласна межамі на ўсходзе і поўдні»[483]. Такое апісанне можна дастасаваць не толькі да сумежнай з сучаснай Латвіяй Полаччыны, але і да больш паўночных раёнаў Расіі — асабліва калі мець на ўвазе меркаванне, што Расія не мела на іх законнага права[484].

У «Маскоўскім пасольстве» (1582): «Дзісна — крэпасць у Белай Русі, адбудаваная пасля падзення Полацка каля 15 гадоў таму над рэкамі Дзвіна і Дзісна»[485]. Дарэчы, далёкі сваяк Ф. Калімаха, купец–фларэнтыец Джаванні Тэдальды, які жыў у Гданьску і вёў гандаль з Масквой, часта праязджаючы праз Вялікае княства, пры сустрэчы з Пасевінам у Дзісне назваў яе проста «горадам Русі» (*Dzisna della Russia*)[486]. Гэта сведчыць хіба аб тым, што ўжыванне назвы *Белая Русь* было атрыбутам перш за ўсё людзей адукаваных, дасведчаных у лаціне і, так бы мовіць, крыху адарваных ад «сярмяжных» рэалій жыцця.

Адным з такіх быў паэт Саламон Рысінскі († 1625), ураджэнец Кабыльнікаў (імаверна, сённяшні пас. Нарач[487]). Пры паступленні ў Альтдорфскі універсітэт 2 снежня 1586 г. ён упісаўся ў метрыку пад імем *Solomo Pantherus Leucorussus*[488]. Гэта ўжо другі (пасля М. Стрыйкоўскага) выпадак ужытку этноніма «беларус» у значэнні, блізкім да сучаснага. Пазней, у лісце да свайго сябра, нямецкага прававеда Конрада Рытэрсхаўзена 15 лістапада 1588 г. Рысінскі назваў сваю радзіму «Леўкарусіяй»[489], што выклікае асацыяцыі ў першую чаргу з лекцыямі Пампонія Лэта, а таксама з апісанай Бэканам краінай *Leucovia.* Так паступова тэрмін *Белая Русь* замацоўваўся ў свядомасці тутэйшай інтэлігенцыі. Але да канчатковага праяснення яго зместу было яшчэ вельмі далёка.

## 11. «Сумежная і падуладная»

Замацаванне назвы *Белая Русь* за сучаснай Беларуссю

У XVII ст. у разуменні тэрміна *Белая Русь* яшчэ пануе поўны «плюралізм». Многія працягваюць ужываць яго як сінонім *Масковіі*. На эксплікацыі так званага Сігізмундава плана Масквы, гравіраванага Лукам Кіліанам у 1610 г., пазначана: «Горад Масква, ці Масковія, сталіца ўсёй Белай Русі (вялікага княства Маскоўскага)»[490]. Сігізмундаў план карыстаўся вялікай папулярнасцю і часта ўзнаўляўся ў розных зборніках і атласах, як, напрыклад, у апошнім, шостым томе серыі «Гарады зямнога шара» Георга Браўна — Франца Хогенберга[491], у «Вялікім атласе» Вілема Блаў[492] ці «Кнізе гарадоў» Іаганэса Янсана (1657). Яшчэ ў канцы XVII ст. на некаторых картах *Белая Русь* выступае як сінонім Маскоўскай дзяржавы[493]. На карце Іагана Батыста Хомана з *Atlas Novus* (Нюрнберг, 1701) мюнхенскага прафесара матэматыкі Генрыха Шорэра, *Alba Russia* раскінулася па абодвух берагах Паўночнай Дзвіны, на ўзбярэжжы Белага мора[494] — як рэлікт вельмі даўніх уяўленняў пра *Белую Русь*. Цікава, што на іншай карце, Польшчы і ВКЛ (1710 г.), створанай тым жа Хоманам, надпіс *Russia Alba* займае практычна ўсю тэрыторыю менавіта сучаснай Беларусі — ад Бярозы да Вяліжа[495]. На выдадзенай у 1710 г. у Амстэрдаме «Усеагульнай карце ўсіх пабярэжжаў свету» назва *Russie blanche ou Moscovie* адносіцца, відавочна, да ўсёй Расійскай дзяржавы, але паколькі гэта перш за ўсё марская карта, дык надпіс размешчаны ля ўзбярэжжа Паўночнага Ледавітага акіяна, паміж вусцямі Паўночнай Дзвіны і Абі[496].

Але з цягам часу *Белая Русь* у значэнні «Расійская дзяржава» сустракаецца ўсё радзей (хаця згаданыя карты, трэба меркаваць, аказалі ўплыў на фармаванне ўяўленняў В. Тацішчава). Усё часцей *Белую Русь* згадваюць побач з *Літвой*, прычым як сувымерныя па арэале і палітыка–адміністрацыйным значэнні тэрміны. Рэестр гарадоў і мястэ-




**Карта Іагана Батыста Хомана з *Atlas Novus* (Нюрнберг, 1701).**

чак (*Regestr miast i miasteczek w Koronney, Litewskiey, y Bialoruskiey Rusi*), дзе спецыяльнымі камісарамі мусілі быць прызначаныя цэрквы для не–уніятаў, з кнігі гродскай луцкай (1632) абвяшчае: *na Bialey zaś Rusi przy inszych miastach y miasteczkach, ktore się tak w Litwie, iako y na Bialey Rusi w diocezy metropolity w uniey bedącago y wladykow Pinskiego y Brzescskiego znaydować bedą: Połock, Mstisław, Orsza, Brasław, Mohilow, Dzisna, Witepsk*. «Беларуская Русь» тут аддзяляецца ад Вялікага княства Літоўскага, да гарадоў якога аднесеныя Вільня, Трокі, Менск, Ліда, Наваградак, Бярэсце, Слонім, Пінск, Гародня, Ваўкавыск, Коўна, Мазыр, Рэчыца, Камянец, Кобрын, Мядзел, Мерач[497].

Шмат у чым звесткі пра Белую Русь Старавольскага (1632), здаецца, узыходзяць да Кромера. Напрыклад, калі ён піша: «Русь дзеліцца на Русь Белую, якая ўваходзіць у ВКЛ, а таксама на Русь Чырвоную, якая ўласна завецца Раксаланія і належыць да Польшчы... Чырвоная Русь... мае з поўначы Белую Русь, якая абмежаваная рэкамі Стыр і Прыпяць»[498], — дык, верагодна, паўтарае Кромера: «Русь, якую некаторыя называюць Чырвонай, на поўначы мяжуе з Белай Руссю і Валынню»[499]. Апроч таго, Старавольскі паведамляе: «Кіеўскае ваяводства раскінулася на поўнач да межаў Літвы і Белай Русі»[500].

Мы ўжо адзначалі, што ваад яўрэйскіх абшчын ВКЛ у Бярэсці ў 1623 г. нічога не казаў пра *Белую Русь*. І Старавольскі, ураджэнец Валыні ці Берасцейшчыны, відавочна, не лічыў *Белай Руссю* захад цяперашняй Беларусі, які ўваходзіў у Берасцейскае, Віленскае і Троцкае ваяводствы, для яго быўшыя ўжо Літвой. Але яго *Russia Alba* не абмяжоўваецца Полацкім ваяводствам, а ўключае таксама Мсціслаўскае, Віцебскае, Смаленскае, Наваградскае і Менскае[501], — г.зн. займае значна больш шырокі абшар, чым той, да якога, як правіла, дастасоўвалі гэтую назву нават у XIX ст. Прычым такія ўяўленні былі ўжо досыць распаўсюджанымі нават сярод дробнай тутэйшай

інтэлігенцыі. Праваслаўны святар са Слуцка Андрэй у палемічным творы супраць уніі (1616), характарызуючы кампетэнцыю ўніяцкіх іерархаў, іранічна заўважыў: «Недалеко бискупи, недалеко Киев, недалеко Минск, Белая Русь, о околичных местечках, селах немовлю»[502], г.зн. і Менск, і Слуцк для яго былі ўжо *Белай Руссю*. Значна часцей, зрэшты, у яе склад уключалі толькі Полацкае, Мсціслаўскае і Віцебскае ваяводствы, пакідаючы Меншчыну і Наваградчыну ў Літве. А паколькі маскоўскі ўрад здаўна лічыў, што па Бярэзіне праходзіла мяжа «Смаленскіх прыгарадаў», дык многія пазнейшыя даследчыкі, пачынаючы з Тацішчава, прымалі менавіта гэтую раку за спрадвечны «натуральны» заходні рубеж *Белай Русі*[503]. Паводле ж адміністратыўнага падзелу ВКЛ Бярэзіна размяжоўвала Полацкае і Віцебскае ваяводствы з Менскім і Віленскім.

Пасля Дэўлінскага замірэння 1618 г. мяжа паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй ужо ўсталявалася (да чарговага перадзелу ў сярэдзіне XVII ст.). У склад ВКЛ уваходзілі ўсе землі, якія ў XIX—XX ст. будуць адносіць да беларускіх. І тым не менш *Белая Русь* паводле Старавольскага — не толькі падуладная (*subjacet*), але і сумежная (*adjacetque*) Вялікаму княству Літоўскаму, як бы ўжо іншая дзяржава. Чаму так? Часткова, як мы казалі ў папярэднім раздзеле, у гэтым можна бачыць след падзей Лівонскай вайны. Але найперш гэта сведчыць пра пэўную адасобленасць усходнебеларускіх земляў — не столькі юрыдычную, колькі канфесійна–культурную, ад астатняга Вялікага княства. Менавіта гэтая адасобленасць, якая сціралася вельмі павольна, паспрыяла хуткаму пашырэнню на іх назвы *Белая Русь*. Нездарма Вялікае княства ледзь не з пачатку свайго існавання называлася «Літоўскім і Рускім». У «Рускай» яго частцы шмат у чым захоўваўся старасвецкі лад жыцця, а ўплыў заходняй цывілізацыі адчуваўся менш. Да канца XVI ст. на ўсходзе ВКЛ амаль не будавалася касцёлаў і сінагог, мала было гарадоў і мястэчак на Магдэбургскім праве, амаль не

праводзілася валочная памера. Як слушна мяркуе В. Насевіч, *Руссю* ў вузкім сэнсе ў ВКЛ называўся адзін з гісторыка–геаграфічных рэгіёнаў дзяржавы, прыкладна «на ўсход ад лініі Браслаў — Лагойск — Петрыкаў»[504]. Мяжа паміж уласна *Літвой* і *Руссю*, хаця і не адзначаная нейкімі адмысловымі прыкметамі, усведамлялася як нешта рэальна існуючае яшчэ ў XIX ст., у XVII жа і пагатоў. Стрыйкоўскі, апісваючы набег татараў у 1506 г., адзначаў, што у раёне Наваградка яны «зайшлі за Нёман у Літоўскую зямлю»[505]. Паводле дзённіка аўстрыйскага пасольства ў Маскву (1593), «у Радашковічах... канчаецца Літоўскае княства і пачынаецца Расія»[506]. У Магілёўскай хроніцы пад 1695 г. адзначалася, што «памежжа літоўскае» праходзіла побач з Менскам і Слуцкам[507]. У гэтым сэнсе мелі рацыю М. Любаўскі, М. Доўнар–Запольскі і інш., сцвярджаючы, што паняцце *Белая Русь* ахоплівала тыя землі ВКЛ, якія з больш позняга часу і ў меншай ступені былі звязаныя з *Літвой*, чым так званыя *чарнарускія* (праўда, апошні тэрмін — штучны пазнейшы наватвор), непасрэдна падпарадкаваныя *Літве* яшчэ ў часы Міндоўга. Удакладнім, аднак, што хаця падзел ВКЛ на ўласна *Літву* і *Русь* сапраўды ўзыходзіць да XIII ст., *Белай* гэтая *Русь* стала лічыцца толькі ў XVII ст. Тады ўсё радзей у Еўропе ўжывалі тэрмін *Масковія*, замяняючы яго *Расіяй*; іншая частка колішняй *Русі,* Украіна, увайшла ў склад Польшчы. У такіх варунках двухчленная формула «Літва і Русь» паступова відазмяняецца на «Літву і Белую Русь». *Белая Русь* робіцца дапаўненнем да тэрміна *Літва,* яго своеасаблівым працягам на ўсходнебеларускія землі. А паколькі такому чляненню не спадарожнічала ні адміністрацыйная, ні этнічная, ні натуральная фізіка–геаграфічная мяжа, паняцці *Літва* і *Белая Русь* на шырокай паласе цэнтральнай Беларусі паступова робяцца раўназначнымі. У будучым, па меры ўзрастання ўласна літоўскай нацыянальнай свядомасці і замацавання назвы *Літва* толькі за балцкімі землямі Вялікага княства, гэта

прывядзе да выцяснення першага тэрміна другім — не столькі спантаннага, колькі абумоўленага расійскай прапагандай.

Сярод фактараў, якія прычыніліся да пашырэння вядомасці назвы *Белая Русь* сярод усходнеславянскага насельніцтва Рэчы Паспалітай на пачатку XVII ст., трэба назваць пераклад на польскую мову (значна больш даступную, чым малазразумелая абсалютнай большасці лаціна) такіх твораў, як «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі» Гваньіні і «Гісторыя палякаў» Кромера. Цікава, што абодва пераклады, апублікаваныя ў 1611 г., належалі ўкраінскім шляхціцам, выхадцам з праваслаўнага насельніцтва Галіччыны — Марціну Пашкоўскаму і Марціну Блажэўскаму адпаведна. Таму не трэба здзіўляцца, што назву *Белая Русь* на Украіне добра ведалі і, пачынаючы прыкладна з канца 1610–х г., часта праецыравалі на сябе. У 1620–х г. на Заходняй Украіне быў створаны т.зв. Густынскі летапіс, які, між іншым, паведамляў, як старажытныя славяне «в Сармации седше различно презывахуся: Поляне, Древляне, Севери, Кривичи и проч., или якоже и ныне, Москва, Белая Русь, Волынь, Подоля, Украйна, Подгоря и проч.»[508]. Украінскія казакі, пісаў каля 1623 г. каралю князь Кшыштаф Збаражскі, маюць «фавор яўны і пакрыёмы ледзьве не ўсёй Кіеўскай Украіны і Белай Русі»[509]. Такое разуменне *Белай Русі* было яшчэ больш характэрным для афіцыйнай Масквы. У роспытах палонных і эмігрантаў з Рэчы Паспалітай, якія ў 1623—1624 г. вёў Патрыяршы дварцовы прыказ, да *Белай Русі* прылічаныя Валынь (Астрожскі павет), Кіеўшчына (Фастаў), Галіччына (Злочаў). Значна радзей у маскоўскіх дакументах гэтага часу трапляюцца выразы накшталт «белорусец черкашенин Тимофей Трофимов сын... с Белой Руси с Глуска»[510], якія звязваюць *Белую Русь* з сучаснай Беларуссю.

«Суплікацыя» (скарга) праваслаўнай шляхты Рэчы Паспалітай, прадстаўленая сенату на Варшаўскім сойме 1623 г. і адразу ж выдадзеная асобнай брашурай,

пералічваючы тыя месцы, дзе назіраўся асабліва жорсткі ўціск праваслаўных уніятамі, зазначыла: «На Белай Русі гэта — Полацк, Віцебск, Мсціслаў, Орша, Магілёў, Дзісна і г.д.»[511]. Далей чытаем: «На Белай Русі, у Оршы і Магілёве, ужо пяць год, як той жа Полацкі ўладыка [біскуп Кунцэвіч. — **А. Б.**] цэрквы апячатанымі трымае»[512]. Адзін з першых афіцыйных дакументаў ВКЛ, які згадвае *Белую Русь* у яе новым значэнні, — гэта грамата Жыгімонта III Вазы 1627 г., з паведамленнем: «в том часе и иншые некоторые в Белой Руси места наши... [апроч Оршы і Магілёва. — **А. Б.**] небощыка отца Иосафа Кунцевича, архиепископа полоцкого, зневажать почали»[513]. Як бачым, за тымі раёнамі, дзе было асабліва ўпартым супраціўленне уніі, як у Оршы ды Магілёве, назва замацоўвалася найбольш хутка. Калі і можна казаць пра рэлігійны аспект назвы, дык не ў часы хрысціянізацыі Літвы, а менавіта цяпер, калі ўжыванне яе праваслаўнымі было ў пэўным сэнсе прыкметай рэлігійнай экзальтацыі, нават ксенафобіі. Часта, гаворачы «белы», мелі на ўвазе «чысты ад лацінства». Само тлумачэнне паходжання назвы ад «белага адзення», здаецца, перагукаецца з адпаведным месцам у Апакаліпсісе (Адкр. 7, 9—14). Адначасова і каталікі ды ўніяты ўжывалі тэрмін *Белая Русь* усё часцей. Невыпадкова ў Ватыканскім вопісу дакументаў польскай нунцыятуры многія тамы з серыі *Polonia Russa* з дакументамі XVII—XVIII ст. азагалоўленыя *Dominii Moscovitici, e Bianca Russa*[514]. Такі загаловак сведчыць аб тым, што *Bianca Russa* абыходзіла Ватыкан перадусім як асяродак супраціўлення уніі, у любы момант гатовы перакінуцца на бок Масквы.

Дакладна не ўстаноўлена, калі вызначэнне «Беларуская» ўвайшло ў склад найменне царкоўных адміністрацыйных адзінак. Лічыцца, што віленскі каталіцкі біскуп Яўстахій Валовіч хутка па сваёй намінацыі ў 1616 г. дамогся стварэння т.зв. Беларускай архідыяканіі ў Абольцах (цяпер Талачынскі р–н), бо такім вялікім біскупствам было цяжка

кіраваць[515]. Старавольскі пісаў пра гэта: «Віленская правінцыя... мае біскупа такой разлеглай юрысдыкцыі, што ва ўсёй Літве і Белай Русі, якія складаюцца са столькіх ваяводстваў, аж да мяжы маскоўскай, толькі яго суфраганы стаяць на чале вызнаўцаў веры хрысціянскай»[516]. Не зусім зразумела, зрэшты, ці Аболецкая архідыяканія адразу ж па сваім стварэнні ў 1619 г. пачала называцца *Беларускай*, як гэта часта сцвярджаецца[517], ці гэта адбылося пазней. Прыкладна ў канцы 1620–х г., пасля аднаўлення (1620—1621) у ВКЛ праваслаўнай іерархіі, з'яўляецца паняцце «епіскап беларускі» (з рэзідэнцыяй у Магілёве) і ў праваслаўных. Прынамсі, у 1631 г. даравальная грамата Ганны і Яна Стэткевічаў Аршанскаму Куцеінскаму (Успенскаму) жаночаму манастыру, абвяшчаючы яго стаўрапігію (аўтаномію ад епіскапаў), папярэджвае: «Инный теж митрополит никоторый, ани епископ Белорусский, мимо Киевскую митрополию, до монастыря нашого... дела жадного и претексту мети нияким способом не могут»[518]. Аднак у нас няма даных, якія б пацвярджалі меркаванне Салаўёва[519], што гэтае найменне епіскапства насіла ад самога свайго заснавання ў 1621 г. Кіеўскі мітрапаліт Пётр Магіла ў грамаце на заснаванне Магілёўскага Багаяўленскага брацтва (1635) згадваў «краи великого князства Литовского и Белорусские до епископии Мстиславское, Оршанское и Могилевское належачие»[520], але само епіскапства, відавочна, не называў «Беларускім». І ў каталікоў, і ў праваслаўных яшчэ доўгі час назва была хутчэй неафіцыйнай. Часам спасылаюцца, напрыклад, на прывілей Яна II Казіміра 1650 г. Іосіфу Канановічу на «епіскапства Беларускае»[521], але звесткі пра гэты прывілей паходзяць з ананімных нататак па гісторыі праваслаўнай царквы, складзеных у магілёўскім Спаскім манастыры не раней 1755 г.[522]. Паводле І. Грыгаровіча, афіцыйна магілёўска–віцебская праваслаўная епархія пачала называцца «Беларускай» з 1675—76 г., пры Яне III Сабескім[523], што выглядае даволі верагодным.

Пашырэнне тэрміна *Белая Русь* у афіцыйных колах Маскоўскай дзяржавы і ў праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай пачалося практычна адначасова. Апроч апошняга, пэўную ролю ў перадачы гэтага геграфічнага паняцця ад «палякаў» (мясцовых каталікоў і пратэстантаў) да рускіх адыгралі прыбалтыйскія немцы. У іх наш тэрмін у сучасным значэнні ўпершыню, магчыма, сустракаецца каля 1620 г. Рыжскі ратман Бенедыкт Хінцэ згадвае Віцебск, Полацк, Вільню, Біржы, Коўна, а потым, абагульняючы гэтыя назвы, кажа пра «Літву, Беларусь (*Weissreussland*) і Ліфляндыю»[524]. Немец — агент цара Міхаіла Раманава, які фігураваў у дакументах пад імем «Юры Радыёнаў» і ў сакавіку — красавіку 1621 г. збіраў інфармацыю ў Рызе, даносіў, што там ходзяць чуткі аб зборы царскіх войскаў у Пскове і іх хуткай выправе «на Лифлян, на Белую Русь и Литву»[525]. Яго пазнейшыя рэляцыі з Гданьска і Ляйпцыга засведчылі перакананне тамтэйшых бюргераў, што цар «мало не всю Лифлянскую землю и часть Белой Руси одолел и взял»[526]. У гэтым, ці не першым выпадку, калі назва *Белая Русь* трапляецца ў афіцыйным дакуменце маскоўскай канцылярыі, яна, вельмі паказальна, перакладзеная з нямецкай, ужытая немцам (а зусім не «рускім чыноўнікам», як прынята лічыць)[527] і датычыць звестак, сабраных у нямецкамоўным асяроддзі. Цяжка сказаць, наколькі ясна інфарматары так званага Радыёнава ўяўлялі сабе розніцу паміж *Wissen Russen* ці *Weissreussland*, вядомымі немцам ужо некалькі стагоддзяў, і *Белай Руссю* ў тых значэннях, якія яна набыла ў літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў.

Урад Расіі, як і праваслаўныя Польшчы і Літвы, тэрмін *Белая Русь* інтэрпрэтаваў інакш, чым афіцыйныя колы Рэчы Паспалітай ці заходнія еўрапейцы, надаючы яму перш за ўсё этнаканфесійны сэнс. Так пачалі называць праваслаўнае насельніцтва Рэчы Паспалітай, рэлігійныя і палітычныя сімпатыі значнай часткі якога былі на баку Масквы, і тыя тэрыторыі, на якіх гэтыя сімпатыі адчуваліся най-

больш моцна. З канца XV ст. Масква настойвала на сваім нібыта натуральным праве «бараніць» гэтае насельніцтва ад уціску каталіцкай царквы і ўрада Рэчы Паспалітай, але хутчэй увогуле ад «тлятворнага» ўплыву заходняй цывілізацыі ва ўсіх яго аспектах. Шырокае выкарыстанне маскоўскімі афіцыйнымі коламі гэтага тэрміна пачынаецца менавіта з дакументаў, якія асвятляюць кантакты з прамаскоўскімі актывістамі ў Рэчы Паспалітай. Так, у вопісу архіва Пасольскага прыказа 1626 г. выдзелены раздзел «Грамоты литовских монастырей Белые Руси»[528]. Да такіх аднесеныя: ліст ад епіскапа Перамышльскага і Самбарскага Міхаіла Капысценскага 1603 г.; грамата да патрыярха Філарэта ад уладыкі Сцяпаньскага манастыра; чалабітныя «ис Киева Острецкого монастыру игумена» Пятронія Жукавецкага, які жыў у Троіца–Сергіевай Лаўры ў 1624—1626 г., «писаны... белоруским письмом», да князя Івана Чаркаскага і дзяка Івана Грамаціна. Жукавецкі прывёз з сабой «3 тетрати, а в них писан перевод с польского писма по–руски, спор о вере белорусцом с латынники»[529]. Характэрна, што ўсе згаданыя манастыры знаходзіліся на Украіне. Сярод іншых дакументаў, апісаных у 1626 г., заслугоўваюць увагі: грамата ад шведскага караля Густава II Адольфа аб пропуску яго пасла Аляксандра «Рубцова» да казакаў, «на Белую Русь и в Запорожье»[530]; напісаныя «по–белоруски» лісты памежных старостаў ВКЛ Юрыя Сакалінскага і Аляксандра Гасеўскага 1602 г. да ваяводаў Таропца і Вялікіх Лук[531]; ананімнае «писмо белоруское, пісано в Воршаве во 125 г.» (г.зн. у 1617 г.)[532]. Такая шырокая геаграфія сведчыць: *Белая Русь*, як яна бачылася з Масквы, была паняццем не столькі геаграфічным, колькі культурна–канфесійным. Цікава, што ў папярэднім (1614) вопісу архіва Пасольскага прыказа, дзе часта пералічваюцца тыя самыя дакументы, харонім *Белая Русь* яшчэ не сустракаецца[533]. Відавочна, ён паспеў атрымаць шырокае распаўсюджанне менавіта

ў 1620–х г. у сувязі з чарговай хваляй праваслаўна–уніяцкай палемікі ў Рэчы Паспалітай, за якой пільна сачылі ў Крамлі.

Напярэдадні вайны 1654—1667 г. тэрміны *Белая Русь*, «белорусцы», «белоруское письмо» сустракаюцца ў маскоўскіх дакументах вельмі часта. Але змест іх не такі аднастайны, як можна было б чакаць. Так, тэрмін «белорусцы» ўжываецца звычайна ў блізкім да сучаснага сэнсе, бо ўкраінцаў часцей называлі «чаркасамі». Напрыклад, паводле ліста бранскага ваяводы Н. Мяшчэрскага 1649 г., «…во Брянеск... литовские люди белорусцы и черкасы... привозят их шлехетцкие животы, всякая платья и служивую всякую рухлядь»[534]. Аднак тэрытарыяльна *Белая Русь* у рускіх дакументах таго часу адпавядала амаль выключна Украіне, а не сённяшняй Беларусі. Царскі пасол да запарожскіх казакаў Грыгорый Ункоўскі ў 1649 г., перадаючы маскоўскаму ўраду змест сваіх перамоў з Багданам Хмяльніцкім, некалькі разоў згадаў «Запороское войско и Белую Русь»[535]. У тым жа годзе ў перакладзе (з грэчаскай на рускую) ліста македонскага мітрапаліта Галакціёна цару Хмяльніцкі названы «пресветлым великим гетманом Белой Руси, господином Зиновьем»[536]. Не абавязкова гэтыя характарыстыкі, асабліва калі параўнаем іх з тым жа вопісам архіва 1626 г., паходзілі з Македоніі ды Украіны. Іх аўтарамі, хутчэй, былі дзякі Пасольскага прыказа. Сам факт такога вызначэння Украіны не ёсць нечаканым, бо традыцыя аднясення часткі яе тэрыторыі да *Белай Русі* ў еўрапейскай літаратуры налічвала да гэтага часу добрыя паўтараста год. Але чаму ж у Маскве забываліся на літоўскую *Белую Русь*? Хіба проста таму, што тут не было такога арганізаванага казацкага руху, схільнага да дзяржаўнага адасаблення ад Рэчы Паспалітай, як на Украіне.

Тэрмінам жа «белоруское письмо» абазначалі ўсю сукупнасць графічных і лексічных асаблівасцяў, якія адрознівалі т.зв. «заходнерускую» пісьмовую мову ад улас-

на рускай[537]. У 1646 г. рускія паслы ў Варшаву настойвалі, каб карэспандэнцыя паміж дзвюма дзяржавамі вялася, як і ў даўніну, «белоруским письмом»[538]. Адзін з першых апалагетаў панславізма харват Юрай Крыжаніч, сасланы ў Табольск, пісаў у 1661 г., што «сам Рускиь језик на троје јест разделеьен»[539]. Ён адрозніваў уласна рускую (размоўную), царкоўна–славянскую рускага ізвода і «беларускую» мову — г.зн. беларуска–ўкраінскую літаратурную, якую крытыкаваў за недастатковую «чысціню»[540], лічыў штучнай і ўвогуле «шкоднай» для ўсталявання «славянскай еднасці».

Трактоўка тэрміна *Белая Русь* афіцыйнымі маскоўскімі коламі змянілася літаральна за некалькі гадоў вайны. Калі ў жніўні 1655 г. войскі Аляксея Міхайлавіча «Великого Княжства Литовского стольный город Вильну, и иные многие городы и места поимали и заступили, также и Белую Русь», цар адразу ж (03.09.1655) выдаў указ аб унясенні *Белай Русі* ў свой тытул: «Мы великий государь наше Царское Величество учинились, предков наших Великих Государей Князей Российских на Великом Княжстве Литовском и над Белою Россиею и на Волыни и Подолии Великим Государем»[541]. Ад гэтага часу назва *Белая Русь* ужо не ўжываецца Крамлём у дачыненні да Украіны, але замацоўваецца за ўсходняй часткай ВКЛ. І хаця вынікі вайны не былі для Масквы такімі памыснымі, як гэта дэклараваў цар, яна канчаткова перахапіла ініцыятыву ў выкарыстанні назвы, ужываючы яе надалей для абгрунтавання сваіх «гістарычных праў» на Беларусь. Гэта ж тычыцца і значна пазнейшых часоў. У канцы XIX — пачатку XX ст., здаецца, не столькі рух за беларускае нацыянальнае адраджэнне, колькі апалагеты заходнерусізма прычыніліся да пашырэння назвы *Белая Русь* на ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі.

Ужо ў XVII ст. назва выкарыстоўвалася царскай прапагандай для дэзарыентацыі афіцыйных колаў замежных краін, якім настойліва даводзілася пра «адвечную» належ-

насць сучаснай Беларусі Маскоўскай дзяржаве. І гэта прыносіла патрэбныя Крамлю вынікі. Пасол імператара Леапольда І Аўгусцін Маерберг у «Падарожжы ў Масковію» (1663) адзначаў, што пад *Белай Руссю* ў Расіі разумеюць вобласці «паміж Прыпяццю, Дняпром і Дзвіною, з гарадамі Наваградкам, Менскам, Мсціславам, Смаленскам, Віцебскам і Полацкам. Усё гэта калісьці належала рускім, але праз ваенныя выпадковасці яны саступілі шчасцю і храбрасці палякаў і літоўцаў»[542]. Нават у далёкім Кітаі даведаліся аб існаванні *Белай Русі* як нібыта адной з расійскіх правінцый. «Шангянь оросъ гурунь» назвалі яе ў 1676 г., падаючы тытулатуру цара Аляксея Міхайлавіча, у рэляцыі пра рускае пасольства ў Пекін на чале з Мікалаем Мілеску Спафарыем, складзенай кітайскімі чыноўнікамі на манчжурскай мове — афіцыйнай у імперыі Цын[543].

Хаця атаясамліванне *Белай Русі* з паўночным усходам сучаснай Беларусі па пісьмовых крыніцах прасочваецца з XVI ст., да 1650–х г. гэта не знаходзіла свайго адлюстравання на картах. Картографы быццам бы не рашаліся парваць з састарэлымі традыцыямі, пакуль для гэтага не было аўтарытэтнага тэарэтычнага абгрунтавання. Такім абгрунтаваннем стала *Polonia* Ш. Старавольскага ў чарговых выданнях (Гданьск, 1652 і Вольфэнбютэль, 1656), пасля выхаду якіх адна за адной пачалі выдавацца карты з новай лакалізацыяй *Белай Русі*. Адным з піянераў гэтай традыцыі стаў французскі картограф Гіём ле Васер дэ Баплан, які да 1652 г. працаваў у Рэчы Паспалітай. Аднак Л. Казлоў памыляецца, мяркуючы, што менавіта Баплан упершыню вынес *Russia Alba* ў загаловак карты[544]. Такі загаловак мела складзеная ў бапланаўскай традыцыі карта ВКЛ *Magnus Ducat Lituaniae & Russia Alba* Якаба Зандрарта (Нюрнберг, 1687). *Белая Русь* тут паказаная прыкладна ў межах Полацкага ваяводства[545].

Пералік усіх карт XVII—XVIII ст., дзе змешчана назва *Белая Русь*, заняў бы занадта шмат месца, таму абмяжуем-




**Адна са стэрэатыпных карт Самсона д'Абэвіля, на якіх *Russia Alba* лакалізуецца ў межах Полацкага ваяводства.**

ся толькі некаторымі з іх. У Фрэдэрыка дэ Віта, напрыклад, на карце *Reipublicae et Status Generalis Poloniae...* (паміж 1689—1709) *Russia Alba Lithuanica* займае ўсю ўсходнюю і цэнтральную Беларусь. Як у Старавольскага, у яе не ўключаныя толькі заходнія ваяводствы — Віленскае, Троцкае, Наваградскае і Берасцейскае[546]. На *Carta Topografica del Regno di Polonia* (Венецыя, 1770) *Russia Bianca*, прыхапіўшы паўночны ўсход цяперашняй Літвы, змешчана строга на поўнач ад *Lituania* (ад лініі Вільня — Нарач — Лукомль — Сянно[547]). У 1708 г. *Белая Руссия* ў значэнні «паўночна–ўсходняя Беларусь» упершыню была прадстаўленая на рускамоўнай карце — копіі карты галандца Хуга Аларда, якую на загад Пятра I выканаў гравёр Пітэр Пікар, галандзец на рускай службе.

Паступова ўсталёўваецца амаль адназначная адпаведнасць паміж назвай *Белая Русь* і тэрыторыяй усходняй Беларусі, хаця ўжо ў XVII ст. назву нярэдка адносілі амаль да ўсіх беларускіх этнаграфічных тэрыторый. Ды далейшы лёс *Белай Русі* (назвы) добра вядомы, і разгляд яго выходзіць за рамкі гэтага даследавання. Апошняя змена зместу назвы адбылася зусім нядаўна, калі ў 1991 г. на палітычнай карце свету з'явілася незалежная Рэспубліка Беларусь.

## 12. Геаграфічны трыкалор

*Белая Русь* у дачыненні да *Чорнай* і *Чырвонай*

З трох «каляровых» тэрмінаў для пазначэння розных частак Русі — *Белай*, *Чорнай* і *Чырвонай*, першай, несумненна, вылучылася *Белая*. А як жа дзве астатнія?

Паводле І. Чаквіна, «першыя вядомыя ўпамінанні Чорнай Русі адносяцца да прускіх і лівонскіх хронік XIV—XV ст., у іх яна лакалізавалася на ўсход ад Прусіі, Літвы і Лівоніі — у раёнах Пскоўшчыны, Наўгародчыны, Гродзеншчыны, Навагрудчыны, Браслаўшчыны»[548]. На жаль, Чаквін не ўказвае, у якіх канкрэтна крыжацкіх хроніках сустракаецца гэтая назва. Нам жа невядомыя прускія і лівонскія хронікі XIV—XV ст., у якіх бы згадвалася *Чорная* (як, зрэшты, і *Белая*) Русь. Многія (Я. Юхо, К. Тарасаў ды інш.) лічаць *Чорную Русь* старажытнай, дадзенай быццам бы крыжакамі, назвай Верхняга Панямоння, узводзячы яе да часоў Міндоўга ці нават ранейшых[549]. Паводле А. Рогалева, «название Чёрная Русь в Верхнем Понеманье возникло примерно в XI—XIII вв. после того, как завершилось освоение данного района дреговичами, волынянами, кривичами. Название «Черная Русь» представляет собой своеобразный перевод предшествовавшего западнобалтского (ятвяжского) наименования *Kirsnovia* — «черная (земля, территория)»[550]. Невядома, на якіх крыніцах грунтуецца сцвярджэнне Рогалева. Што ж датычыць астатніх, яны зыходзяць перадусім з існавання *Белай Русі,* сама меней з XIII ст., на тэрыторыі сучаснай усходняй Беларусі як антытэзы *Чорнай*, нібыта вядомай з яшчэ больш ранняга часу. Але больш блізкі да ісціны пункт гледжання Я. Станкевіча, які адзначаў: «Чорная Русь ніколі не дапасоўвалася да якой–небудзь тэрыторыі ВКЛ»[551].

Нашыя дадзеныя сведчаць, што тэрмін *Чорная Русь* быў утвораны на ўзор і ў процівагу *Белай*, а не наадварот, і наўрад ці раней XIV ст. Ва ўзнікненні гэтай назвы, хутчэй

за ўсё, сказалася схільнасць сярэднявечнай свядомасці да пабудовы прымітыўных класіфікацый. Калі ўжо існавала *Белая Русь*, непазбежна мусіла з'явіцца і *Чорная*. Такая «каляровая» схема наклалася на падзел Русі паводле іншага прынцыпу: з даўніх часоў, магчыма, яшчэ ў складзе Кіеўскай дзяржавы, выдзялялі «Верхнюю Русь» — рознаэтнічную канфедэрацыю славянскіх і фінскіх плямёнаў з дамешкам варагаў–*русі* на паўночным захадзе ўсходняй Еўропы — у адрозненне ад «Ніжняй», ці «Рускай зямлі» над сярэднім Дняпром з цэнтрам у Кіеве[552]. Яшчэ Вялікапольская хроніка другой паловы XIII ст. паведамляла, што Баляслаў Смелы (1039—1081) «шмат гадоў, смела асаджваючы крэпасці рускіх, паланіў абедзве часткі Русі»[553]. У 1458 г. у некалькіх булах Пія II *рускія* землі, якія ўваходзілі ў Польшчу і ВКЛ і знаходзіліся пад юрысдыкцыяй Кіеўскай мітраполіі, называліся «Ніжняй Руссю» (*Russia inferior*), а падпарадкаваныя Маскоўскай мітраполіі — «Верхняй» (*Russia superior*)[554]. У гэтым жа сэнсе ў XV—XVI ст. тэрмін «Ніжняя Русь» (*Russia inferior, Rossia Bassa*) ужывалі Кантарыні, Джовіа, Бём, Мюнстэр ды інш.[555]. І калі *Russia superior* была, як правіла, раўназначнай *Белай*, дык *Russia inferior*, адпаведна, з цягам часу пачалі лічыць *Чорнай*.

Англійскі дыпламат Джайлс Флетчар, у 1588 г. надзвычайны пасол у Маскве, у трактаце «Пра Расійскую дзяржаву» (Лондан, 1591) заўважыў: «Расія калісьці называлася Сарматыяй... Гэтая зямля падзялялася на дзве галоўныя часткі: Белую і Чорную. Белая Сарматыя ўключала ў сябе ўсю прастору, што ляжыць на поўнач і з боку Лівоніі, як вобласці, якія цяпер называюць Дзвінскай, Важскай, Усцюжскай, Валагодскай, Каргопальскай, Наўгародскай і г.д., сталіцай ці галоўным горадам якіх быў Ноўгарад Вялікі. Чорнай Сарматыяй называлася ўся краіна, што ляжыць на поўдзень, ля мора Эўксінскага, ці Чорнага, як княствы: Уладзімірскае, Маскоўскае, Разанскае і інш.»[556].

Вельмі падобны на ягоны падзел Русі Георга Хорна, гісторыка і палітолага, рэктара Лейдэнскага універсітэта. У працы «Свет дзяржаў» (1668), якую часам называюць першым падручнікам паліталогіі, ён пісаў: «[Русь] падзялялася на Белую і Чорную. Двума галоўнымі яе княствамі былі Кіеўскае (*Kiovia*) і Уладзімірскае (*Vladimiria*). Той, хто валодаў імі, лічыўся як бы манархам русінаў. Кіеў быў сталіцай Чорнай Русі, Уладзімір — Белай»[557].

Трактат Хорна за некалькі дзесяцігоддзяў вытрымаў не менш як тузін перавыданняў[558]. Несумненна, ён быў вядомы і Тацішчаву, які падчас працяглага жыцця ў Еўропе (1713—1717) сабраў вялікую бібліятэку з самых аўтарытэтных тагачасных выданняў. Імаверна, супаставіўшы не зусім дакладныя дадзеныя Хорна і іншых еўрапейскіх аўтараў і паведамленні шматлікіх еўрапейскіх крыніц пра *Белую Русь* — Вялікі Ноўгарад з традыцыйнымі сувязямі паміж Псковам і Ноўгарадам і растова–суздальскімі князямі, Тацішчаў і паспрабаваў рэканструяваць пачатковы змест паняцця *Белая Русь*[559]. Пры гэтым ён палічыў «непатрыятычным» спасылацца на заходнеўрапейскіх аўтараў, а каб надаць сваёй рэканструкцыі больш аўтарытэту, спаслаўся на «Раскольніцкі, Польскі і Растоўскі манускрыпты». Бадай, яго не вельмі бянтэжыла думка, што гэта можа быць кваліфікавана як падлог.

Нягледзячы на тое, што Флетчар уключаў Уладзіміра–Суздальскую Русь у склад *Чорнай Сарматыі*, а для Хорна, Рэйтэнфельса і Тацішчава якраз *Vladimiria* і ёсць сінонім *Белай Русі*, іх погляды, як і многіх іншых аўтараў, аб'ядноўвае ўяўленне аб *Белай,* ці *Верхняй* Русі, якая прылягае да Балтыйскага і Белага мораў, і больш паўднёвай *Чорнай,* ці *Ніжняй* у басейне Чорнага ды Каспійскага мораў. Больш дакладных прыкмет лакалізацыі *Чорнай Русі*, апроч знаходжання яе на поўдзень ад *Белай*, не было. Таму розныя аўтары разыходзіліся ў даным пытанні яшчэ больш, чым наконт *Белай*. Правядзенне ўмоўнай мяжы паміж гэтымі дзвюма

часткамі, ці «правінцыямі» Русі залежала, хутчэй, ад густу аўтара, а не ад якіх–кольвечы аб'ектыўных крытэрыяў.

На карце Фра Маўра (1459) *Rossia Negra* паказаная на правабярэжжы Акі, дзе гістарычнай вобласці з такой назвай, канешне, ніколі не было[560]. Аднак прынцып больш паўднёвага, у дачыненні да *Белай Русі*, размяшчэння захоўваецца. На глобусе Меркатара (Лувэн, 1541) *Белай Русі* няма[561] (хаця яна прысутнічала на яго *Orbis Imagine* 1538 г.), але ёсць *Чорная* (*Russia Nigra*), паказаная на ўсход ад Пскова, як і на карце Магнуса (1539). У абодвух выпадках *Чорная Русь* ляжыць на поўдзень ад *Белай* (ці ад таго месца, дзе яна маецца на ўвазе). Старавольскі лічыў, што *Чорная Русь* — гэта «правінцыя Чарнігаўская»[562]. Гваньіні згадваў «чорных русінаў (*Ruteni nigri*), сталіца якіх Львоў»[563]. Некаторыя карты Сансона д'Абэвіля–бацькі (напрыклад, 1665 г., Парыж) паказваюць *Чорную Русь* (*Russie Noire*) паміж Львовам і Халмом[564], хаця значна часцей Сансон д'Абэвіль называў гэтую тэрыторыю *Russia Rubra*[565]. Яшчэ доўга ўслед за Дж. Флетчарам *Чорнай Руссю*, называлі Маскоўскую дзяржаву, напрыклад, той жа Гваньіні ў выданні 1611 г., Андрэас Келер у 1659 г.[566] і г.д.

Зразумела, што *Белую* Русь атаясамлівалі з *Верхняй* тыя аўтары (а яны складалі большасць), для каго *Белая* ляжала на поўначы, — Ян Бём, Себасцьян Мюнстэр, псеўда–Фаскарына. Адпаведна, для тых, хто бачыў яе месца над Донам, яна была, наадварот, тоесная *Ніжняй*. Таму, напрыклад, на пераробцы Мартэлам Айхштэцкай карты мы знаходзім *Russia inferior sive Alba* (г.зн. Русь Ніжнюю ці Белую) на паўночным беразе Чорнага мора[567].

Першая з вядомых нам крыніц, у якой выступаюць *чорныя русіны,* — нямецкамоўная хроніка Венгрыі Генрыха Мюгельна. Але эпітэты *белы* і *чорны* ў кантэксце венгерскіх хронік, як было адзначана ў раздзеле 7, пачаткова датычыліся *белых* і *чорных куманаў* або *белых* і *чорных венграў*. У сувязі з гэтым заслугоўвае ўвагі меркаванне пра ўплыў

масцей коней на назву розных этнічных груп (якое, напрыклад, прыцягвалася для тлумачэння паходжання назваў *белыя* і *чорныя венгры*). У раздзеле 4 мы разглядалі, як Пампоній Лэт вывеў назву «леўкаскіфаў» ад згадваных Герадотам белых коней. Нямецкія храністы, напрыклад, Пётр з Дусбурга, адзначалі сакральнае значэнне, надаванае старажытнымі прусамі масцям коней, і наяўнасць у прусаў цэлых груп, якія карысталіся толькі белымі або толькі чорнымі конямі[568]. Гэта наводзіць на думку, што нямецкія крыжакі маглі выдзяляць, адпаведна, белых і чорных прусаў. У такім разе яны маглі спраецыраваць гэты падзел і на *Русь*, утварыўшы *Чорную* як антытэзу *Белай* (нават калі не звязвалі гэтыя назвы з масцямі коней). Але, як мы казалі вышэй, у крыжацкіх хроніках пакуль не выяўлена згадак пра *Белую* ці *Чорную Русь*.

Тэрмін *Чырвоная Русь* пачаў ужывацца на Захадзе прыкладна тады ж, што і *Чорная,* і працяглы час канкурыраваў з ім за «права» абазначаць адны і тыя ж тэрыторыі. В. Насевіч мяркуе, што, магчыма, «калісьці было адно супрацьпастаўленне (белы — чорны ці белы — чырвоны), якое затым расшчапілася на два»[569]. Гэта выглядае праўдападобным. Але калі тут жа ён спасылаецца на «блізкасць вымаўлення старажытных слоў «чорны» і «чермный» («чырвоны»), можна запярэчыць, што ўсе «каляровыя» назвы ўзніклі і пачаткова цыркулявалі амаль выключна ў неславянскім асяроддзі, дзе такой сугучнасці не было.

Цяжка сказаць, у якой ступені этымалогія *Чырвонай Русі* звязаная з *градами червенскими*, як часта сцвярджаецца[570]. Нам такая сувязь не падаецца такой ужо відавочнай. Хутчэй гэта выпадковае супадзенне. Упершыню назва *Чырвоная Русь* (*rot Russen*), здаецца, з'явілася ў Рыхенталя (1420-е г.)[571]. Прычым мяркуючы па тым, што да яе быў аднесены Смаленск, менавіта *Чырвонай* называлі тады тую частку *Русі*, якая ўваходзіла ў склад ВКЛ, — задоўга да таго, як яе пачалі называць *Белай.* У Фра Маўра побач з Літвой (*Lituana*)

знаходзілася не *Rossia biancha*, а менавіта *Rossia Rossa*. У яе ўваходзілі нібыта і Кіеў, і высунутая далёка на захад, у параўнанні з рэальнасцю, Разань[572]. Паводле Яна Ласкага (1514), чырвоныя русіны «знаходзяцца ў складзе Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага»[573]. На глобусе 1535 г. землі на поўдзень ад Жамойці названыя *Plescovia Rubea*, г.зн. «Чырвоная Пскоўшчына»[574] (чытай: *Чырвоная Русь*). На карце Вопеля 1566 г. паўночны край *Rote Reussen* дасягае Слуцка і Капыля[575]. Такім чынам, менавіта *Чырвоная Русь* была першай з «каляровых» назваў, якую на Захадзе свядома ўжывалі для абазначэння ў тым ліку тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Аднак ужо на Айхштэцкай карце 1491 г. *Rubea Russia* паказаная ў традыцыйным пазней значэнні «Галіцка–Валынская Русь»[576]. Як і ў выпадку з *Белай Руссю*, гэты стэрэатып з часам настолькі глыбока пранік у свядомасць гісторыкаў, што яны часта прыпісваюць ужыванне гэтай назвы такім крыніцам, у якіх ён на самай справе не сустракаецца. Так, *Чырвоная Русь* (*Rotrussland*) фігуруе ў сучасным нямецкім перакладзе «Славянскай хронікі» Гельмальда з Бозаў (XII ст.) пры апісанні падзей рубяжа X—XI ст., але зварот да лацінскага арыгінала хронікі пераконвае, што гэтая назва там адсутнічае[577].

«Кананічны» парадак размяшчэння «каляровых» частак Русі з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад — *Белая*, *Чорная*, *Чырвоная* — упершыню сустракаецца ў Фра Маўра. Хаця асобныя часткі гэтай трыяды пазней перамяшчаліся па карце, такая іх узаемная арыентацыя, як правіла, захоўвалася нязменнай. У агульнапрынятым цяпер выглядзе падзел на *Белую*, *Чорную* і *Чырвоную* Русь выснаваўся не раней за XVII ст. Такі аўтарытэт, як Старавольскі, яшчэ ў сярэдзіне стагоддзя лічыў, што *Белая Русь* — частка ВКЛ, *Чырвоная* — усе ўкраінскія землі Польшчы, а *Чорная* — Маскоўская дзяржава[578], г.зн. ніяк не звязваў *Чорную Русь* з Панямоннем – хаця такая лакалізацыя ў тыя часы суст-

ракалася ўжо досыць часта. У 1622 г. Козіма дэ Торэс пісаў, што «Русь... дзеліцца на тры часткі: Чырвоную Русь з гарадамі Львовам, Перамышлем, да якой належыць і Валынь; Белую Русь, якая працягнулася ад Рыгі, сталіцы Ліфляндыі, да Маскоўскай мяжы, уключаючы Полацк, Оршу, Віцебск, Магілёў; Чорную Русь, якая знаходзіцца паміж Літвой і Валынню, да Кіева з гарадамі Пінскам, Наваградкам і Оўручам»[579]. У геаграфічным слоўніку базыльяніна Іларыёна Карпінскага (*Lexykon geograficzny dla gruntownego pojecia gazet i historii z roznych autorow zebrany*, Вільня, 1766) суадносіны паміж трыма «каляровымі» часткамі Русі маюць практычна сучасны выгляд:

Белая — Мсціслаўскае, Віцебскае, Полацкае, Смаленскае ваяводствы;

Чорная — Наваградскае і Менскае;

Чырвоная — усе ўкраінскія землі Польшчы[580].

Ужо тады такі падзел ужо лічылі першасным, адвечным, спрабуючы рэтраспектыўна ўзводзіць яго сама меней да XIV ст. Гэта ж назіраецца і ў наш час. В. Дарашкевіч, напрыклад, выказаўся наконт «Прускай вайны» Вісліцкага: «Писать с уверенностью о существовании трёх частей Руси — Белой, Черной и Червоной — мог человек, достаточно хорошо знавший эту страну»[581]. Але ў сапраўднасці чляненне Русі на тры часткі ў Вісліцкага, Бёма ці Мюнстэра якраз штучнае і не было ўласцівае самім *русінам*, пакуль да іх у XVI—XVII ст. не пранікла еўрапейская адукаванасць.

## 13. Міф і рэальнасць

Фантастычныя рысы *Белай Русі*

Надзвычай цікавая карціна паўстае, калі сабраць разам звесткі пра прыроду, звычаі і побыт жыхароў *Белай Русі*, апісваныя еўрапейскімі аўтарамі XV—XVII ст. Міжволі згадваецца прыпавесць пра трох сляпых філосафаў, якіх падвялі да слана, прапанаваўшы растлумачыць атрыманыя вобмацкам уражанні, настолькі часам фантастычнымі і няўзгодненымі адно з адным паўстаюць гэтыя апісанні. Натуральна, што асабліва адрозніваюцца паміж сабой уяўленні еўрапейцаў пра «цысрыфейскую» і «трансрыфейскую» *Белую Русь*.

У першай іх галоўным чынам, здаецца, цікавілі Перм, Вятка, Югра — залежныя ад Ноўгарада землі са змешаным руска–тубыльскім насельніцтвам, якія ўвайшлі ў склад дзяржавы Івана III неўзабаве пасля захопу іх былой метраполіі[582]. Менавіта з іх вывозіліся футры — доўгі час асноўны артыкул рускага экспарту на Захад. Паводле Яна Стабніцкага, з *Белай Русі* «найбольш каштоўныя футры высылаюцца да розных народаў»[583]. Значна пазней, тлумачачы сэнс і паходжанне назвы *Белая Русь*, польскі пісьменнік і гісторык літаратуры Шымон Старавольскі ў творы *Polonia sive status regni Poloniae descriptio* (Кёльн, 1632) даводзіў: «Расія, сумежная і падуладная Вялікаму княству Літоўскаму, называецца папросту Белай часткова таму, што жыхары белы колер маюць і белае адзенне ў старажытныя часы ўжывалі… часткова таму, што доўга пад белым снегам [знаходзіцца зямля]. Але і прырода там увогуле белая — ваўкі, **мядзведзі і зайцы** белыя…»[584]. Пазней меркаванне Старавольскага паўтарыў А. Келер у «Навейшым апісанні Каралеўства Польскага»[585]. (Напэўна, меркаванне пра паходжанне *Белай Русі* ад мноства снягоў, якія пакрываюць гэты край, Тацішчаў запазычыў у Старавольскага ці Келера, а не ў Герберштайна, як ён беспадстаўна сцвярджаў).




**Белыя мядзведзі. Ілюстрацыя з «Гісторыі паўночных народаў» Олаўса Магнуса.**

Аднак на якія крыніцы абапіраўся Старавольскі, звязваючы *Белую Русь* з белымі мядзведзямі? Вядома, гэтыя жывёлы водзяцца хіба ў прыпалярных раёнах. Але дастаткова прыгадаць анекдатычныя стэрэатыпы савецкай рэчаіснасці, зусім нядаўна існаваўшыя на Захадзе, каб пагадзіцца, што сярэдняму еўрапейцу XV—XVII ст. такое атаясамліванне магло падацца зусім натуральным. У сувязі з гэтым варта ўспомніць славутага італьянскага інжынера і архітэктара на рускай службе Арыстоцеля Фіёраванці. Ён яшчэ ў 1476 г. пісаў міланскаму герцагу Галеаца Марыя Сфорца пра сваю паездку на поўнач Русі, у ваколіцы «горада *Xalanoccho*» (імаверна, ён меў на ўвазе Аланец або Салавецкія астравы), дзе водзяцца крэчаты, **мядзведзі і зайцы**, «белыя, як гарнастаі», і абяцаў даслаць герцагу некаторыя з гэтых дзівосаў[586]. У сваім лісце Фіёраванці, сучаснік і суайчыннік Кантарыні, Пампонія Лэта і Баярда, яўна не называе *Белую Русь*. Наўрад ці і белых мядзведзяў ён бачыў на свае вочы, хутчэй, пераказваў звесткі, пачутыя ад жыхароў Рускай Поў-

начы, для якіх сустрэчы з імі былі звыклымі справамі. Але ці не маем мы тут справу з яшчэ адной канатацыяй нашай назвы? Пампоній Лэт у адной са сваіх лекцый згадваў «вялікі востраў на самай поўначы, побач з мацерыкам; там рэдка, амаль ніколі не загараецца дзень; усе жывёлы там белыя, асабліва мядзведзі»[587]. Магчыма, Старавольскі дыспанаваў і нейкай невядомай пакуль нам крыніцай, у якой **белыя мядзведзі і зайцы** непасрэдна звязваліся з *Белай Руссю*.

Недзе на *Белай Русі* ці побач мусіў знаходзіцца і легендарны ідал «Залатая Баба». Непасрэдна на Белай Русі яго змяшчалі Рыхенталь і Мяхоўскі, а іншыя, як Герберштайн, прыводзілі легенду пра «Залатую Бабу» ў адным геаграфічным кантэксце з *Белай Руссю*. Магчыма, само ўзнікненне легенды нейкім чынам звязанае з цьмянымі ўяўленнямі сярэднявечных схаластаў пра паўночных *албанаў*, падрабязна прааналізаванымі ў раздзеле 2. Паводле скандынаўскіх геаграфічных твораў, з *албанамі*, якія, дарэчы, нібыта мелі «залатыя вочы», суседзіла «краіна жанчын».

Зусім інакш выглядала ў паведамленнях еўрапейцаў «трансрыфейская» *Белая Русь*. Так, Пампоній Лэт у лекцыях па Варону адзначаў, што «леўкаскіфы... не стрыгуць воўну на грудзях ягнят і маладых авечак, а рвуць яе і вырабляюць такім чынам даволі дарагія галаўныя ўборы»[588].



**Недзе на *Белай Русі* мусіў знаходзіцца і легендарны ідал «Залатой Бабы».**

З галаўнымі ўборамі і адзеннем звязана адно з самых традыцыйных тлумачэнняў паходжання назвы *Белая Русь*. Так,

Герберштайн выводзіў тэрмін «Белы рускі цар» менавіта ад традыцыйнага галаўнога ўбора[589]; Т'епала пісаў, што шапкі ў маскавітаў «спрэс белыя і астраверхія»[590]. На пачатку XVII ст. шведскі агент у Расіі Пер Персан сцвярджаў, што «адна мясціна ў гэтай краіне называецца Белай Руссю таму, што там мужчыны ўлетку носяць на галовах белыя шапкі, а жанчыны фарбуюць і падводзяць сабе твар бялілámі...»[591]. Падобным чынам тлумачыў назву і курляндзец Якуб Рэйтэнфельс.

Хаця такія тлумачэнні сёння выглядаюць наіўнымі і абсалютна ненавуковымі, яны, магчыма, з'яўляюцца рэліктамі нейкіх вельмі архаічных уяўленняў пра *Белую Русь*. Таму прыцягвае ўвагу старажытная наўгародская легенда пра белы клабук — сімвал улады наўгародскіх архіепіскапаў, а ў пэўнай ступені — і магутнасці і незалежнасці Ноўгарада як дзяржавы. Звычай нашэння белага клабука быў пазней адаптаваны маскоўскімі мітрапалітамі, але апакрыфічная «Аповесць пра белы клабук» не была прынятая афіцыйнай царквой, хаця карысталася вялікай папулярнасцю ў стараабрадцаў і прыхільнікаў наўгародскай «даўніны». Цікава, што адным з магчымых ствараальнікаў «Аповесці...» лічыцца член навуковага гуртка мітрапаліта Генадзя і суразмоўнік Паала Джовіа ў 1525 г. наўгародзец Дзмітрый Герасімаў[592]. Аднак, ці значыць гэта, што ён не толькі ведаў пра назву *Белая Русь*, але і ўкладваў у яе ідэю пра былую веліч сваёй радзімы? Бадай, пра гэта можна пакуль казаць толькі гіпатэтычна.

Агульным месцам у еўрапейскай навуцы на працягу доўгага часу было меркаванне пра багацце і разнастайнасць флоры ў нізоўях Дона і Дняпра — г.зн. там, дзе традыцыйна змяшчалі «трансрыфейскую» *Белую Русь*[593]. Паводле Т'епала, адным з традыцыйных артыкулаў экспарту з *Белай Русі* быў «араматычны трыснёг» (*Calamo Aromatico*)[594]. Пра яго распаўсюджанасць на *Белай Русі* пісаў таксама Мюнстэр і іншыя аўтары. Меўся на ўвазе аер (лац. навуковая

назва *Acorus Calamus*), які ў XV—XVI ст. яшчэ не рос у Заходняй Еўропе; яго карэнне (часам зацукраванае) завозіліся туды з ВКЛ, Масковіі, Асманскай імперыі[595]. Яшчэ адна расліна, так званы *Reu Ponticum*, распаўсюджанасць якой на *Белай Русі* адзначалася касмографамі, — звычайны рэвень.

Усе гэтыя нечаканыя рысы *Белай Русі* ніяк не стасуюцца з рэаліямі сучаснай Беларусі, але гэта і не павінна выклікаць здзіўлення. Несумненна, аднак, што яны ўзбагачаюць нашыя ўяўленні пра эвалюцыю семантыкі назвы, якая аказваецца значна болей «шматслойнай», чым можна было б чакаць.

## 14. Дзе яшчэ шукаць *Белую Русь*

Хаця аўтар лічыць галоўныя задачы, для вырашэння якіх пісалася гэтая кніга, у асноўным выкананымі, несумненна, што сапраўднае навуковае даследаванне гісторыі назвы *Белая Русь* толькі пачынаецца. Вядучым кірункам яго застаецца пошук і публікацыя новых, невядомых пакуль тэкстаў (у першую чаргу XIII—XV ст.), у якіх згадваецца *Белая Русь*. З–за цяжкадаступнасці аўтару не ўдалося вывучыць многія масівы гістарычных крыніц, дзе такія знаходкі, зыходзячы з логікі эвалюцыі назвы, найбольш імаверныя:

1) Дакументы Рымскай курыі, якія датычаць спроб пашырэння каталіцызму на паўночным захадзе сённяшняй Расіі ў сярэдзіне XIII ст., у першую чаргу, справы т.зв. «Карэльскай епархіі», «Суздальскай уніі» і г.д. (гл. раздзел 2). Адзіным вядомым сёння прадстаўніком гэтага масіву з'яўляецца т.зв. Дублінскі рукапіс. Знаходкі іншых маглі б істотна ўдакладніць нашы ўяўленні пра найбольш ранні этап эвалюцыі назвы.

2) Нямецкая паэзія канца XIII—XIV ст. (раздзел 3). Цалкам магчыма, што Мюгельн і Зухенвірт былі не адзінымі, хто карыстаўся назвай *Белая Русь*. Варта было б грунтоўна вывучыць творчасць іншых нямецкіх паэтаў гэтага перыяду, у першую чаргу, найбольш значных з іх: Фраўэнлоба, Конрада фон Вюрцбурга, Освальда фон Волькенштайна і г.д. Не выключана, што і ў італьянскую паэзію гэтая назва трапіла даволі рана, задоўга да таго, як яна сустрэлася ў Баярда (канец XV ст.).

3) Архіў мітрапаліта–кардынала Ісідора і іншыя матэрыялы, звязаныя з Фларэнтыйскай уніяй, маглі б дапамагчы рэканструяваць абставіны, пры якіх назва трапіла ва ўсходнеславянскую палемічную літаратуру (раздзел 4).

4) Венгерскія хронікі XIV—XV ст., магчыма, прычыніліся да ўзнікнення і пашырэння канцэпцыі «трансрыфейскай» *Белай Русі* (раздзел 7). Не выключана, што адна з іх

сапраўды паслужыла крыніцай Мяхоўскаму. Недастаткова ўдалося вывучыць творы італьянскіх вучоных канца XV ст., якія жылі і працавалі ў Венгрыі, такіх, як Банфіні ці Ранзана, якія таксама наўрад ці абышлі ўвагай *Белую Русь*.

5) Шведскія хронікі (у тым ліку рыфмаваныя) і дыпламатычныя дакументы (напрыклад, выдадзеныя ў шматтомнай серыі *Diplomatarium Suecanum*) могуць утрымліваць згадкі пра *Белую Русь* (*Hwita Rytzland*?), якія б дазволілі праверыць нашу гіпотэзу пра скандынаўскія карані гэтай назвы.

Прыведзены спіс, зрэшты, не прэтэндуе на вычарпальнасць, і новыя знаходкі магчымыя ў зусім нечаканых месцах.

## *Заключэнне.* Дзесяць тэзісаў пра *Белую Русь.*

1. Гісторыя назвы *Белая Русь* не з’яўляецца чыста беларускім (у сучасным разуменні) феноменам. Гэтая назва на працягу стагоддзяў не была прывязаная да якога–небудзь аднаго рэгіёну, але жыла ў пэўным сэнсе «самастойным» жыццём. Але *Белая Русь* у Вялікім Ноўгарадзе, у Маскоўскай дзяржаве, у Вялікім княстве Літоўскім і г.д. — не розныя паняцці, якія паходзяць з абсалютна розных крыніц і толькі выпадкова супадаюць па форме, а розныя праекцыі аднаго геаграфічнага тэрміна. Яго «кар’ера» — выдатная ілюстрацыя да шляху, пройдзенага еўрапейскай геаграфіяй сярэднявечча і ранняга Новага часу ад чыста разумовага апісання розных, часта фантастычных, краін і народаў, да дакладнай навукі. Назва *Белая Русь* — унікальны помнік еўрапейскай (можна ўдакладніць: лацінскай) культуры, які ў пэўным сэнсе можна параўнаць з Домскімі саборамі ў Кёльне ці Мілане. Яе пачатак губляецца недзе ў гатычнай эпосе, а канчатковае ўдакладненне сэнсу адбылося ўжо ў перыяд мадэрна. І кожнае стагоддзе нешта змяняла ці дадавала ў яе тлумачэнне. Глыбокае веданне гісторыі назвы дазваляе крыху змякчыць праблему, якая на працягу стагоддзя стаіць перад дзеячамі беларускага нацыянальнага руху: ці магчыма ўжываць назву *Белая Русь*, калі яна гэтак доўга выкарыстоўвалася «вялікарускімі» шавіністамі для абгрунтавання тэзіса пра «адвечную трыеднасць» усходніх славянаў — зразумела, пад уладай «белага рускага цара»? Высвятляецца, што гэтая назва, хаця і навязаная краіне звонку, пры іншым прачытанні можа засведчыць лучнасць яе гістарычнага лёсу з лёсам еўрапейскай цывілізацыі.

2. Звесткі Тацішчава пра першапачатковы сэнс назвы (Уладзіміра–Суздальская Русь) не пацвярджаюцца ніводнай аўтэнтычнай крыніцай і найверагодней сфальсіфікаваныя ім самім. Не маюць ніякіх падстаў і іншыя тлумачэнні, якія

так ці інакш грунтуюцца на нібыта ўсходнеславянскіх вытоках назвы. У сапраўднасці ж, напрыклад, Ноўгарад, Пскоў і Полацк не складалі такога адзінства, як «крывіцкія землі паўночнае Беларусі» ці «вольная частка Русі, тэрыторыя грэчаскага праваслаўя». Ніколі *Russia Alba* не ўжывалася для абазначэння сукупнасці гэтых трох дзяржаўных цэнтраў (прынамсі, самімі ўсходнімі славянамі) — гэтаксама ні для малаакрэсленай «супольнасці» Масквы і Смаленска, ні для паўночна–ўсходняй Русі. У апошнім значэнні яна не магла ўжывацца хаця б таму, што да апошняй чвэрці XV ст. для значнай часткі рускіх земляў — Ноўгарада, Пскова, Цверы, Вяткі — існавалі і альтэрнатывы таму шляху развіцця, які ім навязвала Масква. Поўным анахранізмам у гістарычным кантэксце XV ст. выглядае «Московско–Новгородская Русь... умопостигаемая, великая, «Вся Русь» в её церковно–национальном понимании»[596]. «Вялікай Русі» — *Вялікаросіі* не існавала, пакуль яе гвалтам не стварыў Іван III, чые карнікі і летапісцы старанна вынішчылі ўсе гістарычныя прыкметы адметнасці далучаных земляў. Гэта не азначае, што ў XV ст. не было ідэі адзінства ўсходніх славянаў, але яе ўвасабленнем была проста назва «Русь»: яна злучала не толькі Маскву, Цвер і Ноўгарад, але і «рускія» землі ў складзе Польшчы і ВКЛ. *Белая* Русь была тоеснай *Вялікай* толькі ў той ступені, у якой апошняя адпавядала Вялікаму Ноўгараду.

3. Узнікненне тэрміна *Russia Alba* і яго замацаванне ў сярэднявечнай геаграфічнай наменклатуры, хутчэй за ўсё, звязанае з памылковымі ўяўленнямі схаластаў пра *Албанію*, якая «мяжуе на ўсходзе з Каспійскім морам і ўзыходзіць па ўзбярэжжы да Паўночнага акіяна, прасціраючыся да Меацийскіх азёраў і да найдзічэйшых пустынных месцаў» (Барталамей Англійскі). Гэтая *Албанія* — кантамінацыя Албаніі антычных і раннесярэднявечных аўтараў (у першую чаргу Ісідора Севільскага), Аланіі продкаў сучасных асецінаў і паўночнай «Албаніі» вепсаў–віцаў. Пачаткова

*Russia Alba* магла азначаць «частку Русі, якая калісьці была Албаніяй», ці «краіну, якую калісьці насялялі албаны». Нельга выключыць, што спалучэнне *Белая Русь* склалася ўжо ў асяроддзі *русі* — шматэтнічнай супольнасці ваяроў, пераважна скандынаўскіх, як абазначэнне апанаванай імі протадзяржавы ў «краіне Вісу» з цэнтрамі на Ладазе і на Белым возеры. Першай гістарычнай крыніцай, згадваючай албанаў (*Albani — Wizzi)* у значэнні, блізкім да таго, у якім, як правіла, пазней будуць ужываць тэрмін *Белая Русь*, былі «Дзеі біскупаў Гамбургскай царквы» (каля 1075) Адама Брэменскага. Тэрмін *Белая Русь* узнік у мовах германскіх, адкуль трапіў у сярэднявечную лаціну, задоўга да таго, як быў засвоены славянскімі мовамі.

4. У залежнасці ад таго, дзе той ці іншы аўтар змяшчаў «албанаў», краіну *Russia Alba* шукалі ці ў цяперашнім расійскім Абазёр'і, ці (значна радзей) над Донам. Паўночная («цысрыфейская») *Russia Alba* ў вузкім сэнсе адпавядала частцы Наўгародскай рэспублікі (раёну колішняга расселення вепсаў); у шырокім — усяму Вялікаму Ноўгараду, часта разам з Псковам, які да Болатаўскага дагавору (каля 1348) быў ягоным васалам, і з некаторымі суседнімі землямі, каланізаванымі наўгародцамі — Вяткай, Перм'ю, Югорскай зямлёй. Паколькі «цысрыфейская» лакалізацыя была асноўнай, першапачатковай, яна і пакінула найбольш слядоў у дакументах і на картах XIII—XVI ст. і пратрывала да пачатку XVIII ст. *Russia Alba* над Донам, ці «трансрыфейская», фіксуецца з апошняй чвэрці XV ст. (пачынаючы з твораў Пампонія Лэта, Матэа Баярда і Генрыха Мартэла), у перыяд бурнага развіцця еўрапейскай геаграфіі і картаграфіі. Яна генетычна звязаная з такімі аказіяналізмамі еўрапейскай картаграфіі, як *Albania Tanai — Russhia Tanai.* Паняцце аб ёй склалася пад уплывам схаластычных уяўленняў аб Каўказскай Албаніі і вобласці *Albania Superior*, якую Бэкан змяшчаў у вярхоўях Дона, і аб жыўшых калісьці над Донам раксаланах — быццам бы продках усходніх

славянаў. Іншыя аўтары, якія ў розны час звязвалі паходжанне назвы з «белымі куманамі», «белымі скіфамі», «белымі сарматамі», таксама лакалізоўвалі яе ў Паўночным Прычарнамор’і. Але ў сапраўднасці можна казаць не пра агульнае паходжанне ўсіх гэтых назваў, уключаючы *Белую Русь*, а толькі пра спробу некаторых аўтараў узвесці паходжанне *Белай Русі* да антычнай эпохі. Прычым назвы «белыя скіфы» і «белыя сарматы» яўна створаныя штучна *post factum*, а існаванне «белых аланаў» можна дапусціць толькі гіпатэтычна. Адзіная назва з гэтага шэрагу, існаваўшая напэўна, — гэта «белыя куманы» (г.зн. полаўцы), аднак нічога не сведчыць пра якую–кольвечы этымалагічную сувязь паміж імі і *Белай Руссю*. Можна толькі прасачыць (на прыкладзе хронікі Мюгельна), як «белыя куманы» прычыніліся да «трансрыфейскай» лакалізацыі назвы, якая існавала ўжо даўно.

Гэтая другая *Russia Alba* паслядоўна не аддзялялася ад першай, бо, паводле геаграфічных уяўленняў Сярэднявечча вытокі Дона–Танаіса знаходзіліся далёка на поўначы, недзе побач з Ладажскім возерам. Таму назва лёгка пераходзіла з Паўночнага Прычарнамор’я да Усходняй Прыбалтыкі. Невядома ніводнай карты, дзе б фігуравалі абедзве *Белыя Русі*. Гэта паказвае на другасны характар «трансрыфейскай» *Russia Alba*, якая была толькі адгалоскам першай. Па меры таго, як рабілася відавочным, што на Доне і ў Паўночнай Таўрыі, занятых татарамі, вобласці з такой назвай не можа існаваць, «трансрыфейская» *Белая Русь* ва ўяўленнях еўрапейцаў адступала далей на поўнач, на Украіну і Севершчыну, паступова зліваючыся з паўночнай, а яна, у сваю чаргу, ссоўвалася на поўдзень.

5. Самымі даўнімі помнікамі ўсходнеславянскага паходжання, якія змяшчаюць звесткі пра *Белую Русь*, з’яўляюцца не ўяўныя граматы вялікага князя маскоўскага Івана III да папаў рымскіх Паўла II ці Сікста IV. Такім трэба прызнаць «Слово избранное от святых писаний еже на латыню», створанае, праўдападобна, Пахоміем Лагафетам каля

1461 г. і, магчыма, рэдагаванае на пачатку 1470–х г. Іван III (як і ягоны сын Васіль III) ніколі не прымаў тытула «вялікага князя Белай Русі» і не ўводзіў тэрміна *Белая Русь* для абазначэння Рускай дзяржавы. У XV—XVI стст. гэты тэрмін не быў вядомы ў Маскве якім–кольвечы пластам грамадства, за выняткам жменькі адукаваных людзей, знаёмых з заходнееўрапейскай літаратурай. Аднак перанос назвы *Russia Alba* на Маскоўскую дзяржаву (у еўрапейскай традыцыі) сапраўды адбыўся ў часы Івана III. Гэты перанос, зафіксаваны толькі іншаземцамі — італьянцамі (Джанбатыста Вольпе, Джакома Мафэі дэ Вальтэра, Амброджа Кантарыні), магчыма, сербам Пахоміем Лагафетам і інш., быў выкліканы ўваходжаннем у 1471—1478 г. у склад Вялікага княства Маскоўскага тэрыторыі Наўгародскай рэспублікі — адзінай часткі цяперашняй Расіі, якая мела дагэтуль цесныя гандлёвыя і культурныя кантактам з захадам і поўначчу еўрапейскага кантынента. Таму ўжо вядомая еўрапейцам *Белая Русь* зрабілася сінонімам малазнаёмай пакуль Масковіі, што ўвяло ў зман пазнейшых даследчыкаў, якія палічылі гэтую назву спрадвечнай для ўсёй «Маскоўска–Наўгародскай» Русі.

6. Замацаванню ў еўрапейскай традыцыі тэрміна *Russia Alba* ў якасці сінонiма Масковіі паспрыяла таксама выкарыстанне панегірыстамі маскоўскага вялікакняжацкага дому эпітэта «белы» ў значэнні «вялікі», «высакародны». Наколькі можна меркаваць, ён дастасоўваўся імі выключна да асобы маскоўскага манарха і ніколі — да Масквы як дзяржавы. Памылку еўрапейцаў XVI ст. (Герберштайна, Стрыйкоўскага і Гваньіні), якія змяшалі гэтыя розныя паняцці, у XVIII—XX ст. паўтаралі амаль усе даследчыкі, якія спрабавалі высветліць этымалогію *Белай Русі*. Разам з некрытычным падыходам да паведамленняў Тацішчава пра «белую» Уладзіміра–Суздальскую Русь гэта стала галоўнай прычынай таго, што вытокі назвы дагэтуль шукаюць на «рускіх» землях, а не ў заходнееўрапейскай навуковай і літаратурнай традыцыі.

7. Назву *Белая Русь* пачалі трывала дастасоўваць да часткі тэрыторыі сучаснай Беларусі, перш за ўсё да Полаччыны, у сярэдзіне XVI ст. Чарговае пераасэнсаванне назвы было абумоўленае палітычнымі абставінамі Лівонскай вайны, у першую чаргу — знаходжаннем Полацка пад маскоўскай акупацыяй у 1563—1578 г. Верагодна, некаторы час тэрмін, які ўжо губляў сваё пачатковае значэнне («краіна Вісу» — «Албанія» — Вялікі Ноўгарад) і апынуўся як бы ў «падвешаным» стане, ужываўся як агульная назва земляў, вяртання якіх Рэчы Паспалітай патрабавала польска–літоўскае грамадства. Частка іх (*quae Magno Ducatui Lituaniae adjacet subjacetque*) была толькі кагадзе захопленая Маскоўскай дзяржавай, а астатнія былі страчаныя ВКЛ у 1486—1537 г. Да таго ж аўтары разнастайных гісторыка–геаграфічных кампіляцый, што складаліся ў Заходняй Еўропе без глыбокага вывучэння прадмета, змешвалі звесткі аб заваяванні Ноўгарада Іванам III (*Ioannes Moschorum dux subacto Novogrado Magno*) і захопе Полацка Іванам IV у 1563 г.

8. У значэнні *Русь Літоўская* тэрмін *Белая Русь* спачатку ўжывалі або іншаземцы (Кромер, Гваньіні) або ўраджэнцы ВКЛ — прадстаўнікі адукаваных пластоў грамадства «заходняй» арыентацыі (С. Рысінскі, францысканы з Ашмянаў). Засваенне яго «паспалітымі» ўсходнімі славянамі адбылося на пачатку XVII ст. Толькі з гэтага часу *Белая Русь* трапляе з твораў польскіх гісторыкаў і публіцыстаў у мясцовыя летапісы і хронікі: «Хроніку Літоўскую і Жамойцкую», Густынскі летапіс ды інш. Пашырэнне яе вядомасці ў афіцыйных колах Маскоўскай дзяржавы і ў праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай пачалося амаль адначасова. Назва *Белая Русь* адразу ж набыла выразную ідэалагічную афарбоўку: яе асноўным зместам на доўгія стагоддзі зрабілася ідэя аб'яднання (а пазней — захавання) усіх «рускіх» земляў пад уладай Масквы.

9. Падзел на *Белую*, *Чорную* і *Чырвоную* Русь у агульнапрынятым цяпер выглядзе выснаваўся не раней за дру-

гую палову XVII ст. і ні ў якім разе не можа лічыцца спадчынай уласна славянскіх уяўленняў аб чляненні Русі. *Чорная Русь* ніколі не была аўтэнтычнай назвай Верхняга Панямоння, як і *Белая* — Падзвіння і Прыдняпроўя. З усіх трох «каляровых» тэрмінаў першым з'явілася менавіта *Белая Русь*. Антытэза *Белая — Чорная* ў дачыненні да Русі была доўгі час раўназначнай антытэзе *Верхняя — Ніжняя* ці «паўночная» — «паўднёвая», *Vladimiria — Kiovia, Вялікая — Малая*. Тэрміны *Чырвоная і Чорная Русь узніклі амаль адначасова* і працяглы час «канкуравалі» за «права» абазначаць адны і тыя ж тэрыторыі. Менавіта *Чырвонай* лічылі ў XV—XVI ст. тую частку *Русі*, якая ўваходзіла ў склад ВКЛ — задоўга да таго, як яе пачнуць называць *Руссю Белай*.

10. У расійскіх афіцыйных дакументах 1640–х—1650–х г. у склад *Белай Русі* ўкраінскія тэрыторыі ўключалі часцей, чым беларускія, а тэрмінам «белорускoе письмо» абазначалі ўсю сукупнасць графічных і лексічных асаблівасцяў, якія адрознівалі т.зв. «заходнерускую» пісьмовую мову ад уласна рускай. Пашырэнню арэала хароніма *Белая Русь* (у яго новым значэнні) на Украіну спрыяла ранейшае ўжыванне гэтай назвы да ўкраінскіх тэрыторый (гл. п. 4). Аднак назвы «Украіна» ды «Малая Русь» хутка выцеснілі *Белую Русь* з ужытку ў гэтым значэнні. *Белая Русь* у значэнні «Расійская дзяржава» сустракаецца на некаторых еўрапейскіх картах нават у XVIII ст., але ўсё радзей. З канца XVII — пачатку XVIII ст. можна казаць пра стабілізацыю геаграфічнай прывязкі разглядаемай назвы: яна канчаткова замацавалася за часткай земляў ВКЛ, здаўна называных *Руссю* (у вузкім сэнсе), у адрозненне ад уласна *Літвы*. Такі стан рэчаў у асноўным захаваўся да канца XIX ст., калі на ўздыме нацыянальнага руху — але і пад яўным уплывам «заходнерусізму» — *Белая Русь* пачала выкарыстоўвацца як назва ўсёй краіны, якая з цягам часу стане незалежнай Рэспублікай Беларусь.

# Храналагічная табліца

**VII—XIII ст.** У еўрапейскай схаластычнай традыцыі фармуецца ўяўленне пра Албанію, якая «ўзыходзіць па ўзбярэжжы да Паўночнага акіяна, прасціраючыся да Меацийскіх азёраў і да найдзічэйшых пустынных месцаў»

**Каля 1255—1260** *Incipiunt Descriptiones terrarum* упершыню фіксуе назву *Alba Russia* (ў дачыненні да Наўгародскай рэспублікі)

**Каля 1360** Генрых фон Мюгельн упершыню згадвае *Чорную Русь* (*daz land der Swarczen Reussen*)

**1382** Ян з Чарнкова ўпершыню адносіць да *Белай Русі* Полацк (хутчэй за ўсё, выпадкова)

**каля 1420** Ульрых Рыхенталь упершыню згадвае *Чырвоную Русь* (*rot Russen*)

**1459** *Белая Русь* (*Rossia Biancha*) ўпершыню пазначаная на геаграфічнай карце (*Mappamondo* Фра Маўра)

**1461** Першая ўсходнеславянская звестка пра *Белую Русь* («Слово избранное от святых писаний еже на латыню»)

**1463** Упершыню зафіксаваны тытул маскоўскіх вялікіх князёў *Albus Imperator*

**1472** Са стратай незалежнасці Ноўгарада еўрапейцы пераносяць назву *Белая Русь* на Маскоўскую дзяржаву

**1487—1489** *Белая Русь* упершыню лакалізуецца ў Паўночным Прычарнамор'і і Прыазоўі (паэма Матэа Баярда *Orlando innamorato* і карта свету Генрыха Мартэла)

**1501** *Alba Russia* як іншая назва Маскоўскай дзяржавы ўпершыню згаданая ў афіцыйных дакументах ВКЛ (інструкцыя пасольству Эразма Цёлка да папы Аляксандра VI)

**1507** *Russia Alba* на карце Беневентана—Вапоўскага ўпершыню закранае частку тэрыторыі сучаснай Беларусі (Старадубскае княства, якое ў 1500 адышло да Маскоўскай дзяржавы)

**1515** *Russia Alba* ўпершыню пазначаная на глобусе (Іагана Шонера)

**1542** *Alba Russia* згаданая на першай карце, створанай на тэрыторыі ВКЛ («Масковія, якую таксама называюць Руссю Белай»)

**1555** Марцін Кромер першым свядома ўжывае назву *Белая Русь* у дачыненні да значнай часткі ВКЛ

**1557** Першая спроба навачаснай „навуковай“ этымалогіі. Сігізмунд Герберштайн выводзіць назву *Белая Русь*–Масковія ад спалучэння «белы рускі цар»

**1562** *Белая Русь* упершыню вынесеная ў загаловак карты (Дж. Гастальды)

**канец 1570–х** Назва *Белая Русь* трывала распаўсюджваецца на акупаваную з 1563 Іванам Жахлівым частку ВКЛ

**1582** Мацей Стрыйкоўскі першым ужывае этнонім *Bielorussacy Litewscy*

**1586** Этнонім упершыню ўжыты як саманазва ўраджэнцам ВКЛ (Саламон Рысінскі — *Solomo Pantherus Leucorussus*)

**каля 1591** Упершыню ў заходніх крыніцах назва *Белая Русь* сустракаецца ў славянскай перадачы (*Bella Russia*)

**1621** *Белая Русь* упершыню згаданая ў маскоўскіх афіцыйных дакументах

**1627** *Белая Русь* як частка ВКЛ упершыню згаданая ў афіцыйных дакументах Рэчы Паспалітай

**канец 1620–х** *Белая Русь* уваходзіць у назвы царкоўных адміністрацыйна–тэрытарыяльных адзінак у каталікоў і праваслаўных

**1655** Указ аб унясенні *Белай Русі* ў тытул цара Аляксея Міхайлавіча

**канец 1650–х** *Белую Русь* пачынаюць стабільна адлюстроўваць на еўрапейскіх картах у межах Полацкага ваяводства

**1708** *Белая Руссия* ўпершыню прадстаўленая на рускамоўнай карце

**1720–я** *Белая Русь* знікае з еўрапейскіх карт у значэнні „Руская дзяржава“

**1890–я** Назва *Белоруссия* распаўсюджваецца на ўсю беларускую этнічную тэрыторыю

**1918** Абвешчанне Беларускай Народнай Рэспублікі

**1991** Абвешчанне Рэспублікі Беларусь

# Каментары, крыніцы і літаратура

## *Уводзіны.* Моц традыцыі

[1] Імя тваё «Белая Русь». Мн., 1991.

[2] У больш шырокім аспекце гісторыя назвы *Белая Русь* з'яўляецца прадметам даследавання такой спецыфічнай дысцыпліны, якую на Захадзе прынята называць «гісторыя ідэй» і якая займаецца праблемамі эвалюцыі ментальнасці, адлюстравання рэчаіснасці ў свядомасці людзей розных эпох і культур у форме пэўных вобразаў, паняццяў і тэрмінаў.

[3] Ламанский В. «Белая Русь» // Живая старина. Вып. III. СПб., 1890 (1891); Потебня А. А. Этимологические заметки // Живая старина. Вып. III. СПб., 1890 (1891); Энциклопедический словарь. (Брокгауз и Ефрон). Т. 5. СПб., 1891. С. 173. (У апошнім артыкуле *Белай Руссю* лічыцца толькі Магілёўская і частка Віцебскай губ.). У тым жа 1891 г. з друку выйшла „Дудка беларуская", у якой Ф. Багушэвіч дастасоўваў назву Беларусь да ўсёй тэрыторыі краіны ў яе тагачасных этнаграфічных межах.

[4] Анучин Д. Н. Рельеф поверхности Европейской России в последовательном развитии о нем представлений // Анучин Д. Н., Борзов А. А. Рельеф Европейской части СССР. М., 1948.

[5] Анучин Д. Н. Адольф Эрик Норденшельд // Землеведение. 1901, Кн. 3—4. С. 250—258.

[6] Замысловский Е. Е. Описание Литвы, Самогитии, России и Московии Себастиана Мюнстера // ЖМНП. Ч. CCXI. СПб., 1880, № 9. С. 110; Пра Замыслоўскага гл.: Чарапіца В. Ягор Ягоравіч Замыслоўскі // БГЧ. 1996. № 2.

[7] Грыцкевіч А. П. Белая Русь // Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988. С. 263; Юхо Я. А. Белая Русь // ЭГБ. Т. 1. Мн., 1993. Сс. 492—493; Чаквін І. У., Юхо Я. А. Белая Русь // Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 77.

[8] Гл., напрыклад: Киркор А. К. Белорусское Полесье // Живописная Россия. Репринтное воспроизведение изд. 1882 г. Мн., 1993. С. 249.

[9] История БССР. Мн., 1961. С. 74; Белорусская ССР на международной арене. Под ред. К. В. Киселёва. Мн., 1961. Сс. 12—13; Белая Русь // СИЭ. Т. 2. М., 1962. С. 211.

[10] Цітоў А. К. Гарадская геральдыка Беларусі. Мн., 1989. С. 35.

[11] Тарасаў К. Памяць пра легенды: постаці беларускай мінуўшчыны. С. 45; Zaprudnik J. Belarus at a Crossroads in History. Boulder—San Francisco—Oxford, 1993. P. 2—3.

[12] Власт. Матэрьялы для беларускага слоўніка // Крывіч. № 4, 1923; Vakar P. The name «White Russia». The American Slavic and East European Review. October, 1949. Vol. VIII. P. 204—205; Иванов Вяч. Цветовая символика в географических названиях в свете данных топологии (К названию Белоруссии) // Імя тваё «Белая Русь». С. 135.

[13] Греков И. Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963. С. 42; Трубачев О. Н. Ранние славянские

этнонимы — свидетельства миграции славян // Вопросы языкознания. 1974. № 6. С. 51; Агеева Р. А. Страны и народы: происхождение названий. М., 1990. С. 146, 150; Трубачоў А. Не ад белай адзежы і светлых вачэй // Беларуская мінуўшчына. 1993. № 1. С. 8.

[14] Mańczak W. Biała, Czarna i Czerwona Ruś // International journal of Slavic linguistics and poetics. Vol. 19, 1975. P. 38—39.

[15] Иванов Вяч. Цветовая символика в географических названиях в свете данных топологии (К названию Белоруссии) // Імя тваё «Белая Русь». С. 117—136.

[16] Ильинский Г. К вопросу о происхождении названия «Белая Русь» // Slavia VI. Praha, 1927. S. 391—393.

[17] Крапівін П. Паходжанне назваў «Русь», «Белая Русь», «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь» // Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук. 1956. № 3. С. 60—61.

[18] Рогалеў А. Ля вытокаў Белай Русі // Імя тваё «Белая Русь». С. 159—160.

[19] Рогалев А. Ф. Белая Русь и белорусы (в поисках истоков). Гомель, 1994. С. 92.

[20] Станкевіч Я. Нарысы з гісторыі Вялікалітвы–Беларусі. Нью–Джэрзі. 1978. С. 24—29.

[21] Рогалев А. Ф. Белая Русь и белорусы (в поисках истоков). С. 87.

[22] Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993. С. 110.

[23] Рамсей Р. Открытия, которых никогда не было. М., 1982. С. 67—74.

## 1. «Тацішчаўскія звесткі» і праблема дакладнай атрыбуцыі

[24] Татищев В. Н. Введение к гисторическому и географическому описанию Великороссийской империи // Избранные труды по географии России. М., 1950. С. 145; Фрагменты летапісаў, хронік і актавых запісаў // Імя тваё «Белая Русь». С. 14.

[25] Татищев В. Н. История Российская. Т. 2. 1963. С. 146, прим. 389, с. 265; Сагановіч Г. М. Да гісторыі назвы «Белая Русь» // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992. С. 64.

[26] Татищев В. Н. История Российская. Т. 4. 1964. С. 251.

[27] Татищев В. Н. Предложение о сочинении истории и географии российской // Избранные труды по географии России. С. 79.

[28] Татищев В. Н. О географии вообсче и о русской // Избранные труды по географии России. С. 219; Татищев В. Н. История Российская. Т. 1. М.—Л., 1962. С. 355; Фрагменты летапісаў, хронік і актавых запісаў. С. 14.

[29] Тарасаў К. Памяць пра легенды: постаці беларускай мінуўшчыны. С. 45—46.

[30] Татищев В. Н. История Российская. Т. 1. С. 433.

[31] Тамсама. Т. 1. С. 287.

[32] Тамсама. Т. 1. С. 355; Юхо Я. А. Белая Русь. С. 492—493; Фрагменты летапісаў, хронік і актавых запісаў. С. 13; Юхо Я. Пра назву «Беларусь» // Полымя. 1968. № 1. С. 179.

[33] Ильинский Г. К вопросу о происхождении названия «Белая Русь». С. 388.

[34] Гл. Максімовіч Р. Рэц.: Vakar P. The name «White Russia». The American Slavic and East European Review. October, 1949. Vol. VIII // Запісы БІНІМ. New York, 1954. № 2 (6). С. 117; Mańczak W. Biała, Czarna i Czerwona Ruś. P. 31; Чаквін І. У., Юхо Я. А. Белая Русь. С. 77; Сагановіч Г. М. Да гісторыі назвы «Белая Русь». С. 63.

[35] Пештич С. Л. Русская историография XVIII в. Ч. І. Л., 1961. С. 245.

[36] Чаквін І. У., Юхо Я. А. Белая Русь. С. 77.

[37] Карамзин Н. М. История государства Российского. Кн. 1, Т. II. М., 1988. Прим. 262, стб. 109; Кучкин В. А. Формирование государственной территории Северо–Восточной Руси в X—XIV вв. М., 1984. С. 8.

[38] Карамзин Н. М. История государства Российского. Кн. 2, Т. VI. М., 1989. Стб. 78, прим. 598.

[39] Чамярыцкі В., Жлутка А. Першая згадка пра Белую Русь — XIII ст.! // Адраджэнне. Гістарычны альманах. Мн., 1995. С. 145; Апісанне земляў (з Дублінскага рукапісу XIII ст.) // Спадчына. 1993. № 6. С. 68; Сагановіч Г. М. Да гісторыі назвы «Белая Русь». С. 64.

[40] Зимин А. А. Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV — первой трети XVI в. М., 1988. С. 82.

[41] Шахматов А. А. О так называемой Ростовской летописи. М., 1904. С. 9; Пештич С. Л. Русская историография XVIII в. Ч. І. С. 258.

[42] Тамсама. С. 241.

[43] Козлов В. П. Тайны фальсификации. М., 1996. С. 23.

[44] Крапівін П. Паходжанне назваў «Русь», «Белая Русь», «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь». С. 65; Грыцкевіч А. П. Белая Русь. С. 263; Гісторыя Беларусі. Пад рэд. А. Г. Каханоўскага і інш. Мн., 1996.

[45] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 227; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936. С. 52; БЭФ. Т. 1. Мн., 1959. С. 70; Фрагменты летапісаў, хронік і актавых запісаў. С. 9. Ермалаеўскі спіс памылкова падае гэтыя падзеі пад 6813 (1305), а не 1325 г.

[46] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. VII; Шахматов А. А. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв. М.—Л., 1938. С. 103; Лихачёв Д. С. Русские летописи и их культурно–историческое значение. М.—Л., 1947. С. 431.

[47] Сагановіч Г. М. Да гісторыі назвы «Белая Русь». С. 67; Апісанне земляў. С. 68.

[48] Stryikowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. T. I. Warszawa, 1846. S. 378.

[49] Пештич С. Л. Русская историография XVIII в. Ч. І. С. 257—258.

[50] Можейко Н. С., Игнатенко А. П. Древнерусский язык. Мн., 1988. С. 24; Сагановіч Г. М. Да гісторыі назвы «Белая Русь». С. 67.

[51] *Dicitur modo haec villa esse Borthniky in Russia Alba que dicitur occupata per dominum palatinum Polocensem*. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezyi wileńskiej. T. I. Kraków, 1948. S. 73.

[52] Областной пинкос Ваада главных еврейских общин Литвы. Т. 1. 1623—1664. СПб., 1909. С. 48—49.

[53] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. С. 381; Сагановіч Г. М.

Да гісторыі назвы «Белая Русь». С. 70.

## 2. *Incipiunt Russiae Albae*

[54] У 1981 г. *Descriptiones terrarum* была ўведзена ў абарот у Польшчы, у 1984 г. — у Літве, і толькі ў 1988 г. пра яе нарэшце даведаліся на Беларусі. Colker M. L. America rediscovered in thirteenth century? // Speculum. A journal of medieval studies. Cambridge. Vol. 54. No. 4. October 1979. P. 712—726; Górski K. Descriptiones terrarum. Nowo odkryte źródło do dziejów Prus w XIII wieku // Zapiski historyczne. T. XLVI, z. 1. 1981. S. 7—16; Вячорка В. Што суседзі кажуць? // Крыніца. 1988. № 2; Апісанне земляў (з Дублінскага рукапісу XIII ст.) // Спадчына. 1993. № 6; Чамярыцкі В., Жлутка А. Першая згадка пра Белую Русь… С. 150; Чамярыцкі В. Дублінскі рукапіс // ЭГБ. Т. 3. Мн., 1996. С. 305.

[55] Górski K. Descriptiones terrarum. S. 12.

[56] Górski K. Henryk–Heidenreich, pierwszy biskup chelmiński // Studia nad historią dominikanów w Polsce. T. 1. Warszawa, 1978. S. 182.

[57] Характэрна, што асноўная ўвага адкрывальніка *Апісання земляў* М. Колкера была засяроджана зусім не на першай згадцы пра *Белую Русь*, а на магчымай інфармаванасці аўтара аб існаванні Амерыкі. Барталамей Англійскі таксама ведаў пра адкрыцці нарманаў у Паўночнай Амерыцы, бо згадваў у сваім творы Вінланд (*Vinlandia*). Вывучаючы лёс *Белай Русі*, можна правесці нямала паралеляў з гісторыяй адкрыцця Новага Свету і яго адлюстравання на геаграфічнай карце. Часта пра іх паведамляюць адны і тыя ж крыніцы. М. Вальдзеемюлер, які першым змясціў на карце назву *Амерыка* (1507 г.), быў аўтарам і многіх карт з выявай *Белай Русі*. Тое ж можна сказаць і пра іншых географаў, імены якіх звязаныя з адкрыццём Амерыкі для свету — С. Кабота, Р. Торна і іншых. Канешне, гэта звычайнае супадзенне. Але калі б закінутаму краю на ўсходзе Еўропы даставалася хаця б часцінка тае ўвагі навукоўцаў, якая ўдзялялася Новаму Свету, наўрад ці загадка паходжання сучаснага імя нашай краіны пратрывала б да гэтых дзён.

[58] *[Pruscia]… sic progreditur ad occidentem ad Carilos paganos, qui sunt regno contermini Nortmannorum. Dicti Carili sunt siluestres homines multum rudes…Ex hiis unus, audiens fratrem Vaislanum socium meum in Alba Ruscia predicamem, sollicitabat cum ut cum ipso intraret ad prefatos Carilos, asserens quod absque dubio deo uero eosdem acquireret per baptismum et pro uoto ibidem ecclesias fabricaret.* Colker M. L. America rediscovered… P. 725; Апісанне земляў. С. 65; Górski K. Descriptiones terrarum. S. 10; Чамярыцкі В., Жлутка А. Першая згадка пра Белую Русь... С. 144.

[59] Апісанне земляў. С. 67; Чамярыцкі В. Дублінскі рукапіс // ЭГБ. Т. 3. С. 305.

[60] Хроника Ливонии. Введение, перевод и комментарии С. А. Аннинского. М.—Л., 1938. Прим. 3. С. 248.

[61] Рамм Б. Я. Папство и Русь в X—XV вв. М.—Л., 1959. С. 177.

[62] Шаскольский И. П. Борьба Руси против крестоносной агрессии на берегах Балтики в XII—XIII вв. Л., 1978. С. 208—209.

[63] У 968 г. у Магдэбургу было заснаванае арцыбіскупства, якому мусілі падпарадкоўвацца ўсе наваствораныя біскупствы на ўсход ад р. Лабы. Больш падрабязна пра гэта гл.: Жлутка А. Заходняе хрысціянства на Беларусі // Наша вера. 1998. № 1. С. 74.

[64] *Albania Asiae minori est provincia a colore populi nuncupata eo quod albo crine nascantur...* Бартоломей Английский. О свойствах вещей (*De proprietatibus rerum*) // Матузова В. И. Английские средневековые источники IX—XIII вв. М., 1979. С. 72, 80. На славутай сярэдневечнай карце свету з англійскага г. Херэфорд *албаны*, паказаныя як народ Крайняй Поўначы, характэрызуюцца наступным чынам: *Albani pupillam glaucam habent et plus nocte vident*. Гл. таксама заўвагу [75].

[65] Перакладчык і каментатар Бэкана В. Матузава паслядоўна правіць у «Вялікім творы» «Албанію» на «Аланію». Гл.: Матузова В. Английские средневековые источники. Прим. 72, с. 227; прим. 86, с. 228. Але наўрад ці такая карэкцыя абгрунтаваная: калі мы маем справу з геаграфічнай наменклатурай вучоных сярэднявечча, іх тэрміны не заўжды можна адназначна суаднесці з сучаснымі.

[66] Бэкон Р. Великое сочинение // Матузова В. Английские средневековые источники. С. 199, 213. Гэтым паселішчам магла быць хазарская крэпасць Саркел, пасля паходу Святаслава ў 965 г. руская Белая Вежа.

[67] Тамсама. С. 199, 212.

[68] Тамсама.

[69] Тамсама.

[70] Матузова В. Английские средневековые источники. прим. 65, с. 227; прим. 83, с. 228.

[71] Бэкон Р. Великое сочинение. С. 199, 213. Што датычыць папярэдніка Бэкана, Адама Брэменскага, ён уважаў «русцэнаў» народам, блізкім да грэкаў, палічыўшы аднолькавасць канфесій і блізкасць алфавітаў за прыкмету этнічнай роднаснасці.

[72] Graesse J. G. Th. Orbis Latinus oder Verzeichniss der lateinischen Benennungen. Dresden, 1861. S. 7.

[73] Попов А. И. Названия народов СССР. Введение в этнонимимику. Л., 1973. С. 136—137.

[74] Pritsak O. The Origin of Rus'. Vol. I. Old Scandinavian sources then the sagas. Cambridge, Mass., 1981. P. 523, 798.

[75] Schedel H. Liber Chronicarum. Nurembergiae, 1493. Secunda etas mundi. Folium XIV. *Albania a colore populi sic nominata eo quod albo crine nascant homines* –– амаль даслоўнае супадзенне з Барталамеем — гл. заўв. [64].

[76] «Следует обратить внимание на то, что господствующий тип белоруссов — крайние блондины с голубыми или светлосерыми глазами». Гл.: Карский Е. Белоруссы. Введение к изучению языка и народной словесности. Вильна, 1904. С. 117. Выказванне на гэты конт Тацішчава гл. заўв. [31].

[77] Томсон Дж. История древней географии. М., 1955. С. 356.

[78] *Ibi sunt etiam [in Ruzzia], qui dicuntur Alani vel Albani, qui lingua eorum Wizzi dicuntur, crudelissimi ambrones, cum canitie nascuntur; de quibus Solinus meminit.* Scriptores Rerum Germanicarum in usum scholarum. Magistri Adam

Bremensis Gesta Hammaburgensis Ecclesiae Pontificum. P. 248 (Lib. IV, cap. XIX); Тиандер К. Поездки скандинавов в Белое море. СПб., 1906. С. 47; Пименов В. В. Вепсы. Очерк этнической истории и генезис культуры. М.—Л., 1965. С. 27; Голубева Л. А. Весь и славяне на Белом озере. X—XIII вв. М., 1973. С. 5; Урбан П. Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў. Мн., 1994. С. 80. Гай Юлій Солін — рымскі вучоны першай паловы III в., аўтар трактата *Collectanea rerum memorabilium* («Збор рэчаў, годных упамінання»); іншая назва гэтага твора — *De situ orbis*. *Аланаў* змешвалі з *албанамі* яшчэ і ў XVI ст. (напрыклад, Францэска Т'епала — гл.: Аннинский С. А. Рассуждение о Московии Франческо Тьеполо // Исторический архив АН СССР. Т. III. М., 1940. С. 328, 346), што, магчыма, адыграла ролю ва ўзнікненні «трансрыфейскай» *Белай Русі* (гл. раздзел 6).

[79] «Туркі» (*Turci*) Адама Брэменскага могуць адпавядаць цюркскім народам, паколькі для яго Фінская затока і Азоўскае мора знаходзіліся зусім побач, калі не злучаліся. (Гл., напрыклад: Strumiński B. Linguistic Interrelations in Early Rus'. Northmenn, Finns, and East Slavs (Ninth to Eleventh Centuries). Rome, 1996. P. 269). Такому тлумачэнню, як мы ўбачым ніжэй, не пярэчыць і схільнасць многіх пазнейшых аўтараў да лакалізацыі *Белай Русі* ў Паўночным Прычарнамор'і і Прыазоўі. Але, магчыма, Адам меў на ўвазе жыхароў ваколіц сучаснага г. Турку ў Фінляндыі.

[80] *At vero a parte aquilonari revertentibus ad ostium Baltici freti, primi occurunt Nortmanni, deinde Sconia prominet regio Danorum, et supra eam tenso limite Gothi habitant usque ad Bircam. Postea longis terrarum spatiis regnant Sueones usque ad terram feminarum. Supra illas Wizzi, Mirri, Lami, Scuti et Turci habitare feruntur usque ad Ruzziam. In qua denuo finem habet ille sinus. Itaque latera illius ponti ab austro Sclavi, ab aquilone Suedi possederunt.* Scriptores Rerum Germanicarum in usum scholarum. Magistri Adam Bremensis Gesta Hammaburgensis Ecclesiae Pontificum. P. 242 (Lib. IV, cap. XIV).

[81] П. Урбан, абвяргаючы ідэнтычнасць «албанаў» і *весі*, бачыў у першых заходнеславянскі племянны саюз вільцаў (люцічаў) (Урбан П. Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў. С. 80). Але гэтыя «вільцы–славяне ці люцічы» (*Wilzi Sclavi vel Leuticii*) у Адама неаднаразова згадваюцца ў іншых месцах, калі ён пералічвае заходнеславянскія народы — *Wilzi, Leuticii, Pomerani, Polani,* у той час як *Wizzi* разам з іншымі прыбалтыйскімі народамі жылі *usque ad Ruzzia* Гл. Magistri Adam Bremensis Gesta Hammaburgensis Ecclesiae Pontificum. P. 75, 77, 79, 81, 165, 241, 245 etc.; Тиандер К. Поездки скандинавов в Белое море. С. 46. Зрэшты, раз–пораз Адам не вытрымлівае гэтага адрознення, ужываючы *Wilzi* і *Wizzi* як узаемазамяняльныя тэрміны.

[82] Голубева Л. А. Весь и славяне... С. 5.

[83] Пименов В. В. Вепсы. С. 29—30; Голубева Л. А. Весь и славяне... С. 7.

[84] Рамм Б. Я. Папство и Русь в X—XV вв. С. 161—162.

[85] Тамсама. С. 157.

[86] Тамсама. С. 165—166.

[87] Дробинский А. И. Русь и Восточная Европа во французском средневековом эпосе // Исторические записки. Вып. 26. М., 1948. С. 98.

[88] Пименов В. В. Вепсы. С. 28.

[89] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1908. Стб. 14; Шахматов А. А. Повесть временных лет. Т. 1. Пг., 1916. С. 19. На легендарнасць Сінеўса, як і яго ізборскага «брата» Трувора, паказвае магчымасць тлумачэння іх імёнаў са шведскае: *sine hus* (свой род) і *thru varing* (верная дружына).

[90] Шахматов А. А. Повесть временных лет. Т. 1. С. 19.

[91] Новосельцев А. П. Восточные источники о восточных славянах и Руси VI—IX вв. // Древнерусское государство и его международное значение. М., 1965. С. 412; Ловмяньский Х. Русь и норманны. М., 1985. С. 105; Кирпичников А. Н., Дубов И. В., Лебедев Г. С. Русь и варяги // Славяне и скандинавы. М., 1986. С. 206—207.

[92] Хабургаев Г. А. Этнонимия «Повести временных лет» в связи с задачами реконструкции восточнославянского глоттогенеза. М., 1979. С. 212—226; Ловмяньский Х. Русь и норманны. С. 163—191; Кирпичников А. Н., Дубов И. В., Лебедев Г. С. Русь и варяги. С. 202—203.

[93] Голубева Л. А. Весь и славяне... С. 57. Пазнейшыя Белавозера і Белазёрск знаходзіліся на паўднёвым беразе, чаму мы і не ўжываем нідзе назву «Белавозера», але: Белае возера.

[94] *tith haffdo the huxat ok vildo them sla*
*hwita träsk er som eth haaf*
*swa som bokin sigher herr aff*
*rytzland ligger östan sunnan til*
*ok karela nordhan swa at sion them skiil*

Klemming G. E. Gamla eller Eriks–kronikan // Svenska medeltidens rim–kroniker. Del. 1. Stockholm, 1865. S. 51 (радкі 1491—1495); Рыдзевская Е. А. Древняя Русь и Скандинавия в IX—XIV вв. (Материалы и исследования). М., 1978. С. 115, 120. Рыдзеўская не выключала, што «Белае» — страчаная цяпер старажытная карэльская назва Ладажскага возера. На яго заходнім беразе маюцца некалькі тапонімаў з карэла–фінскай асновай *valkea* — белы. Але, з іншага боку, назва можа быць і ўказаннем на «вісаў» — вепсаў.

[95] Мельникова Е. А. Древнескандинавские географические сочинения. М., 1986: Тексты, переводы, комментарий. С. 64, 65, 96, 146, 178.

[96] Тамсама. С. 178.

[97] Тамсама. С. 65, 96.

[98] Тамсама. С. 64; Pritsak O. The Origin of Rus'. Vol. I. P. 523.

[99] Мельникова Е. А. Древнескандинавские географические сочинения. С. 79.

[100] Тиандер К. Поездки скандинавов в Белое море. СПб., 1906. С. 34; Strumiński B. Linguistic Interrelations in Early Rus'. P. 268.

[101] Голубева Л. А. Весь и славяне... С. 11.

[102] Тиандер К. Поездки скандинавов в Белое море. С. 48.

[103] Глазырина Г. В. *Alaborg* «Саги о Хальвдане, сыне Эйнстейна» // Древнейшие государства на территории СССР. 1983. М., 1984. С. 201, 206, 207; Кирпичников А. Н., Дубов И. В., Лебедев Г. С. Русь и варяги. С. 197.

[104] The north–sheets of the map of Europe by Fr. Camocio, 1579 // Imago Mundi. VIII. Stockholm, 1951.

[105] З Арсай часта звязваюць назву старажытнага Сарскага гарадзішча ля Растова. Першымі насельнікамі Растова былі не вепсы, а іншы фінскі народ — мера (іх згадвае і Адам Брэменскі), але вікінгі і іх маглі называць *Wizzi*.

[106] Nordenskjold A. E. Periplus. An essay on the early history of charts and sailing–directions. Stockholm, 1897. P. 17; Быковский Н. М. Картография: исторический очерк. Пг., 1923. С. 75; Bagrow L. A history of the cartography of Russia up to 1600. V. 1. Wolfe Island, 1975. Fig. 8.

[107] Быковский Н. М. Картография: исторический очерк. С. 78; Славянски ръкописи, документи и карти за Българската история от Ватиканската апостолическа библиотека и секретния архив на Ватикана (IX—XVII век). София, 1978. № 24, табл. LVII. У канцы XVIII ст. планісфера належала кардыналу Стэфану Борджа (цяпер захоўваецца у *Bibliotheca Apostolica Vaticana*).

[108] Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. М., 1992. С. 130. Аднак наўрад ці справядліва будзе аднесці гэтую заўвагу толькі да чалавека сярэднявечча. «Чалавек не ў стане зразумець нічога без дапамогі вобразаў (*phantasmata*); вобраз ёсць падабенства цялеснай рэчы; інтэлект суадносіцца з усеагульным, якое здабываецца з адзінкавых рэчаў» — гэтае выказванне Тамаша Аквінскага трэба прызнаць універсальным. Яно тычыцца свядомасці чалавека ўвогуле, незалежна ад таго, да якіх эпохі і культуры ён належыць. Месца *Белай Русі* як ментальнага вобраза ў сістэме геаграфічных уяўленняў чалавека Сярэднявечча і Новага Часу, у гістарычнай перспектыве, і з'яўляецца прадметам даследавання гэтай кнігі.

[109] Ельницкий Л. А. Знания древних о северных странах. М., 1961. С. 60.

[110] Гл., напрыклад: Cellarius Christophorus. Notitiae Orbis Antiqus. Lipsiae, 1706. P. 370—374.

[111] Graesse J. G. Th. Orbis Latinus. S. 7, 171.

## 3. *Weizzen Reuzzen* крыжацкіх «рэйзаў»

[112]

*Dar nach gen Weizzen Reuzzen*
*Fur Eysenburk für der gehewer*
*Da ein grozze schumphfetewer*
*Geschach...*

Von hern Friedreichen dem Chreuzzpekch // Peter Suchenwirt's Werke aus dem vierzehnten Jahrhundert. Hrsg. von Alois Primisser. Wien, 1827. S. 46; Scriptores Rerum Prussicarum. Leipzig, 1863. II, s. 148—149; Ламанский В. «Белая Русь». С. 247; Карский Е. Белоруссы. Введение к изучению... С. 115.

[113] Peter Suchenwirt's Werke aus dem vierzehnten Jahrhundert.. Anmerk. XIV. S. 254.

[114] Псковские летописи. Вып. 1. М.—Л., 1941. С. 20—21; Вып. 2. М.—Л., 1955. С. 98—99.

[115] Яшчэ адной асобай, якая магла «прыцягваць» назву *Белая Русь* на тэрыторыю сучаснай Беларусі, быў пінскі, полацкі і наўгародскі князь Нарымонт. Гл. пра яго: Krupa K. Książeta litewscy w Nowogrodzie Wielkim do 1430 r. // KH. R. C. 1993. № 1. Праўда, у такой кантамінацыі можна хутчэй западозрыць сучаснікаў Зухенвірта, чым яго самога: хаця ў 1377 г. ён разам з аўстрыйскім герцагам Альбрэхтам III браў удзел у крыжацкіх «рэйзах» на ВКЛ, але пра *Белую Русь* нічога не гаворыцца ў яго вершы, прысвечаным Альбрэхту III, дзе асвятляецца і выправа 1377 г. — а яна ж дасягнула полацкага фарпоста Друі. Гл. Peter Suchenwirt. Von Herzog Albrechts Ritterschaft // Peter Suchenwirt's Werke aus dem vierzehnten Jahrhundert. S. 11—13.

[116] ЭГБ. Т. 2. Мн., 1994. С. 186.

[117] *Eysenwurch di guten stat in Weizzen Reuzzen*. Peter Suchenwirt. Von hern Hansen dem Trawner // Peter Suchenwirt's Werke aus dem vierzehnten Jahrhundert. S. 59; Scriptores Rerum Prussicarum. Leipzig, 1863. II, s. 152; Ламанский В. «Белая Русь». С. 248.

[118] *Di Weizzen Reuzzen heten mut*
*Tze reisen auf di christen*

Peter Suchenwirt. Von hern Hansen dem Trawner. S. 59; Keller M. Perspektiven: Vorstellungen von «Riuzen» in der deutschen Literatur des Mittelalters // Russen und Russland aus deutscher Sicht 9.—17. Jahrhundert. Hrsg. von M. Keller. München, 1988. S. 104.

[119] ПСРЛ, Т. 28. М.—Л., 1963. С. 259; Begunov Ju. Weisse Rus und Weissrussen in einer Deutschen Chronik des 15. Jahrhunderts // Forschungen zur Osteuropaischen Geschichte. B. 27. Berlin, 1980. S. 302. Як заўважыў В. Янін, у Наўгародскай рэспубліцы традыцыйна суіснавалі дзве сістэмы «кармленняў» — літоўская (служылым князям з ВКЛ звычайна выдзяляліся Ладага, Арэшак, Карэла, Капор'е) і маскоўская, куды запрашаліся служылыя князі з тэрыторый, падкантрольных Маскве (звычайна з Белага возера ці Растова). Гл.: Янин В. Л. Новгородская феодальная вотчина (историко–генеалогическое исследование). М., 1981. С. 221.

[120] *Item so haben der von Polan und herczog Wytawt mit den von Pleschkow und den weisen Rewsen sich voreinet*. Prochaska A. Codex epistolaris Vitoldi. Cracoviae, 1882. S. 245; Ламанский В. «Белая Русь». С. 247; Карский Е. Белоруссы. Введение к изучению... С. 115; Сагановіч Г. М. Да гісторыі назвы «Белая Русь». С. 67.

[121] *wi sich herczog Witawt mit den Pleskouwern und den Grossen Nougardern und der ganzen Russchen czungen voreineget hat... her welle mit den Wissen Russen krigen*. Prochaska A. Codex epistolaris Vitoldi. DXLIII, s. 262; Ламанский В. «Белая Русь». С. 247; Сагановіч Г. М. Да гісторыі назвы «Белая Русь». С. 67. Мы здаемся, дзеля недаступнасці арыгіналу дакумента, на даціроўку Прахаскі (травень 1413 г.). В. Чаропка (Чаропка В. Імя ў летапісе. Мн., 1994. С. 394) адносіць гэты дакумент да 1414 г., калі гросмайстрам быў ужо Міхаэль Кюхмайстар.

[122] Ламанский В. «Белая Русь». С. 245; Карский Е. Белоруссы. Введение к изучению... С. 115; Ильинский Г. К вопросу о происхождении названия

«Белая Русь». S. 389; Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 15; Сагановіч Г. М. Да гісторыі назвы «Белая Русь». С. 66.

[123] *Anno itaque eodem videlicet MCCCLXXXII Jagiello filius olim Olgerdi major princeps Litwanorum, qui aute annum et citra per Keystutum patruum suum cum matre fuerat captivitus, et in quodam castro Albae Russiae, Poloczk dicto, vinculis mancipatus, circa festum Pentecostes captivitatem evadens cepit castrum cum favore procerum Litwaniae Wilno dictum.* — Kronika Jana z Czarnkowa (Joannis de Czarnkow. Chronicon Polonorum). Oprac. J. Szlachtowski // MPH. T. II. 1872. P. 719.

[124] Пануцэвіч В. З гісторыі Беларусі, або Крывіччыны–Літвы. Т. І. Назовы й архэалёгія. Chicago, 1965. С. 125, 135; Станкевіч Я. Нарысы з гісторыі Вялікалітвы–Беларусі. С. 28.

[125] Kronika Jana z Czarnkowa. P. 605—615. Больш падрабязна даціроўка розных спісаў Хронікі разглядалася польскай даследчыцай Брыгідай Кюрбісуўнай: Kürbisówna B. Studia nad Kroniką wielkopolską. Poznań, 1952. S. 21—59; Яе ж: Dziejopisarstwo wielkopolskie XIII i XIV w. Warszawa, 1959. S. 20—42.

[126] Ламанский В. «Белая Русь». С. 245.

[127] Доўнар–Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С. 19—20.

[128] О России в царствование Алексия Михайловича. Соч. Григория Котошихина. Изд. 3. СПб, 1884. С. 141.

[129] Урбан П. У сьвятле гістарычных фактаў. Мюнхен—Нью–Ёрк, 1972. С. 65.

[130] Брага С. Да справы паходжання назову «Белая Русь». С. 252.

[131] Сагановіч Г. М. Да гісторыі назвы «Белая Русь». С. 71

[132] Максімовіч Р. Рэц.: Vakar P. The name «White Russia». С. 118; Ostrowski W. The ancient names and early cartography of Byelorussia. London, 1971. P. 11.

[133] Станкевіч Я. Нарысы з гісторыі Вялікалітвы–Беларусі. С. 27.

[134] Соловьев А. Великая, Малая и Белая Русь // ВИ. 1947. № 7. С. 34.

[135] Юхо Я. Пра назву «Беларусь». С. 180.

[136] Рогалев А. Ф. Белая Русь и белорусы (в поисках истоков). С. 92—93.

[137] Емельянов. Путешествия Гильбера де–Ланноа в восточные земли Европы в 1413—1414 и 1421 годах // Известия Киевского университета. 1873. № 8. С. 24; Соловьев А. Великая, Малая и Белая Русь. С. 33—34.

[138] Карамзин Н. М. История государства Российского. Кн. 2, Т. V. Стб. 216; Соловьев А. Великая, Малая и Белая Русь. С. 33.

[139] Кучкин В. А. Формирование государственной территории Северо–Восточной Руси в X—XIV вв. М., 1984. С. 3, 8—32 і інш.

[140] Емельянов. Путешествия Гильбера де–Ланноа. С. 24.

[141] Adelung F. Die ältesten ausländischen Karten von Russland. St. Pet., 1840. S. 15; Быковский Н. М. Картография: исторический очерк. С. 76; Соловьев А. Великая, Малая и Белая Русь. С. 34; Bagrow L. A history of the cartography of Russia up to 1600. V. 1. Fig. 9.

[142] Пануцэвіч В. З гісторыі Беларусі, або Крывіччыны–Літвы. Т. І. С. 125; Урбан П. У сьвятле гістарычных фактаў. С. 65; Станкевіч Я. Нарысы з гісторыі Вялікалітвы–Беларусі. С. 28.

[143] *Och zugend in, bottschaft von hertzog Wytolden von Lütow, von herr Dyspotten hertzogen zu Ratzen, von dem Damenmür uß der großen und klainen Walachy, von den zwain küngen uß Türggen, von dem hertzogen uß wißen Russen, die all zugend in, mit CLXXX pfärden, in Hansen Richen [hus] an sant Pauls gassen*. Ulrichs von Richental Chronik des Constanzer Concils 1414 bis 1418. Herausgegeben von M. R. Buck. Tübingen, 1882. S. 47; Begunov Ju. Weisse Rus und Weissrussen... S. 304. Аўтар выражае шчырую ўдзячнасць сп–ні Моніцы Банькоўскі–Цюліг з Zentralbibliothek Zürich (Швайцарыя) за дапамогу ў азнаямленні з тэкстам Хронікі.

[144] *Darnach am samsstag, der was an dem xviiii tag des monats February, do rait in der hochwirdig herr, herr Jerg ertzbischoff zu Kyvionensis, usser dem land zu wißen Rußen, zu Schmolentzgi*. Ulrichs von Richental Chronik. S. 136.

[145] Лануа сваё другое падарожжа па землях ВКЛ, з якога паходзяць і яго звесткі пра Турцыю, здзейсніў у 1421 г. Запісы Рыхенталя зробленыя, відаць, неўзабаве пасля гэтага, недзе ў канцы 1420–х г.

[146] *Europa ist das land, da wir inn sind und vahet an, an den wißen Rüßen zu Schmolentzgi und herуß an die rechten Türggy ze Lannouw, das hertzogtum ze Littow, Poland, Schlavoni, Unger, Moravi, Bohemi, das römsch rich*. Ulrichs von Richental Chronik. S. 159; Begunov Ju. Weisse Rus und Weissrussen... S. 303.

[147] Летапісы адзначаюць, што ў абранні Цамблака бралі ўдзел 6 ці, хутчэй, 8 епіскапаў.

[148] *Item magnus dominus Georgius Archiepiscopus Cunionensis. Et conjacet domino duci Witoldo de Littow. Et respicit ad Thurcos. Ibi ipsi habet tres episcopos et ab altera parte tendit ad Russiam Albam*. — Ulrichs von Richental Chronik. S. 171; Begunov Ju. Weisse Rus und Weissrussen... S. 303.

[149] Найбольш звестак пра *Белую Русь* утрымліваецца ў самым старажытным рукапісе Хронікі — Ойлендорфскім кодэксе 1438—1450 г. Гл. Бегунов Ю. К. Раннее немецкое известие о Золотой бабе // Известия Сибирского отделения АН СССР. Сер. общественных наук. № 11, вып. 3. С. 123; Begunov Ju. Weisse Rus und Weissrussen... S. 303.

[150] Ширяев Е. Е. Беларусь: Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах. Мн., 1991. С. 18.

[151] *Der hertzog uß Schmolentzgi, der hertzog uß roten Russen und sust mere dann iii hundert irs glouben*. Ulrichs von Richental Chronik. S. 139.

[152] *Der hertzog Fedur von Schmolentzgi in roten Reussen*. Ulrichs von Richental Chronik. S. 207; Begunov Ju. Weisse Rus und Weissrussen... S. 303—304.

[153] *Hertzog Fedür von wißen Rüßen und herr zu Schmolenzgi*. Ulrichs von Richental Chronik. S. 191; Ulrich Richental. Das Konzil zu Konstanz. Faksimileausgabe. Starnberg—Konstanz—Stuttgart, 1964.

[154] *Germanici. Das sind tütsche lüt, darinn gehöret das römisch rich, das köngrich Behan, das köngrich von Unger, das köngrich von Bolan, Lütower land, das ruschiss land, recht Russen, rot Russen, wiss Russen; das land und statt gross Noffagrott, was da cristan ist*. Ulrichs von Richental Chronik. S. 50—51; Begunov Ju. Weisse Rus und Weissrussen... S. 303. (Польшча і ВКЛ паводле тагачаснай класіфікацыі адносіліся да адной з чатырох каталіцкіх «нацый» — германскай).

[155] *Hertzog Paulus von rechten Rußen, ist under hertzog Witolten*. Ulrichs von Richental Chronik. S. 207; Begunov Ju. Weisse Rus und Weissrussen... S. 303—304.

[156] Piekosiński F. Gości polscy na soborze Konstancyjskim // Rozprawy Akademii umiejetności. Wydział historyczno–filozoficzny. Ser. II, T. 12 (37). Kraków, 1899. S. 136.

[157] Keller M. Perspektiven: Vorstellungen von «Riuzen» in der deutschen Literatur des Mittelalters. S. 100—101.

[158] Piekosiński F. Gości polscy na soborze Konstancyjskim. S. 158. Легенда пра ідал «Залатой Бабы» была ў XV—XVI ст. досыць распаўсюджанай у Еўропе — гл., напрыклад: Бегунов Ю. К. Раннее немецкое известие о Золотой бабе. С. 123, і часта звязвалася менавіта з *Белай Руссю.*

[159] Ulrichs von Richental Chronik. S. 209; Begunov Ju. Weisse Rus und Weissrussen... S. 304.

[160] Белы А. Пад крыжом Св. Георгія // Падарожнік. 1996, № 2. С. 13.

[161] *Von Polan manig herzog vest*
*Von Littaw herzog Schwitrigal*
*Was auch da an der fürsten zal,*
*von wissen Russen ain herzog,*
*Mehr ain furst herzog von Ostrog*

Prisschuch Th. Des conzilis grundveste // Die historischen Volkslieder der Deutschen vom 13. bis 6. Jahrhundert. Bd. 1. Leipzig, 1865. S. 243 (радкі 896—900); Thomas Prischuch von Augsburg Ticht von Kostenz // Fontes rerum Austriacarum (Österreichische Geschichts–Quellen. Bd. VI. Geschichtschreiber der husitischen Bewegung in Böhmen. Th. 2. Wien, 1865 (радкі 900—904); Caro J. Geschichte Polens. Th. 3. 1386—1430. Gotha, 1869. S. 447. Таксама шчырая падзяка сп–ні Банькоўскай–Цюліг.

[162] Свідрыгайла проста не паспеў бы з’явіцца ў Канстанцы да закрыцця сабора, якое адбылося 22 красавіка 1418 г. (Chodynicki K. Kościoł prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Warszawa, 1934. S. 46—47). Уцёкі ж Свідрыгайлы з Крамянецкага замку адбыліся на Вялікдзень 1418 г., як сведчыць ліст рагнецкага комтура вялікаму маршалку Ордэна ад 23 красавіка. У наступныя месяцы Свідрыгайла ўвесь час знаходзіўся ля літоўскіх межаў — у Венгрыі, дзе ўлада належала Сігізмунду, ці ў Малдове або ў тых раёнах ВКЛ, дзе яму ахвотна давалі прытулак апазіцыйныя Вітаўту колы (Коцебу А. Свитригайло, великий князь литовский. СПб., 1835. С. 67—69).

[163] Prisschuch // Allgemeine Deutsche Biographie. Bd. 26. Berlin, 1970. S. 600—601.

[164] Нямецкія каментатары паэмы Прысшуха чамусьці бачаць у «герцагу Белай Русі» Жыгімонта Карыбутавіча, будучага героя гусіцкіх войн, намесніка Вітаўта ў Чэхіі. Гл. Prisschuch Th. Des conzilis grundveste. S. 243; Caro J. Geschichte Polens. Th. 3. S. 447. Але ніхто не прывёў доказаў прысутнасці Жыгімонта на саборы. Пра гэта нічога не паведамляецца і ў спецыяльнай манаграфіі, прысвечанай жыццю і дзейнасці гэтага князя — гл. Grygiel J. Życie i działalność Zygmunta Korybutowicza // Prace komisji historycznej. Nr. 52. Wrocław etc., 1988. S. 37.

